Падпісны індэкс: **74813**
Чытайце «Дзеяслоў» у Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**
..........................................................................................



Ілюстрацыі на вокладцы Кастуся Шаранговіча:
на 1-й стар.: «Вершнік», 1992 г.;
на 4-й стар.: малюнак да рамана Івана Мележа«Подых навальніцы», 1980 г.



Пасведчанне аб рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 631 ад 28 жніўня 2009 г., выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Заснавальнік — ГА «Літаратурна-мастацкі фонд «Нёман».
Юрыдычны адрас: вул. Кузьмы Чорнага, 18–2, 220012, Мінск.

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31–906, 220012, Мінск.
e-mail: dzieja@tut.by
www.dziejaslou.by
Тэл.: 354-80-91.

Здадзена ў набор 20.12.2021 г. Падпісана да друку 27.01.2022 г.
Фармат 70х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Аб’ём — 22 ул.-выд. арк. Наклад 400 асобнікаў. Заказ №

Паліграфічнае выкананне: сумеснае таварыства з абмежаванай адказнасцю «Медысонт».
№ 2/34 ад 23.12.2013, ЛП № 02330/20 ад 18.12.2013.
Вул. Смалячкова, 9-113, 220005, Мінск.

Кошт нумара – па дамове.
Для чытачоў, старэйшых за 16 гадоў. 16+

№1 (116)
/студзень-люты/ 2022

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Андрэй Хадановіч



...Покуль свет, пякельны і боскі,
непісьменна кроіць душу,
расстаўляю кропкі і коскі
і не плачу,
проста пішу....

# Я хацеў бы спаткацца з вамі на волі...

* * *

Бабуля ў вагоне сядзіць ля вакна,
бароніцца кніжкай ад сну.
За вокнамі цемра, а ў кніжцы вясна,
і сэрца гукае вясну.

Бабуля чытае ў вагоне старым
пра годных і добрых людзей,
і ў кожным радочку “свабодай гарым”,
і вочы глядзяць маладзей.

Бабуля чытае ў вагоне метро
пра свет без няволі й хлусні,
што зло не навечна і прыйдзе дабро
з мараллю на белым кані.

Дарма, што на станцыі ўзброены таць
чакае бабулю, дарма.
У краі захопленым нельга чытаць,
ды ўлады над кнігай няма.

Плыве карабель праз касмічны туман,
і любы на тым караблі...
Дзяўчынка чытае свой першы раман,
як першы раман на зямлі.

*1.03.2021, Менск*

* * *

Хлопцу радасць – цырк і арэна,
дзе цыркач катуе сабак.
А пачуў, як сабаку дрэнна, –
і равеш над вершам, слабак.

У падлетка ўсё пад капірку,
толькі біўся нашмат люцей.
А над кнігай – рыдаў, бо ў цырку
імператар мучыў людзей.

Час ідзе, ты ўжо не падлетак
і даўно над кніжкай не роў.
Ды ўсё болей наўкола клетак
і ўсё больш у клетках сяброў.

Як бы так напісаць пра краты,
пра свабоду, муры і турму,
каб усе дарослыя каты
зарыдалі, як над Муму?

Покуль свет, пякельны і боскі,
непісьменна кроіць душу,
расстаўляю кропкі і коскі
і не плачу,
проста пішу.

*18-19.02.2021*

* * *

Вароны сплялі гняздо
насупраць твайго балкона.
Паўгода чакаў Гадо,
а знак падае варона.

Дарма, што зноў халады, –
чакае самца саміца.
Ты нос павесіў з нуды,
а свет не можа стаміцца.

Спярша прыносяць галлё,
пасля пачынаюць гульні,
а потым крыкне пісклё –
і стане цяплей і ўтульней.

Спяшаешся, дуралей,
загнацца, дзе ты і што ты, –
а сонца свеціць далей,
для самай марнай істоты.

Паменей спліну, месьё!
Канец наперад вядомы,
ды ўсё-ткі робім сваё –
і свет не ведае стомы.

*11.04.2021, Варшава*

* * *

Бомж на Вуліцы Віні-Пуха
не губляе прысутнасці духу.
Адчувае сябе на шару
прэзідэнтам зямнога шару.

Мае лавачку для начлегаў
і павагу сярод калегаў.
А прачнецца зранку ў калюзе:
душ з пахмелля, вада – *all inclusive*.

Сустракае сонца вясною,
а астатняе – нажыўное.
Пільна сочыць, як сочыш ты,
як самец кліча самку ў кусты.

Уздыхае: “Бедная птушка!
У мяне іх цэлая стужка
у смартфоне... парам-парам...
Мне касцёл завёў інстаграм.

Бо жыву і ў зямным жыцці
там, дзе маем – паводле веры...

Але ўсім туды не ўвайсці,
бо ў кагось надта вузкія дзверы".

*15.04.2021*

## *ЭМІГРАНЦКАЯ ПЕСНЯ*

Ты свет параўнаў з бальніцай,
дзе хочам змяніць пакой.
Адным – акно з навальніцай,
каб волю дастаць рукой.

Другім – малочныя рэкі
і проста ў вырай масты,
з якіх спяваюць нам рэгі
няскораныя каты.

Цяпер блаславі ці вылай
ілюзіі тых гадзін:
пайшлі па вясёлцы ў вырай,
а трапілі ў каранцін.

Нібы ў забытай паэме,
дзе слоў даўно не чутно,
дзве грацыі – Імі... ды Эмі...* –
у бел-чорна-белым кіно

сплываюць туды, дзе лепей,
у новы цудоўны свет.
Сляпянка з Вялікай Слепняй
з-пад веек глядзяць услед.

А свет гуляе з душою,
пакуль да мэты бяжым,
і робіць сваім чужое,
як дома – сваё чужым.

Мы дзівімся новым стылям,
мы дыхаем пра запас.
Гадзіннік пад іншым шпілем
паказвае іншы час.

З галінак чужой прасторы
збіраем гнёзды свае.
Жабрак з вясёлкавай торбы
надзею нам падае.

*20.04.2021*

* * *

Холад кусае пальцы
восьмы тыдзень вясны.
Снім на хаду, блукальцы,
недаснёныя сны.

Снег і вецер, праз коску,
падае – і пячэ,
робячы замарозку,
там, дзе баліць яшчэ.

Снег на скаргі ўвушшу і
на адчай уваччу,
быццам кажа “віншую”
вязню і ўцекачу.

Снег на сваркі і крыўды,
снег на слёзы матуль.
Нас, тутэйшых, накрыў ды
штосьці прарочыць адтуль.

Кружыць, не можа ўпасці
ў восеньскі красавік, –
быццам блізкага шчасця
пішацца чарнавік.

*24-25.04.2021*

* * *

У Варшаве – хіт-парад акцэнтаў.
Беларусаў – дваццаць пяць працэнтаў.
А пад вечар выйдзеш у падворак,
дык выразна чуюцца ўсе сорак.

Вуліцы Ахоты, Прагі, Волі
вучаць беларускую паволі,
і ў замкнёнай на кавід піўнусе
загучалі тосты з Беларусі.

Партызаны ў часе пандэміі
не забылі аб зялёным зміі,
шкодныя напоі нам не шкодныя...
Беларусы, мы неверагодныя!

*25.04.2021*

* * *

Калі халады паўгода
і ўсё тут ніякавее,
гаркота ад фірмы шкода
і ў думках ні-бэ-нівея.

Не ходзіць розум на працу,
бо ў сэрцы плача дзіця –
і хочацца перабрацца
на іншы бераг быцця.

Без плачу, крыку і кіпішу,
бо слухаць – няма каму,
я сам сабе лекі выпішу,
змяшаю, згатую й прыму.

Пакуль зіма вар'яцее
і гора бяду вядзе,
таблетку чыстай надзеі
разводжу ў чыстай вадзе.

Лію – рытуал выконваю –
са шклянкі ў шклянку настой:
у напалову поўную
з напалову пустой.

*28.04.2021*

* * *

...І з'явіцца шмат музеяў,
бо зробяць файна, з любоўю –
музей разлучаных сем'яў,
знявечанага здароўя.

Музеі жнівеньскай спёкі
і студзеньскай лютай замеці.
Музей маршрутаў наўцёкі.
Музейператрусу памяці.

Музей падазроных кветак,
музей небяспечных строяў.
Музей аднолькавых сведак.
Музей аднолькавых мрояў.

Музей душы, што люцее.
Музей трывожнае торбы.
Музей апошняй надзеі
на свет справядлівы й добры.

Заплечнікі і валізкі
з музея помсты паскуды.
Музей узятай падпіскі
пра твой нявыезд нікуды.

Музей эмацыйных арэляў,
рулетка масак і твараў.
Музей таго, хто не стрэліў,
музей таго, хто не ўдарыў.

Музей дваровага рэха,
падпольнай песні і танца.
Таго, хто не мог і з'ехаў.
Таго, хто здолеў застацца.

Не злічыш паверхаў і залаў,
хадзі, покуль носяць ногі.
Бо шмат яшчэ філіялаў
музея тваёй перамогі.

*1.08.2021*

* * *

Тыя, што знічкамі ў жніўні гарэлі ахвярна,
кажуць: нічога не марна, нічога не марна, –
змроку, што сонцу насуперак слаўся бяздарна,
кажуць: нічога не марна, нічога не марна.

Побач з ільвом пакладзецца рахманая сарна,
скажа: нічога не марна, нічога не марна, –
хіжай гіене, што шчэрыла пашчу бяскарна,
скажа: нічога не марна, нічога не марна.

Толькі калючка і вышка, муры і турма
кажуць табе: ўсё дарма, чалавеча, дарма.
Ды над пагаслым пажарам астылая сажа
болей нічога не скажа, нічога не скажа.

То праз пажары і пашчы, калючку й муры –
знічкаю, сарнай ці сажай, але гавары.

*9.09.2021, Карпач*

### *САН-РЭМА*

У “Сан-Рэма” (кавярня ў Пружанах)
не хапала вады і пажарных,
бо мы снілі шансон аб свабодзе –
палымяны, як золак на ўсходзе.

У “Сан-Рэма” (кавярня ў Батумі)
слёзы песнямі льём у ваду мы,
вольным хорам будуючы хорам –
неймаверны, як захад над морам.

У “Сан-Рэма” (кавярня ў Сан-Рэма)
берамо вечных нотаў бярэма –
і расце вершаваная вежа
з вавілонскай няволі ў бязмежжа.

У “Сан-Рэма” (кафэ ў Вавілоне)
грацьме шлягер аб даўнім палоне –
ён аб тым, як змаглі дарасці мы
да нябёс, да зямлі, да радзімы.

*17.09.2021*

### *БАТУМІ*

Сонейка праз чачу не бачу,
зорак праз віно не відно.
Кожны дзень жыву наастачу,
небу прабіваючы дно.

Выпівае з песні пра змены
літару за літарай даль,
і глытае змрок непісьменны
горкую глаголіцу хваль.

Небяспека тут – нібы спёка.
З хараством мяшаю брыду.
Па батумскай гальцы аблокаў
ступакамі вершаў брыду.

І смяюцца ўголас нябёсы:
пераабуваецца босы.

І ціхутка ўсхліпнуць анёлы:
пераапранаецца голы.

*20.09.2021*

## *ЗАВОСЕНЬ*

плачам, бо возіць ваду на пакрыўджаных восень
возьме ў аблогу Залессе і возьме Завоссе
стужкі дрыжаць на вятрыску спужанаю птушкай
птушкі лятуць у завосень апошняю стужкай

бабіна лета з такім нежаночым аблiччам
што павуту ў валасах сівізною не лічым
хворая восень навучыць любіць, як здароўе
тую, што з намі тым больш, чым навокал херовей

тую, што некалі здзівіць старой навіною
з выраю вернецца восень – і будзе вясною
з ёю паўзуць на святло сутарэнні і лёхі
подых на поўнае неба – здаровы і лёгкі

гэты закон непахісны, як нашы хістанні:
глянь іншы раз на яе – і растанне растане
снегам калядным у чысты ручай велікодны
неверагодны, як мы – і, як мы, верагодны

*16.10.2021, Вена*

* * *

*Аляксандру Фядуту – і многім яшчэ*

Я хацеў бы спаткацца з вамі на волі
ў ціхі вечар, яшчэ да Калядаў.
З парку горкага пекла – не шчэрыцца болей
трыдзявятае кола агляду.

Новым імем віталі б знаёмую плошчу
на шляху да знаёмага бара.
Вашым жартам і смеху наперад зайздрошчу,
бо ўсміхацца зноў будзе да твару.

За сталом бы прасветленым сейбітам
шчодра сыпалі мудрасць і веліч.
Анекдот заплятаўся ў эсэй бы там...
Цар-царэвіч... пароль Караткевіч...

А на плошчы, падобнай да Плошчы Свабоды,
новым вершам, падобным да верша,
праспявалі б усё, чаго праглі заўсёды, –
што яшчэ праспяваем...

Цяпер жа –
ліstапад замятае паштовыя скрыні,
ліст заблытаўся ў павуціне...
Дождж на вейках, над скронямі леташні іней...
Я пішу затрыманай краіне.

*3.11.2021*

* * *

Грукае дно віроў сваіх абаронцам.
Тэлефануе вырай у гнёзды свае.
Мур змагаецца з мостам за месца пад сонцам.
Д'ябал паверыў у Бога – і ўсіх дастае.

Дрэнная сувязь на крэсах пекла і раю.
"Мама, усё ў парадку, праца цячэ,
грошы, ваду і вослікаў адбіраю –
нафіг ім там, а тут – паслужаць яшчэ".

Ліпа цвіла першы год у райскім гародзе.
Пятая кропка Еўропы шукала прыгод.
"Пройдзе – не пройдзе", – варожыць захад на Фройдзе.
Фрода схаваўся ў апошні тралейбус на ўсход.

"Всё пройдёт", – як русіца ў школе казала.
Бой блок-паста з карнавалам закончыцца нічыёй.
"Мама, я ў масцы", – званю дадому з вакзала.
"Мама, я ў касцы", – памежнік звоніць сваёй.

*13.11.2021*

* * *

Восень фарбуе сівое валоссе,
восені сніцца зіма.
Часу на дзесяць хвілін засталося,
выдых – і болей няма.

Стрэлкі ў клепсідры замерзлі – і ў лёдзе
скончыўся час вадзяны.
Заледзянела паветра ў прыродзе.
Храм адмарозіў званы.

Цень дацягнуўся да вежы, й гадзіннік
выключыў сонечны час.
Толькі разбітае люстра – ільдзінак
стрэмкі варушыць у нас.

...Толькі ў крыві, што да сэрца спяшае,
танец святла не пагас.
Боль не чужы і любоў не чужая
рухае зоркі і час.

Зрушыцца стрэлка ды выскачыць стрэмка,
лёд ручаём запяе.
Грукае ў дзверы вясна-чужаземка,
і разумееш: свае.

*24.11.2021*

## ***ПАКЕТ***

Яго рэдка ў гульню запрашалі сябры,
ён няважна вучыўся, затое
любаваўся начамі на зоркі ўгары
і далёка хадзіў пехатою.

Хтось назваў звезданутым, і смешна было.
Ён мянушкі трываў і насмешкі,
а пад вечар выходзіў на зорак святло
і вяртаўся пад раніцу пешкі.

Мы дражнілі валхвом, зацкавалі амаль,
касманаўтам ды інтэлігентам.
А калі на Каляды я лёг у шпіталь,
ён прынёс мне пакунак з прэзентам...

...І цяпер за сталом, пасярод гаманы
хтось пытае: “А што з касманаўтам?”
Гаспадар адказаў: “Не вярнуўся з вайны”.
І дадаў: “Па-дурному сканаў там.

Відавочцы казалі, меў шанс уцячы,
ды не вырашыў гэтай задачы.
Прамарудзіў, бо зорка свяціла ўначы.
Па-дурному. Або па-дзіцячы”.

Госць напіўся і плакаўся гаспадару.
Гаспадар нам спяваў аб галоўным.
Я пайшоў на балкон і ўглядаўся ўгару,
бо не можна, каб так – з нашым клоўнам.

Бо пакуль па адным нас вязе ў новы свет
цягнічок, самалёцік, караблік,
ён спяшаецца пешкі, паклаўшы ў пакет
мандарыны, карыцу і яблык.

І калі засмучэнні ідуць чарадой,
я пад вечар выходжу на ганак
і дзіўлюся, як зорка ідзе пехатой
і дадому вядзе заблуканых.

*07.01.2022*

### *ВЕРСІЯ*

Пачарнелымі ад жыццёвых святаў вачыма
пагляджу на ўсё, што завецца гэтым жыццём,
падзялюся з кімсьці планамі і, магчыма,
насмяшу кагосьці з гумару пачуццём.

Пазбіраю да купы выклятыя пытанні,
каб забіцца не ў родны кут, а ў часовы сквот
і выплакваць свету свае – каб... каб... каб... – жаданні,
як пабіты часам рымскі вадаправод.

Каб візіты блізкіх – не толькі праз тэлефоны,
каб вясна штогод прыходзіла за зімой.
Каб любіць свабоду не толькі ў краіне зоны,
у краіне, дзе кожны прынц – са сваёй турмой.

Каб рыдалі ад смеху з сябе, а ў фінале – ад шчасця,
каб не стрэліў ніхто, хоць ва ўсіх на сцяне ружжо,
і не трэба гадалак, бо ўсе магчымыя масці
нам прарочаць на заўтра, што сёння робім ужо.

Каб жыццё не дзялілі на першае і другое,
па-дзіцячы любілі марозіва і кіно,
каб дарыць паспявалі самае дарагое,
перш чым танным і непатрэбным стане яно.

Каб фанатык усіх рэлігій абняў зняверца,
наступалі б на граблі з карысцю для галавы.
Каб на ўсе памылкі хапіла часу і сэрца –
нарабіць і выправіць, пакуль дурны і жывы.

Каб не плакаць па любых, якім няблага наверсе,
каб наверсе не хваляваіца, як там зямля.
Госпадзе, жыць у тваёй рэжысёрскай версіі,
а прадзюсары хай жывуць у тым, што пасля.

*10.01.2022*

---

* Вобраз з паэмы Юлія Таўбіна «Таўрыда» (1932).

Анатоль Бароўскі



...будучыня ніколі
не згаджаецца з мінулым...

# Пацалунак Юніты

***Урывак з фантастычнай кінааповесці***

Закончаны працоўны дзень, супрацоўнікі пакінулі свае месцы.

У пакой зайшла Алёна Навумік, спытала:

– Я патрэбная вам, Анатоль Эдуардавіч?

– Не, Алёнка, едзь дадому. Ты і так затрымалася сёння.

– Можа, гарбаты заварыць?

– Не, дзякую, захачу – зраблю сам, не праблема.

Яна трохі затрымалася.

– А вам пісямко нехта даслаў. Зваротны адрас – Юніта.

Яна паклала на стол блакітны канверт. На ім – выява неба з воблакамі, ніжэй – па нябесных струнах імчаць юнібусы. А ў левым верхнім кутку свеціцца таямнічым святлом невядомая планета. Канверт незаклееены, незвычайны канверт. Дастаў з яго маленькую паперку жоўтага колеру.

“Планета Юніта зачакалася цябе, Анатоль, сын Эдуарда!..”

Алёна выйшла, зачыніўшы за сабою дзверы.

Здзівіўся: “Хто мне прыслаў такое паведамленне? Хто ж мяне чакае на загадкавай Планеце?”

Яны моўчкі праглядвалі газеты і часопісы, якія горкай ляжалі на стале; Боб у сваім планшэце заказаў прэсу Амерыкі, паглыбіўся ў чытанне.

“Хто ж чакае мяне на той Юніце? – паклаўшы на стол газету, зноў падумаў Юніцкі. – З дзяцінства напамінае пра сябе Юніта. Раней я не ведаў, каму належыць гэтае імя, а цяпер адкрылася – мяне чакае недаследаваная планета, на якой я нейкім чынам павінен апынуцца. А, можа, яна даследаваная, і толькі ў сваіх снах лётаў на яе. А мо і ў не снах, а ў касмічнай рэальнасці, сам не ўсведамляючы тое. Значыць, і Юніта рэальная, і я, і космас... Я прыбуду да цябе, загадкавая Юніта, і пакахаю, як сваю планету палюбіў. Чакай мяне, Юніта!..”

Азнаёміўшыся з патрэбнай прэсай, Боб адключыўся ад эфіру.

На стале акрамя газет ляжала манаграфія Анатоля Юніцкага “Струнныя транспартныя сістэмы”. Адгарнуў першую старонку. Прачытаў першы радок, другі. Чытаў уважліва, скіраваўшы на старонкі нябачнае вока аб’ектыва.

“Мы пабудуем агульнапланетны транспартны сродак па экватары. Экватар – гэта лінія сячэння зямной паверхні плоскасцю, якая праходзіць праз цэнтр зямлі, – яна перпендыкулярная восі яе абарачэння. Даўжыня экватара складае 40075.696 км. Па лініі экватара дзень заўсёды ровен начы. Ён падзяляе зямны шар на Паўночнае і Паўднёвае паўшар’і. Экватар – у перакладзе з лацінскай мовы азначае “выраўніваць, ураўніваць”.

Паглядзеў на Юніцкага. Прытуліўшыся патыліцай да спінкі крэсла, ён драмаў. Прыцягвалі ўвагу наступныя радкі манаграфіі.

“Каб пабудаваць эстакаду «пярсцёнка» вакол зямлі па экватары ці ў іншым кірунку, патрэбна атрымаць згоду кіраўнікоў усіх дзяржаваў, каб яны аб’ядналіся ў агульным жаданні будоўлі. З цягам часу нябесны сродак забяспечыць стварэнне касмічнай індустрыі, якое па структуры нагадвала б кольцы вакол Сатурна. Не выключана, і я тое сцвярджаю, што сістэма кольцаў Сатурна нішто іншае, як цуд тэхнакратыі. Бо ракетны шлях засваення космасу з гэтай планеты-гіганта па цэлым шэрагу тэхнічных прычынаў абсалютна немагчымы. А пры дапамозе агульнапланетнага сродку цалкам рэальны.

На нашай планеце з-за разбурэння азонавага слою паніжаецца фотасінтэз раслінаў. «Залатыя каралі» Зямлі, здольныя рэгуляваць надвор’е і клімат. З-за прамысловых выкідаў у атмасферу шкодных ці атрутных рэчываў парушаецца біясфера. А тое азначае, што мы распальваем у топцы раўнадушша аб сваім здароўі дзесяць мільярдаў тонаў кіслароду. А рост захворвання людзей ракам скуры, парушэннем у імуннай сістэме чалавека і ДНК...”

Боб зноў зірнуў на канструктара нябесных дарог, падумаў: “Нічым не прыкметны, просты і даступны, ніхто не скажа пра яго, што ён чалавек не зямны, а жыве ў космасе, лётае на сваім «кіліме-каралях» у космас і назад. Геніі ніколі не выдзяляліся з грамады людзей нечым асаблівым, наадварот, яны зліваліся з масай, раствараліся ў ёй...”

“Як вы сабе ўяўляеце эстакаду? Напампаваная гумавая камера, бесперапынна злучаная, і ляжыць на эстакадзе зямлі? Так, амаль так. А што схавана ў ёй? Там размешчаны вакуумаваныя тунэлі, у якіх рухаюцца

высокахуткасныя цягнікі на магнітным падвесе. Хуткасць? Яна можа дасягаць 1000 м/с і больш. Тады ўявіце – з Лондана ці Парыжа прыбыць у Японію ці Амерыку за кароткі час...”

Вы спытаеце, а дзе можна распачаць будаўніцтва эстакады? Я прапанаваў бы спачатку пабудаваць у Беларусі ці ў Расіі. Кожны пабудаваны кіламетр гэтай дарогі будзе акупацца ў кароткія тэрміны. Пры дапамозе такога транспарту можна асвойваць Сібір і Далёкі Усход. А гэта звяжа іх з Еўрапейскай часткай краіны, куды можна будзе даехаць за адну-дзве гадзіны. А людзі, якія жывуць уздоўж эстакады, за той жа час могуць трапіць на любы мерыдыян Расійскай Федэрацыі. Тады адразу знікнуць такія паняцці, як “перыферыя”, “правінцыя”. Гэта дазволіць у гэтых чыстых, у экалагічным плане, рэгіёнах сяліцца дзясяткам мільёнаў людзей. Але гэта будзе пабудавана толькі палова даўжыні эстакады. І пачнецца стварэнне лінейных гарадоў, заснаваных на прынцыпе гармоніі чалавека і прыроды...

Затым тая ж “дарога на зямлі” будзе прадоўжана ў Еўропу, дацягнецца да Вялікабрытаніі, а на ўсходзе, ужо праз Берынгава мора – да ЗША (Алеуцкія астравы) і Канады. А за ёй, з Англіі, перакінутая праз Антлантычны акіян ці па дне яго, – замкнуўшыся ўжо вакол Планеты. Адначасова з будаўніцтвам яе будзе ствараццца магутная інфраструктура і планетарны лінейны горад “Экаполіс”, дзе, пасля ўвядзення ў эксплуатацыю агульнапланетнага транспартнага сродку, змогуць жыць мільярды людзей.

Харчовую прадукцыю будуць атрымліваць на гэтай жа зямлі – экалагічна чыстай, не кранутай цывілізацыяй і шкоднымі пестыцыдамі... Гэтую зямлю не крануць металічныя плугі і іншая жорсткая тэхніка, уся тэрыторыя будзе пакрыта высокаабагачальным гумусам, дзе чалавек будзе вырошчваць бульбу і буракі, капусту і гуркі, жыта, пшаніцу, авёс і шмат чаго іншага. Будуць расці яблыні і грушы, цытрусавыя, размяшчацца плошчы вінаграднікаў і кавуноў, гарбузоў. І побач з імі, па ўсёй тэрыторыі эстакады будуць стаяць вуллі з пчоламі, якія на квітнеючых садах і палях будуць збіраць нектар і дарыць чалавеку эліксір даўгалецця – мёд.

* * *

...– Азнаёміўся з манаграфіяй?

– Збольшага. Да канца прачытаю дома. Яна дала табе званне доктара навук?

– Так. Яна выйшла з друку ў 1995 годзе. Толькі нядаўна я перавыдаў яе. Нічога не мяняў, толькі выправіў некалькі сказаў і слоў.

– Даўно гэта было. Столькі вады сцякло ў акіяны з тае пары.

Боб загарнуў тоўстую кнігу, паклаў на стол.

– Правакацыйнае пытанне. У якім годзе ты плануеш пабудаваць струнную дарогу?

Юніцкі задумаўся, быццам і сапраўды вылічваў гады і месяцы таго будаўніцтва.

– Скажу так, дарагі Боб. Па маіх разліках тое павінна адбыцца ў 2050 годзе. Думаю, што да таго часу розумы людзей набудуць новае паняцце будучыні, ім дапаможа “паразумнець” Бог, – і яны дадуць “дабро” на ажыццяўленне майго праекта – акальцаваць нашую планету з тым, каб выйсці эканомна ў адкрыты космас.

Праз некалькі дзён, калі Юніцкі перапыніў сустрэчы, – пачаліся кло-

паты па будаўніцтве цяжкагрузных юніракаў, і калі было ўсё даведзена да ладу, паклікаў зноў свайго сябра да сябе ў офіс.

– У каго на гэты раз будзе чароўная палачка, якая здольная перакінуць-перамясціць нас у іншы час?

– Згодна чаргі, якая ўсталявалася. Ты перамясціў нас у Эміраты, а далей чараваць мне. Калі адправімся?

– Давай заўтра. Не, лепш паслязаўтра. Адпачыць хачу і прывесці ў норму свае паперы. Артыкул невялікі трэба напісаць для газеты.

– Дамовіліся.

* * *

Зноў зляцеліся на Чорную планету груганы Эвара ў чорным адзенні па першым яго поклічы. З якіх сусветаў з’явіліся, з якіх планетаў ці галактык, ніхто не ведаў, як і яны самі таго не ведалі. Нават і не задумваліся пра тое – у іх усялілі жыццё, але не падключылі мазгі да чарапной каробкі, таму яны не мелі здольнасці думаць і разважаць, ацэньваць і прымаць нейкія рашэнні, не марылі, не пратэставалі. Імпульс, які даслаў Эвар тысячам і тысячам сваіх падданых, дайшоў ці даляцеў да кожнага, пранізаў ці то душы іх, калі яны былі ў іх, ці то сасуды, па якіх цякла ці то кроў, ці гнойныя раўчакі шэрай масы.

Паселі, выбралі зручную і разняволеную позу, уважлівымі позіркамі ўпёрыліся ў яго. Паклалі перад сабой нататнікі, каб канспектаваць пачутае з яго вуснаў; чакалі, што цяпер скажа, што на гэты раз яго хвалявала, якія збіраецца выкласці ім свае дырэктывы, указанні, загады, прапановы.

– Усе сабраліся? Тады пачнем... Падвядзем вынікі, сябры. Што нам удалося за апошнія стагоддзі здзейсніць і прывесці ў норму?

Эвар паглядзеў на ўсіх, бачачы і не бачачы іх, быццам правяраў шэрагі свайго войска, каб пераканацца, што нічога ў іх настроі не змянілася, што яны, як і раней, ахвотна падпарадкоўваюцца яму, гатовыя аддаць за яго жыццё. Усе вытрымалі выпрабавальны позірк, ніхто не ўздрыгнуў ні вокам, ні целам, – толькі адданае падпарадкаванне і бясспрэчнае выкананне яго ўказаў.

– Прагрэс і рэгрэс крочаць побач...

– Зямля нараджае геніяў і пустадумкаў...

– Кожны чалавек паўзе сваёй дарогай...

– Па дарозе можна паўзці, сунуцца, але і лётаць...

– Будучыня ніколі не згаджаецца з мінулым...

– Дурню лёгка, бо ён не ведае, што ён дурань...

Гаварылі незразумелыя лозунгі, сказы, выказвалі нейкія думкі, але не спрачаліся і, быццам заведзеныя машыны, гундосілі адно і тое ж... Заканчвалася апошняя фраза, як пачыналася першай, і гучаў для іх чароўнай музыкай скрыпучы, быццам нямазанае кола старога воза, голас. Слухаў і галоўнакамандуючы, прымружыўшы вочы, сліна ад замілаванасці сцякала на грудзі. Кайф, не інакш.

Праз нейкі час ачомаўся, паглядзеў зноў на груганоў і ўбачыў не насы іх, а скрыўленыя дзюбы – вострыя і бліскучыя. Чакаў, хто ж першым асмеліцца прамовіць слова за круглым сталом.

– Ці хто з вас наведваў планету Юніту? – спытаў ва ўсіх. – Ці ведаеце вы, што там змянілася за апошнія тысячу гадоў?

– Не, паважаны Эвар, не наведвалі. Але ведаем, што прагрэс там рухаецца вялікімі тэмпамі.

– А што адбываецца на Зялёнай планеце?

– Аднаму зямляніну прыйшла ў галаву думка будаваць дарогі над зямлёй, і пабудавалі ўжо вопытны палігон. Мо знішчыць яго, навошта людзям тое, хай жывуць як і жылі да гэтага, топчуць дарогі нагамі?

– Не, няхай будуюць, перашкаджаць не будзем, – не пагадзіўся Эвар, зрабіў у сваім кандуіце нейкую адмеціну, – пракоцімся і мы па той дарозе. Можа, і нам спадабаецца.

– Дык яны ж думаюць апаясаць тымі дарогамі ўсю планету! – нехта абурыўся пісклявым і пакрыўджаным голасам. – А што станецца са старымі шляхамі?

Вядучы "круглага стала" кісла ўсміхнуўся, перакрывіўшыся тварам, запусціў растапыраныя пальцы ў свае доўгія валасы, прыгладзіў іх. За кусцістымі брывамі ўспыхнулі хітрыя агеньчыкі і тут жа згаслі.

– Гэта ўжо не наш клопат. Можа, яны бур'яном і чарнобылем зарастуць.

– Але на той жа зямлі той жа вынаходнік прапанаваў у космас ляцець без ракеты. На заручальным пярсцёнку – вялізнае кола вакол зямлі. Ён плануе даляцець да планеты Юніта, заручыцца з ёю. Такім чынам ён і да нас можа дапнуць.

Гэта падала голас палюбоўніца Эвара, ведаючы, што ён не будзе з ёю размаўляць злым тонам. Як і ведала, якім тонам размаўляць з яе суцяшальнікам, таму гаварыла ціха і не мусова, як бы перасцярагаючы важака чорнай зграі ад нечаканых наступстваў.

– Не перабольшвай, мая цудоўная Дзіва, гэта табе не да твару. Дацягнецца, ну і што з таго? Мы прывітаем яго. А ён паглядзіць, як мы жывем, што плануем рабіць далей, – ну і што? Можа, ён у нашую адсутнасць ужо і знаходзіўся тут? Мае ён такія здольнасці... Ён чалавек ад Бога, таму мы і павінны ставіцца да яго з павагай і пашанай.

Дзіва, супакоеная словамі боса, схіліла галаву, прыкавала свой позірк да стала, паказваючы, што адказ задаволіў яе.

– Тады скажыце мне, дарагія мае дзеці і памочнікі, аднадумцы і прыхільнікі маіх праектаў, – наколькі павялічылася наша скарбніца, банк ці сховішча, колькі мільёнаў тон золата знаходзіцца на рахунку нашай грамады, значыць, тайных масонаў? Колькі з усяго гэтага багацця пайшло на подкуп магутных валадароў, на павелічэнне карупцыі, на выраб фальшывых лекаў для людзей, на павелічэнне тэлепраграмаў і радыёстанцый, газет для ачмурэння людства, для пашырэння мярэжаў наркотыкаў? Што мы для гэтага зрабілі?

– Мы... – нехта паспрабаваў апраўдацца і выказаць нязгоду, але яго тут жа абсек Эвар, нават і не гледзячы ў яго бок, ведаючы, хто гэта мог быць:

– Мы-мы-мы, дзеці цьмы, ніякіх апраўданняў і пярэчанняў! Залатыя запасы павінны павялічвацца ў геаметрычнай прагрэсіі. Патрацілі на ўсё трыльёны, а аддачу павінны мець у трыльёны больш.

– Згодны, паважаны Эвар, – не вытрымала Дзіва і вырашыла заступіцца за сваіх сабратаў. – Яны выправяцца, яны знойдуць у сабе сілы і хітрасць, каб паправіць становішча.

– А куды ж ім падзецца? Выправяцца, веру. Інакш я выкраслю іх са спісу маіх адданых жаўнераў, проста адключу іх ад крыніцы сілкавання іхняга жыцця. Не ўсіх, само сабой, а тых, хто не вытрымаў экзамен, хто разленаваўся і ўпадае ў летаргічны сон.

Ніхто не ведаў, у якім стагоддзі-тысячагоддзі яны зляцеліся на Чорную планету, як і не ведалі пра тое, у якім вымярэнні знаходзяцца – у будучым часе ці ў мінулым: мільярды гадоў таму ці ў сённяшнім часе. Для чорных груганоў паняцця "час" не існавала. Яны былі і не былі, існавалі і не існавалі, яны будуць і яны былі... Яны ведалі, што такое касмічная энергія, што такое камп'ютары і сусветныя мярэжы. Не дзяліліся з зямлянамі сваімі ведамі і тэхналогіямі, а "частавалі" іх дазіраванымі порцыямі ведаў, па частках, па крупінках, каб не адчулі сябе геніямі і першаадкрывальнікамі... Яны імкнуліся назапасіць несусветныя багацці ў сваіх скарбніцах і потым запусціць іх у абарачэнне. Касмічны ўрад Чорнай планеты меў патрэбу ў багацці, у нечуваным багацці – тады лепш кіраваць працэсамі на зямлі.

Эвар адкашляўся, прыставіўшы кулак да рота, уцягнуў у сябе паветра:

– Хаця і прагнаў нас Бог з зямлі, але ж не забараніў праведваць зямлянаў. Ён стварыў рэлігію і думаў, што стварыў чалавека разумнага, што ён не паддасца на розныя спакусы і выстаіць у змаганні дабрыні і злога. Мы ж з вамі – дзеці зла, праціўнікі прагрэсу. Я вас стварыў такімі, і вы можаце ў любое імгненне ператварыцца ў чалавека – мужчыну ці жанчыну. Вы растворыцеся ў чалавецтве, станеце часткай людства. Можаце жаніцца, нараджаць дзяцей. Але гэтыя дзеці будуць нашымі, яны прадоўжаць нашыя праекты, усяляк будуць перашкаджаць новаму і прагрэсіўнаму, таму яны павінны быць абранымі – кіраўнікамі сваіх дзяржаваў, у якіх будуць жыць.

Яго слухалі ўважліва, лавілі кожнае слова, асадкамі запісвалі ў свае дзённікі і блакноты, каб дакладна ведаць свае задачы і абавязкі там, на зямлі.

– Бог стварыў чалавека, падобнага да сябе, але выгнаў з Эдэма першалюдзінаў, якія парушылі, пражываючы ў раі, Яго запавет – не есці пладоў з дрэва пазнання. Так, гэта мы зрабілі, каб чалавек паказаў сваю нецярплівасць і цікаўнасць да забароненага. Вось яны і пачалі здабываць хлеб свой у поце твару свайго. Даў ім магчымасць размнажацца і ўдасканальвацца, каб дарасці да разумення запаветаў Яго. Чалавек вылез з пячоры, навучыўся вырабляць з металу нажы і дзіды, каб забіваць жывёлаў і есці іх мяса. А потым ракеты паслаў у неба, у глыбіні зямлі пранік, нафту знайшоў, запусціў турбіны генератараў, каб атрымаць энергію... Калі ж яны такімі тэмпамі будуць і далей удасканальваць цывілізацыю, то зямля перастане існаваць раней за адведзены ёй тэрмін. Мы ж павінны браць адтуль багацці. Таму нашая задача – прадоўжыць жыццё зямлі.

Эвар зноў замоўк, пакруціў галавой, размінаючы мышцы шыі, прамовіў:

– Да кожнага вучонага ці вынаходніка вы павінны знайсці свой падыход, завалодаць яго душой. І знаходзіцца побач з ім круглыя суткі, сачыць за яго адкрыццямі, нават дапамагаць яму ў гэтым, але ж вы калі ўбачыце, што яго ідэя пераходзіць усе магчымыя рамкі і межы, што ён вось-вось зробіць сусветнае адкрыццё, то вы павінны неадкладна ўмяшацца, даць правільны кірунак і...

Узарвалася запытальная цішыня, і нехта картавым голасам удакладніў:

– Ястлумач, калі ласка, п'явілы нашых паводзінаў, што азначае "і"?

– Тое і азначае, дарагі мой памочнік, што ў таго вучонага, які імкнецца ўзняцца вышэй за ўсіх, можа здарыцца нечакана іфаркт, інсульт, абарвецца сардэчная мышца... І ў гэтым вы павінны яму "дапамагчы". Нельга дапусціць, каб яго ідэя ці вынаходніцтва змагло аблегчыць жыццё чалавеку. Бо ён, чалавек, раб, і такім павінен застацца назаўсёды.

– Цяпер зразумела – пазбаўляцца ад такіх выскачак...

– Правільна зразумеў. Так што вам даручана такая місія. Так бы мовіць, вам і карты ў рукі. Дарэчы, і карты мы прыдумалі, няхай гуляюць, гуляюць і выйграюць, прайграюць і ненавідзяць адзін аднаго. Няхай у бардэлях забываюць пра мараль і адказнасць перад сям'ёй і грамадствам, што прыдумаў Яхве. Няхай топяцца ў алкагалізме і блудзе. Мы павінны спакусіць людства соладам быцця ў распутстве, каб яно адвярнулася ад Бога...

Зноў маўчанне. Чуваць, як недзе рыпнула-піснула крэсла, бы пад іх нагамі бегалі мышы ці пацукі, яны ўжо сёмы месяц сядзяць, не ўстаючы са сваіх седалаў, і таму ўзмакрэлі ў іх азадкі, зацяклі ногі і крылы.

– І яшчэ адна праблема, – прадоўжыў ціхім голас валадар цемры, – ніяк не магу ўцяміць-зразумець. Якія яшчэ сілы ўмяшаліся ў жыццё планеты Зямля? Хто навучыў зямлянаў карыстацца атамнай энергіяй? Вынаходнікі сцвярджаюць у адзін голас, што атам будзе служыць народу, што ён бясшкодны і танны. Узрываюць атамныя і вадародныя бомбы пад зямлёй, на дне акіянаў, у паветры – нават да нас далятаюць выпраменьванні ад іх. Усе гэтыя вучоныя і вынаходнікі жадаюць паскорыць смерць планеты, узарваць яе... Але тое было ўжо мільярды гадоў таму, тады яна цудам не раскалолася і не рассыпалася на дробныя кавалкі, а цяпер... Калі ж знікне зямля, то і мы разам з ёю... Мы залежныя, на жаль, ад яе.

Нехта, хто ўпершыню прыляцеў з самай аддаленай планеты, не вытрымаў, пачуўшы яго словы, гучна запярэчыў:

– Эвар, я паважаю цябе, ты маеш рацыю, калі гаворыш пра атамныя і ядзерныя выбухі, падтрымліваю цябе цалкам і без сумневу. Але, выбачай мяне, у іншых пытаннях ты, як бы гэта мякчэй сказаць, не ў тэме. Людзей адлучыць ад Бога? Тады атрымліваецца, што павінны змагацца з Богам? Мы можам толькі спрачацца з Ім, пярэчыць Яму, але змагацца, ваяваць? Мы ж толькі і існуем, дзякуючы Яму, мы павінны ўжывацца з Ім, як дабро і зло. І хіба можна Яго перамагчы? Ты штурхаеш нас на абсур-р-рдныя дзеянні! На самазнішчэнне... Крррамооола!

Эвар напруціўся, кісла ўсміхнуўся, страсянуў тарпу валасоў, пацікавіўся:

– Ну, ну, адкуль гэты піск, а не карканне крумача, што я далёкі ад праўды? Я пачуў сумненні, ці не так? Ці то я пачуў што іншае? Прашу патлумачыць, сын мой.

– Не, Эвар, ты не ачуўся. Ты ж сам паклікаў нас, каб мы выказваліся смела, не баяліся твайго гневу, мелі права не згаджацца з табою, ці не так? Так. Пагэтаму я выказваю сваю нязгоду з табой, больш таго – я пррратэстуууюю!

Старшыня зборышча, ён жа і пракурор, ён жа і дыктатар, ён жа і прэзідэнт Чорнай планеты, суха кашлянуў, нават і не зірнуўшы ў той бок, дзе сядзеў нязгодца. Ён наперад ведаў, што з гэтага можа атрымацца. Пагэтаму не прымаў пакуль ніякіх дзеянняў, проста чакаў, калі той сам знішчыць сябе.

– Ты – узурпатар, ты ўсё прыбраў да сваіх рук, ты... кр-кр-л-хры... р-р-ррр...

Не даказаўшы да канца, пачаў задыхацца. Рукой паспрабаваў дакрануцца да горла, быццам хто накінуў пятлю і сціскае яго, але пятля не аслабла, наадварот, пачала сціскацца яшчэ мацней. З вачніц пачалі вывальвацца чырвоныя выпуклыя вочы, варочаючыся круга. Ён пачаў увесь дыміцца,

быццам яго кінулі на нябачную патэльню ці нанізалі на шампур, – ён ужо падсмажваўся, бы кавалак мяса, потым успыхнуў агнём, выбухнуў, бы міна, і згарэў.

Прэзідэнт планеты націснуў на клавіятуры функцыю "СЗ" (самазнішчэнне), а потым – "delete". Ствараючы сваіх падданых, электарат свой, ён запраграмаваў такую функцыю. Ніхто з іх не ведаў пра тое. Дыктатар не цярпеў пярэчанняў і нязгоды, не прызнаваў закалотаў і паўстанняў; праз тысячу год ён перадасць свае функцыі свайму сыну, якога народзіць яму Дзіва. Таму ніхто і ніколі не мог паўстаць супраць яго.

Праз колькі секундаў на месцы знішчанага гругана з'явілася новая постаць адданага Эвару. Ён не вылучаўся сярод астатніх і не здзівіўся, убачыўшы мноства груганоў вакол сябе, як быццам увесь час знаходзіўся за "круглым сталом", а да гэтага быў на лаве запасных. Нават калі ўсе выказалі супрацiў, ён бы знішчыў і спапяліў бы іх у міг, памяняўшы іх на клонаў...

Новенькі павярнуў галаву і дзюбу ўлева-ўправа, каб абазначыцца і выказаць сваю адданасць, выгукнуў, ускінуўшы руку:

– Гатовы змагацца за твае ідэі, Эвар!

Смурод гарэлага цела не прападаў, яго ўдыхалі ўсе, хто сядзеў за сталом, які быў ушырыню і ўдаўжыню мільёны кіламетраў. Забівала дыханне, ванітавала, але ніхто са зграі не паказваў таго, баючыся зноў угнявіць прэзідэнта планеты.

Зноў цішыня. Зноў маўчанне. Нічога не адказаў на адданы вокліч Эвар, толькі крутануў галавой. Зразумела было, што з'езд, пленум, нарада, крумкачовы сход стагоддзя падыходзіў да завяршальнага этапу. Абвестка чорнага дня на Чорнай планеце падыходзіла да свайго завяршэння. І наступны злёт можа адбыцца ці то ў будучым стагоддзі, ці, наадварот, у мінулым.

– На гэтым, сябры мае, закончым, мы і так засядзеліся.

Старшыня форуму споўз са свайго крэсла і стаў на подыум, зрабіўшыся вышэйшым за ўсіх, хаця ён і не саромеўся сваёй нізкарасласці. Знізіў да мінімуму тэмбр свайго голасу, каб яшчэ раз паказаць, што ён дэмакрат і добразычлівец, гуманіст і клапатлівы бацька.

– Няхай усё будзе так, як і павінна быць. Мы не будзем умешвацца ў працэс росту цывілізацыі, тым больш, супрацьстаяць яму. Мы толькі павінны трошкі прытармазіць, запаволіць яго хаду. І мы здатныя на добрыя ўчынкі.

– Згодна.

– А цяпер можаце разлятацца па сваіх планетах і чорных дзірках. А Дзіву прашу затрымацца, з ёю неабходна абмеркаваць надзённыя праблемы.

## Зноў паклікалі дарогі

### *1*

І апынуліся яны няўзнак ў невядомым месцы і ў тым часе, якія і ўпадабаў вялікі канструктар. Яны сядзелі побач ў плеценых з лазы крэслах. Вакол іх снавалі людзі, нешта насілі, складвалі на пляцоўку скрыні і мяшкі. Чуўся вясёлы смех, голасна размаўлялі па смартфонах, нехта прасіў некага хутчэй прыехаць, не затрымлівацца. Мова, на якой вялася размова, была беларуская з прымессю польскай і расейскай, украінскай і літоўскай.

Сябры пераглянуліся, нібы пытаючыся адзін у аднаго, дзе яны знаходзяцца.

Юніцкі памятаў, што па праекце будаўніцтва эстакады планавалася распачаць у Беларусі непадалёк ад Мар'інай Горкі. У адзін бок шлях пракладаўся на Польшу, Германію, Нідэрланды, а ў другі – Расія, Байкал, да Берынгава праліва, Аляска... Потым па акіяне, Еўропа, і злучалася ўжо тут, пад Мар'інай Горкай.

Толькі цяпер генеральны канструктар убачыў перад сабой эстакаду, на сцяне якой вялізнымі літарамі абазначаны сімвал "A.JU".

– Мы знаходзімся на тваёй радзіме? – спытаў Боб Пол.

– Так. Але ў якім месцы, вызначыць пакуль не магу.

Эстакада знаходзілася ад іх непадалёку, за дзвесце крокаў. Вышыня яе больш за дзесяць метраў. На ёй ляжала вялізная срэбная колеру фольгі, даўжэзная цыстэрна. Вышыня спаруды мо вышэй за дзесяціпавяховы дом. Па бакавіне, па ўсёй даўжыні – круглыя вокны, як некалі на паветраным лайнеры. Наступныя эстакады – апоры, фундаменты – злева і справа, знаходзіліся на адлегласці з паўкіламетра. На іх ляжаў суцэльны чыгуначны састаў. Між "цыстэрнамі" не было стыкаў, яны злучаліся тэлескапічна, уваходзячы адзін у аднаго. І цягнуліся суцэльна ў абодва бакі, знікаючы за гарызонтам.

Над галавой ледзь чутна праляцелі юнібусы. Па бліскучай стальной ферме ў паўдзённых праменнях сонца прашамацеў наступны юнібус. Насустрач яму, па другой лініі, імчаў даўжэзны юнітрак. Сцішыўшы хаду, спыніўся. Тут жа з яго грузчыкі пачалі выносіць скрыні, тэхніку. Потым тая ж платформа, ні на што не апіраючыся, наблізілася да цыстэрны і спынілася каля насцеж расчыненых дзвярэй. Адтуль высунуўся рукаў робата-крана, і грузчыкі, націскаючы на кнопкі пультаў, захапіўшы грузы, накіравалі іх у пашчу цыстэрны. Чэпка схапіўшы цяжкія станкі і тэхнічную аснастку, заносілі іх і ставілі на пляцоўку памяшкання, – складавалі.

"Заносяць апараты электразваркі і пласціны сонечных батарэяў, – падумаў стваральнік нябеснай дарогі, – прыборы па выплаўцы сталі і шкла... Усё так, як мы і планавалі на пачатку стагоддзя..."

Струнная дарога пракладзена паралельна АПТС і, "змяншаючыся" ў памерах, аддалялася, раствараючыся ў блакіце неба, за гарызонт.

– Значыць, ты і сапраўды апаясаў зямны шар "струнамі", ды яшчэ і акальцаваў планету, – задаволена адзначыў Боб Пол, не адрываючы позірк ад юнітрака, які скрануўся з месца.

Канструктар згодна кіўнуў галавой:

– Я рад, Боб, што чалавецтва прыняло два праекты. І я не перастаючы верыў у тое.

Як толькі яны падняліся з крэслаў, да іх падляцеў, менавіта падляцеў, а не падкаціўся, як заказное "таксі" ў сваім часе, невядомы транспартны сродак на паветранай падушцы. Як казачны кілім-лятак.

Не кранаўся зямлі, знаходзіўся над ёй вышэй за паўметра. А калі расчыніліся дзверы, з паветранага летака выйшла пяцёра чалавек. І тады толькі днішча яго апусцілася на зямлю і зафіксавалася ў сваёй устойлівасці.

– Вітаем вас, спадар Юніцкі! – першы, усміхаючыся, падышоў да яго высокі чалавек з чорнымі валасамі, – нас папярэдзілі пра ваш візіт, і мы рады вітаць вас на еўрапейскай тэрыторыі. Мяне завуць Марэк Юніцкі.

Я з’яўляюся вашым далёкім нашчадкам. Польшча ганарыцца тым, што прадстаўнік яе Анатоль Эдуардавіч Юніцкі вынайшаў такую дзівосную дарогу.

Марык моцна пацісную руку свайму сваяку, дадаў:

– Я з’яўляюся інжынерам-канструктарам, прадстаўляю нашу краіну на арбітальнай станцыі. Разам са мною адпраўляюцца туды і мае сябры, яны самі назавуць сябе.

– Уга Потэц, – падаў руку чалавек са светла-рыжымі валасамі і такімі ж бровамі, – касмічны інжынер па аптычнай справе. Прадстаўляю Германію і Швецыю.

Назваліся і астатнія – англічанін, італьянец і румын.

Была сярод іх і прадстаўніца прыўкраснага полу. З асляпляльнай усмешкай і белымі, бы пялёсткі спелых кветак вішні, зубамі. На плячах рассыпалася капа жоўтых косаў.

– Сюзана Грэй. Інжынер сталеплавільнай вытворчасці. Металург.

– Рад сустрэчы з вамі, – нахіліўся ў паклоне канструктар.

Марэк падышоў яшчэ бліжэй да госця з мінулага. Быццам вайсковец невядома якога звання ці пасады, хаця ён быў у цывільным адзенні, выцягнуўся ў струнку, рукі па шоўчыку. І ў гэтым не было ніякай тэатральнасці ці гратэску, наадварот, падкрэсліваў важнасць моманту.

– Шаноўны спадар Анатоль Юніцкі! Хаця мы і адсутнічалі ўвесь гэты час, але вы былі нябачна за пультам кіравання гэта дзіўнага “заручальнага пярсёнка Планеты”. Таму дазвольце далажыць пра сённяшняе становішча спраў.

Генеральны канструктар стаў сур’ёзным, сагнаў з твару ўсмешку, уважліва глядзеў у вочы кіраўніку палёта, слухаў.

– Сёння спаўняецца роўна пяць год, як мы асвоілі і карыстаемся вашым агульнапланетным транспартным сродкам. Сёння пяцісотае падняцце ў космас. За гэты час на калязямной арбіце пабудаваны касмічныя станцыі, фабрыкі і заводы, асвоена ліцейная вытворчасць, выраб оптыкі і лекаў для чалавецтва. Спецыялісты працуюць і вахтавым метадам, і жывуць там цэлымі сем’ямі.

– Мне вельмі прыемна, што мая мара, мой праект ажыццявіўся.

– Не толькі вы, усё чалавецтва адчувае, як палегчылася і стала цікавым іх жыццё. Пагэтаму ад імя ўсяго чалавецтва мы і выказваем сумесную падзяку і хочам сказаць, што вашая нябесная дарога адкрыла перад людствам бязмежныя магчымасці і перспектывы ў сферы асваення космасу. За самы кароткі час туды перамясцілася ўся шкодная вытворчасць, а яна доўгі час забруджвала біясферу. Для індустрыі космас – гэта яшчэ невычэрпная крыніца энергіі, сыравіны, прасторавых рэсурсаў і новых тэхналагічных магчымасцяў: бязважкасць, глыбокі вакуум і шмат чаго іншага дазволілі сёння вырабляць прадукцыю больш высокай якасці, чым на зямлі, ды па нізкіх коштах, і адначасова не псаваць біясферу.

Юніцкі слухаў тыя тэзісы і выкладкі, якія жылі ў ім з самага дзяцінства, над якімі ён правёў тысячы і тысячы бяссонных начэй, потым са сваімі ідэямі стукаўся ў розныя дубовыя дзверы, каб дапамаглі іх ажыццявіць... І толькі цяпер, калі грамадства адчула сябе “дарослым”, на сабе выпрабавала ўплыў кіслароднага голаду ад цяжкай індустрыі, прачнулася і нема закрычала: “Космас, дапамажы нам пазбавіцца ад уздзеяння цывілізацыі на нашае жыццё!”

– Цяпер адбываецца планавая загрузка неабходнага абсталявання і матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца ў касмічнай вытворчасці. А пабудаваная на паверхні планеты бесперабойная эстакада служыць цудоўным сродкам перамяшчэння людзей. Час падарожжа з Мінска ў Нью-Ёрк, напрыклад, адбываецца за некалі хвілінаў.

– І гэта цудоўна, Марэк, жыццё ў чалавека не такое і працяглае, каб доўгія гадзіны праседжваць падчас паездкі!

– Вы прыбылі са сваім сябрам?

– Так, з Бобам Полам, пісьменнікам і журналістам.

Калі ўрачыстасць моманту зноўку перарасла ў сяброўскую гутарку, калі ўсе перайшлі з каманды “зважай” на “вольна”, спытаў галоўны канструктар ў Юніцкага, паклаўшы руку яму на плячо:

– Марык, а ў якім мы месцы цяпер знаходзімся?

– На тэрыторыі Беларусі. Да вашай Мар’інай Горкі, з якой пачыналі апаясваць струнамі Зямлю, трыста кіламетраў. Мы знаходзімся непадалёк ад Даўгаўпілса і Мінска.

– Калі падымаемся ў космас?

– Заўтра раніцай. Так што вы можаце заходзіць у свой вагон, кватэру, гатэль, як хочаце называйце. Адпачывайце пасля дарогі. А потым, калі прыляцім на калязямную станцыю, сустрэнемся і абмяркуем планы на будучае. Касмічная Рада “Пярсцёнка” гатовая выслухаць вашыя меркаванні і прапановы па ўдасканальванні працы. Вы не супраць?

Анатоль паглядзеў на Боба і, убачыўшы яго адабральны погляд, адказаў:

– Так, дарагі Марэк, мы згодны.

– Тады займайце свае апартаменты.

Эскалатар падняў іх на трэці паверх, і яны выйшлі на ўнутраную пляцоўку. За імі зачыніліся дзверы і адчыніліся другія. Зайшлі ў прасторны пакой, агледзелі ўсё. Стаяла канапа і ложкі, сталы і шафы, свяціўся экран манітора, працавала сувязь з галоўным дыспетчарскім пунктам.

У лядоўні знайшлося піва і вада, гародніна і садавіна.

Боб адкаркаваў бутэльку французскага каньяку, спытаў у сябра дазвол на дэгустацыю. Анатоль кіўнуў галавой. Боб наліў па палавіне ў шкляначкі сонечнага напою.

– За наш палёт, пане канструктар, і за тваё кола.

– За палёт!

Паспытаўшы напой, прыкусіўшы скрылікамі галандскага сыру, не распранаючыся, леглі на канапы.

## *2*

І сабраў вялікі канструктар і вынаходнік аднадумцаў сваіх, прыхільнікаў з розных стагоддзяў і краін у свой юнібус. На форум сусветны сабраў. Салон юнібуса прасторны, у ім магла размясціцца і сотня чалавек, і некалькі тысячаў. Дзіўны вагон і незвычайны, воку чалавечаму непрывычны. Але толькі не для тых, хто знаходзіўся ў ім, – нічога незвычайнага і дзіўнага яны не ўбачылі. Іх думкі і ўяўленні стагоддзі таму абганялі сённяшнія, і нават заўтрашні час. Так ужо ўладкаваны іх мазгі, народжаныя космасам.

Планеты ў небе – спадарожнікі і валацугі, і ім заўжды не сядзіцца на месцы, яны абарачаюцца і круцяцца пастаянна, не маючы сілы і жадання спыніцца, каб перадыхнуць, таму што заведзены, як касмічны будзільнік,

для руху на мільярды нябесных гадоў. Яны заўсёды ў руху, у імкненні ўдасканальваць час. А Космас...

О, Космас! Ён пастаянна і моцна трымае ў руках сваіх усё і ўсіх, і кіруе карагодам зорак і іх суквеццем, рухам каметаў, будаўніцтвам нябачных трасаў і шляхоў, сцяжынаў і накірункаў, служыць абярэгам усяго жывога на Зямлі і ў іншых сусветах, – у яго ўсё адладжана і настроена, адточана і выверана.

Космас – дыктатар, рахункавод і аналітык, камп'ютар і відэакамера. Ён, Касмічны Валадар, сочыць за кожнай секундай нашага існавання, трымае ў сваіх руках нашае жыццё і жыццё галактыкі згодна дакладнай формуле Быцця. Таму што ён, Космас, і ёсць Найгалаўнейшы парадак. Строгі і нязменны. Непадкупны і справядлівы. Вечны і добры. І ніхто ў гэты працэсс не здольны ўмяшацца, каб штосьці перамяніць ці парушыць. Бо не існуе такой сілы. Таму што Парадак усталяваў сам Вышні. І пагэтаму Яму падпарадкавана ўсё – людзі і зоркі, планеты і Сонца, месяц і Бясконцасць, Несмяротнасць і Забыццё, Нараджэнне і Смерць.

У зорным небе ўсталяваны Вечны рухавік – атамна-нябесны Гадзіннік і Час. Час бясконцага касмічнага руху і жыцця. Гадзіннік і не адстае, і не спяшаецца. Ён нябачны, але самы дакладны ў Сусвеце. У далёкіх і блізкіх галактыках. У гэтым і ў тым свеце.

Сэрца і душа кожнага жыхара планеты Зямля нябачнымі ніткамі-струнамі падлучаны да гэтага галоўнага гадзінніка, сілкуюцца яго энергіяй, думкамі, учынкамі і дзеяннямі.

У касмічным гадзінніку няма батарэек, якія б сілкавалі рух маятніка, нябачных стрэлак ці імгненняў, секундаў і хвілінаў. Яны яму без патрэбы, таму што бязмежны акіян космасу сілкуецца энергіяй таго ж космасу. І яна бязмежная, яна невычарпальная. Таму што ідзе на падтрыманне таго ж Парадку. А ён галоўней за ўсё.

Гэта разумелі тыя, хто з'явіўся на свята пуску юнібасаў і юнібайкаў, якое праходзіла пад Мар'інай Горкай. Нябесная дарога – дзіця парадку, то бок неба, галактыкі свету.

Госці з'язджаліся з розных краінаў і кантынентаў, здавалася б, што яны не зразумеюць адно аднаго, але, дзіва, яны размаўлялі на адной, зразумелай ім, мове. І гэта была не англійская і не эсперанта, не беларуская і нават не руская. Гэта была мова геніяў. Мова, падораная Богам.

Вагон ці салон – вялікі і прасторны, нябачныя дзверы расчыненыя з двух бакоў, так што запрошаныя госці не піхаліся, заходзячы, і не перашкаджалі адзін аднаму. Нават не саступалі дарогу, каб прапусціць некага прайсці першым. У кожнага свая дарога, якая не перасякалася з другімі.

Але першаму, не згаворваючыся, а падпарадкоўваючыся таму ж парадку, было прадстаўлена права пераступіць парог сівому дзеду з жывымі і вясёлымі вачыма.

Пераступіўшы парог, ён агледзеў памяшканне, заківаў адабральна галавой, падышоў да распарадчыцы свята Алёне Навумік – памочніцы дарожнага канструктара па сусветных сувязях, назваўся:

– Леанарда да Вінчы.

Падышоў да Юніцкага, удзячна заўсміхаўся:

– Дзякую за запрашэнне, Анатоль. Са мной прыбылі на твой юнібус старажытнагрэцкі матэматык, фізік і вынаходнік Архімед. У яго я вучыўся знаходзіць кропку апірышча ў жыцці і мастацтве, і кожны раз, адкрыўшы

нешта новае, усклікваў “Эўрыка!” І Фрэнсіс Бэкан са мной. Ён лічыў, што мэта навукі – авалодаць сіламі прыроды, але не парушаць яе. Гэта ён прадказаў самалёты і падводныя караблі, сонечныя рухавікі, лазеры і тэлескопы. А з імі і Джордж Стэфенсон – англійскі канструктар і вынаходнік, піянер паравога чыгуначнага транспарту.

– Я рад сустрэцца з такімі вядомымі людзьмі.

– І прыбыў на фестываль са мной вядомы табе Роберт Гук – сын правінцыйнага святара, – працягваў Леанарда, трымаючы канструктара пад локаць, – ён з дзяцінства захапляўся механізмамі. Калі займаўся ў Оксфардскім універсітэце, спецыялізаваўся як астраном. Ён прыйшоў у свет праз два стагоддзі пасля мяне...

– Яго працы геніяльныя.

– І твае думкі з ім перасякліся. Асабліва ў якасцях матэрыялу. Зрабіўшы консульную бэльку з дрэва, ён вызначыў яе гнуткасць пад уздзеяннем у розных частках розных вагаў. Ён прыйшоў да важнай высновы пра тое, што на выпуклай паверхні бэлькі валокны пры згінанні расцягваюцца, а на ўгнутай – сціскаюцца. Прайшло шмат часу, пакуль тэхнікам, механікам і інжынерам стала зразумелым значэнне, як цяпер уяўляецца, відавочнай уласцівасці матэрыялу.

Ён даказаў яшчэ, што дэфармацыя прапарцыянальная нагрузцы, і наадварот. У 1678 годзе выйшла праца Гука “Аб аднаўленчых здольнасцях ці аб пругкасці”. Ён апісваў вопыты з пругкімі целамі – першая кніга па тэорыі пругкасці. Незалежна ад нагрузкі – расцяжэння ці сціскання – змяненне памераў цела прапарцыянальна прыменянай сіле.

– Так, я высока ацэньваю яго адкрыцці, – прамовіў Юніцкі, – і ўвесь час прытрымліваюся яго навуковых вывадаў. Яны дапамаглі мне пазбегнуць шмат якіх памылак, калі займаўся ўласцівасцямі матэрыялаў.

– Яшчэ раз табе дзякуй за запрашэнне, што, аб’яднаўшы эпохі, злучыў нас разам. І мы ўпершыню ўбачыліся з імі.

А потым падышлі і “сукамернікі” Юніцкага па Лубянцы – Казімір Семяновіч, Сяргей Каралёў, Канстанцін Цыялкоўскі, Мікола Тэсла... Павіталіся з Анатолем як старыя знаёмыя, паручкаліся, і кожны пайшоў займаць свае месцы.

У кожнага на століку ў вазах яблыкі і грушы, вінаград і персікі. Усе яны растуць на плантацыях Экапарка.

І частаваліся яны ці то шампанскім, ці то эліксірам здароўя. Адразу адчувалі прыліў сілаў.

Госці каштавалі чырвоныя і светла-жоўтыя напіткі, віно, адабральна ківалі галовамі, ацэньваючы якасць і смак. Ведалі, што скайвеяўцы рэцэпт свой запатэнтавалі ў Сусветнай арганізацыі эліксіраў і вінаробства.

Алёна рэгістравала новыя імёны ў “Кнізе гасцей”, адзначала, хто і адкуль з’явіўся. Яна пачынала разумець мову кожнага, як і Юніцкі. Каб зафіксаваць гэтую важную падзею ў гісторыі, па салоне хадзіў тэлеаператар Мікіта Кузьмін, скіроўваючы аб’ектыў на кожнага з гасцей па чарзе. Побач з ім вёў прамы рэпартаж Міхаіл Кірычэнка, фіксаваў падзею Яўген Пятроў – трымаў у руцэ дыктафон, пісаў оду Алесь Плотка... Ззаду іх, нябачны для ўсіх, але не для Юніцкага, хадзіў без аніякай амуніцыі Боб Пол. Праз ружовыя акуляры ён бачыў усё і ўсіх.

Калі ў юнібус увайшоў малады чалавек, трымаючы ў руцэ кнігу, усе пазналі ў ім палачаніна – першадрукара і вучонага, медыка і мысляра.

Падышоўшы да Алёны, ён назваўся:

– Францішак Скарына, нарадзіўся ў Полацку. А гэта табе, Анатоль, мой падарунак. – Ён падаў тоўстую кнігу са скуранымі вокладкамі. – “Апостал” – першая царкоўна-рэлігійная кніга на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Падарожная кніга. У ёй малітвы і псалмы. Так што і я маю нейкае дачыненне да дарогі.

– Дзякуй, спадар Францішак! Твае землякі чакаюць цябе, займай сваё месца.

Зайшоў у салон барадаты мужчына гадоў пяцідзесяці. За плячыма эцюднік і валіза з фарбамі. Паліто расхрыстана, і ўсе ўбачылі, што на ім кашуля-вышыванка з арнаментам на грудзях. Арнамент сімвалізаваў рух і жыццё.

Перад тым, як сесці ў крэсла, абвёў усіх вачамі, заўсміхаўся і прамовіў:

– Да вашых паслугаў – віцяблянін Язэп Драздовіч, будаўнік дарог на Марсе і Юпітэры.

Усе адабральна заківалі галовамі, і да яго падышоў генеральны канструктар струнных дарог, пацiснуў руку:

– Дзякуй, спадар Язэп. Тваё месца побач з Казімірам Семяновічам і Францыскам Скарынам, тваімі землякамі.

Апошнім, апіраючыся на трысціну, пераступіў парог лайнера французскі пісьменнік-фантаст. Павітаўся, падышоў да Алёны:

– Да вашых паслугаў, Алёна, – Жуль Верн. Дзякую за запрашэнне.

Арганізатары форума паклапаціліся і пра тое, каб не абысці ўвагай прадстаўніц слабага полу – жанчын, – іх апантаны і аналітычны розум ніколі не адставаў ад мужчынаў. Таму далучыліся да грамады Марыя Кюры і Соф’я Кавалеўская, вынаходніца Гіпатыя з Александрыі, якая жыла ў 370 годзе новай эры. Гэта яна вынайшла астранамічную прыладу для вызначэння становішча Сонца і планетаў. Джэсі Картрайт вынайшла мікрахвалёвую печ.

Калі ж Леанарда да Вінчы вынайшаў падводную лодку, то праз некалькі стагоддзяў амерыканка Сара Мэтэр запатэнтавала сваё вынаходніцтва – перыскоп для той жа субмарыны. Дарэчы, ружовае шампанскае – таксама яна прыдумала.

Высокаактанавы бензін для савецкай народнай гаспадаркі прыдумала Ганна Межлумава. А дзякуючы мікрабіёлагу Зінаідзе Ярмольевай з’явіліся антыбіётыкі.

Аляксандра Глаголева-Аркадзьева стала першай сусветна вядомай рускай жанчынай-фізікам. Ёй належыць адкрыццё, якое даказвае адзінства светлавых і электрамагнітных хваляў, пабудову адзінай шкалы гэтых самых хваляў. Яна зрабіла поўную кваліфікацыю і афармленне тэрміналогіі электрамагнітных хваляў, раздзяліўшы шкалу на часткі: нізкачастотныя хвалі, радыёхвалі, ультра кароткія радыёхвалі, ІК-промні, светлавыя промні, УФ-промні, рэнтгенаўскія промні, гама-промні...

Запрошаныя вынаходнікам “струнаў” падыходзілі і падыходзілі, называлі Алёне свае прозвішчы і кіраваліся да сваіх месцаў. Некаторых Юніцкі і не ведаў, але здагадваўся, на іх вітанне ці поціск рукі ўсміхаўся і адказваў:

– Вітаю вас на нашым нябесным караблі!

А на паветраным лайнеры не было галоўных ці асаблівых, усе былі роўныя і аднолькавыя для гісторыі, кожны з іх па меры магчымасці зра-

біў свой унёсак у прагрэс чалавецтва. І таму яны між сабой гаварылі на роўных, гаварылі на мове вынаходнікаў.

Побач з Міколам Тэслам пуставала месца, яно прызначалася для Юніцкага. Былыя “сукамернікі” абрадваліся, калі ён сеў побач з імі. Узнікла размова, усе яны хацелі закончыць яе, распачатую на Лубянцы.

Здавалася б, што галасы гасцей павінны былі напамінаць растрывожаны вулей, але, насуперак логіцы, падзеленыя на “групы па інтарэсах”, не зліваліся ў адзін гул, быццам прастора нябачна падзяліла іх, стварыўшы камфортныя ўмовы для размовы. Гэта не ў вагонах чыгункі, калі нехта адзін гаворыць, а яго чуюць усе пасажыры вагона. Гэта таксама сакрэтная распрацоўка стваральнікаў юнібусаў. Яны навучыліся падпарадкоўваць прастору сабе, ператварылі яе ў жывы матэрыял.

Тэсла, усміхаючыся, паглядзеў на Юніцкага, хітра падміргнуў суседзям, прамовіў:

– Спадар Анатоль, а хочаш я табе скажу адну непрыемную рэч, хаця я і твой госць?

Цыялкоўскі і Семяновіч са здзіўленнем паглядзелі на Уладальніка Энергіі. Каралёў пільным позіркам прыгледзеўся да амерыканца, не адрываў позірку і Драздовіч.

– Кажы, не саромся, я вытрываю.

– Дык вось, хлопча, скажу так: твая дарога – гэта ўчарашні дзень.

Анатоль са здзіўленнем паглядзеў на Тэслу:

– Цікава. Я яшчэ не паспеў як след запусціць Нябесную дарогу, а ты кажаш – “учарашні дзень”. Як цябе разумець?

Убачыўшы на твары канструктара недаўменне, Тэсла галасна рассмяяўся, паказаўшы рад белых, быццам снег, зубоў.

– Сябры мае! – пасур’ёзнеў Мікола. – Гэта сказаў я – Мікола Тэсла. Але словы свае вымавіў не сёння, а праз тысячу гадоў. Столькі гадоў, дарагі мой Анатоль, будзе служыць верай і праўдай чалавецтву твае вынаходніцтва. Да таго часу людства прыдумае новы від пераездаў чалавека па планеце, і твая дарога хаця і не састарэе, а падасца дапатопнай. І ёю будуць карыстацца яшчэ не адно стагоддзе, і яна будзе адзначана ў гісторыі як піянер, і тваё імя ўвойдзе ў гісторыю як геніяльнага вынаходніка.

– Дапатопнымі? – не вытрымаў абразы Казімір Семяновіч, пацiснуўшы плячыма. – Ты не з’ехаў з глузду, Мікола? 500-900 км у гадзіну – і дапатопныя? – І дадаў на віцебскі манер: – Мудрыш ты, малец, аднак.

Цыялкоўскі, прыклаўшы далонь да вуха, услухоўваўся ў спрэчку, жадаючы пачуць нешта аб чарговым адкрыцці чалавецтва.

Тэсла не адрэагаваў на заўвагу Казіміра.

– Тады скажыце мне, пра рух чалавека з хуткасцю святла ці гуку вы што-небудзь чулі?

Суседзі пераглянуліся, пацiснулі плячыма.

– Так, калегі мае, – вочы ў Тэслы загарэліся і, здавалася, выпраменьвалі іскры, але ён добразычліва ўсміхаўся. – Гэта будзе праз тысячу гадоў. Мы ж ведаем, што прагрэс не стаіць на месцы. Калі ж праз стагоддзе пасля вынаходніцтва чыгункі Юніцкі зямны шар абкруціў “струнамі”, то што будзе праз тысячу гадоў, вы можаце ўявіць? Я гэта ўбачыў у сваіх вопытах, але нікому пра тое не расказваў.

– Пра што не расказваў, Мікола? – пацікавіўся Юніцкі, не выказваючы ніякай крыўды за “ўчарашні дзень”.

– А пра тое, напрыклад, што, расчыніўшы дзверы са сваёй кватэры ў калідор у Гомелі ці ў Тураве, можаце апынуцца ў кватэры свайго сябра ў Вашынгтоне ці ў Лондане. І наадварот. Праўда, папярэдне папярэдзіўшы ці атрымаўшы згоду на сяброўскую вячэру. Мож а, ваш сябра ці сяброўка вельмі занятыя і не хочуць сустракацца. Як у вас кажуць – не запрошаны госць горш за...

– Іншапланецяніна...

– Няхай будзе так, – згадзіўся, усміхаючыся, Тэсла.

– Ты кажаш пра тэлепартацыю?

– Нешта накшталт гэтага, але для таго, каб стварыць такі тып перасоўвання, трэба мець узровень патрэбнай энергіі. Сёння яе ў наяўнасці няма, а з космасу браць яе яшчэ не навучыліся. Але гэта што тычыцца перамяшчэння людзей, з грузамі я эксперыменты і вопыты не праводзіў. Баяўся. Бо гэта была ўжо сфера не чалавечай дзейнасці. Як і падарожжа ў часе. І з тысячагоддзямі будучага не гуляў у эксперыментах, мне не было дазволена пераносіцца туды.

Усе задумаліся. Ім і ў галаву не праходзіла такое. А Тэсла, аказваецца, і над гэтым праводзіў свае вопыты і эксперыменты.

І Мікола, убачыўшы лёгкі смутак у іх вачах, усклікнуў:

– Выбачай, Анатоль, што я ўплёў у нашую размову загадку. Не крыўдуй на мяне. Я проста хацеў крыху павесяліць вас. А цяпер, каб звязаць і замацаваць наш саюз, прапаноўваю падняць бакалы з віном-эліксірам і ўсклікнуць разам:

– Няхай жыве тысячагоддзі SkyWay!

Амаль нячутна, дакрануўшыся бакамі, дзынкнулі бакалы – быццам пачуўся голас звону далёкага храма.

– Мікола, я не ў крыўдзе на цябе. Наадварот, дзякую, што ты прымусіў нас задумацца над калізіямі быцця, пацвердзіць, што ніштo ў гэтым свеце не стаіць на месцы. Што існуе не толькі заўтрашні дзень, а далёкі-далёкі тысячагадовы перыяд.

Юніцкаму захацелася прайсці па салоне, паглядзець, колькі гасцей адгукнуліся на яго запрашэнне, перакінуцца з некім словам-другім. Аказалася, што юнібус неяк расшырыўся, стаў доўгім і бясконцым, мо і мільён людзей знаходзілася ў ім, а мо і значна больш...

Каля акна ўбачыў... бацьку. Ён сядзеў побач з Юляй Сцяпанаўнай, сваёй жонкай, то бок з Анатолевай маці. На каленях у Эдуарда сядзела маленькая Тамара. Эдуард пра нешта расказваў, і маці разам з дачкой весела смяяліся. Анатоль здзівіўся, што Тамара выглядала на гадоў пяцьшэсць. Ды і бацькам, мусіць, было каля трыццаці. Радасныя, шчаслівыя.

Падышоў бліжэй да іх, пацікавіўся:

– Як вам на нашым транспарце? Я рады, што ты, бацька, разам з маці прыйшоў да мяне ў госці. І Тамара разам з вамі.

– Мы з маці шчаслівыя, што прысутнічаем на такім свяце, дзякую, што запрасіў нас, каб адправіцца ў падарожжа па космасе.

Маці прытуліла да сябе дачку:

– Мы даўно не бачыліся з Эдзікам, а ты нас звёў тут разам. Мы быццам у юнацтве знаходзімся з тваім бацькам.

– Без вас я не мог адправіцца ў гэты шлях.

Анатоль нахіліўся над імі, абняў іх, і іх галовы прытуліліся адна да адной.

У салоне ўсталявалася цішыня. Нехта выключыў усе гукі, што гучэлі

ў сяброўскіх групоўках. Замест гэтага пачулася арганная музыка Бетховена, касмічная мелодыя "Месяцавай санаты" плаўна разлілася па ўсім памяшканні.

– Дарагія сябры! – праз колькі хвілінаў пачуўся прыглушаны голас Алёны Наумік. – Мы адпраўляемся з вамі ў кругасветнае падарожжа на самым сучасным транспарце – SkyWay. Мы наведаем усе краіны, адкуль прыбылі вы, нашыя госці, – вынаходнікі і вучоныя. Яны і правядуць з вамі экскурсіі. У суседніх вагонах знаходзяцца першыя інвестары з розных краінаў, дзякуючы якім мы сёння прамчым па небе. Я перадаю мікрафон касмічнага лайнера яго стваральніку Анатолю Юніцкаму.

– Наш шлях пракладзецца над акіянамі і пустынямі, гарамі і балотамі, рэкамі і азёрамі, – абвясціў канструктар. – Наперадзе ў нас – Варшава і Лондан, Парыж і Рым, Масква і Камчатка, Вашынгтон і Нью-Ёрк. Прыемнага вам падарожжа!

Пачуліся апладысменты. Усе воплескамі віталі галоўнага канструктара SkyWay.

І ў той жа час састаў, быццам вольная і казачная птушка, адарваўшыся ад струнаў, нячутна паляцеў па небе, тым самым распачаўшы дзіўнае і ўнікальнае падарожжа па прасторах галактыкі... А потым ён ператварыўся ў "заручальнае кола", абгарнуўшы зямлю, памкнуўся да зор і планетаў. Унікальнае вынаходніцтва палешука Юніцкага набывала рэальныя рысы. Чалавецтва і зямля атрымалі падарунак – "заручальны пярсцёнак".

### *3*

Прачнуліся яны на золку.

Іх пабудзілі незразумелыя і ціхія гукі, быццам вецер ускудлаціў у скверы апалае лісце і ўзняў яго ў паветра, і яно залатым дажджом ападала на зямлю.

Убачылі праз акно, як вагон, злучаны з усімі, пачаў павольна адрывацца ад эстакады.

Боб з цікавасцю назіраў, як аддаляецца зямля ад станцыі; людзі, прадметы і дамы пакрысе змяншаліся ў памерах, а потым зліваліся ў адну шматколерную паверхню; нечакана з'явіліся першыя бела-сівыя воблакі, пранізаныя промнямі сонца.

На Юніцкага тое ніяк не паўздзейнічала, у яго было пачуццё, што ён не адзін раз, і не сотню ўзлятаў у космас на сваім "коле". Ведаў, што за чым будзе адбывацца, як "транспартны сродак" будзе адчуваць сябе ў першыя секунды і хвіліны пад'ёму, як збіраецца з сіламі і, быццам жывы арганізм, уздрыгвае сэрцам, адчуваючы, як энергетычная кроў расцякаецца па сасудах, ажыўляючы ўсю сістэму і ўвесь механізм...

Няхай здзіўляецца Пол, ён ляціць упершыню, і пагэтаму для яго ўсё дзіўна і незразумела, а яму, аўтару "заручальнага пярсцёнка", і радасць не ў радасць. У яго проста выступілі слёзы на вачах, і ён хаваў іх ад сябра, адвярнуўся. Так, мусіць, адбываецца і ў вялікіх вучоных на заключным этапе адкрыцця ці вынаходніцтва: радасць была перад гэтым, калі ў душы яго некалі нарадзілася ідэя, а пасля ён з вялікімі намаганнямі дабіваўся яе рэалізацыі.

Рэалізацыя – гэта перамога, гэта трыумф. Але пацікаўцеся вы ў пераможцаў не толькі ў навуцы, але і ў змаганні – ці адчуваюць яны радасць

і шчасце ад перамогі? Не адкажуць канкрэтна. Таму што радасць яны адчувалі тады, калі ў пакутах ішлі да той перамогі.

Супрацоўнік амерыканскай газеты, вопытны, так бы мовіць, воўк журналістыкі, ведаючы настрой канструктара, не задаваў яму такіх пытанняў, дурных пытанняў, бо яны былі б не да месца. Ён падняўся ўжо з канапы, падышоў да вакна з другога боку, прайшоўся па салоне, быццам па сваёй кватэры, паглядзеў зноў у вакно і вярнуўся да свайго месца.

Юніцкі ў думках уявіў працу рухавікоў, хаця якія рухавікі, калі ўвесь сэнс у электрамагнітах, – гэта яны стабілізуюць ротар у цэнтры трубы. А ротар рухае лінейныя электрарухавікі ўздоўж усяго канала і, суадносна, вакол зямлі. Праходзяць дні і тыдні, перш чым ён дасягне першай касмічнай хуткасці і за кошт ураўнаважвання сілы зямнога прыцягнення цэнтрабежнай сілай набудзе бязважкасць. А калі хуткасць дасягае дзесяці кіламетраў у секунду, адключаецца лінейны электра рухавік, магнітны працэс...

– Цябе цікавіць, Боб, як гэта ўсё працуе?

Не адрываючыся ад акна, сябра заківаў галавой:

– Растлумач, будзь ласка. Пра гэта нідзе не прачытаеш, хіба ў тваёй доктарскай.

Анатоль збіраўся з думкамі. Не ведаў, якімі словамі патлумачыць. Не хацелася мучыць яго навуковымі тэрмінамі. Выбраў сярэдняе.

– Пасля таго, як на абмотку лінейнага электрарухавіка package пададзена электраэнергія, пачынае ўзнікаць бягучае магнітнае поле. У верхняй бясконцай стужцы, якая мае магнітную падвеску і з'яўляецца ротарам рухавіка, паступае ці наводзіцца ток. А ён пачне ўжо ўзаемадзейнічаць з магнітным полем, якое стала для яго родным, і тады ўжо стужка, якая не адчувае ніякага супраціву, бо размешчана ў вакууме ў канале, размешчаным па восі корпуса транспартнага сродку, прыйдзе ў рух. “Увальецца” ў кручэнне вакол Зямлі. Калі будзе дасягнута першая касмічная хуткасць, стужка страціць сваю вагу. А ўжо пры далейшым разгоне яе цэнтрабежная сіла праз магнітную падвеску стане аказваць на корпус ТС усё ўзрастаючую вертыкальную пад'ёмную сілу да тае пары, пакуль не ўраўнаважыць кожны яго пагонны метр. І тады транспартны сродак стане як бы бязважкім – ён ператворыцца ў антыгравітацыйны лайнер! У ім, з папярэдне раскручанай хуткасці да 15 км у секунду з верхняй стужкай, якая ўтрымліваецца на эстакадзе і мае масу дзевяць тон, і дакладна такой жа, але якая ляжыць нерухома ніжняй стужкай, – размяшчаюць грузы і пасажыраў. Дагэтуль усё зразумела?

– Здаецца, так.

– Гэта робіцца ў асноўным унутры, а часткова і звонку корпуса ТС, але так, каб нагрузка ў цэлым была раўнамерна размеркавана па яго даўжыні. Пасля вызвалення ад захватаў, якія ўтрымліваюць транспартны сродак на эстакадзе, яго дыяметр пад уздзеяннем пад'ёмнай сілы пачне павольна расці, а кожны пагонны метр пачне падымацца над зямлёй, аддаляцца ад яе. А паколькі форма акружнасці адпавядае мінімуму энергіі, то транспартны сродак, які да гэтага капіяваў профіль эстакады, прыме пасля пад'ёму ўжо форму ідэальнага кола.

– Як я разумею, падладкуецца пад акружнасць зямлі?

– Так, усё выдатна разумееш. Хаця зямны шар не ідэальная акружнасць, як мяч, але ўсё ж... Пасля пад'ёму з эстакады яго не скрануць паветраным

стыхіям – штормам, смерчам, навальніцам, – але яны, як я разлічыў, не паўплываюць на яго працу. І тыя разлікі паказваюць, што ТС, які ні на што не абапіраецца, валодае ўнікальнай гнуткай цвёрдасцю і ўстойлівасцю. Недасягальнай статыстычным канструкцыям і абумоўленай рухам бясконцай стужкі. Да прыкладу, калі будзе дадатковая нагрузка хаця б у 100 тысячаў тон, – гэта дваццаць цяжкавагавых чыгуначных саставаў, – пракладзеная да ўчастка транспартнага сродку даўжынёй адзін кіламетр сагне яго адносна акружнасці ўсяго на дваццаць сантыметраў.

– Усяго – дваццаць?!

– Так. Для бесперапыннага кола гэта амаль непрыкметна.

– Мы падняліся з зямлі, правільней, адарваліся – і што?

– Тады ўжо, падняўшыся ў неба, ТС будзе знаходзіцца ў раўнавазе толькі ў тым выпадку, калі яго агульная кінетычная энергія будзе роўная энергіі цела такой жа масы, якая рухаецца з першай касмічнай хуткасцю. Калі агульная энергія будзе большай, то дыяметр кола пачне павялічвацца, меншай – змяншацца. Тады, каб падняць наш карабель, неабходна мець альбо першапачатковы лішак кінетычнай энергіі, – стужку разганяюць на зямлі да больш высокай хуткасці, – альбо ў працэсе пад'ёма патрэбна зменшыць масу яго шляхам скідвання баласту. Як быццам мы ляцім на паветраным шары. Можна выкарыстоўваць і папярэдне сціснуты звадкаваны газ ці паветра. Агульны выдатак баласта пры пад'ёме на вышыню трыццаць кіламетраў – недзе ад 10 да 100 кг на пагонны метр "кола".

– Зразумеў, Анатоль. А расцяжэнне корпуса? З гэтым як?

– Вельмі проста. Яго расцяжэнне будзе павялічвацца на 1,57 адсоткаў для кожных ста кіламетраў пад'ёму над зямлёй. Падаўжэнне корпуса кампенсуе шляхам перамяшчэння аднаго адносна другога яго блокаў, канцы якіх тэлескапічна ўваходзяць ("топяцца") адзін у другі і звязаны між сабой, напрыклад, гідрацыліндрамі. А бясконцыя стужкі лінейных электрарухавікоў будуць выдоўжвацца за кошт іх пругкага расцяжэння. Для стварэння неабходных нагрузак спатрэбяцца нязначныя радыяльныя намаганні. Напрыклад, для атрымання прадольнага намагання ў 6400 тон неабходна перавышэнне цэнтрабежных сілаў над вагой АТС, роўнае ўсяго 1 кг/м.

– Значыць, хуткасць у гэтым выпадку мае вялікае значэнне?

– Так, мае, без яе ўсё марна. Яна можа быць зададзена на любым з участкаў шляху ў шырокіх межах – ад хуткасці пешахода да хуткасці самалёта. Атмасферны ўчастак ТС адбываецца на мінімальных хуткасцях. Пасля выхаду са шчыльных слаёў атмасферы ўключаецца зваротны прывад верхняй стужкі на генератарны рэжым. Стужка пачынае тармазіцца, а рухавік – выпрацоўваць электрычны ток. Гэтую электраэнергію пераключаюць на рухавік другой стужкі, які ўключаны на прамы рэжым. Ніжняя стужка, якая мае тую ж масу, што і верхняя, да гэтага нерухомая адносна корпуса, пачынае рухацца ўжо ў адваротны бок. Такім чынам забяспечваецца ў працэсе вываду нязменнасць кінетычнай энергіі элементаў транспартнага сродку, які круціцца вакол планеты. Калі ж гэтага не зрабіць, кола можа спусціцца зноў на зямлю...

– Зрабілі, не далі колу сесці на зямлю...

– Тады корпус кола і ўсё, што да яго прымацавана, а гэта груз, лінейныя электрарухавікі і шмат што іншае, – падпарадкоўваючыся закону захавання моманту руху сістэмы, пачынае кручэнне. Пачне круціцца ў той жа бок,

што і верхняя бясконцая стужка, да той пары, пакуль не дасягне акружнай хуткасці, роўнай першай касмічнай – 7,9 км/с. Першая касмічная хуткасць – гэта хуткасць, якой павінна валодаць цела, каб кручэнне адбывалася на пастаяннай велічыні над паверхняй планеты. З павелічэннем вышыні арбіты першая касмічная хуткасць змяншаецца. Так, на вышыні 100 км над паверхняй зямлі яна адпавядае 7 844 м/с, а на вышыні 300 км – 7 726 м/с. А радыяльная хуткасць пры гэтым упадзе да нуля.

А пасля гэтага ўжо на вышыні 400-600 км выгружаюцца розныя прыборы і канструкцыі, абсталяванне і інструменты, на арбіту выйдуць людзі розных прафесій, якія прыбылі на пляцоўку першага прамысловага і энергетычнага кола. Як на зямлі будаўнікі і зваршчыкі пачынаюць мантаж будынка, так і ў космасе быў праведзены мантаж вялізнай станцыі, прызначанай не толькі для прамысловых мэтаў, а і да зясялення людзей.

– Гэта ўсё цяжка ўявіць.

– Але яно ёсць. Толькі так і такім шляхам ТС быў выведзены ў бліжні космас за дзве гадзіны. І ўсё разлічана так, што перагрузкі ў ім прыняты на ўзроўні сучасных аэрабусаў, і ў момант іх узлёту паскарэнне складае 1-2 м/с. Мы будзем стаяць на месцы, а калі паглядзім на нашую зямлю, то ўбачым, што яна круціцца па сваёй восі. Каб потым апусціцца на зямлю, мы здзяйсняем аперацыі ў адваротным парадку.

– А каб зноў падключыцца да энергасілкавання, якое знаходзіцца на зямлі, што для гэтага трэба? Хіба ж ёсць такі кабель, які б мог дацягнуцца да зямлі?

Юніцкі ўбачыў незразумелы прадмет, які праляцеў удалечыні, замігаўшы агнямі, не здзівіўся, ведаў, што ў космасе шмат насельнікаў, і да іх трэба адносіцца як да добрых суседзяў. Зноў павярнуўся да субяседніка.

– А гэтага, Боб, і не патрабуецца. Чаму? У працэсе транспартнага цыклу зусім непатрэбен падвод энергіі звонку. Транспарты сродак абыдзецца без новай падпіткі. У яго будзе дастатковы першапачатковы запас кінетычнай энергіі, якая з верхняй бясконцай стужкі-ланцуга ў працэсе ўзлёту будзе пераразмеркавана на корпус, а пры пасадцы яна зноў будзе аддадзена стужцы. Да яе аднachасова далучыцца і энергія касмічнага груза, які дастаўляецца ўжо на зямлю. Дастаўка адной тоны груза з Месяца дасць такую колькасць энергіі, што і тона нафты. Груз Месяца ў адносінах да Зямлі валодае кінетычнай і патэнцыянальнай энергіяй, якая, у сваю чаргу ўтылізуецца ТС і ператворыцца ў электрычную форму.

Боб ніяк не мог адарваць свой позірк ад блакіту неба, хаця яно хутчэй за ўсё было чорным, якім і павінен быць космас. У яго сціскалася сэрца ад незвычайнага пачуцця палёту на незвычайным транспарце. Як быццам сядзеў у тралейбусе ці вагоне цягніка, і глядзеў у акно. Толькі за вакном плылі ці мільгалі не высотныя спаруды і будынкі, трубы з дымамі, а нябачныя зоркі, сузор'і, букеты розных колераў і адценняў. Адчуванне было незямное, і пагэтаму на космас ён ужо глядзеў як касмічны чалавек.

– Вялікі фантаст-рэаліст Анатоль, – не адрываючы погляд ад ілюмінатара-акна, звярнуўся да канструктара Боб Пол, – растлумач мне такую рэч – мы адарваліся ад зямлі, пупавіна энергіі аддзялілася. Ты вынайшаў яшчэ і акумулятар, які жывіць гэтую махіну?

І галоўны канструктар таксама глядзеў у вакно. У адрозненне ад Боба ён не бачыў космас, ён глядзеў скрозь яго, далей, глыбей і вышэй. У яго задумлівым паглядзе была ці то абыякавасць, ці то стома, а можа і тое,

і другое разам. Ён ужо гэтыя бачыны перажыў і перабачыў даўно, нават калі яшчэ вучыўся ў школе, калі з настаўнікам фізікі спрачаўся на тэмы гравітацыі і левітацыі, і потым гэтыя тэмы прыходзілі да яго ў сны, і ён лётаў па прасторах галактыкі на нейкім дзівосна-фантастычным лайнеры паміж планетамі і сузор'ямі. Ён тады не адчуваў сябе камандорам "Пярсцёнка", быццам і не ён прапанаваў свету свой праект і просты шлях наведвання космасу.

– Ды не, дарагі Боб, не я вынайшаў акумулятар, а закон фізікі. Той акумулятар існуе мільярды гадоў, і пра тое гаварыў Тэсла, а чалавек ніяк не можа адшукаць яго, каб выкарыстаць для сябе.

Юніцкі мог гадзінамі расказваць пра быццам бы тайную энергію, як і пра свой праект, і ніколі не стамляцца. Ды ў яго сакрэтнай тэчцы знаходзіліся дзясяткі праектаў, якія ён да пары да часу не меў права паказваць чалавецтву. Нават не хацеў мець патэнты на іх, як і той жа Тэсла. Боб хоча да канца разабрацца ў прынцыпе працы касмічнага транспарту. Яго можна зразумець.

– Рух ці перасоўванне ТС толькі ў двух кірунках – туды і назад. А ў прамежках паміж рэйсамі сродак – пярсцёнак – будзе атрымліваць такую колькасць энергіі, што не зможа ўмясціць у сябе ніякі акумулятар, – і тым самым ён забяспечыць як уласныя спажыванні ў ёй, так і чалавецтва ў цэлым. Незразумела? Гэта як у бізнесе ці ў банкаўскай сферы, толькі наадварот. Ты бярэш у банку пазыку на вялікую-вялікую суму. Але за гэта не ты плаціш адсоткі, а сам банк.

– Дзіўна, вельмі дзіўна, мой дружа! Усе ідуць "у нагу", толькі ты адмаўляешся...

– Адмаўляюся, і даўно адмаўляюся.

– У цябе ўсё наадварот, Анатоль, ты ламаеш усе стандарты і паняцці, якія складаліся стагоддзямі. Ты прапаноўваеш прынцып не рабавання чалавецтва, а яго ўзбагачэння. Не чалавек плаціць за тое, што ён робіцца багатым, а нейкая нябачная сістэма. Так, гэта і прапаноўваў Мікола Тэсла, ды толькі яго палічылі вар'ятам. Ты гэтага не баішся?

Юніцкі паціснуў плячыма, засмяяўся:

– Не, Боб, мяне Тэсла папярэдзіў пра тое.

– Мікола? – Боб здзіўлена паглядзеў на свайго сябра, не разумеючы яго жарт.

– Так, ён праведваў мяне ў "Бутырцы", калі мы сядзелі там з Цыялкоўскім і Казімірам Семяновічам. Суткамі мы з ім размаўлялі. Мы разумелі адзін аднаго, хаця нас раздзяляў час. Дык вось, пра энергію. Акрамя гэтай крыніцы энергіі, што я апісваў – энергіі касмічнага грузу, існуюць і яшчэ тры крыніцы, іншых не ведаю, – сонечная энергія, іонасфера планеты і энергія кручэння Зямлі вакол сваёй восі. Гэта як дынама-машына, якая выпрацоўвае ток без умяшання чалавека. Гэты від, лічу, самы эфектыўны і дасягальны. Зямля круціцца вакол сваёй восі – за суткі робіць поўны абарот, мы не страчваем энергію на падтрыманне яе кручэння, – і ў выніку на табло нашага акумулятара фіксуецца вялізная сіла электраэнергіі. Ніхто і ніколі не выкарыстоўваў яе. Вышні распарадзіўся так у адносінах да Сусвету, таму мы і не парушаем прынцыпаў і законаў Космасу.

– Не парушаем... – пагадзіўся Боб Пол.

*4*

За вакном, амаль ушчыльную да іх, наблізілася “цыгара” срэбнага колеру. Даўжынёй яна магла быць некалькі сотняў метраў, можа, і некалькі кіламетраў – не вызначыць. У “цыгары” былі ілюмінатары, і каля іх сядзелі людзі. Адно вакно наблізілася да іхняга, і можна было ўжо разгледзець зблізу, хто за вакном. Ля вакна сядзелі двое – жанчына і мужчына.

Яны, гледзячы на Боба і Анатоля, махалі прывітальна рукамі, дакранаючыся да пластыка ці шкла. Анатоль паклаў на шкло растапыраную далонь. Тое ж зрабіла і бялявая жанчына, але яна прыклала дзве далоні і ўсміхалася. Іншаземны карабель наблізіўся амаль упрытык, падалося, што дакрануўся нават. Прастора паміж далонямі Анатоля і Белакуркі, як назваў яе ў думках ён, успыхнула ярка-зялёным полымем, быццам ішла праверка зямляніна на пацвярджэнне яго асобы. Калі жанчына пераканалася, што гэта ён, камандор, адняла руку – і тут жа агонь знік.

Кантакт адбыўся. Іх прынялі, іх віталі, даведаўшыся пра тое, што падымаюцца ў космас з добрымі намерамі, што на борце няма ніякай зброі, прызначанай для знішчэння чалавецтва і космасу.

– Яны так павіталіся з табой?

– Так, і не толькі прывіталі, але і правяралі нас, ці маем мы зброю.

“Цыгара” пачала павольна аддаляцца ад іх. Яна заставалася на тым жа ўзроўні, што і ТС, але адлегласць між ёй і зямлянамі працягвалася да тае пары, пакуль АЛА (Апазнаны Лятаючы Аб’ект) не знік з поля зроку.

– Дык вось, – прадоўжыў камандор, – пра першую крыніцу энергіі, я думаю, ты разумееш. На нашым коле-пярсцёнку могуць быць размешчаны як спецыяльныя сонечныя панелі, так і сам корпус выконвае функцыю сонечнай батарэі. Сонца шчодра дзеліцца з намі сваёй энергіяй, пры тым нічога не патрабуе ўзамен. І мы, у сваю чаргу, павінны дзяліцца гэтым багаццем, не патрабуючы ад спажыўца грошы. Мы энергію можам перавозіць. Яна атрымана ад арбітальных сонечных электрастанцый. І для яе атрымання не трэба здабываць нафту, свідруючы зямлю, ні газ ці іншае паліва, якое згарае ў печах і атручвае зямлю і нас разам з ёю. Нашая энергія атрымана экалагічна чыстым шляхам: пад уздзеяннем сонечнага выпраменьвання, вада, спецыяльна дастаўленая на арбіту, раскладзена на вадарод і кісларод. У задачу “Пярсцёнка планеты” ўваходзіць толькі дастаўка ў космас вады і адваротная дастаўка вадарода і кісларода, якія ўжо на зямлі, пры спальванні, дадуць тую ж ваду. Паветра і зямля ад гэтага не будуць пакутваць.

– Зразумеў. А другая крыніца?

– О, гэта самая дзівосная крыніца, Боб! Яна аднаўляецца тым жа сонцам. Якім чынам? Гэтая энергія будзе брацца з токаў іанасферы. Яна таксама будзе дзяліцца з намі сваёй крыніцай. Бо рознасць патэнцыялаў паміж ёй і Зямлёй раўняецца 400 000 В.

Боб замоўк, наморшчыў лоб, задумаўся. Паправіў акуляры на носе, быццам стараўся наладкаваць патаемныя струны відэадыктафона. Падрыхтаваўся да працягу лекцыі вялікага вучонага. Напруціў слыхавыя органы.

– Зямля мільярды год пасміхалася з нас. Чаму? Тлумачу. Увесь гэты час адбывалася вярчэнне махавіка гісторыі і нябачнага электрарухавіка, выпрацоўваючы мільярды ват энергіі, а мы і не здагадваліся пра тое. Яна,

Зямля, працавала з нулявым вынікам, і, калі ўжо казаць шчыра і груба, не складала цяжкасці папрасіць яе падзяліцца з намі энергіяй, папрацаваць на чалавецтва. І не важна, што некалькі разоў перасоўвалася вось, вярчэнне не спынялася. Магчыма, тое і здарылася з-за таго, што адбылося перанасычэнне энергіі, усё можа быць.

Перад імі загарэліся блакітныя экраны манітораў. Дыктар-дыспетчар далажыў галоўнаму канструктару:

– Камандор, мы падняліся вышэй за адзнаку ў трыста метраў. Усе механізмы працуюць нармальна. Якія будуць указанні?

Юніцкі нахіліўся да мікрафона, хаця ў гэтым не было неабходнасці, прамовіў:

– Дзякую! Дзейнічайце згодна інструкцыі. Якое стапновішча на іншых станцыях?

Засвяціўся экран на другім маніторы і на ім паказаліся прадстаўнікі ўсіх адсекаў.

– Дакладвае другая станцыя – Эрыкман Маціус, – у нас усё ў штатным рэжыме.

– Трэцяя станцыя – Марыя Іенсан, – усё ў норме.

– Чацвёртая – Цу Джан Вай, – норма.

– Пятая – Орлуг Джамайннуг, – штатны рэжым.

Боб Пол глядзеў на камандора, маўчаў. Адзначыў пра сябе каторы раз, што не дарэмна выбраў для сябе тэму "Космас і Юніцкі", ён праславіць генеральнага канструктара, а кнігі – яго.

– Дзякую! Я рад за вас!

– Космас, космас... – паўшэптам і напаўголас вымавіў Анатоль Юніцкі. – І без яго нельга, і ў абдымкі з ім жыць яшчэ не навучыліся. Ён прыняў нас, дазволіў удасканальвацца ў яго межах, – дзякуй яму за гэта. Мы не чынім яму шкоды, кіруемся яго правіламі і патрабаваннямі.

– Мы будзем жыць у космасе, Анатоль?

– Не, Боб. Мы ж на зямлі нарадзіліся, мы – земляне, таму мы там толькі гасцямі будзем... Мы даручым асвойваць космас машынам, робатам з чалавечым розумам, а самі будзем кіраваць працэсам са свайго дома – біясферы планеты Зямля. Там чалавек будзе жыць, і прывыкне да гэтага, захоча там і застацца. Але медыцына будзе супраць, фізіялагічныя абставіны прымусяць чалавека вярнуцца, як блуднага сына, да сваіх бацькоў, у сваю родную хату – на Зямлю.

– А падарожнічаць?

– Будзе і гэта. Але спачатку трэба стварыць умовы, аналагічныя зямным, каб там былі дамы, а каля дамоў квітнелі сады і палеткі, цяклі рэкі і раўчукі, спявалі ў кронах дрэў птушкі, у небе плылі воблакі і ішоў дождж... Уяві сабе, дружа, пустацелы цыліндр, унутраны дыяметр якога ад пяці да дзесяці кіламетраў, і такі ж, яшчэ даўжэйшы; ён раскручваецца вакол восі да адпаведнай акружнай хуткасці. Унутры яго ўзнікае цэнтрабежная сіла, гэта накшталт гравітацыі, – напрыклад, у адну траціну ці нават палову зямной цяжкасці, каб зменшыць нагрузку на нашае з табой цела. А гэта будзе азначаць, што нам не патрэбен экашкілет, якім карысталіся касманаўты.

– Уяўляю. Хаця – слаба, – усміхнуўся Боб.

– І што ж будзе адбывацца ўнутры таго цыліндра? Дакладней,

усярэдзіне нашага жытла. Мы завозім, ужо завезлі, жывую глебу зямлі, якую загадзя нарыхтавалі. Насыпаем патрэбны слой. У некалькі метраў таўшчынёй. Гэта – экачарназём, і ён будзе больш “жывы”, чым самая лепшая глеба на зямлі. Слой – гэта і засцярога ад радыяцыі і ад метэарытаў. Каб пракарміць дзясяткі тысячаў чалавек, неабходна закласці плантацыі вінаграднікаў і садоў, сельгасугоддзяў, высадзіць лясы, пабудаваць лёгкае камфартабельнае жыллё.

Што яшчэ? І глеба, і ўся прастора заселены адмысловымі арганізмамі, глебавымі мікраарганізмамі, а іх звыш тысячы розных відаў, – без іх мы не можам, як і расліны, існаваць. Ты, Боб, ведаеш, колькі ў нашым арганізме клетак? Можа, і не ведаеш, – каля трыльёна, а мікраарганізмаў – дзесяць трыльёнаў. Большасць з іх, а гэта, у асноўным, глебавыя мікраарганізмы, жывуць у нашым кішэчніку.

За акном зноў праляцелі “талеркі”, але яны ўжо не набліжаліся да кола і вокан, адляталі адразу ж некуды ў прастору. Юніцкі абыякава зірнуў на іх, не адымаючы галавы ад спінкі сядзення, прадоўжыў:

– Яны, мікраарганізмы, кормяць і пояць нас, нават лечаць, – гэта і ёсць нашая імунная сістэма. А тут імуннай сістэмай такога касмічнага экадома, куды мы вынеслі частку зямной біясферы, і будзе экачарназём. Там, на станцыях, я думаю, ужо створаны ўласныя электрастанцыі, ад якіх запальваецца аналаг Сонца. Таму і нараджаецца мікрабіясфера. Што гэта дае? Ствараюцца азёры як з марской, так і з прэснай вадой. А ў азёрах рыба, дэльфіны, акулы і іншыя марскія жывёліны і расліны. А на ўзлеску можна будзе пачуць, як булькоча раўчук і спяваюць салаўі і авяльга. Як табе гэта, Боб? У гэта ты можаш паверыць?

Той паклаў руку на плячо Юніцкаму:

– Каб паверыць, трэба ўбачыць. Але табе я веру.

– Убачыш. У гэтым ты хутка пераканаешся. Там ужо створана камфортная тэмпература і вільготнасць паветра. Мы прабяжымся з табой па расе, без парасона басаногж пратэпаем па лужынах, як у дзяцінстве... Будуць ісці дажджы з воблакаў. І ўсё тое будзе сканцэнтравана і спланавана ў цэнтры цыліндра-горада, касмічнага мегаполіса.

Да Боба прыйшло адчуванне, што аўтар “пярсцёнка” быў не адзін раз у тым ці то ЭкаКосмаДоме, ці штучнай планеце, што ён прайшоў тую навакольную тэрыторыю ўздоўж і ўпоперак, і з заплюшчанымі вачыма можа прайсці па лесе, лугах і палетках.

– Мы можам там лётаць, бы птушкі, таму што зменшанай гравітацыі сіле мышцаў нашых рук будзе хапаць для таго, каб махаць рукамі-крыламі. І гэта найлягчэй можна будзе зрабіць там, бліжэй да цэнтра, да восі вярчэння, дзе гравітацыя ўжо можа падаць да адной сотай ад зямной. І што дзіўна і цудоўна – у такім касмічным доме можна лёгка перанесціся ў другую галактыку: на іншыя планеты – Венеру і Марс, маю любімую і загадкавую Юніту і Нібіру... Жыццё падобнае да таго жыцця, што і ў нас на зямлі.

– І колькі тут можа жыць касмічны чалавек?

– Усе мы і ўсё жывое будзе паміраць, паміраць і зноў адраджацца, развівацца і ўдасканальвацца, і не будзе ніякіх катаклізмаў і войнаў. І так – бясконца, да тае пары, пакуль будзе энергія, якая ўжо сёння чэрпаецца з Космасу. А Космас – вечны, і энергія, падораная галактыкай, – бясконцая. Які час можна заставацца ў космасе? Год-два, не больш. Але пастаянна

знаходзячыся пад назіраннем медыкаў-касмалекаў. Усё будзе залежаць ад таго, як кроў чалавека будзе рэагаваць на пражыванне сярод зорак. Галоўнае правіла – не парушыць генетыку чалавека.

*5*

Боб доўга маўчаў. “Пераварваў” пачуты трактат Юніцкага.

Маўчаў і канструктар, бачачы, што нагрузіў свайго сябра навуковымі выкладкамі. Недзе праз чвэрць гадзіны падаў голас амерыканец:

– І...?

– Пераварыў? Тады працягнем, пацярпі ўжо, сам напрасіўся. Часу ў нас трохі ёсць, паспею дасказаць. Атрыманне такой энергіі экалагічна бязбоязна, таму што на працягу мільёнаў гадоў гэтым займаўся, але без асаблівых вынікаў, і Месяц. Так, так – і Месячык. Праўда, тармажэнне Зямлі Месяцам суправаджаецца прылівамі і адлівамі, чаго не можа адбыцца ў выпадку тармажэння планеты з дапамогай ТС. Мы разам з сусветнымі вучонымі зрабілі падлікі і прыйшлі да высновы: калі адбіраць на працягу стагоддзя сярэднюю магутнасць у 100 мільярдаў кВт, то акружная хуткасць экватарыяльных кропак Зямлі зменшыцца ўсяго на... 0,3 мм/с. Праўда, тут мы сутыкоўваемся з некаторымі абмежаваннямі – законы механікі дыктуюць свае ўмовы: гэтая энергія можа быць узятая толькі пры аднабаковым грузапатоку, – то бок тады, калі паміж планетай і акаляючай прасторай будзе адбывацца аднабаковы абмен масай. Пагэтаму энергія, якую атрымлівае “кола”, будзе акумуліравана ў сваіх бясконцых стужках – лентах, альбо трэба будзе перадаваць яе адразу ж на Зямлю.

Зноў маўчанне. Юніцкі стараўся “карміць” сябра “порцыямі”, з кароткімі перапынкамі, каб яго разумовы страўнік не быў перапоўнены. Але Боб адчуваў меру, да перанагрузкі было яшчэ далёка.

– Супраць формулаў і законаў механікі не папрэш, зразумела... Але... Але, нічога не ведаючы аб будучых дасягненнях навукі і тэхнікі, тым не менш, абапіраючыся на фундаментальныя законы толькі фізікі, справядлівыя і для будучыні, можна сцвярджаць, што ўзровень эфектыўнасці твайго агульнапланетнага транспартнага сродку для другіх схемаў ці праектаў увогуле недасягальны, ён ужо не ў зоне чалавечага разумення і зямных законаў. Далей дзейнічаюць зусім іншыя законы, і людству яны непадуладны. Я правільна даводжу свае думкі, Анатоль?

– Вельмі дакладна. І я рад, што ты глыбока разумееш гэтую тэму. Твае веды на гэтую тэму здзіўляюць, нездарма ты маеш і паралельную адукацыю фізіка. Дзякуй, як кажуць, за разуменне. Я, напрыклад, усё жыццё буду ўдзячны Рудольфу Эрыху Распэ, які падараваў людству вынаходніка барона Мюнхаўзена.

– А ён тут пры чым? – здзівіўся Боб.

– О, Распэ – вялікі фізік і механік. Дзіўна гучыць? Калі барону напісаў яго маленькі сябра і паскардзіўся на тое, што трапіў у безвыходнае становішча, барон адказаў яму, што няма ў жыцці безвыходных сітуацый. Напісаў яму, як сам трапіў, калі быў у Афрыцы, у бяду. Ён паляваў на качак, а ў гэты час на яго паляваў галодны леў. З рук барона выслізнула ружжо, і ён стаў бяззбройны. Тады паратаганіст (галоўны герой) прымяняе навыкі дрэсіроўкі і амаль усыпляе ільва.

Калі сапраўдны герой рухаецца далей пераможным крокам, але, па-

слізнуўшыся на камянюцы, падае ў вадаём, то ён пачынае тануць. Але не разгубіўся. На дапамогу зноў прыходзіць кемлівасць. Ён, злаўчыўшыся, знаходзячы нябачную кропку апірышча, выцягвае самога сябе з балота, учапіўшыся ў свае ж валасы. Але на беразе зноў сустракаецца з раз'ятраным ільвом. Выратавацца ад звера можна толькі ў рэчцы. Таму ён працягвае паляваць на качак. Але з'яўляецца кракадзіл і палюе на яго. Падкраўшыся да адной качкі, ён хапаецца за яе лапы. Яна выцягвае яго з вады. Выратаваўся ад кракадзіла, ледзьве не трапляе ў пашчу ільву. Тады ён мацней шморгнуў за лапы качку, і яна адрываецца ад вады, узмывае ўверх. Леў скочыў, каб злавіць качку і барона, а аказваецца ў раскрытай пашчы кракадзіла. Як табе гісторыя?

– Гісторыя цікавая, але чаму Распэ прыйшоўся табе па душы? – пацікавіўся ў яго Боб Пол. – І я люблю з дзяцінства барона, але нічога карыснага з тых прыгодаў барона я не ўзяў, а ты...

Юніцкі засмяяўся, прымружыў вочы. Не адразу адказаў.

– А для мяне барон аказаўся не казачны, а рэальны. Выцягнуць сябе з балота... Гэта ж цэлая механіка, гэта ж формулы і разлікі. На кожнай старонцы прыгодаў раскіданы залацінкі тайнаў, загадак і рэбусаў, але яны ўсе паддаюцца рашэнню. Гэта пачатковая і вышэйшая фізіка і матэматыка. Пагэтаму аўтар кнігі падказвае нам: "Няма безвыходных сітуацый, з любога тупіка абавязкова ёсць выхад". І я прыслухаўся да яго, выкарыстаў для сябе яго парады. Па-першае, ТС з яго разагнанай стужкай і ёсць адзіна магчымы транспартны сродак, які, як барон Мюнхаўзен, які выцягваў сябе з балота, здольны вывесці сам сябе ў космас. Так што побач з намі знаходзіцца і Распэ, і яго герой-пратаганіст барон Мюнхаўзен.

Пагэтаму нейкі іншы транспарт, няхай то аўто, самалёт, ракета ці нават антыгравітацыйны карабель, ператвараецца ў транспарт толькі ў выніку ўзаемадзеяння з акаляючай прасторай: паверхняй планеты, паветраным шляхам выкіду прадуктаў гарэння ці ўзаемадзеяння з гравітацыйным полем.

Для ТС гэтага нічога не патрабуецца, таму што ў працэсе працы становішча яго цэнтра масы ў прасторы, якія супадалі з цэнтрам масы Зямлі, не змяняецца. Таму транспартны сродак з'яўляецца самым чыстым і экалагічным з усіх магчымых транспартных сродкаў. Выснова – у кожнай казцы ёсць намёк, добрым хлопчыкам урок. Вось мы і вылучаем урокі з тых намёкаў вялікіх мысляроў і творцаў, якія гучаць у казках ды міфах. Невычэрпная крыніца мудрасці і адкрыццяў.

– Дык, выходзіць, што і казкі не казкі, а сур'ёзныя падказкі і намёкі?

– Так, ты правільна кажаш. У нас яшчэ ёсць трошачкі часу да прыбыцця на арбіту, пагэтаму пастараюся коратка даказаць сваю думку. Усталюецца грузапаток, ён ужо ўсталяваўся, але, калі мы пачнем эксплуатаваць недры Месяца і астэроідаў, – аб'ёмы перавозак у накірунках "Космас – Зямля" і назад, – зраўняюцца. З тымі, хто жыве на Месяцы, мы дамовімся аб супрацоўніцтве і абмене карыснымі выкапнямі, бо мы будзем узбагачаць адзін аднаго. Паколькі электрамагнітны рухавік "Кола" тэарэтычна можа мець ККД (каэфіцыент карыснага дзеяння), што роўны 100%, то аднойчы разагнаны ТС зможа "вечна" – вечна! – функцыянаваць і не затрачваць для гэтага энергію. Адзінае, што патрабуецца, гэта нязначны падвод энергіі, неабходнай толькі для таго, каб кампенсаваць страты ў рухавіку.

І, дзякуючы таму, што кожны пагонны метр "Кола" ("Пярсцёнка") саманясучы, яго канструкцыя адчувае зусім нязначныя мясцовыя на-

грузкі. А яны абумоўлены толькі намаганнямі падвескі корпуса. А калі сустрэнуцца больш ці менш значныя намаганні, то яны з'явяцца пры няштатных рэжымах працы ТС – пры зрушэнні кола адносна Зямлі, то бок пры несупадзенні цэнтра кола з цэнтрам масаў планеты ў плоскасці гэтага кола, – пры нераўнамернай яго загрузцы ці нераўнамернай працы прываду бесконцых стужак. Але прадугледжана і гэта – у такіх выпадках напружанасці ў канструкцыі будуць нязначнымі, на ўзроўні той загружанасці-напружанасці, якая адпавядае самалётным канструкцыям. А сістэма кіравання ТС будзе рэагаваць на гэта, парыраваць і адхіляць, нават і аднаўляць штатны рэжым. Так што ўся канструкцыя кола пабудавана з радавых матэрыялаў, – а гэта і з'яўляецца яго перавагай і таннасцю.

– А бясконцыя стужкі? Якая іх роля?

– Роля? Яны набраныя па даўжыні з металічных палімерных пласцінаў, якія змяняюцца. Для гэтай мэты цудоўна падышлі медныя і поліурэтанавыя. Гэта і зябяспечыла патрэбную прадольную дэфарматыўнасць і папярэчную электраправоднасць. А магнітная падвеска забяспечана як пастаяннымі магнітамі, – адзін кілаграм можа ўтрымаць груз пяць тонаў, – гэтак і электрамагнітамі. Атрыманы звышдакладныя разлікі руху стужак пры дапамозе рашэнняў, якія вядомы сёння і не з'яўляюцца сакрэтамі.

Я давяраю прагнозам нацыянальнай камісіі ЗША па пытаннях палітыкі ў вобласці матэрыялаў. Сусветная вытворчасць сталі, напрыклад, у сярэдзіне гэтага стагоддзя дасягне недзе каля 3,5 млрд тон у год. Пагэтаму палова канструктыўных элементаў ТС можа быць выраблена са сталі – 800 млн тон. Пагэтаму, трацячы на выраб "пярсцёнка планеты" усяго толькі 5 – 5%! – сталі, якую выплаўляем, мы і пабудавалі яго за пяць гадоў. І выдаткавалі на гэта 10 трыльёнаў даляраў. Так што сёння, калі мы падняліся з табой у космас, неабходнасць чалавецтва ў касмічным транспарце супадае з яго матэрыяльнымі і эканамічнымі магчымасцямі. Эканоміка ад гэтага не ўпала, нават наадварот, умацавала свае пазіцыі.

***6***

Пасля кароткага маўчання Боб Пол пацікавіўся:

– Гэта сёння зразумела чалавецтва, а тады, калі ты ілбом прабіваў глухую сценку і цябе не чулі? Не адзін гузак набіў.

– Так, Боб, было такое. Чалавецтва напачатку аказвала вялікі супраціў, не мела ніякага жадання будаваць "заручальны пярсцёнак" вакол планеты, абвяргала праект. Скептыкі і нядобразычліўцы ў адзін голас сцвярджалі: "Дорага! Не можам мы столькі затрачваць сродкаў!" Мы ж казалі, што выдаткі не толькі акупяцца, а будуць вернутыя з коптурам, з тысячнымі і мільённымі працэнтамі вяртання. Слава Богу, згадзіліся сусветныя лідэры і алігархі, уключыліся ў будаўніцтва. І яны сёння ведаюць, што сабекошт касмічных перавозак будзе на ўзроўні зямных: 1-10 капеяк за кілаграм груза. І гэты нізкі сабекошт перавозак дазволіць – урэшце! – вывезці з Зямлі ўсё смецце, якое накапілася, па меншай меры тое, што ўяўляе найбольшую небяспеку для жыцця. Частка – радыеактыўныя адходы атамных і іншых станцый.

Сёння ўжо ні ў кога не ўзнікае сумненняў у эканамічным выбуху і ў тым, што ТС выкарыстоўваецца ў агульнапланетнай энергасістэме ў якасці акумулюючай электрастанцыі з пікавай магутнасцю 1013 кВт. А раней

існавалі вялікія сумневы, і ўсе пра тое ведаюць. І ТС дае аддачу – сілкуе энергіяй увесь свет, усю планету.

Што ўяўляе сёння корпус АТС? Гэта гатовы радыётэлескоп з высокай здольнасцю ўбачыць далёкія галактыкі, а ён так неабходны не толькі для расшырэння нашых ведаў пра Сусвет, але і для пошуку касмічных братоў па розуму. А вакумаваныя кожухі бясконцых стужак з іх магнітнай падвескай і лінейнымі электрарухавікамі – гэта ж гатовыя паскаральнікі зараджаных часціцаў максімальна магчымых ва ўмовах Зямлі памераў.

– АТС – гэта яшчэ і механізм, які мае шмат функцый?

– Функцый мноства, гэта так. І ўсе іх пералічыць немагчыма, іх тысячы і мільёны, пра многія дадатныя якасці мы яшчэ і самі не падазраем, але цвёрда ўпэўнены, што гэта будуць новыя грандыёзныя адкрыцці. Заканчваючы, Боб, апавядаць пра мае праекты, скажу так: гэтае бязважкае касмічнае кола ў адзіным экзэмпляры пачало надзейна служыць людзям з такой жа вялікай карысцю, як служылі яму да гэтага мільёны яго папярэднікаў. Яны сёння з'ядналіся і зліліся ў адно цэлае і аформіліся ў вобразе "Залатога шлюбнага пярсцёнка". Космас – жаніх, а Зямля – нявеста, і сёння, і сёння яны пабраліся, каб служыць чалавецтву сваёй дабрынёй і любоўю, новымі тэхналогіямі і духоўнасцю, верай у Вышняга, таму што ўсё стварыў Бог.

Боб паклаў сваю руку на Анатолеву, сціснуў яе:

– Я гатовы стаць перад табой на калені, дарагі мой сябра! Ты – геній!

За вокнамі спакойная чорная сінь і бясконцая галактыка. За вокнамі бяздонне, няма за што зачапіцца воку. Нават з цяжкасцю верыцца ў тое, што калі б прыйшлося адправіцца ў падарожжа ў тую бясконцасць, то ніхто і ніколі не даляцеў бы да якой-небудзь кропкі, хоць ляці мільёны і мільярды светлавых гадоў... Так сцвярджаюць астраномы і навука, але гэта толькі тэарэтычна, а як тое насамрэч – ніхто не ведае.

Зноў на экране дісплея ўзнік відарыс вялізнага бліскучага круга. Зірнуўшы ў акно, галоўны канструктар ўбачыў той круг ці кола, насамрэч – гэта і была вялізная касмічная станцыя "Мір", што на ангельскай мове гучыць як «PEACE».

Станцыю ўбачыў і Боб Пол, неадрыўна сачыў за ёю. Яна набліжалася пакрысе, ці то АТС набліжаўся да яе, зразумець немагчыма. У Боба не хапала слоў, каб выказаць сваё здзіўленне і радасць.

– Прыбылі, – спакойна прамовіў стваральнік ТС, – мы сцішваем ход. Ротары рэгулююць хуткасць нашага падняцця, уключыліся тармазы, каб станцыя не адплыла ад нас, каб мы дакладна прылучыліся да ўваходнага бункера, і абняліся з ёю ў неразрыўным счэпе...

Амаль незаўважна падчас стыкоўкі ўздрыгнуў "пярсцёнак" і замёр у нерухомасці. На нейкі час усталявался цішыня, а потым наперадзе, за перагародкай, расчыніліся бязгучна дзверы, і нехта ступіў на пляцоўку.

– Юніцкі, на выхад! – прагучэў голас невядомага чалавека.

Генеральны канструктар злёгку ўздрыгнуў, на момант падалося, што ён знаходзіцца на Лубянцы разам з Каралёвым і Тэсла, але ўзяў сябе ў рукі. Боб паглядзеў на Анатоля.

– Я яшчэ раз загадваю, Анатоль Юніцкі, мой любімы вучань па фізіцы, у школе вёскі Крукі, чаму вы марудзіце з выхадам?

Голас строгі і адначасова жартоўны, да болю знаёмы, той голас застаўся ў памяці на ўсё жыццё, і той голас не зблытаеш з ніякім іншым. Але такога

не магло быць – дзяцінства засталося далёка-далёка ззаду, як і школа, як і яго любімы настаўнік фізікі Мацвей Сяргеевіч. Голас быў і жартоўны, і бадзёры, і малады.

Ён падняўся з крэсла. Абышоў перагародку, трымаючыся адной рукой за металічную стойку-трубу, стаў насупраць прадстаўніка са станцыі. Не мог паверыць у тое, што ўбачыў, бо такога не магло быць. Бо столькі ж год мінула... Юніцкі пазнаваў і не пазнаваў свайго настаўніка, і ад гэтай нявызначанасці грамчэй і хутчэй запрацавала сэрца ў грудзях, нават чуліся тыя ўдары, і нешта перахапіла дыханне.

– Вы? – прашаптаў з цяжкасцю вучань 6-га класа Крукоўскай школы. – Не можа такога быць, Мацвей Сяргеевіч!

– Можа быць, Толік, як бачыш, можа быць.

Нейкі час марудзілі, прыглядаліся адзін да аднаго, а потым кінуліся ў абдымкі. Доўга не разнімалі рукі, прыцiснуўшыся грудзямі. Боб глядзеў на гэтую дзіўную і нечаканую сустрэчу, радаваўся, што праз такі доўгі час яны сустрэліся.

Потым, паклаўшы рукі на плечы, глядзелі ўжо вочы ў вочы, – пазнавалі і не пазнавалі свае мінулыя жыцці, верылі і не верылі, што такое можа адбыцца з імі.

– Цябе не пазнаць, хлопча, – прызнаўся настаўнік, не хаваючы сваёй радасці ад сустрэчы, – з Толіка ты ператварыўся ў Анатоля Эдуардавіча, ды яшчэ доктара навук, геніяльнага вынаходніка, вядомага на ўвесь свет і космас.

– Затое вы, Мацвей Сяргеевіч, не змяніліся. Цуд ды і толькі!

– Цуд? Ды не. Усё ў руках Гасподніх. Мы з табой і на зямлі, і ў космасе. Бо і ў Святым Пісанні ад Мацея (18:18) сказана: “Праўду кажу вам: што вы звяжаце на зямлі, тое будзе звязана і на небе: і што выканаеце на зямлі, тое будзе зроблена і на небе”. Ты звязаў на зямлі нябесныя струны, а тут звязаў у небе цэлую планету... І нават час звязаў – той, наш, і сённяшні. Аб’яднаў. Ты яшчэ і аб’яднальнік.

Разнялі рукі, яшчэ раз прыгледзеліся пільна адзін да аднаго.

– Мацвей Сяргеевіч, а гэта мой сябра – з Амерыкі. Боб Пол. Цікавіцца маімі “струнамі”, і захацеў са мной на экскурсію ў АТС.

– Ну і цудоўна, – падаў руку настаўнік, – будзе цікава. Запрашаю цябе, Толя, у тваю краіну, якую ты стварыў. І – на Юніту, якая знаходзіцца непадалёк ад нас.

Юніцкі паглядзеў на настаўніка: “Ён, значыць, пра ўсё ведае? І стаў маім праважатым?”

Утрох пераступілі парог “пярсцёнка”. За імі зачыніліся дзверы, а наперадзе расчыніліся другія, – і яны ўвайшлі ў светлы прадаўгаваты калідор. Зноў зачынілся дзверы, і яны некалькі хвілінаў стаялі ў ізаляваным памяшканні, чакаючы, калі яно запоўніцца паветрам, неабходным для дыхання. Злёгку закружылася галава, кальнула ў скроні. Анатоль зразумеў, што лёгкія прынялі тое паветра, узбагачанае кіслародам, кроў прыняла яго і адправіла як у скроні, так і па ўсіх сасудах. Адбывалася адаптацыя, агойтванне ў новым асяроддзі.

– Як адчуваеш сябе, Боб?

– Цудоўна! – усміхнуўся сябра. – Адчуванне, што прымаю кіслародную ванну. У такой атмасферы, думаю, чалавек можа жыць некалькі стагоддзяў без хваробаў і нядужасці.

– Праўду кажаш, дружа, – пацвердзіў Мацвей Сяргеевіч, – пагэтаму першыя людзі жылі на зямлі да сямісот гадоў, а то і больш...

Зноўку расчыніліся дзверы, правільней, зніклі, растварыліся ў прасторы. Яны апынуліся недзе ў другім асяроддзі. Іх вачам адкрыўся цудоўны пейзаж. Каля возера раслі дрэвы, косы вербаў дакраналіся да вады, справа ад іх – плантацыя вінаграднікаў, цвіла ў полі грэчка, і ў ёй, збіраючы нектар, зумкалі пчолы. Недзе спрабавалі свае галасы птушкі, чуўся ці то пошчак салаўёў, ці авяльга напамінала пра сябе.

Усё тое было ў думках і марах Юніцкага, пераплаўленае ў чарцяжы і накіды, – а тут усё тое ператварылася ў рэальнасць. Хацелася ўсклікнуць, што гэта фантастыка, ды тут жа і абсек сябе – якая фантастыка, гэта ж ты сам усё і прыдумаў!

Усё было натуральным. Зямля – натуральная, з пладародным гумусам, вада натуральная, без хімікатаў і атрутных адыходаў цяжкай індустрыі, што існавалі на зямлі.

– А прадпрыемствы, Мацвей, дзе? Там, дзе і вызначана ім месца?

– Так, яны працуюць за тэрыторыяй станцыі, у глыбокім вакууме, – пацвердзіў былы настаўнік, – усё так, як і ў праекце генеральнага канструктара. У гэтым ты і сам маеш магчымасць пераканацца.

– Зразумеў, дзякую.

– І колькі такіх станцый па ўсёй арбіце? – пацікавіўся ўжо Юніцкі.

### *7*

– Колькі ўсіх станцый? – перапытаў Мацвей. – Трохі не супадае з тваімі разлікамі, якія ты некалі рабіў. Іх стала болей – дзясяткі станцый. Адна для Злучаных Штатаў Амерыкі, другая – для Кітая, трэцяя – для Расіі. А астатнія – для Еўропы, Эміратаў і Афрыкі.

– І да ўсіх станцый адначасова падладкоўваецца АТС?

– Так, Анатоль, так. Ты ўсё разлічыў правільна і дакладна.

– Мацвей Сяргеевіч, а што з нашай краінай, якая завецца Беларусь? Яе не праглынуў які-небудзь сусед, прыкінуўшся старэйшым братам, маючы агрэсіўныя намеры?

– Дзякаваць Богу, не здарылася гэтага. А мы на роўных уліліся ў Еўрапейскі кангламерат, з Расіяй нашыя шляхі разышліся, і мову вярнулі, і рэлігію – молімся свайму Богу, уніяцкаму. Вырваліся з абдымкаў. Для нас выдзелена ў еўрапейскай садружнасці свая тэрыторыя, нашы лепшыя розумы і спецыялісты нароўні з усімі робяць тую прадукцыю, якая для нас больш неабходная. Хаця дакладнага раздзялення і не існуе, прадстаўнікі розных краінаў абагачаюць сваім творчым патэнцыялам і вопытам агульную эканоміку. Мы пазбавіліся ад хімзаводаў і акумулятарных прадпрыемстваў, звязаных з салянай кіслатой і іншымі атрутнымі рэчывамі, ад кабельнай прадукцыі, ад сталеліцейнага кірунку, – усяго не пералічыць. І на поўныя грудзі ўздыхнула зямля, у азёрах і рэках ачысцілася вада, і мы дыхаем свежым паветрам...

– Я рад, што ў свеце няма ніякіх рознагалоссяў і спрэчак, войнаў і прэтэнзій на нейкія свае тэрыторыі. У нас адзіная зямля і адзіны космас, слава Богу!

– Госпаду слава!

Ён пераходзіў да перамычак, дакранаўся да канструкцый, шукаў сляды зваркі і не знаходзіў іх. Падумаў: “Зварвалі ў космасе, вельмі вялікае адрозненне ад зямной...” Пагладзіў паверхню, быццам жывую істоту, – далонь ні за што не зачапілася, быццам сценка была створана са шкла.

...Зварка ў космасе – гэта цуд! Зварка на зямлі – здзек з металу і выдаткі вялізнай колькасці энергіі. У космасе на гэта затрачваецца энергіі ў пяць разоў меней.

Такі працэс вытворчасці ў касмічнай прасторы ва ўмовах глыбокага вакуума, ды яшчэ ў бязважкасці – казка! Песня! Ні табе іскрыстых пырскаў у працэсе работы, ні няроўнасцяў пасля зваркі. А тут усё гладка, і зачышчаць ці шліфаваць не трэба, атрымліваецца шкляная паверхня.

Генеральны канструктар ведае, што ўпершыню зварка праводзілася на савецкім касмічным апараце. Яшчэ ў пачатку шасцідзясятых па ініцыятыве Сяргея Каралёва пачалі праводзіць даследванні па выкананні зваркі ў космасе. Яму потым паведамілі, што ў бязважкасці паводзіны вадкасцяў вызначаюцца ў асноўным сіламі паверхнаснага нацяжэння.

Адпрацоўка працэсу зваркі ў космасе неабходна для правядзення рамонтных дзеянняў касмічных апаратаў, якія знаходзяцца на арбіце Зямлі ці на Месяцы. Але перад гэтым вучыліся рабіць гэтыя аперацыі на зямлі. Імітавалі касмічную прастору, стваралі на некалькі секунд бязважкасць – і паспявалі зрабіць некалькі дотыкаў электродам да метала. Гэта адбывалася ў Цэнтральным навукова-наследчым МашЦэнтры ў горадзе Каралёве.

А ў 1965 годзе даследванні праходзілі ўжо на лятаючай лабараторыі Т-104. Цэлыя паўхвіліны можна было ствараць стан бязважкасці. Гэта дасягалася шляхам свабоднага падзення самалёта.

– Вынікі радуюць, – дакладвалі спецыялісты Каралёву, – яны пацвердзілі магчымасць весці зварку ва ўмовах дынамічнай бязважкасці. Падчас даследванняў былі атрыманы стыковыя, атбартованыя і нахлёстачныя зварныя злучэнні высокай якасці.

І тое радавала Каралёва, ён ужо ў думках бачыў, як павінны будавацца велізарныя касмічна-арбітальныя станцыі на арбіце. Яго мара пачала здзяйсняцца тады, калі 16 кастрычніка 1969 года касмічны карабель “Саюз-6” з касманаўтамі Г. Шоніным і В. Кубасавым выйшаў у космас.

Зварку праводзілі на апараце “Вулкан” электронным промнем са сціснутай дугой нізкага ціску і электродам, які можна накіроўваць у патрэбным напрамку. Эксперыменты пацвердзілі магчымасць зваркі ў бязважкасці – працэсы зваркі і рэзкі электронным промнем на арбіце праходзілі стабільна, аднак не абышлося і без “мінусаў” – зварка сціснутай дугой нізкага ціску не атрымлівалася. Прычыну няўдачы не ведалі.

Потым касманаўты В. Джанібекаў і С. Савіцкая ў 1984 годзе праводзілі ў адкрытым космасе зварку ва ўмовах глыбокага вакуума. Для зваркі выкарыстоўваўся зварачны апарат з аўтаномнай крыніцай сілкавання “УРІ”. Такі цуд-апарат быў выраблены ў Кіеве ў Інстытуце электразваркі імя Е. Патона. Першая зварка была электронна-прамянёвай. Ва ўмовах вакуума існавала чысціня працэсу, без наяўнасці ў шове растваральных газаў.

Пацвярджалася тэорыя Анатоля Юніцкага ў тым, што ўсю вытворчасць цяжкай індустрыі неабходна вынесці ў космас. І не ракетамі закідваць туды заводы і фабрыкі, а толькі пры дапамозе АТС – на “пярсцёнку планеты”.

А з цягам часу чалавецтва, усвядоміўшы згубнасць “касмічнага воза”,

– так ён называў атрутныя і бездапаможныя ракеты, а адзіна бясшкоднымі, эканамічнымі, за месяц да сотні разоў летучы ў космас і сядаючы на родную планету, – гэта і ёсць Агульнапланетны Транспартны сродак!

І гэта здзейснілася!

*8*

Да іх далучылася група з пяці чалавек. Дакладней, падляцелі. Яны знаходзіліся ў празрыстым кубе, і кожнага добра было бачна. Яны стаялі, трымаючыся за парэнчы. Куб нячутна сеў на паверхню касмічнага пляца; рассунуліся дзверы, і з яго выйшлі людзі ў розным адзенні. Нехта быў у блакітным плашчы да ног, іншыя ў цэлафанавых накідках. Ва ўсіх замацаваныя за спіной сплюснутыя шлемы, якія ў любы момант можна было надзець на галаву.

Падышлі да Боба Пола і Юніцкага, паціскалі рукі, называючы сябе. А потым далучыліся да ўсіх і тыя, з якімі пазнаёміліся яшчэ на Зямлі перад узлётам. І яны былі амаль у такім жа адзенні.

Суправаджалі гасцей не толькі Мацвей Дашкевіч. Цэлая світа знаёміла генеральнага канструктара з яго тварэннем. Гаварылі не наперабой, а саступалі адзін аднаму ў размове. Па чарзе расказвалі гасцям касмічнай Планеты пра тое, што зроблена і пабудавана, што на чарзе, што трэба яшчэ зрабіць.

Каб дапнуць да нейкага месца, усе станавіліся на прамавугольную платформу, а маглі і сесці ў крэслы, і прыстасаванне, быццам кілім-лятак, рухалася да прызначанага месца. Ніхто не адчуваў руху, не хісталіся, як на зямлі, падпарадкоўваючыся інерцыі. Тут нейкім чынам гравітацыя і левітацыя зраўняліся, як і зраўняліся ўсе касмічныя ўзроўні і значэнні. “Кілім” быў бязважкі і падпарадкоўваўся законам космасу.

Без алюмініевых сплаваў у будаўніцтве касмічных станцый не абысціся. Гэта элемент трынаццатай групы перыядычнай табліцы хімічных элементаў, а калі прымяняць састарэлую класіфікацыю, то гэта элемент галоўнай падгрупы трэцяй групы, трэцяга перыяду, з атамным нумарам 13. А нехта ж адносіць яго да нешчаслівага ліку.

Але нам усім вядома, што гэта найбольш распаўсюджаны метал і трэці па распаўсюджванні хімічны элемент у зямной кары – пасля кіслароду і крэмнія.

“Так, гэта простае рэчыва, – адзначаў Анатоль Юніцкі ў сваёй манаграфіі, калі прапаноўваў будаваць арбітальныя станцыі, – але гэта лёгкі маламагнітны метал срэбна-белага колеру, які лёгка паддаецца фармоўцы, ліццю, механічнай апрацоўцы. Ён пры гэтым валодае высокай цепла- і электраправоднасцю, стойкасцю да карозіі за кошт хуткага ўтварэння моцных аксідных плёнак, якія засцерагаюць паверхню ад далейшага ўзаемадзеяння”.

“Але то на зямлі, – адказвалі яму апаненты, згаджаючыся з ім, – а як усё будзе выглядаць у космасе?”

Дацкі фізік у 1825 годзе ўпершыню атрымаў алюміній пры дапамозе ўздзеяння амальгамы калія на хларыд алюмінія з наступнай адгонкай ртуці. І назва гэтага элемента ўтворана ад лацінскага alumen, што азначае – квасцы. Дзіўна, але да таго, як быў наладжаны прамысловы спосаб

атрымання алюмінію, ён, гэты метал, быў даражэй за золата. Так, такое было, і тое трэба прызнаць. Таму няма ніякага дзіва, што брытанцы, жадаючы ўшанаваць вялікага расейскага хіміка Дзмітрыя Мендзелеева, у 1889 годзе падаравалі яму вагі з золата і алюмінію.

Галоўная асаблівасць алюмінію ў тым, што ён утварае моцную хімічную сувязь з высокай рэакцыйнай здольнасцю і з высокай тэмпературай плаўлення большасці яго руд, – такіх, як баксіты.

Яго вынаходніцтва – метад надзімання паветрам “мыльнага пухіра”.

– Вярнуўся ў дзяцінства? – дапытваецца Боб, не перастаючы задаваць пытанні, каб як мага больш слоў пачуць ад яго, каб потым з яго тлумачэнняў і адказаў скламіся лагічныя сказы, якія, натуральна, і створаць асноўную вагу ў напісанні кнігі. – То ў цябе надзіманая камера ад кола машыны, а тут зноў – мыльныя пухіры. Ты ўсе ідэі чэрпаеш з дзяцінства?

Не гледзячы на сябра, адказвае з уздыхам:

– Адтуль. Таму што толькі там непасрэднасць, там няма аналітыкі і сумненняў, там усё чыста, як дзіцячая слёзка. Чаму шарыкі ці шары? Яны падказалі мне, як будаваць кватэры і дамы ў космасе.

– Кватэры і дамы?

– Ага, накшталт гэтага. Уяві сабе такое. Існуе нейкая патрэбная форма вызначаных памераў – шырыня, вышыня і даўжыня. Мы робім вадкую алюмініевую масу, ведаючы загадзя, колькі яе трэба. Гэта напамінае, як у дзяцінстве мы рабілі мыльную пену з простага гаспадарчага мыла.

– Уявіў, – усміхаецца Боб, – і мы так рабілі, абмаквалі трубачку ў пену і потым выдзімалі бліскучыя на сонцы шары і пускалі ў паветра. І што?

– Правільна, сэр Боб. Толькі мы ў дадзеным выпадку пускаем не мыльную, а алюміневую пену. Мы запускаем у гэтую масу паветра. Маса разрастаецца, павялічваецца ў аб'ёме, пачынае набываць форму прамавугольніка, куба, паралелепіпеда, зліваецца са сценкамі памяшкання. І тады мы змяншаем падачу паветра, паступова змяншаем напор, і тады, праз дваццаць хвілінаў, маса, якая прыняла форму патрэбнага нам памяшкання, робіцца цвёрдай і моцнай. Атрымліваецца так: усярэдзіне алюмініевай масы робіцца цвёрдай і тонкая звышмоцная сталь таўшчынёй некалькі міліметраў. А праз гадзіну атрымліваем поўнасцю гатовае памяшканне. Застаецца толькі зрабіць “рамонт”, як гэта робяць у офісах, калі здаюць памяшканне ў арэнду ці купляюць яго. Трэба толькі паставіць мэблю, ложкі, сталы для працы.

– А як выняць гэтае памяшканне з агульнага цыкла?

Канструктар засмяяўся, адпіў з кубка гарбаты:

– А яе і не трэба вымаць з агульнага комплексу. Кватэры злучаны ў адно, яны наглуха прымацоўваюцца да сценак суседняга памяшкання. Я ж казаў – яна ўлазіць у форму. А форма можа потым раскрывацца і вымацца, і ёю можна карыстацца зноў, папярэдне склаўшы і ўмацаваўшы яе на новым месцы агульнага комплексу. Разнастайных памяшканняў па плошчы і канфігурацыі тысячы, – выбірай ці заказвай сабе тое, што патрэбна. І так можна капіяваць сотні і мільёны разоў. І памеры ствараць розныя. Як футбольныя арэны, як цэхі і актавыя залы...

Боб маўчаў. Ківаў задумліва галавой. А праз хвіліну прамовіў:

– Як добра знаходзіцца і жыць у дзяцінстве! Зайздрошчу табе, Анатоль.

*9*

Усё здзіўляла і адначасова радавала Анатоля Юніцкага. Дзіцячыя сны і юначыя летуценні сталі рэальнасцю, ператварыліся ў жыццё. Тут, на яго вачах, здзяйсняўся цуд, пра які на зямлі ніхто нават і не марыў. Толькі аднаму чалавеку было прадстаўлена права і ўменне зазірнуць за покрыва будучыні, адкрыць там казачныя і незлічоныя багацці і магчымасці, што нельга ўзважыць ні на якіх вагах. Чалавецтва патанула ў палоне свайго асабістага ўяўлення пра будучае шчасце. Ніхто нават і ўявіць не мог, што гэта нават не ўтопія, а звычайная смерць, адыход у небыццё...

Пятля ці ўдаўка прагрэсу (быццам бы прагрэсу) усё мацней і мацней зашморгвалася на шыі кожнага зямляніна. Як і на самой планеце Зямля. Удаўка нябачная, але яна не дазваляла ўдыхнуць на поўныя грудзі, ад гэтага балелі лёгкія, таму што чалавека падсцерагала і другая бяда – хімічная атака на арганізм звонку. Чалавек, здавалася б, еў самае смачнае і каларыйнае, прымаў самыя эфектыўныя ў свеце лекі, радаваўся жыццю, а тут... Зноў і зноў атрутным гадзючыным джалам упівалася ў яго новая бяда – хімічныя і розныя іншыя атрутныя рэчывы, якія адрыгвалі фабрыкі і заводы ў паветра, атрутныя бацылы пранікалі ў арганізм алігарха і бедняка, вучонага і невуча, мастака і доктара, настаўніка і земляробца...

Чалавецтва даходзіла да апошняй рысы, да апошняга Рубікона, калі нечакана хтосьці з зямлянаў, задыхаючыся без паветра, зразумеў жах такога жыцця і ўскрыкнуў: “Нас чакае скананне! Спыніся, чалавек, выратуй сябе сам!.. Таму што кіслародны балон чалавецтва амаль увесь спустошыўся, азон знікае, каб не быць праглынутым атрутнымі туманамі, ад чаго нараджаліся “азонавыя дзіркі”! Адумайся, чалавек, калі ты чалавек, а не істота без душы і сэрца!”

А ён, канструктар і вынаходнік новага руху на зямлі і ў космасе, папярэджваў, заклікаў, біў ва ўсе званы, прасіў Госпада даць розум людству, таму што Яго стварэнню – чалавеку – пагражае нябесная кара – смерць. А ён, Гасподзь, не смерці Валадар, а Жыцця.

І – здзейснілася. І ачомаліся людзі, і адумаліся, прачнуліся і жахнуліся, адчуўшы подых скanання свайго, – папрасілі ў Вышняга даравання і пакаяліся, звярнуліся да Космаса, каб дапамог. Космас пачуў іх енк, пачуў і адказаў згодай...

Калі ўсе пераступілі парог адсекаў прадпрыемстваў, на іх галовы нябачная рука накінула нябачныя капюшоны. Не скафандры ці шлемы, у якія апраналіся першыя касманаўты, а ў якуюсьці празрыстую цэлафанавую плёнку, якая злівалася з целам і прымала індывідуальную форму твару і ўсяго цела. І пра гэта паклапаціўся стваральнік касмічнага кола.

Чалавецтва ўжо жыло ў новым вымярэнні, у новай эпосе, прайшоўшы праз летаргічны сон і няведанне ўласнага прадвызначэння на зямлі і ў космасе.

Да Юніцкага падышоў нямецкі касмічны інжынер Гюнтэр Клаўс, стаў побач. Позіркам спытаў у канструктара аб яго ўражаннях.

– Я такім і ўяўляў гэты свет, – прамовіў Юніцкі, – і гэта ўжо вяртанне да мінулага. Да таго чыстага мінулага, дзе і нарадзіўся першы чалавек, які

жыў па пяцьсот-дзевяцьсот гадоў. Мы павінны чалавецтву вярнуць яго мінулае, вярнуць у чыстую калыску, у той час, калі яшчэ не ўгрызаўся ў цнатлівую глебу першы плуг.

Стаяў побач і інжынер-канструктар Марэк Юніцкі. За ім – Уга Поттэц. Сюзана Грэй, інжынер сталеплавільнай вытворчасці, узяла Анатоля пад руку. Косы рассыпаліся па плячах, быццам хвалі мора, асветленыя промнямі позняга сонца, закалыхаліся і сціхлі.

– Дарагі наш вынаходнік, – паглядзела радасна яму ў вочы. – Экскурсію хачу правесці для вас. Паказаць, як наладжана вытворчасць сталі і іншага металу, так неабходнага там, на зямлі. Але перад гэтым мы правядзем пераклічку ўсіх арбітальных станцый. Такая пераклічка праводзіцца рэгулярна – праз кожныя шэсць гадзінаў.

Сюзана павяла ўсю групу да высокіх дзвярэй. Яны расчыніліся і прапусцілі ўсіх у памяшканне. Яно вялізнае, з высокай столлю. Экраны маніtoраў усіх станцый сканцэнтраваны на высокай сцяне. Меншыя памерам знаходзіліся злева і справа. Па іх можна сачыць, як працуюць прадпрыемствы на ўсіх станцыях.

– Усе на месцы? – спытала Сюзана, гледзячы на экран.

– Так, нашая каралева Сюзана, – першым адгукнуўся прадстаўнік амерыканскай станцыі, – усе каля маніtoраў.

– Прашу, панове, далажыць абстаноўку. З вас і пачынаем.

– Змен няма, нештатных сітуацый не здаралася, праца ідзе ў зададзеным рэжыме.

Потым прагучала паведамленне ад Індыі, потым – ад Нямеччыны і Кітая, Арабскіх Эміратаў і Расіі, Афрыканскіх краінаў і Вялікай Брытаніі...

Юніцкі паглядзеў на свайго сябра. Той адказаў яму адабральным кіўком галавы. Пераклічка доўжылася каля пяці хвілінаў. Сюзана ўдакладніла яшчэ некалькі пытанняў і звярнулася да ўсіх:

– Дзякую за дакладную працу! Да сувязі!

Усе прадстаўнікі сваіх краінаў адказалі:

– Да сувязі, паважаная Сюзана!

Выйшлі з камутатарнай, за імі зноў зачыніліся дзверы.

Накіраваліся да наступных дзвярэй, больш шырокіх. Гэтак жа самі рассунуліся ўбакі, калі зайшлі людзі, бязгучна злучыліся. Ужо новыя касцюмы абгарнулі іх. І ніхто таго не адчуў, як і першы раз.

Доменныя печы знаходзіліся на аднолькавай адлегласці адна ад адной, каля кожнай быў адзін рабочы, касмічны сталявар. Печ з тры чалавечыя росты, камп'ютар сачыў за тэмпературай і выплаўкай сталі. Не чуваць прывычнага, як на зямлі, гулу, не пырскаюць пад ногі і ў паветра іскры ад чарпакоў. Тут пералівалі светла-жоўтую расплаўленую масу металу ў формы і жолабы.

– Жалезная руда пастаўляецца з Аўстраліі і Мексікі, іншых краінаў, – тлумачыць далей Сюзана госцю з мінулых гадоў. – Унутры "нябеснага кола" яна змяшчаецца на транспарцёры ў сотні кіламетраў. А калі адбываецца стыкоўка "пярсцёнка" з адсекамі касмічнай станцыі, транспарцёр злучаецца з унутраным, і тады пачынаецца загрузка ў ёмкасці складскіх памяшканняў.

– А адходы? – паглядзеў на яе Юніцкі. – Як з імі?

– Для іх пабудаваны другія станцыі, спрошчаныя, – шлакі і іншыя адходы загружаюцца ў вялізныя кантэйнеры, і яны там будуць знаходзіцца

вечна. Тыя станцыі знаходзяцца з другога боку ад планеты Юніта на вышыні тысячы кіламетраў на ўласнай арбіце. Тыя адходы бясшкодныя і космасу не нясуць ніякай пагрозы, і нікому не замінаюць. Гэта як адна пясчынка ў пустыні Сахары. Яны знаходзяцца далёка ад касмічных дарог і трасаў.

– Мяне тое радуе, – адказаў канструктар экскурсаводу. – Мара зямлянаў збылася.

– Вашая мара, – удакладніла Сюзана.

– І мая таксама.

Боб Пол, мусіць, не вытрымаў, адышоў ад групы і падышоў да сталявара. Той, убачыўшы госця побач, прыўзняў над вачамі цёмныя акуляры. Усміхнуўся, паціснуў руку. Боб пра нешта пытаўся, металург адказваў, паказваючы на блакітнае табло і на печ, у якой гарэў жоўта-чырвоны агонь. Сталявар падаў Бобу засцерагальныя акуляры, каб ён праз іх паглядзеў на полымя ў печы. Праз хвіліну Пол аддаў акуляры назад, адабральна паківаў галавой, падзякаваў.

Сюзана, ужо вызваліўшы сваю руку ад Анатоля, працягвала:

– Для працы гэтага сталеплавільнага завода неабходна вялікая колькасць энергіі. На зямлі такі завод аказаўся б банкрутам, а тут... А ў нас існуе асаблівае прадпрыемства па здабычы энергіі, дакладней, мы бярэм яе з космасу. Мільёны вялізных люстраў падстаўляюць свае плоскасці пад промні сонца. А потым атрыманая энергія паступае на акумулятары.

Было адчуванне, што галоўны металург чытала лекцыю, беручы асноўныя выняткі і цытаты з яго даўняй манаграфіі. Але ён не пакрыўдзіўся на яе за “плагіят”, наадварот, быў рады, што яна карыстаецца яго тэарэтычнай працай, якая стала здабыткам усіх, усяго людства і касмічнай грамады.

– У космасе, дарагі спадар Анатоль, створана магутная індустрыя, якая дала нам магчымасць прыступіць тут, на арбіце, у плоскасці экватара, грузапасажырскага транспарту. На ім працуюць два станцыянарныя ротары-махавікі. Такі від транспарту, пабудаваны выключна з касмічнай сыравіны, якую мы тут вырабляем, і вы ў гэтым пераканаліся, па касмічных тэхналогіях. Яны сілкуюцца ад арбітальных электрастанцый, разлічаны на шматразавае выкарыстанне. Яны могуць сядаць-апускацца на планету і зноўку вяртацца ў космас.

– Дзякуючы тром колавым элементам? – удакладніў касмічны вучоны.

– Так, так... Яны ахопліваюць планету і, дзякуючы корпусу і двум ротарам-махавікам, ТС космасу рэкуперыруюць у сябе кінетычную энергію і момант колькасці руху, і пры гэтым поўнасцю выключае неабходнасць узаемадзеяння з навакольным асяроддзем. Я правільна кажу, паважаны Мацвей? – Сюзана ўжо звярнулася да былога настаўніка Юніцкага.

Ён кашлянуў у кулак, паглядзеў на Анатоля, пацвердзіў:

– Тут ужо ўступае ў сілу рэжым “вечнага рухавіка”. І гэта ніяк не супярэчыць законам фізікі, таму што пры ўмове ўсталявання і роўных адзін аднаму грузапатоках “на зямлю” і назад – “у космас”, – сумарная механічная праца адпавядае нулю. А мы плануем шматкроць павялічыць колькасць грузу, які будзе дастаўляцца на зямлю, – а гэта, натуральна, перавысіць адваротны грузапаток. Тады касмчны транспарт не толькі адмовіцца ад спажывання энергіі, а будзе працаваць у рэжыме звышмагутнай электрастанцыі. Вось тады магутнасць будзе ўжо дасягаць 1 міліярд кВт і нават вышэй, калі ўжо адваротны грузапаток перавысіць велічыню 100 мільёнаў тон у год. Пагэтаму мы з радасцю паведамляем табе, дарагі

Анатоль, сын Эдуарда, што, атрымаўшы багацейшы вопыт будаўніцтва нашага “першынца” АТС, пры гэтым валодаючы магутнай касмічнай прамысловасцю і дасканалай энергетыкай, мы ўжо заканчваем будаўніцтва другой, больш магутнай экватарыяльнай эстакады.

Мацвей дасканала валодаў тэмай, таму чытаў “трактат” Юніцкага без замінкі і абдумвання, бо сам прымаў непасрэдны ўдзел у стварэнні касмічнага горада і прамысловых аб’ектаў.

Зноў падышла Сюзана, паглядзела на канструктара “пярсцёнка” сваімі прамяністымі касмічнымі вачыма, у якіх люстравалася адценне блакіту нябесных прастораў, прамовіла:

– Ну і на заканчэнне, дарагі Анатоль, ад імя ўсяго чалавецтва выказваю вам шчырую падзяку за стварэнне гэтага праекта і за тое, што вы забяспечылі жыхароў планеты бясплатнай энергіяй – Свабоднай энергіяй ТОР. Гэта было немагчыма сотні гадоў назад – карыстацца электрычнай энергіяй, за якую не трэба плаціць. Вы давялі да банкруцтва нафтавых і энергетычных магнатаў, вы пазбавілі сілкавання масонскую ложу, якая налічвала трыльёны трыльёнаў даляраў. Яны цяпер не могуць ужо ўплываць на працэс развіцця грамадства, на эканоміку і на жыццё саміх людзей. Грамадства скінула з сябе ланцугі рабства і залежнасці ад каго-небудзь, яно – свабоднае! Вольнае!

Яна не вытрымала, абняла госця, пацалавала яго ў шчаку і прытуліла да сябе:

– Захавай вас Гасподзь!

І тут пачулася ляскание далоняў, што і падмацавала ўрачыстасць і значнасць моманту.

У душы аўтара SkyWay нараджалася яшчэ большая радасць ад адчування, што гэтыя цудоўныя людзі, асветленыя імкненнем зрабіць свет яшчэ больш дасканалым і духоўна багатым, – прадаўжальнікі яго ідэі, яго праекта.

Ён абняў свайго былога настаўніка, Сюзану, Марэка Юніцкага і 5-6 чалавек, каго змог абняць, усклікнуў шчасліва:

– Дарагія мае скайвэйцы! Дзякую за працу, дзякую за падтрымку і разуменне! Цяпер я шчаслівы чалавек, бо не дарэмна пражыў жыццё на зямлі і ў космасе. Мы з вамі на правільным шляху!

Усе астатнія, да якіх ён не змог дацягнуцца рукамі і абняць, самі падышлі і, раскінуўшы рукі, абдымалі ўсю групу разам з Юніцкім і Бобам Полам – касмічных братоў.

І кожны адчуў, як ва ўнісон забіліся іх сэрцы, – касмічны гадзіннік быў заведзены і ішоў з атамнай дакладнасцю. І біццё сэрцаў кожнага адпавядала паэтычнаму рытму, бо ўсе яны належалі космасу, як і Анатоль Юніцкі, заручоны з ім, падараваўшы Планеце Зямля “Заручальны Пярсцёнак”.

## *10*

– А цяпер куды, дарагі Анатоль? – прашаптала на вуха Сюзана. – Ці патрэбна і далей мая дапамога?

Яна не адымала рук ад яго плеч, загадкава і весела паглядала на яго, як выпрабоўвала на нешта, і ў куточках яе сакаўных вуснаў блукалі іскрынкі таямнічасці. Позірк пранізаў яго, і яму падалося, што ён некалі сустракаў гэтую жанчыну – ці то ў мінулым жыцці, ці то ў будучым. За

блакітна-каштанавымі зрэнкамі білі фантанчыкі нейкай тайны, загадкі, прыцягнення і чароўнасці. І сама яна падавалася нейкай незямной жанчынай, чараўніцай і вядзьмаркай. Язычок, злёгку прыкушаны пялёсткамі вішнёвай квецені, выдаваў яе як асобу касмічнага свету.

– Ды не, Сюзана, вы і так шмат зрабілі для нас і азнаёмілі з навінкамі на станцыях. Дзякую. А цяпер мы з Бобам адправімся на сустрэчу...

– З “ёй”? – зноў загадкава бліснула позіркам.

– Так, з ёю. З дзяцінства хачу яе пабачыць. У снах яе бачыў.

– Шкадую, што не са мной, – засмяялася яна, злёгку адхіліўшыся ад яго, але не адводзячы позірку. – Я рада за цябе. Сустрэча з ёю будзе заўтра – ад планеты Юніты пярсцёнак прыстане да станцыі роўна а дванаццатай гадзіне па вашым зямным часе. Прыемнага спаткання, зямны госць Анатоль! Мы болей не праводзім вас – дарога давядзе вас да гасцінічнай хаты. Асобны нумар гатэля чакае вас.

– Дзякую, Сюзана!

І толькі тады яна адвярнулася ад яго. І разам з ёю, развітаўшыся з ім, пайшлі ўсе астатнія. Праз хвіліну яны зніклі з поля зроку.

Засталіся адны. На Боба Пола сустрэча з жыхарамі паўздзейнічала ўзнёсла, і ён і слова не мог вымавіць, каб выказаць свае адносіны і ўражанні ад таго, што адбывалася перад гэтым. Моўчкі прайшлі па пясчанай без пылоты дарозе, паабапал дарогі расло невысокае кустоўе; вараб'і і сініцы пераскоквалі з галіны на галіну, ціліўкалі, пра нешта паведамлялі птушынымі галасамі, праводзячы іх па дарозе.

Увайшлі ў прасторны хол, асветлены промнямі сонца праз шырокія і высокія вокны. На крэслах сядзелі невядомыя людзі, чыталі газеты і часопісы, нехта праглядаў навіны на экране планшэта. Убачыўшы, як яны пераступілі парог гатэля, да іх падышоў у сінім касцюме хлапец, моўчкі паказаў, куды яны павінны ісці. Падвёў да ліфта. Калі яны зайшлі ў яго, націснуў на кнопку 125-га паверха. Пажадаў узмахам рукі поспехаў, і дзверы зачыніліся.

Калі падняліся на заказаны паверх, іх сустрэла дзяўчо з доўгімі косамі, на галаве бліскучая карона з выявай планеты, усміхалася, гледзячы на іх. Падала электронныя ключы на два нумары. Паказала, у які бок ісці. Папершае, яны адзначылі ідучы, ногі не датыкаліся да падлогі. Ішлі па ёй, а не адчувалі апірышча. Дзверы самі расчыніліся.

– Прыводзім сябе ў належны выгляд, змываем касмічную пылоту з сябе, і праз гадзіну ты прыходзіш да мяне, – прапанаваў Анатоль.

– Добра, праз гадзіну.

У лядоўні Боб знайшоў піва амерыканскай і чэшскай вытворчасці, закускі і садавіну. У Анатоля – украінскае сала і маласалёныя гуркі, бярозавік і вінаградны сок. І нават пляшка гарэлкі “Паляшуцкая”. На этыкетцы намаляваны бярозы і жоўтая збажына.

Праз гадзіну прыйшоў Боб. “Адзначылі” сваё знаходжанне на станцыі, якая прыняла іх як сваіх. “Паляшуцкая” аказалася неблагім напоем – у гэтым добра разбіраўся палескі самагоншчык, сам некалі выробляў (гнаў) яе.

Праз нейкі час, калі наталілі смагу і здаволіліся ядой і пітвом, калі з гадзіну прасядзелі на канапе, не вытрымаў Боб Пол, пачаў зноў чапляцца з пытаннямі. Юніцкі мімаходзь прамовіў, што ўсё жыццё на зямлі і

ў космасе падтрымліваецца свабоднай энергіяй Тор, а ён не ўхапіўся за тую інфармацыю, яна прашмыгнула паўз яго вушы. Але калі Сюзана і яе памочнікі падзякавалі Анатолю за тую энергію, якая пастаянна накапліваецца, а потым перадаецца на Зямлю, апамятаўся: “Як жа я тое прапусціў?..”

Яны сядзелі як у мінскім офісе, насыціліся і запівалі яду – Боб півам, а Анатоль вінаградным сокам. За вакном слаўся неаглядны ландшафт, асветлены нябачным сонцам, а мо яго і зусім не было, працавала хіба касмічнае свяціла. Боб бачыў перад сабою прэрыі і горы, а Анатоль бярозавыя гаі, палі збажыны і цудадзейную крынічку свайго дзеда, а побач з ім сваіх продкаў у вясковым адзенні.

– Ты ўспомніў пра свабодную і бясплатную энергію Тор, а я неяк не звярнуў на тое ўвагі, даруй... І ў сувязі з гэтым у мяне накапілася шмат пытанняў, і даведацца хачу, адкуль яна з’явілася, не чуў пра яе... Ёсць настрой пагаварыць?

– Заўсёды да тваіх паслугаў. Але толькі праз пяць хвілінаў. Настроюся на тую хвалю.

Праляцела і пяць хвілінаў, і дзесяць, але Боб далікатна чакаў, калі Юніцкі падасць голас. Зразумела, шмат было патрачана сілаў за цэлы дзень, натаміўся. Мо і не трэба было цяпер прыставаць да яго з роспытамі, але позна ўжо што-небудзь мяняць.

– Дык вось, – бадзёрым голасам прамовіў Анатоль. – Тор... Ты хочаш ведаць, Боб, хто ці што прыдае яму – тору – імпульс вярчэння? Якая сіла рухае гэта ўсё? Чаму і як торы ўзаемадзейнічаюць між сабой? І чаго зямля без чалавека можа існаваць, а ён без яе не можа? Адкуль такая залежнасць, хто яе прыдумаў?

Боб кіўнуў галавой.

А Анатоль усміхаўся, не адрываючыся ад сваіх балот і грыбных мясцінаў, нават абрадваўся, што ў Боба з’явілася жаданне разабрацца ў такой загадкавай энергіі. Ці стаміўся ён? Стаміўся. Але яму дастаткова паўгадзіны часу на адпачынак, і ён мог адразу зноў уключацца ў працу, гаварыць гадзінамі ці адказваць на роспыты.

– Пачнем з пытання – чаму прырода гарманічная і збалансаваная, няма ў ёй квадрата, а мы ўсё шукаем і шукаем спакойны стан у геаметрыі розных фігураў? Ці аб’ектыўныя яны, ці існуюць толькі ў чалавечым калектыўным розуме? І ўзнікае тады пытанне – а хто ж нам іх першапачаткова паказаў ці даў у рукі, уклаў у нашую свядомасць? І чаму геаметрыя не мае душы, а энергаполе чалавека і імкненне яго душы мае дакладную геаметрычную структуру?

Юніцкі замоўк. Думаў, як данесці да свядомасці амерыканскага сябра гэтыя складаныя для разумення пытанні. Няхай не цяпер, а потым, калі ён сядзе ў сваім кабінеце ці дома і будзе пракручваць усе дні падарожжа, глыбока ўдумаецца, дзясяткі раз перакруціць электронную стужку і дакапаецца ўсё ж да ісціны, – будзе тое. Абавязкова.

– Чаму на многіх, амаль на ўсіх, абразах усе праявы духоўнага свету геаметрычныя, нават серафімы, не кажучы ўжо аб німбах, сілах, мандорлах, у пабудове кампазіцыі?

Зноў жа – галоўнае пытанне: дзе мяжа між частотамі вібрацый – нашымі пачуццямі, пачуццямі старца-пустэльніка, які моліцца, радасцю немаўляці, усмешкай вясёлкі і палётам ластавак ці стрыжоў? Што можа пакрыўдзіць чалавека ў гэтым сумбурным жыцці? Як адрозніць ісцінны

славянскі праваслаўны касмічны экалагізм мыслення геніяльнага Юніцкага ад парамасонскіх псеўдаэкалагічных глабалісцкіх арганізацый і плыняў, фарміраванняў і сектаў, здольных дзеля ўлады над масамі справакаваць катастрофы і эпідэміі?

Вучоны дапіў свой сок. Падняўся, падышоў да акна. Захацелася паглядзець уніз, вызначыць, на якой ён знаходзіцца вышыні – паверхні не ўбачыў. І не здзівіўся. Гэта на зямлі можна вызначыць вышыню – тут другія вызначэнні.

– Боб, ты вельмі заглыбіўся ў гэтую праблему. Скажу так: ніхто не можа адказаць на гэтыя пытанні. Хаця б таму, што гэтыя пытанні і не павінны ўзнікаць. Гэта як у некага спытаць – як выглядае паветра. Ён ёсць, а як выглядае? Гэта можа быць і Бог, але мы Яго ніколі не ўбачым... Таму давай абазначым нашую тэму як паняцце “Працвітанне”. Ці – “Росквіт”.

– Згодзен, Анатоль.

– Нашае жыццё запраграмавана на поспех. Наша мэта – працвітанне і росквіт. На жаль, на планеце гэты дэвіз “не працуе” – жыццё чалавека заключаецца не ў працвітанні, а ў выжыванні. І – у барацьбе. За жыццё. І чаму мы – ці наш сусвет – да гэтага прыйшлі за чатарнаццаць мільярдаў гадоў: стварыць від жывой і разумнай сутнасці – чалавека, які, сам таго не падазраючы, стане ворагам таго ж жыцця і асабістага жылля – планеты? Хто адкажа на такія пытанні? І ці ёсць адказ? Хаця мы ведаем, што адказы ёсць на любыя пытанні. У якасці прыкладу спашлюся на твайго земляка, амерыканскага вучонага Фостэра Гэмбла. Прайшоўшы ўсе сцежкі планеты, ён стараўся ўсвядоміць і адказаць на тое глабальнае і сакральнае пытанне – што можа быць прычынай страшэннай агоніі і бедаў на гэтай планеце? Галоўнае пытанне, якое ён задаваў сам сабе, заключалася ў наступным – ці могуць людзі знаходзіцца ў абдымках працвітання, а калі могуць, то чаму мы не можам зрабіць гэта? Даследванні прывялі яго туды, куды ён ніколі не жадаў і не думаў трапіць, і ён зрабіў здзіўляючае свет адкрыццё. Вучоны адшукаў код. Так, так – Код. Прыродную мадэль, якая стагоддзямі знаходзіла сваё адлюстраванне ў мастацтве і сімвалах.

Скажу болей – ён перакананы ў тым, што гэты код і з’яўляецца ключом для атрымання чыстай, аднаўляльнай і невычэрпнай энергіі, – а гэта можа поўнасцю перакуліць наш свет з ног на галаву. Тады ж знікне паняцце эканоміка і крызіс, банкруцтва прадпрыемстваў і пагоня алігархаў за прыбыткамі, асабліва нафтавых магнатаў, якія здзіраюць з народа нават не сем, а сотні скураў... І таму, калі гэта здарыцца, а яно абавязкова павінна здарыцца, інакш адбудзецца крах планеты, – і ўжо не даляры і еўра будуць кіраваць светам, ніхто не будзе кіраваць светам, таму што і ўсім усё дастанецца бясплатна. І гэта галоўны ключ да працвітання – да Міру на ўсёй Планеце. Чалавецтва імкнецца разабрацца ў шмат якіх пытаннях – хто мы, як і калі з’явіліся на планеце; ці ёсць іншыя цывілізацыі ў космасе і чаму яны не ідуць з намі на кантакт; якую энергію прымяняюць яны, як рухаюцца з неймавернай хуткасцю над зямлёй і ў космасе... Хто яны – іншапланецяне, што прыйшлі з далёкага свету і галактык?

Юніцкі спыніў сваё тлумачэнне вучонага з Амерыкі, а Боб нахмурыўся, пацёр лоб указальным пальцам, “пераварваў” усё ў сабе, у сваёй свядомасці. Разумеў, што тое пакуль для яго недасягальнае, напалову зразумелае. Пакуль што...

– Сваё абуджэнне, лічыць вучоны, ён заўважыў яшчэ ў пачатковай

школе. Так, як і я, намацваў у сваім дзіцячым уяўленні і свядомасці шляхі ў будучыню. Фостэр даведаўся ад дарослых, што ад засцярогі ядзернага выбуху трэба залезці пад школьную лаву і прыкрыць галаву рукамі. А потым сутыкнуўся з энергіяй сусвету. Калі ён выглянуў у акно школьнага аўтобуса, яму прымроіўся вадаварот, і ён тут жа ўсвядоміў, што паток энергіі аднолькавы і ў атаме, і ва ўсёй сонечнай сістэме. Адначасова з гэтым ён глыбока і натуральна адчуў, што ён і сам створаны па прынцыпе той жа мадэлі. Гэтае бачанне паслужыла прычынай таго, што ён цвёрда вырашыў заняцца навукай, ужо каб зразумець, як пабудаваны Сусвет. І яшчэ – як самі людзі "ўпісваюцца" ў гэтую агульную мадэль энергіі жыцця.

– Усе мы дзеці, і сёння з'яўляемся дзецьмі.

– Згодзен, і ад гэтага нікуды не падзецца. Праз шмат гадоў ён даведаўся, што малюнак, які іншапланецяне пакінулі на полі, засеяным жытам, даўно вядомы некаторым людзям навукі. У 1921 годзе Альберт Эйнштэйн атрымаў Нобелеўскую прэмію за адкрыццё таго, што пры выпраменьванні энергіі ў сусвет з'яўляюцца невялікія цэласныя скапленні. Кожнае скапленне, пра якое казаў Эйнштэйн, называецца квантамі (альбо ў нашым выпадку – фатонамі), складаецца з акаляючага яго асяроддзя. Але пры гэтым аддзелена ад яе. Як вадаварот у вадзе. Гэтыя скапленні маюць заўсёды адну і тую ж мадэль, незалежную ад памераў, і яны дзіўным чынам цесна звязаны з такімі, на першы погляд, разрозненымі праблемамі, як войны на Бліжнім Усходзе, сусветны фінансавы крызіс і дасягненні ўсеагульнай справядлівасці.

Бярэм у дапамогу матэматыку. У ёй такая фігура называецца торам: V=2п2 Rr2. Энергія тора ўваходзіць з аднаго канца, круціцца вакол яго цэнтра і выходзіць з другога. Гэта збалансаваная самарэгуляваная сістэма. Упершыню з гэтай сістэмай фармальна пазнаёміўся вучоны-вынаходнік Артур Янг. Футурыст Дуэл Энджын растлумачыў, што тор з'яўляецца асноўнай фігурай, якую прырода выкарыстоўвае для жыцця на ўсіх узроўнях. Ён кажа так: "Эвалюцыя – азначае раскрыццё разгортвання, пагэтаму і ўзнікае пытанне – а што менавіта разгортвае сусвет? Эвалюцыя разгортваецца ў сістэмы, якія арганізоўваюць, якія можна знайсці на любым узроўні. Самаарганізуючая сістэма – гэта спецыяльны тэрмін для вызначэння сістэмы, якая сама кіруе сабой і сама па сутнасці "ведае сябе". Гэтыя формы мы можам убачыць у прыродзе – у разрэзе апельсіна ці яблыка, такая ж дынаміка і ў тарнада, у магнітным полі зямлі і ў аналагічным магнітным полі кожнага чалавека. Яе можна знайсці ў структуры ўсёй віхравай галактыкі і ў пабудове невялікага атама. На ўсіх узроўнях на працягу сваёй гісторыі Сусвет працуе над адным праектам – вырошчвае тор. Сусвет – гэта фабрыка па вытворчасці тора.

– І мы яе можам убачыць?

– Толькі прасачыць у розных маштабах. На ўзроўні галактыкі, якая ўяўляе сабой гіганцкія структуры з мільярдамі зорак, якія круцяцца. Яна выглядае як вялізнае адгалінаванне галактык, якія круцяцца віхурна па крузе, сыходзячы ад цэнтра, і цягнуцца да межаў галактычнага Гала, якія акружаюць іх. Зоркі рухаюцца ад галактычнага дыска Гал, уніз па віхурам. Вядома, што такія зоркі як Арктур, ужо здзейснілі такі шлях. Гэтае апісанне падыходзіць нават да нашай планеты. Надвор'е рухаецца ад паўночнага полюса ўніз па экватары, а затым зноўку ўверх – ад паўднёвага полюса да экватара, і зноў уніз. Нават на паверхні сонца ўзнікаюць аналагічныя

з'явы. Зразумела, мы разглядаем гэтую сістэму звонку. І ў даволі маленькім маштабе. Калі ж глянуць на сонечную сістэму, якая знаходзіцца ў галактыцы, якая ўваходзіць у кластэр, які належыць суперкластэр, то можна зразумець, што мы плывем па бяскрайнім моры бясконцага цячэння Торы.

– Звышжыццё?

– Так, бо тор – гэта дыханне Сусвету. Гэта форма, якую энергія прымае на кожным узроўні існавання. Але ў гэтым патоку ёсць базавая структура, накшталт шкілета. Яна называецца вектарным эквілібрыўмам. Гэты тэрмін прапанаваў адзін з вялікіх мысляроў XX стагоддзя Бахмітстэр Фуль...

Натхнёны яго правіднымі праектамі і ідэямі, Фостэр Гэмбел дзесяцігоддзямі вывучаў праблему дынамікі – вектарнага эквілібрыўма і тора. Ён быў так захоплены патэнцыялам тарэідальнай формы энергіі, што ў 1997 годзе стаў адным з заснавальнікаў навукова-даследчага цэнтра The Seguoia Symposium, створанага для вывучэння гэтай формы і яе прымянення. Вынікі даследванняў пераканалі вучонага ў тым, што тор і вектарны эквілібрыўм з'яўляюцца асноўнай формай, на якой заснаваны законы і тварэнні Сусвету на ўсіх узроўнях. На розных сустрэчах гэтай арганізацыі ён даведаўся аб даследваннях, якія выкарыстоўвалі дынаміку Тора як аснову для прыстасаванняў, генерыруючых энергію без спальвання. Чуеш, Боб, без спальвання чаго-небудзь?

– Чую і разумею. Неверагодна!

– Такія рэвалюцыйныя адкрыцці, якія забяспечваюць доступ да энергіі нулявой кропкі чыстай ці свабоднай энергіі, цяпер называюць проста – тэхналогіямі новай энергіі. Улічваючы тое, што значная частка сусветных пакутаў выклікана адсутнасцю доступу да энергіі, вучоны ўсвядоміў, што бясплатная, неабмежаваная і чыстая энергія стане адным з найвялікшых прарываў у гісторыі. Яна можа не проста палепшыць, але і змяніць якасць жыцця на гэтай планеце.

Хто яшчэ ведае пра гэтую форму і крыніцу атрымання гэтай магутнейшай энергіі? У тым жа таварыстве і другія вучоныя, якія далучыліся да гэтага цячэння, дзяліліся сваімі высновамі і сцвярджэннямі. Напрыклад, пра тое, што тор стагоддзямі ў якасці сімвалаў выкарыстоўваўся ў многіх культурах. Напэўна, старадаўнія цывілізацыі зафіксавалі гэты код у сваіх паданнях, сімвалах, алфавітах і пабудовах, у тых жа егіпецкіх пірамідах.

– Да старадаўніх нам яшчэ трэба дарасці, – уздыхнуў Боб.

– Так, вярнуцца ў той свет, дзе панавала бесклапотнае жыццё і чалавек не залежаў ад валадароў свету, акрамя Бога.

## Сустрэча

### *1*

А раніцай у іх вакно зазірнула сонца.

Яны прахапіліся амаль аднначасова і здзівіліся, што ноч правялі седзячы ў крэслах, не распранаючыся. Рассмяяліся, гледзячы адзін на аднаго. Крэслы аказаліся лекавымі, ніякага следу ад учарашняй стомы не засталося.

Салаўіныя пошчакі з планшэта абвясцілі Юніцкаму, што яму даслана паведамленне. Адкрыў старонку, прачытаў тэкст:

"Дарагі зямлянін Анатоль, сын Эдуарда! Вітаю цябе на калязямной арбіце. Але ёсць і другая касмічная арбіта – вакол Юніты. Ты з дзяцін-

ства імкнуўся наведаць гэтую загадкавую Планету, на якой здзейсніліся, атрымалі жыццё ўсе твае праекты і прапановы. Жыццё чалавека, як вядома, складаецца з сілы думкі і дабрыні душы. Ты марыў і не ведаў, не здагадваўся нават, што энергію тваёй думкі прымала Юніта на свой прымач, – і тут жа, у тую ж секунду, яна матэрыялізавалася, прыняла рэальныя рысы, формы і ператварылася ў метал, які лягчэй зямнога паветра. І ў кароткія тэрміны, падпарадкоўваючыся тваёй думцы і марам, таленавітыя нябачныя будаўнікі ўзвялі і твае струнныя дарогі, і сотні “заручальных кольцаў”, якія ўзняліся ў космас, чэрпаючы з яго духоўную і энергетычную энергію, – вынеслі туды лёгкую і цяжкую прамысловасць, каб не забруджваць адходамі ад іх Юніту. Пагэтаму наша планета стала самай чыстай з усіх планет галактыкі.

У гэтым ты сам пераканаешся, калі наведаеш сваю Юніту.

Пагэтаму я і запрашаю цябе і твайго сябра Боба Пола да сябе ў госці. Мяне ўжо даўно праведалі прадстаўнікі іншых планет далёкіх галактык. Мы абмяняліся вопытам захавання чысціні на сваіх аўтаноміях. Найбольш ім спадабаліся “струнныя дарогі”, якія ты прыдумаў, укараняюць яе ў сябе.

Да пад’езда вашага атэлю ў поўдзень прыбудзе “паветраны кілім”, які праз сорак секунд даімчыць вас да станцыі “Надзея”. Тут не існуюць паняцці “кіламетры” ці “метры”, нават час амаль не існуе, бо мы з адной кропкі да другой пералятаем імгова.

“Заручальны пярсцёнак” Юніты падплыве на тую станцыю строга па раскладзе. Я прыбуду адна, і буду ў беласнежнай сукенцы, сатканай з нябесных зорак Валацужнага шляху.

Цалую.

Гаспадыня і касмічны дырыжор планеты Юніта”.

– Хто патрывожыў цябе, Анатоль? – пацікавіўся Боб. – З зямлі сігнал?

– З Юніты. Мы атрымалі з табой запрашэнне наведаць гэтую планету. Гаспадыня Юніты з’явіцца на станцыі пасля поўдня і будзе чакаць нас.

– Запрашае ў госці? Гэта здорава! А чаму яна не назвала сваё імя?

– Яна падпісала запрашэнне як Юніта.

– Планета Юніта і яна – Юніта?

– Атрымліваецца так.

– Дзіўна аднак. І загадкава.

– Вось нам і трэба разгадаць гэтую загадку.

У лядоўні знайшлося ўсё, што патрабавалася на сняданак. Калі абнавілі харчы і напоі, невядома. Мо тады, як спалі?

Агрэгат-аўтамат выдаў гарачую гарбату з лімонам, на сподках ляжалі парэзаны сыр, печыва.

У запасе ў іх быў яшчэ час і яны рашылі паляжаць гадзіны-дзве ў ложках. Боб пайшоў у свой нумар.

Ствральнік віртуальнай Юніты думаў пра запрашэнне. Нешта хвалявала яго, непакоіла, быццам ён апынуўся ў юнацтве і павінен прыйсці да дзяўчыны на першае спатканне. Той першай і незнаёмай дзяўчынай і была Юніта. Усе гады ён думкава наведваў сваё стварэнне, прызвычаіўся і стаў сваім на ёй. Але то было ў снах і мроях, а тут...

Бачылася яму планета рознакаляровым мячыкам-глобусам у вялізную велічыню, а то ўяўлялася зялёна-блакітнай, да якой можна было дакрануцца рукой... Ён спрабаваў маляваць яе акварэльнымі фарбамі, што падаравала

яму школа за выдатную вучобу і паводзіны; на малюнку ён пракладваў шляхі-дарогі, а вакол яе маляваў загадкавыя кольцы. Не ведаў і сам, што ўяўлялі сабой тыя кольцы, але яны, як вобручы, акалялі створаную і прыдуманую ім планету ў розных кірунках. То яны ляжалі на апірышчы на зямлі, а то, расшыраючыся, уздымаліся ў нябёсы... Маляваў на нябесных прасторах трасы і дарогі, пракладваў маршруты, не ведаючы яшчэ, куды яны вядуць і дзе іх пачатак. Маляваў блытана, не ўсведамляючы, але ж адначасова бачыў, што яны шыхтуюцца ў нейкую стройную сістэму, падпарадкоўваючыся нейкаму галактычнаму закону. Ведаў: думка ніколі не працуе ўпустую, бо мае сваю энергетыку і сілу. І мозг яго – будучага вучонага – не пераставаў працаваць, накапліваў і накапліваў энергію, а потым адсылаў яе сілай думкі ў нябёсы на нябачныя арбіты...

Здаецца, ён задрамаў, закалыханы думкамі аб будучай сустрэчы, успамінаючы дзіцячыя мроі, ідучы праз высокія травы поля каля сваіх Крукоў.

Недзе зацвіркаў конік, пастукаў дзяцел дзюбай па сухадрэвіне.

– Дарагія зямляне, – пачуўся дзявочы голас і на белай сцяне засвяціўся экран, – ваш час адпачынку скончыўся.

Дзяўчына-дыспетчар, з'явіўшыся на экране, з прыемнай пасмішкай напамінала ім пра час.

– Праз чвэрць гадзіны "кілім-юнаход" будзе чакаць вас каля пад'езда. Але вы можаце і не спяшацца. Колькі вам яшчэ патрабуецца часу, каб прывесці сябе ў норму?

– Паўгадзіны. Шаноўная спадарыня...

– Алёна...

– ... шаноўная спадарыня Алёна, праз паўгадзіны мы будзем унізе.

У пакой зайшоў Боб.

– Чуў?

– Чуў. Я памыўся, пагаліўся, нават пахмяліўся.

– Ого! Нават пахмяліўся?

– Ну а як жа! Я на тваёй тэрыторыі, таму падпарадкоўваюся ўсім правілам паводзінаў у тваёй краіне.

Жартаваў Боб, бо меў добры настрой, стома знікла і прыйшла бадзёрасць.

Юніцкі лёгка ўскочыў з ложка, пайшоў у ванны пакой. Памыўся, пагаліўся. Потым вярнуўся ў пакой. Выняў з валізы паходны абразок, паставіў на столік у кутку. Наклаў на сябе крыж, прачытаў ранішнюю малітву. Пасля гэтага наліў у кубак гарбаты.

За вакном плылі воблакі, куляліся ў небе ці то чайкі, ці то галубы. На душы ў абодвух былі супакоенасць і задавальненне ад незвычайнага падарожжа. Верылі, што наперадзе яшчэ цікавейшыя хвіліны чакаюць іх.

На першы паверх яны спусціліся за хвіліну.

Яны ўліліся ў натоўп людзей. На іх, як і да гэтага, ніхто не звяртаў увагі, кожны быў заняты сваім. Гэта ўсё напамінала нейкі міжнародны порт, дзе сышліся людзі з розных краінаў, якія імкнуліся вылецець у свае дзяржавы. Дарослыя і дзеці, еўрапейцы і афрыканцы, у розным адзенні і галаўных уборах, – гэта быў пчаліны вулей, які гудзеў на розныя галасы і мовы... Але ніхто нікому не замінаў, як і ў мурашніку, быццам для кожнага існаваў нейкі нябачны маршрут.

Выйшлі ў двор. На пляцоўцы, у метрах дваццаці ад гатэля, засвяціліся зялёнымі агеньчыкамі зялёная пляцоўка, запрашаючы да сябе. Яна знаходзілася на нейкім узвышэнні ад зямлі, але калі яны падышлі да яе,

перад імі леглі дзе прыступкі. Калі ўзышлі на пляцоўку, прыступкі зніклі. Як і абяцала Юніта, не прайшло і хвіліны, як яны апынуліся ў іншым месцы – на ўзгорку. Па прыступках сышлі ўніз, ступілі на зямлю. Агледзеліся. Звычайны пейзаж – дрэвы, кустоўе, жоўтае поле збажыны, неба ў воблаках. Знаходзіліся на ўзвышку. Ніжэй – возера, па беразе звесілі свае косы лазнякі; па беразе дыбалі бацяны, раз за разам апускаючы чырвоныя дзюбы ў ваду.

Наперадзе, на большым узгорку, высіўся будынак са шкла, у вокнах адлюстроўваліся промні сонца. А на самым версе вялікім літарамі неонавы надпіс – "Надзея". Пераліваўся ён зыркім святлом, то ўспыхвала, то згасала, быццам перагуквалася сваім святлом з промнямі нябеснага ліхтару.

Пераглянуліся, адзін у аднаго спыталі: "Ідзем туды?". І пайшлі да будынку. У ім зусім не было дзвярэй. Калі зайшлі ў памяшканне, убачылі экран на ўсю сцяну.

На вялізным блакітным экране з'явіліся словы: "Юніта вітае дарагіх гасцей, якія прыбылі з далёкай планеты "Зямля!" Потым экран згас, зноў успыхнуў. Адкрылася другая карцінка – блакітны бясконцы прастор. З глыбіні таго прастору пачала пакрысе нараджацца рознакаляровая вясёлка. Спачатку яна выгляда празрыстай, нясмелай, не набраўшы патрэбных колераў, а потым, па меры набліжэння да станцыі, заіскрылася, зайграла насычанымі колерамі. Колеры пераліваліся і ўзмацняліся быццам пасля шчодрага дажджу, і таўшчыня вясёлкі павялічвалася ў памерах, набывала выразныя рысы і межы.

Але не вясёлка зацікавіла іх, не дзівосныя колеры дугі, ад якой нельга было адарваць позірк. Ад вясёлкі сыходзіў адзін колер і пачаў набліжацца да іх... Ды то і не дуга зусім была, а нешта іншае, і яно павялічвалася ў памерах. Калі наблізілася да нейкай адлегласці, то ўжо і вокны можна было ўбачыць, круглыя, па бясконцай бакавіне; вокны свяціліся і ўспыхвалі загадкавымі жоўтапамаранчавымі агнямі. Адбывалася пульсацыя станцыі. Паверхня ўжо набыла залаціста-плацінавы колер.

"Здаецца яна нашмат больш за наш АТС, – падумаў Юніцкі, з нецярпеннем чакаючы, калі спаруда наблізіцца да іх, – значыць, у яе яшчэ большыя магчымасці і задачы..."

– То да нас набліжаецца Юніта?

– Так, яна.

Боб паглядзеў на Анатоля, запытаўся:

– Калі гэта яна, жанчына, то чаму мы не падрыхтаваліся да сустрэчы, га? Дзе нашыя кветкі? Ёлупні бескультурныя!

Юніцкі не пачуў, што ён сказаў, яго позірк быў скіраваны на станцыю, на адзін вагон, які адрозніваўся ад астатніх, і быў ён белага-белага колеру. Бачачы яго засяроджанасць і хваляванне, Боб пакінуў яго, некуды знік.

Анатоль адчуў, што ўзмоцнена забілася сэрца. Не думаў, што так будзе хвалявацца і перажываць. І каханне тут ні пры чым. Чакалася сустрэча яго з дзяцінства, з юнацтвам, з будучым, у якім ён працягваў знаходзіцца, – і пагэтаму цяпер ён быў адначасова і дзіцём, і хлопчыкам-вучнем, і студэнтам інстытута, і вынаходнікам-вучоным... Кім ён толькі ні быў у той момант!

Тут жа ён сустракаўся яшчэ і невядомасцю, са свабоднай энергіяй Тор, з прозай і паэзіяй, музыкай бясконцасці, сатканай з кахання і энергіяй душы, з космасам і галактыкай, з зоркамі і планетамі, і яшчэ – з прадстаўніком таямнічай Планеты – Юнітай.

Спаруда Юніты павольна набліжалася да станцыі Юніцкага. Набліжалася, але імкнулася некуды ўверх. Іх ужо раздзяляла адлегласць у сотню метраў... Яна яшчэ больш скарацілася і вагон-адсек, які адрозніваўся ад астатніх, перастаў набліжацца да іх. Знаходзіўся ўверсе, на ўзроўні другога паверху зямных будынкаў. Боб і Анатоль, задраўшы галовы, уважліва назіралі за тым, што адбывалася на іх вачах.

Рассунуліся насцеж шырокія дзверы вагона.

Адтуль, скаціўшыся ўніз, пакрысе пачаў разгортвацца вялізны скрутак кіліму зялёнага колеру. Атрымлівалася зялёная дарожка. Скрутак змяншаўся ў аб'ёме, лёгка раскручваўся, і тут жа ўтвараліся прыступкі лесвіцы, па якой можна спускацца ўніз.

Яна танела, лёгка раскручвалася, узнікалі тут жа прыступкі.

Край кілімавых сходаў з жоўтымі матузкамі лёг акурат каля ног Юніцкага. А ён таго не бачыў, не адрываўся позіркам ад дзвярэй касмічнага кола.

Невядома адкуль – з нябесных неабсяжных прастораў – дабрадзейным дажджом палілася касмічная мелодыя Баха, мажорныя гукі аргана ўліваліся ў душу Анатоля, хвалявалі і ўзбуджалі, ператвараючы яго незямнога жыхара, нават не ператвараючы, а вяртаючы яго ў першапачатковы стан, калі ён яшчэ і не быў народжаны, але быў ужо зачаты Вышэйшым розумам, касмічным Пачаткам. Ён і сам яшчэ таго не ведаў і таму не памятаў, і таму цяпер не заўважаў свайго нараджэння-адраджэння... Тут адбывалася ўсё неяк інакш, іначай і па іншых, не зямных, законах. І дыханне адбывалася па-іншаму, а мо яго і зусім не было, а калі і было, то з'яўлялася праз хвіліну, але рэгулярна, не парушаючы рытм. А біццё сэрца дык і зусім запаволілася, праз некалькі хвілінаў, падпарадкоўваючыся рытму нябёсаў...

Па зялёным колеры дарожкі пачала сцяліцца новая – жоўтая, вузкая, па сярэдзіне. Яна ўжо выглядала жывой, таму што невядома адкуль бы сняжынкі плаўна апускаліся пялёсткі ці то ружаў, ці то макаў, і сцяліліся строга па вызначанай лініі.

І толькі тады ў праёме буса Юніцкі ўбачыў жанчыну ў белым адзенні – сукенку да падлогі. На галаве капялюш з вялікімі палямі, які брылём прыкрываў ці хаваў твар. Яна, стаўшы на парозе, прывітальна памахала рукой. У адказ і ён памахаў рукой, не зводзячы з яе вачэй.

Яна, Юніта, быццам знаходзілася на высокім балконе, а ён стаяў на зямлі і глядзеў на яе. Не хапала толькі гітары, каб ён распачаў спяваць ёй серэнады. Так падумаў пра сябе і ўсміхнуўся..

Яна зрабіла першы крок і ступіла адной нагой на першую прыступку. Потым стала і другой. Адной рукой яна падтрымлівала падол сукні, каб не наступіць на яе, а другой прыўзняла і прытрымлівала брыль капелюша, быццам баючыся, каб яе не сарваў з галавы вецер.

На імгненне яму падалося, што да яго спускалася Сюзана, – потым яна няўзнак ператварылся ў іншую жанчыну – Галіну, першую жонку, з якой даўно развіталіся, зноў стала Сюзанай, потым – роднай сястрой Тамарай, а пасля гэтага – у старэйшую дачку Насцю... Увесь час, як спускалася жанчына па прыступках дзівоснай лесвіцы, з твару не знікала загадкавая ўсмешка, яна ўся свяцілася, быццам яе пранізвалі промні нябачнага сонца... Яшчэ заставалася чатыры-пяць прыступак да парога станцыі "Надзея", а яна ўвесь час мянялася ў твары, прыводзячы яго ў недаўменне.

І толькі тады, калі сышла з апошняй прыступкі, стаўшы нагамі на зямлю, ператварылася зноў у іншую істоту, стала той, якую ён і не чакаў убачыць. Ад нечаканасці ён разгубіўся, сумеўся, сэрца здрыганулася і амаль не вырвалася з грудзей, не мог вымавіць ніводнага слова.

У той жа самы момант, калі яшчэ не ачомаўся Анатоль, аднекуль прыбег Боб Пол. Запыханы і ўзбуджаны, мокры з галавы да ног, здзіўлена глядзеў на сустрэчу Анатоля і Юніты, трымаў у руках букет з азёрных лілій з доўгімі светла-жоўтымі сцяблінамі. Зірнуўшы на яе без асаблівага здзіўлення, запытаўся:

– Ты – Надзея?

– Ты? – паўтарыў следам пытанне і Юніцкі.

– Так, сябры мае, так, я – вашая Юніта! – усклікнула яна радасна, падышла да мужа, абняла яго і горача пацалавала ў вусны.

Доўга не адрывалася ад яго, прымружыўшы вочы, тут жа ўзляцеўшы ў іншыя нябёсы, далей за сваю планету, атрымліваючы незвычайную нябесную асалоду кахання, і прамежак у хвіліну хапіла ім, каб не дыхаць, а толькі адчуваць, як яны зліваюцца ў нешта адзінае, як зліваецца планета Юніта з Зямлёй. А потым разняла рукі за шыяй Анатоля, адарвалася ад яго, трымаючы ўжо за плечы, пранізала яго таямнічым полымем-позіркам. І засмяялася, скрозь белыя пялёсткі веснавой квецені паказаліся паміж налітымі сокам вішні пульхныя вусны. – Бачу, што не чакалі мяне, не чакалі? Мо Сюзану хацелі бачыць, прызнавайцеся?

Яна паглядзела на Боба і разрагаталася. Ён выглядаў смешна – з яго сцякала вада, на адзенні ціна і азёрныя водарасці. Нават маленькія рыбкі падскоквалі ў адтапырынай кішэні, імкнучыся вырвацца на волю...

– Надзейка, мы не паспелі набыць для цябе ружы, бо і не ведалі, дзе іх можна набыць, таму я збегаў у бліжэйшае возера і нарваў для цябе гарлачыкаў. Уручаем іх табе.

Гаспадыня вясёла паглядзела на абодвух і, ўзяўшы ў рукі кветкі і абняўшы Боба, прамовіла:

– Дарагія мае, хлопчыкі! Мне ніхто і ніколі не дарыў такія цудоўныя кветкі, нават і сам пан-містар Юніцкі. Дзякуй, дарагі Боб! Яны так падыходзяць да маёй белай сукенкі.

І не зразумеў заакіянскі госць – іранізавала з гэтай нагоды Юніта-Надзея ці насамрэч ёй спадабаўся такі незвычайны імправізаваны букет, але ён на тое ўжо не звяртаў увагі, быў рады, што яны з Анатолем годна сустрэлі яе на арбіце далёкай планеты. А тое, як яна цалавала на сваёй планеце свайго спадарожніка жыцця, нельга было перадаць ніякімі словамі і выкласці сказы на паперы, – ніколі ў жыцці ён не бачыў такога пяшчотнага і душэўнага пацалунку, – ніводная зорка-акцёрка Галівуда не здольная паўтарыць і паказаць, прадэманстраваць той пацалунак, гэта звыш дасканаласці, сілы кахання і парыў душы і сэрца.

“Трэба прадаць Галівуду гэтую сцэну, якую я пастараўся запісаць буйным планам, нават вусны гаварылі чароўнае і патаемнае іх прыцягненне, – падумаў Боб Пол, усміхаючыся ад сваёй нечаканай думкі. – Нават толькі з-за аднаго гэтага класічнага пацалунка можна было адправіцца да Юніцкага. Няхай вучацца ў іх, як гэта здзяйсняецца без рэпетыцый і дубляў, – тады ўвесь свет паверыць, што існуе не кіношны пацалунак, а пацалунак сапраўднага кахання!”

– Мы стараліся, Юніта! – адрэагаваў радасна на яе жартоўны папрок

Боб. – Мы такія няўклюдныя, такія нясkладныя... Ты ўжо даруй нам, мы выправімся, станем іншымі...

Яна зноў рассмяялася, зноў раскрыла рукі, быццам крыламі лебедзя абняла іх абодвух, накрыўшы галовы шырокімі палямі капелюха, быццам вялізным парасонам схавала іх ад касмічнага дажджу, усклікнула:

– Наадварот, вы такія мілыя! Дзя-ку-ю!

*3*

Абдымкі разамкнуліся і Юніта адышла на крок ад сваіх гасцей – каб да іх ужо не дакраналіся брылі капелюха. Глядзела радасна і шчаслівa на іх, але не вытрымала, скінуўшы капялюх з галавы, зноў падышла да мужа і прыхінулася ілбом да яго скроні.

– Як жа доўга мы ішлі адно да аднаго, – прашаптала яна, – і як жа доўга твае мары набывалі крылы.

– Мы з табой два крылы ў маёй мары.

– Так, мой дарагі і каханы, мара заўсёды павінна мець крылы.

Сцэна выглядала інтымнай, і тут ужо Боб палічыў непатрэбным “здымаць”, адвярнуўся, пакінуў іх. Пайшоў да возера, у якім нядаўна выкупаўся, шукаючы белыя гарлачыкі для Юніты. Па возеры, перастаўляючы цыбатыя ногі, крочыў бацян, раз-пораз апускаў у ваду чырвоную дзюбу. Потым, выйшаўшы на бераг, узмахнуўшы крыламі, падняўся ў паветра. Боб прасачыў, куды ён паляцеў. Толькі цяпер убачыў, што на станцыі, з левага боку, знаходзілася буслянка. Бацян сеў на яе, вырыгнуў змесціва на буслянят, і потым, задраўшы дзюбу да неба, радасна заклекатаў, напамінаючы пра сябе. Яго клёкат разносіўся па прасторах дзіўнай мелодыяй, і гэта была мелодыя космасу.

А ўнізе, на зялёнай пляцоўцы, стаялі двое зямлянаў – ён і яна, – нешта гаварылі адно аднаму, не адрываючыся, не адводзячы позіркі. Боб не толькі не глядзеў на іх аб’ектывам сваёй патаемнай відэакамеры, а нават і адключыў дыктафон, які мог запісваць чалавечыя галасы за кіламетр. Ён умеў паважаць інтымнае жыццё іншых, і ніколі не пераступаў без дазволу парог дазволенага ўмяшальніцтва ў духоўную сферу і інтымнае жыццё чалавека.

*4*

І потым Боб Пол зробіць запісы ў сваім нябачным нататніку:

“Яны стаялі ў маўклівай позе і хвіліну, і дзесяць... Так, яны маўчалі. Таму што ў такіх выпадках гаварылі не вусны, а іх сэрцы. А кантралявала ўсё душа. А пачуць размову сэрцаў, тым больш закаханых, не дадзена нікому. Іх мог чуць толькі сам Бог.

– Не чуў таго і я. Але ведаў, пра што яны маглі гаварыць. Гэта асобая мова, унікальная, – мова закаханых сэрцаў. У ёй зліліся ўсе мовы свету. Яна аднолькавая ва ўсіх людзей на зямлі. І – у космасе. І тая мова не перакладаецца ні на якія іншыя мовы краінаў і народаў свету. Гэта зашыфраваны код, гэта і свабодная энергетыка тор, гэта і энергія сонца, якая перацякае па ягоных промнях, кручэнне па сваёй восі планетаў і галактык, гэта... Можна пералічваць і пералічваць магчымасці як даведацца і адшукаць праўду і ісціну, але ніяк нельга будзе ўкласці іх у мільёны і мільярды

старонак, каб дакапацца да сутнасці. Ды яна ўсё роўна не раскрыецца. Гэта тайна тайнаў. Як не адчыняць дзверы бяздонныя глыбіні космасу, які не мае нават адзінак вымярэння – глыбіні ці вышыні, не мае левага ці правага боку. Як паветра, якое нельга пакратаць рукамі і якое мы не бачым, толькі лёгкія яго адчуваць, прымаюць у сябе і прадаўжаюць даваць жыццё чалавеку...

Знаходзячыся напачатку на калязямной арбіце, а потым – на каля... Юніта, створаная ў думках і ўяўленні хлапчукоўскага розуму планета, то як абазначыць гэтую станцыю, – каляюнітнай? Ці – планетнаюнітнай? Так ці інакш, але мне хочацца сказаць, што тут зусім іншыя адчуванні і ацэнкі свайго жыцця. І не толькі свайго, а і ўсяго, што існуе вакол нас.

Тут неяк інакш і сэрца б'ецца ў грудзях – пульс аднолькавы і размераны. У галаве раўнамерна цякуць думкі, не апярэджваючы адзін аднаго, не так, як на зямлі, дзе ў галаве "каша" і не ведаеш, якую з тысячы праблемаў неабходна вырашаць. Так, тут і паветра іншае, касмічна-зямное, атрыманае з чыстых крыніцаў зямнога-незямнога быцця і планетаў. Яно не штучнае, утворанае дзівоснымі механізмамі, перапрацаванае і ўдасканаленае, а зрабілася "сваім", "мясцовым", "прыручаным". І прыбыло тое чыстае паветра з Юніты – самай чыстай і дасканалай планеты галактыкі.

Запабягаючы наперад, хочацца сказаць, што Юніта – унікальная з'ява, створаная думкаю вучонага, якая атрымала дабраслаўленне Стваральніка "ўсяго бачнага і нябачнага", якая матэрыялізавалася, стала бачнай і датыкальнай. На ёй, гэтай планеце, існуюць залатыя горы. Не жартую, бо так яно ёсць і сапраўды – менавіта залатыя горы. Яны не вымяраюцца ў тонах, бо ім няма ліку. І іх бляск пад промнямі сонца выпраменьвае – зноў жа! – цудадзейную энергію. Храмы створаны з золата, палацы, і нябачныя струнныя дарогі, па якіх рухаюцца-лётаюць вялікія і маленькія мабілі і юнібусы.

Золата на Юніце не мае кошту. І не служыць залатым запасам планеты. На Юніце больш пяцісот дзяржаваў, але між імі няма дакладных межаў. Кожная краіна мае сваю мову і культуру, але адзіная мова зносінаў з'яўляецца юніцкай. Юніта – юніцкая. Ніколі паміж краінамі не было ні звадак, ні спрэчак, ні войнаў. У думках кіраўнікоў і ў думках не было заваёўваць чужыя тэрыторыі і далучаць іх да сябе, ствараць нейкія саюзы і кангламераты. Не вынаходзілі грашовых адзінак , таму што яны нікому і не патрэбны былі – усё бескаштоўна, ніхто ні ад кога не залежаў ні ў эканамічным плане, ні ў духоўным. Зброі, як і арміі ўвогуле не існавала, нават атам не прыручалі, каб ён даваў энергію. У іх была іншая энергія – энергія тор, узятая з космасу, яна замяняла электрастанцыі, заводы і фабрыкі. Пра іх ніхто не ведаў А ведаў касмічную вытворчасць, да якой – выдаўжы руку і атрымаеш, колькі заўгодна, толькі стваральнік тае планеты.

І ў тым жа чыстым аазісе з чыстай вадой і паветрам людзі жылі па пяцьсот і больш тысячы гадоў. Не было і медыцыны і лекаў. Здаровых людзей лекаваць не трэба. А папярэдзіць нейкія сімптомы хваробы можна было пладамі лекавых дрэў.

Шмат цікавага і дзіўнага мы ўбачылі на планеце Юніта, гаспадыняй якой з'яўлялася жонка Анатоля Юніцкага – Надзея Косарава..."

... – Боб, ты дзе? – перапынілі мае думкі Юніта і Анатоль. – Зноў за гарлачыкамі палюеш?

Эйфарыя і радасць у іх ад сустрэчы вярнулася ў звычайны стан, і яны ўжо жартавалі, нават падколвалі па-сяброўску мяне. Штаны мае ўжо высахлі, як і я ўвесь, прынялі першапачатковы выгляд, ужо не сорамна было паказацца перад юнітанкай. Я нічога не адказаў, моўчкі накіраваўся да іх, ужо ўключыўшы камеру фіксавання падзей. Чуў, пра што гаварылі іх вусны і сэрцы.

Калі падышоў да іх і стаў побач, пацікавілася:

– Боб, а ці не жадаеш ты наведаць маю Юніту? Мы з генеральным канструктарам запрашаем цябе на яе прасторы.

Яна ўжо трымала яго пад руку, як бы падкрэсліваючы яднанне з ім, якое разарваць было немагчыма. І твары іх свяціліся шчасцем, і шчаслівей іх, мусіць, не было ва ўсёй галактыцы. І тое трэба было бачыць, і не толькі бачыць, а і павучыцца адначасова, як павінен выглядаць чалавек шчаслівы, каб дасягнуць такой дасканаласці і найвышэйшай асалоды ад свайго жыцця.

Я па-добраму зайздросіціў ім, зайздросціў і радаваўся за іх, што Бог надзяліў іх такім высокім пачуццём, і якое падараваў кожнаму з нас. Крыўдна хіба, што не ўсе мы ў поўнай меры і з жаданнем не выкарыстоўваем гэты дарунак Вышняга, не навучыліся быць паслухмянымі волі Божай, не да канца спасцiглі ўсе тайны і таінствы Вышэйшага Патрабавання. Мы чамусьці аказаліся няўдзячнымі вучнямі ў касмічнай школе.

– Так, Юніта, жадаю і вельмі жадаю здзейсніць падарожжа ў нязведаны свет, створаны Юніцкім і прадоўжаны табою. Прымаю запрашэнне!

Адчуваў, што наступаў урачысты момант, падзея, з’ява, таму падышоў да Гаспадыні і стаў побач з ёю. Яна, узяўшы і мяне пад рукі, павярнула нас да прыступак, па якіх сышла да нас. Яна і зрабіла першы крок да чырвона-жоўтай дарожкі. Ступіла на першую прыступку, следам за ёй зрабілі крок і мы. Другая прыступка, трэцяя, пятая, дваццатая... Мы ўздымаліся вышэй і вышэй. І за намі сачыў месяц і сонца, сузор’і і планеты, суправаджалі, несучыся пад намі і над намі, памаранчава-зялёныя шары, люструючы чароўнае і супакойваючае святло. Ішлі моўчкі, быццам баючыся парушыць касмічную цішыню, не парушаючы мелодыі ўрачыстага моманту.

Анатоль злева, а я – справа, пасярэдзіне, накрыўшы нашыя галовы палямі капелюша, урачыста вяла нас да сябе Юніта-Надзея. Прыступак аказалася значна больш, чым мы бачылі да гэтага, – недзе на двухсотай мы ўзышлі на пляцоўку яе транспарту. Яна вызвалілася з нашых рук, павярнулася і паглядзела ўніз, адкуль мы прыйшлі. Памахала некаму рукой.

Падляцелі да нас бусел і бусліха, павярнулі галовы ў наш бок і нырнулі ўніз.

У той жа момант пачала ўцягвацца ў нішу пад намі кілімавая дарожка і схавался. Мы павольна пачалі аддаляцца ад станцыі “Надзея”, несучыся ў неаглядны космас, бачачы, як станцыя запалілася сотнямі агнёў. Яны пачалі пераміргвацца між сабою, быццам дасылалі нам развітальны сігнал, запрашаючы нас праз нейкі час вярнуцца назад...”

А далей... Што было далей, і што было і да гэтага, я падрабязна напішу ў сваіх кнігах, якія пішуцца штохвілінна, не перастаючы. Потым я аддам іх на ваш суд. Дамовіліся?

**Да ведама**

*Анатоль Юніцкі. Нарадзіўся ў г.п. Камарын на Гомельшчыне 16 красавіка 1949 года. У 1967 годзе паступіў у Цюменскі індустрыяльны інстытут. Пасля інстытута і службы ў войску працаваў у дарожна-будаўнічым трэсце №2 Гомеля на пасадзе тэхніка, інжынера, старшага інжынера. З 1977 па 1985 гады, 1987-1988 – старшы інжынер, вядучы інжынер, кіраўнік патэнтна-ліцэнзійнай службы Інстытута механікі металапалімерных сістэмаў Акадэміі навук БССР (Гомель).*

*У 2002 годзе абараніў доктарскую дысертацыю па тэме "Струнныя транспартныя сістэмы – новыя тэхналогіі ў наземным транспарце" ў Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій (Мінск).*

*З 2004 года – генеральны дырэктар – генеральны канструктар ТАА "Струнны транспарт Юніцкага".*

*Аўтар, вынаходнік, распрацоўшчык і генеральны канструктар дзвюх прынцыпова розных транспартных сістэмаў: наземнай – Струнны транспарт Юніцкага (СТЮ, распрацоўка здзяйсняецца з 1977 г.) і касмічнай – неракетная транспартная сістэма для асваення калязямной касмічнай прасторы (Агульнапланетны транспартны сродак – АТС, распрацоўка з 1977 г.)*

*Сёння – генеральны дырэктар – генеральны канструктар ТАА "Струнны транспарт Юніцкага", што знаходзіцца ў Мінску.*

*Талака ўсяго свету і інвестары сабралі грошы, каб распачаць будаваць струнны транспарт, і найперш на месцы танкавага палігона каля Мар'інай Горкі пад Мінскам пабудавалі экатэхнапарк, дзе дэманструюць і выпрабоўваюць на струнных трасах юнібусы і юнібайкі, іншыя бусы для перавозкі пасажыраў і цяжкіх грузаў.*

*У Аб'яднаных Арабскіх Эміратах пабудавана струнная дарога...*

*Выказалі жаданне пабудаваць такія трасы Індыя і Аўстралія, на чарзе іншыя краіны. З цягам часу Анатоль Юніцкі аблытае зямны шар такімі зручнымі і неабходнымі, таннымі і звышсучаснымі нябеснымі дарогамі, так неабходнымі чалавецтву.*

паэзія

Усевалад Сцебурака



...у рабстве
няма геройства....

# Ты мне скажы...

## СУЗОР'І

Нідзе
так
не стаіць Воз,
як над закінутай хатай.
Нідзе
так
не сумуе Серп,
як над полем нязжатым.
Нідзе
так
не гарыць Маладзік,
як у дзедавым садзе.
Нідзе
лепшага месца няма
зорцы, калі яна ўпадзе.

Паўсюль на гэтай адвечнай зямлі
на ручніках сузор'і
і ў полымі, кроплях, слядах на раллі,
ў марозным ачэзлым голлі.

Ціша стаіць, ці б'юць званы,
праз балаты ці ўзгоркі
над гэтым краем стаяць яны –
беларускія зоркі.

* * *

Жоўты ліст адлятае
не злавіць, не паспець.
Зноў ідзе залатая
штогадовая смерць.

У высокіх нябёсах
уздыхнуць журавы.
Крокі памяці босай
не ідуць з галавы.

Хутка ў шыбы начныя
хукне белым зіма.
Толькі б ведаць, што гэта
ўсё было недарма...

* * *

Ходзікі старэнькія,
ночкі карагодныя.
Паўкраіны згоднікі,
паў – неверагодныя.
На праспекце сталінкі,
пенсіі падвойныя.
Хто ідзе ў этапнікі,
нехта – у канвойныя.
Чаравічкі модныя,
чысценькія ходнічкі.
Гэтыя падсудныя,
гэтыя ахоўнічкі.
Лейтэнант у двор глядзіць –
п'е і не спыняецца...

Многія ўжо сядзяць,
іншыя – збіраюцца.

*(Вольны пераклад верша “Позапрошлая песня” Роберта РАЖДЗЕСТВЕНСКАГА).*

* * *

Хто адшукае, хто пазнаходзіць
сённяшні час, што імкліва сыходзіць...
Ці захавае час таямніцу,
тую, што ў ночы бяссонныя сніцца?..
Сніцца цяпер нам
з-за межаў, з-за кратаў,
цьмяным набыткам
і горкаю стратай.
Час, у якім
мы жывем і гарым,
час, што знікае,
як водар, як дым.
Дзе яго месца
ў архіве стагоддзяў?
Ці пажылі-патрывалі –
і годзе?
Ці перакрочылі,
ці на мяжы?
Ты адчуваеш? –
ты мне скажы.

### ***ВЕЧНАЯ МЕРЗЛАТА***

Нехта піша, што снег ідзе –
я гляджу і не бачу
дзе?
Гэта попел
свой грым кладзе.
Ён на скронях
і на вадзе.
Нехта кажа:
узяў мароз.
Гэта жах,
што працяў наскрозь.
Ён працяў,
запаволіў рух,
сэрцабіцце
і сілу рук.

Нехта кажа:
прыйшла зіма.
Але й гэта, кажуць, дарма.
Мы даўно,
нібы снежны ком,
і жывем, як пад ледавіком...

* * *

Рабоў не чакаюць ў раі
Рабоў чакаюць пакуты.
Не рабству Той вас вучыў,
Хто быў да крыжа прыкуты.

Рабоў не ўшануюць ў раі.
У рабстве няма геройства.
Там роспачы па краі
і лёзы згрызотаў гойстрыя.

Рабоў не ўспомняць пасля,
на трызне ўзгадаюць смелых,
ім будзе лягчэй зямля
ад пёраў анёльскіх белых.

Рабы не пакінуць след
на гэтых шляхах адвечных.
Ім не адгукнецца сусвет
і зоры на Шляху Млечным.

* * *

Калі ўсё прамінецца і межы адчыняцца,
і зямныя вароты,
і вышняя брама,
як злачынцы сабе ад душы адзлачыняцца,
і бязгрэшных нарэшце папусціць таксама,

як зямля пачне дыхаць і без вентыляцыі,
а да нас прыйдзе восень у барве і золаце,
я знарок і насуперак рацыі
засумую па цішы
у свеце
і ў горадзе...

* * *

На шляху сняжок, завейка.
А наперадзе –
Вялейка!
Думкі мкнуць хутчэй за кулі –
да татулі і матулі!
Рэчка, мосцік праз Вяллю –
Тут усё, што я люблю:
лёд, на скрынках рыбакі,
з агародамі дамкі.
Пляц, фантан, царква, кірмаш,
выканкам, пры ім – гараж.
Побач –
Ільіча стат*у*я,
ля яго на варце – туя.
Лазня з комінам, кацёл,
з гожай вежаю касцёл.
Пошта, могілкі, бальніца...
Як пералічыць, не збіцца?
ЗАГС, радзільня, ветаптэка,
парк, у парку дыскатэка,
бар, цырульня і вакзал...
Збольшага усё назваў.
Пад'язджаю –
вось і хата.
Сустракайце, маці-тата!

## *БАЛАДА ПРА ВЕРАСОВЫ МЁД*

Той трунак верасовы
вядомы быў здаўна –
ад мёду саладзейшы,
п'янчэйшы ад віна.
Майстры яго варылі,
і потым той напой
утойваўся імі
ў пячорах пад зямлёй.

Прыйшоў кароль шатландскі,
і палілася кроў –
ён нішчыў племя піктаў,
цкаваў, нібы звяроў.
І па чырвоных ўзгор'ях
пагоня гнала іх,

пакуль не сціх апошні
людзей маленькіх уздых.

Лета ізноў у краі,
верас барвай гарыць.
Ды толькі няма нікога,
хто можа той мёд варыць.
У магілах безыменных,
у мясцінах, дзе паляглі,
маленькія медавары
ляжаць у сваёй зямлі.

Па верасовай пустцы
едзе кароль на кані,
пчолы гудуць трывожна,
плача кулон* ў вышыні.
Едзе кароль, злуецца:
хіба ўсё дарма?
Над верасам я паную
а мёду з яго няма!

І тут жа яго васалы,
хто побач быў на кані,
пільна ізноў абшукалі
пусткі і камяні.
Знайшлі яны двух апошніх,
на чый патрапілі след, –
пікт бацька і сын-падлетак
выйшлі з пячоры на свет.

Кароль паглядаў звысоку
на гэтых дваіх на зямлі,
а пікты зацята маўчалі
пры свіце і каралі.
Падводзяць абодвух да прорвы,
мора ўнізе шуміць:
“Свабоду даруем за веды,
як з верасу мёд варыць!”

Спакойна стаялі абодва,
стары пікт і пікт малы,
верас гарэў на ўзгорках,
унізе грымелі валы.
І раптам прамовіў бацька,
і стала вакол цішэй:

“Я маю сказаць два словы
для каралеўскіх вушэй!”

“Старэйшым жыццё дарагое –
я кожную хвілю люблю
і мёду сакрэт адкрыю!” –
прызнаўся ён каралю.
Голас яго то цішаў,
то набіраў уздым:
“Я навучу варыць вас,
ды не пры сыне маім!

Хлопцу жыцця не шкода
і галавы на плячах...
Але я страчу гонар
цяпер у яго вачах.
Скіньце яго са стромы
уніз, дзе шуміць прыбой.
Слова сваё стрымаю –
будзе ў вас напой!”

Хлопца тады схапілі,
рукі сцягнулі вузлом,
уніз штурхнулі з абрыва
у мора на згубу і злом.
Мора накрыла хваляй,
крык у глыбінях знік,
і прагучалі словы,
што мовіў апошні пікт.

“Праўду тады сказаў вам:
гарачы народ малады!
Тым не стае загартоўкі,
хто не галіў барады.
А я не баюся пакутаў,
не страшаць агонь і лёд.
Няхай са мной памірае
мой верасовы мёд!”

*(Пераклад з ангельскай мовы
балады Роберта Льюіса СТЫВЕНСАНА).*

---

* Кулон – від птушак з сямейства бакасавых.

Віктар Варанец



...гэта наш апошні шанец пакінуць сталіцу
і застацца жывымі...

# Гарачы хлеб

***Апавяданне***

Ірына блукала па пакоях вялізнага палаца, нервова пазіраючы на шматлікія гадзіннікі, што стаялі на падлозе, століках, віселі на сценах. Ужо дзве гадзіны як Фелікс, яе каханы муж, павінен быць дома. На вуліцы добра сцямнела, там-сям чуліся стрэлы, крыкі, рэзкія каманды. Восенню 1917 года ў Петраградзе было неспакойна, і таму Ірына не знаходзіла сабе месца. Але вось заблямкаў званочак на ўваходзе, пачуліся крокі пакаёўкі, якая кінулася адчыняць дзверы, і праз хвіліну ў пакой увайшоў высокі, хударлявы, стройны, з іканапісным тварам візантыйскага пісьма мужчына. Князь Фелікс Феліксавіч Юсупаў, граф Сумарокаў-Эльстан. Ірына Аляксандраўна, дачка вялікага князя Аляксандра Міхайлавіча і вялікай княгіні Ксеніі Аляксандраўны, сястры Мікалая II, са слязьмі на вачах кінулася мужу на шыю.

– Фелікс, ну як так можна, я ўся на нервах! Дзе ты быў? Штосьці здарылася?

Юсупаў пяшчотна пагладзіў жонку па валасах, узяў пад руку і пасадзіў у глыбокае крэсла. Сам сеў насупраць і доўга, цёпла глядзеў на сваю Ірыну. Тая пад яго закаханым позіркам паступова пачала супакойвацца.

– Ірына, – мякка загаварыў Фелікс. – Вось што я сёння ўбачыў у "Петраградскіх навінах".

Ён разгарнуў газету і ўголас прачытаў:

– "Князь Юсупаў схоплены і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць". Як табе такі пасаж?

Ірына прыклала далоні да шчок, не ў стане што-небудзь вымавіць.

Князь узяў яе рукі ў свае.

– Паслухай мяне ўважліва і пастарайся зразумець. Часовы ўрад сёння-заўтра будзе скінуты. Гэта ўжо факт. Усе дзяржаўныя пасады зоймуць камісары-габрэі з рускімі псеўданімамі. У сталіцы поўны вэрхал. Скажу табе па сакрэце, імператрыца Марыя Фёдараўна, вялікі князь Аляксандр Міхайлавіч, вялікая княгіня Вольга Аляксандраўна з мужам тайна ад'ехалі ў Крым у суправаджэнні адданага атрада сапёраў. Сёння апоўначы туды ж адпраўляецца спецыяльны цягнік з рэчамі імператарскай сям'і. Я дамовіўся, і да цягніка прычапілі пасажырскі вагон. Гэта наш апошні шанец пакінуць сталіцу і застацца жывымі.

Княгіня прыпала галавой да пляча Юсупава і гучна заплакала.

Фелікс прыабняў жонку за плечы:

– Збярыся, Ірына. Не час на слёзы. Ты павінна захаваць мужнасць і вытрымку.

– Я толькі слабая жанчына, – праз слёзы прамармытала Ірына. – Я не хачу быць мужнай і вытрыманай. Я хачу жыць як раней.

– Хутка гэта ўсё скончыцца, – пачаў супакойваць яе Фелікс, – і мы абавязкова зажывём як раней. Толькі перавешаем гэтую чэрнь.

Ірына з жахам зірнула ў вочы мужа.

– Так, Ірына, абавязкова перавешаем. А зараз збірай рэчы і рыхтуйся да ад'езду. Часу засталося не так шмат. А мне яшчэ трэба многа чаго зрабіць.

Князь Юсупаў накіраваўся ў свой кабінет, дзе яго даўно чакаў слуга Рыгор. Пры з'яўленні гаспадара ён ускочыў з крэсла і нізка пакланіўся.

– Сядай, Рыгор, – паказаў рукой на крэсла Юсупаў. – Хачу даручыць табе адну вельмі важную і нават небяспечную для жыцця справу. Але ты, Рыгор, самы адданы чалавек нашай сям'і, і гэты сакрэт я магу даверыць толькі табе.

– Я слухаю, ваша міласць! – зноў ускочыў слуга.

– Не скачы, калі ласка! – зморшчыўся Юсупаў. – Сёння ты сядзеш у цягнік і даедзеш да Вільні. Там да цябе ў купэ зойдзе чалавек і запытае: "Вам гадзіннік фірмы Павел Бурэ патрэбны?" Ты адкажаш: "Толькі 1900 года". Цалкам падпарадкоўвайся яму. Гэты чалавек даставіць цябе ў Швейцарыю, дзе ты і будзеш чакаць майго прыезду. І ведай: твая адданасць будзе добра ўзнагароджана ў Швейцарыі.

– А як доўга мне трэба будзе чакаць вас? – запытаўся слуга.

– Думаю, тры-чатыры тыдні. Жыць будзеш у гатэлі, саквояж здасі там жа ў сейф. Пражыванне, харчаванне аплочана. Вось табе новы пашпарт і грошы на дробныя выдаткі.

І Юсупаў працягнуў тоўсты партманэт. Рыгор яшчэ раз зірнуў адданымі вачыма на князя, цяжка ўздыхнуў і ўзяў кашалёк і дакументы.

“Дзякуй Богу, хоць у гэтым чалавеку я магу быць упэўнены”, – падумалася Юсупаву.

Князь сапраўды пра ўсё паклапаціўся. Ён выкупіў для Рыгора цэлае купэ, і слуга ехаў, як важны вяльможа: адзін у двухмесным купэ, на століку стаяў вялікі кош з правіянтам (каб нікуды не выходзіў з купэ па харчаванне), літровая бутля з гарэлкай, бутэлькі з квасам, вадой. У скрыні пад лавай, на якой сядзеў Рыгор, стаяў саквояж (хаця па памерах яго можна смела назваць чамаданам). Мужчына ў задуменнасці гартаў свае новыя дакументы на імя Веласа Івана Іванавіча. Паклаўшы пашпарт на стол, ён падняўся, зачыніў дзверы купэ і выцягнуў з-пад лавы саквояж. Замок яго быў зачынены. Рыгор усміхнуўся, дастаў з кішэні невялічкую звязку ключоў, адмычак, выбраў патрэбную і пачаў паволі корпацца ў замку. Праз хвіліну пачуўся лёгкі шчаўчок – і саквояж адкрыўся. Рыгор высыпаў усё змесціва на суседнюю канапу і міжволі прысвіснуў: смарагды, сапфіры, дыяменты, рубіны ў срэбры і золаце, каштоўныя брошкі, дыядэмы, калье зіхацелі і пераліваліся, гіпнатызуючы сваёю прыгажосцю. Гэта былі не проста каштоўнасці, а сапраўдныя шэдэўры ювелірнага мастацтва. Рыгор, праўда, у такіх справах не быў вялікім спецыялістам, але нейкі ўнутраны голас падказваў, што Юсупаў не будзе імкнуцца пераправіць у Швейцарыю звычайныя залатыя цацкі. Таму ён акуратна склаў скарбы назад у саквояж, зачыніў і паставіў яго на месца. А сам задаволена адкінуўся на спінку канапы.

Так, час быў патрачаны недарэмна. Чатыры гады назад дваццацічатырохгадовы ўраджэнец невялічкага правінцыяльнага гарадка Гродна, што месціцца ў самым дальнім куточку Паўночна-Заходняга краю Расійскай імперыі, Рыгор Панасавіч Салавей прыехаў у Санкт-Пецярбург, каб уладкавацца на працу. Беларусаў ахвотна наймала сталічная арыстакратыя ў слугі, пакаёўкі, эканомы, паколькі тыя былі заўсёды сумленнымі, рахманымі і адданымі сваім гаспадарам. Грышка, пахадзіўшы пару дзён у тракцір “Завея”, дзе любілі адпачываць ад цяжкай працы беларусы, усталяваў добрыя адносіны з землякамі і праз аднаго з іх уладкаваўся слугой да Фелікса Юсупава. Увішны, нястомны, са спрытнымі ўмелымі рукамі, Салавей спадабаўся маладым гаспадарам і ўжо праз год стаў самай даверанай асобай з усёй прыслугі ў Фелікса Феліксавіча.

– У ім я ўпэўнены як ў сабе! – не раз казаў Юсупаў знаёмым. Грышка, калі чуў такія словы, толькі апускаў долу вочы і сціпла ўсміхаўся. Зразумела, князь не ведаў, што ў сваім родным Гродне Грышка Салавей таксама быў вельмі вядомай асобай. Нягледзячы на малады ўзрост, ён у крымінальным асяроддзі лічыўся самым умелым “медзвяжатнікам”, для якога не існавала ў свеце сейфаў, што нельга было б узламаць. Чатыры гады Грышка аддана служыў Юсупавым, добра ведаючы, што прыйдзе дзень, калі яго цярпенне і праца будуць добра аплочаны. Праўда, увесь гэты час Салавей паступова падбіраўся да сейфа Юсупава, але бачыш, як распарадзіўся лёс: скарбы самі прыйшлі ў Грышкавы рукі.

На станцыі Дзвінск Салавей з саквояжам у руках выйшаў з вагона і пакрочыў у накірунку вакзала. Вільня ніяк не ўваходзіла ў планы хлопца. Яму трэба трапіць у Маладзечна, а там з дапамогай добрых знаёмых перабрацца праз нямецкую лінію акупацыі ў родны Гродна. Хто яго там знойдзе? У касе Рыгор пацікавіўся, ці ходзяць яшчэ цягнікі на Маладзечна. Удача, безумоўна, была ў той дзень на баку хлопца, бо да адпраўлення цягніка на Маладзечна заставалася адна гадзіна, і білет у касе таксама быў...

Мікіта Балько сядзеў у невялікай чытальнай зале абласной бібліятэкі зусім адзін, калі не лічыць немаладую па знешнім выглядзе супрацоўніцу. Зрэшты, так было і ўчора, і пазаўчора. 1991 год быў не самым спрыяльным годам для навуковай дзейнасці. Сябры па юрыдычным факультэце вольны час трацілі з большай ахвотай на паездкі ў суседнюю Польшчу, каб зарабіць пару даляраў на якое адзенне ці абутак, або лёталі па чэргах, прадаючы іх потым больш заможным людзям. Жыць на стыпендыю было немагчыма. Вось усе і круціліся. Якая ж тут навуковая бібліятэка? Мікіту ў гэтым плане пашанцавала. Бацькі жылі пад Ваўкавыскам, мелі свой дом, агарод, гадавалі свіней, трусоў, гусей, не шкадуючы сіл, каб адзіны сынок атрымаў добрую адукацыю і выйшаў у людзі. Балько любіў вучыцца, а сялянская жылка ўсё даводзіць да лагічнага канца спадабалася загадчыку кафедры крымінальнага права і крыміналістыкі. Ён і прапанаваў студэнту заняцца навукай.

– Разумееце, Мікіта, гісторыя развіцця грамадства падказвае, што часы ператрусаў абавязкова заканчваюцца, і грамадству спатрэбяцца не столькі гандляры, колькі навуковая эліта. За гэты раздрайны перыяд вы можаце закончыць універсітэт, паступіць у аспірантуру і абараніць дысертацыю. Задаткі дзеля гэтага ў вас ёсць, працалюбства прысутнічае, чаму б не паспрабаваць?

На мінулым тыдні навуковы кіраўнік даў Мікіту заданне сабраць матэрыял па гісторыі крымінальных спраў у Гродне першай паловы дваццатага стагоддзя. І цяпер хлопец перагортваў старонкі гарадзенскай газеты “Grodner Express” за 1936 год, з цяжкасцю перакладаючы з польскай мовы крымінальныя навіны. І тут яму на вочы трапіў невялічкі артыкул “Tajemnicza śmierć we własnym domu”. Мікіта пачаў уважліва чытаць.

“28 жніўня ў сваім доме на вуліцы Грандзіцкай быў знойдзены прыслугай труп вядомага мецэната, прамыслоўца і грамадскага дзеяча нашага горада Яна Веласа. Цела забітага са шматлікімі колатымі ранамі ляжала каля стала ў працоўным кабінеце. Тут жа стаяў адчынены пусты сейф. Навокал бачны сляды рабавання: выцягнутыя і вытрасеныя шуфлядкі, кінутыя на падлозе рэчы. Відавочна, што забойства звязана з абрабаваннем. Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў паліцыі, у гэтай справе застаецца шмат загадкавага: што азначае выпалены на задняй сценцы сейфа надпіс “Скарбы не ў сейфах, яны ў роднай зямлі! Толькі трэба пакланіцца”; адкуль узяўся пашпарт 1913 года з фотаздымкам забітага, выпісаны на Салаўя Рыгора Панасавіча; якім чынам у кішэні забітага аказалася дыядэма з надпісам “Каханай Ірыне ад мужа. Князь Юсупаў”; чаму ў крыві Яна Веласа, пры такой колькасці колатых ран, эксперты знайшлі наяўнасць цыяністага калію? Ян Велас валодаў вялікай калекцыяй упрыгожванняў з каштоўных матэрыялаў і камянёў. Паліцыя лічыць, што гэта і магло паслужыць прычынай абрабавання і забойства. Ян Велес жыў у сваім доме на Грандзіцкай вуліцы адзін. Як высветлілі нашы карэспандэнты, нашчадкаў у забітага няма. Следства працягваецца”.

Мікіта адсунуў газету і на хвіліну задумаўся. Нешта вельмі знаёмае прамільгнула ў гэтым артыкуле. Але што? Балько зноў схіліўся над газетай, прабягаючы вачыма па выцвілых ад часу радках. “Так, Ян Велас, вуліца Грандзіцкая, сейф, надпіс, калекцыя, пашпарт, Рыгор Салавей, нашчадкі... Стоп!”

Мікіта ажно падскочыў у крэсле. Рыгор Салавей! Гэтае прозвішча ён

сустракаў зусім нядаўна. І нават рабіў нейкія выпіскі. 1913 год, Гродна... Так, інфармацыя была ў "Гродзенскім весніку". Здаецца, пра абрабаванне нейкага купца. Трэба бегчы ў інтэрнат і падняць свае запісы.

Мікіта хуценька сабраўся і накіраваўся дахаты. У пакоі нікога з суседзяў не было. Яно і зразумела: вечар пятніцы, які дурань будзе сядзець у чатырох сценах. Хлопец дастаў з паліцы тоўсты сшытак, сеў на ложак і пачаў гартаць. Ага, вось гэты запіс. "7 студзеня 1913 года быў азмрочаны ў Гродне дзвюма прыкрымі здарэннямі. Уначы невядомыя абакралі дом купца Іосіфа Індурскага па вуліцы Паліцэйскай, 5. У адсутнасці сям'і пацярпелага злодзеі ўзламалі сейф з вельмі складаным замком і выкралі, па інфармацыі самога Індурскага, амаль дзевяць тысяч рублёў, падрыхтаваных для пакупкі новага памяшкання пад краму. А ўжо раніцай паступіла інфармацыя ў пажарную каманду горада, што на вуліцы Грандзіцкай, 29 гарыць прыватны дом. Калі пажарныя прыбылі на месца пажара, іх сустрэла толькі папялішча, а сярод вуглёў і попелу ляжалі абгарэлыя косці невядомага. Паліцыя лічыць, што гэта, магчыма, рэшткі гаспадара дома Рыгора Салаўя, які па неасцярожнасці ўчыніў пажар і згарэў у сваім доме. Цікавая інфармацыя: па звестках паліцыі Рыгор Салавей быў вядомы ў крымінальным асяроддзі як вельмі таленавіты "медзвяджатнік" – спецыяліст па ўзломе сейфаў. Верым, што следства разбярэцца з гэтымі абедзвюма таямнічымі справамі".

Усё гэта вельмі зацікавіла Мікіту. Ён узяў чысты аркуш паперы, аловак і пачаў маляваць кругі, разважаючы ўслых.

– Вось гэта Ян Велас, які жыў на вуліцы Грандзіцкай, 29. А гэта Рыгор Салавей, які таксама жыў на Грандзіцкай, 29. Ян і Рыгор – адна і тая ж асоба, гэта несумненна. І жылі яны ў адным і тым жа месцы, толькі з розніцай у дваццаць гадоў. І дома Рыгора не засталося. Значыць, можам дапусціць, што Салавей інсцэніраваў сваю смерць і знік з горада. А праз 20 гадоў ён зноў жыве ў Гродне, вядомы прамысловец і мецэнат, і нават пабудаваў дом, як я разумею, на месцы спаленага. І дзе гэта ён быў і якім чынам так хутка разбагацеў? Гэта пытанне.

Мікіта адкінуўся на спінку крэсла і пачаў інтэнсіўна грызці аловак.

– Патрэбна нейкая зачэпка. Дзе яму выдалі пашпарт на новае імя? А Бог яго ведае, пакольні пашпарта, хутчэй за ўсё, ужо не пабачыць. Што яшчэ? Ага, там нешта гаварылася пра дыядэму.

Бальку вянуўся да сваіх запісаў.

– Так, вось яна: дыядэма з надпісам "Каханай Ірыне ад мужа. Князь Юсупаў". Дзе звычайны чалавек мог здабыць такую дыядэму? Толькі ў самога Юсупава: або скраў, або той (што малаверагодна) яму падарыў. Узнікае пытанне: а ці мог Салавей пабываць у Пецярбургу і наведаць Юсупава?

Мікіта напісаў на лісце вялікімі літарамі гэтае пытанне. Пасля чаго стаў запісваць магчымыя варыянты адказу.

1. Яны былі знаёмыя, і Рыгор завітаў у госці, дзе атрымаў дыядэму – абсурд!

2. Салавей даведаўся пра дыядэму, прабраўся ў палац Юсупавых і выкраў дыядэму – чыста тэарэтычна магчыма, але на практыцы не ўяўляю, як гэта магчыма.

3. Выйграў у іншага злодзея ў карты або ўкраў – вельмі верагодна!

4. Служыў у ВЧК і прыхапіў з канфіскату – за такі кароткі час не паспеў бы ўладкавацца, прыняць удзел у пагромах ды яшчэ і патроху красці.

І дзе шукаць канцы? Мікіта ў задуменнасці паблукаў па пакоі і спыніўся каля акна. Па вуліцы ішоў з дзвюма торбамі нейкі мужчына, а за ім – кабета, жартаўліва падштурхоўваючы таго ў плечы. Абое пры гэтым гучна рагаталі.

“А што, калі...?”

Хлопец хуценька апрануўся, запіхнуў ногі ў чаравікі і пабег ва ўніверсітэт, да якога, дзякуй Богу, было метраў дзвесце ад інтэрната. На шчасце, навуковы кіраўнік быў яшчэ на працы, чытаючы ў кабінеце нейкі артыкул.

– Добры дзень, Іван Іванавіч! Як добра, што я Вас застаў.

Кірвель зняў акуляры і зацікаўлена зірнуў на хлопца.

– Канечне, добра, бо я так разумею, што да мяне ёсць важная справа? – адказаў ён.

– Так, Іван Іванавіч, вельмі важная. Нават не справа, а просьба.

– Слухаю вас, малады чалавек.

І Мікіта расказаў навуковаму кіраўніку пра свае знаходкі і вывады.

Але, на дзіва, гісторыя не зрабіла вялікага ўражання на Кірвеля.

– Гіпотэза цікавая, але мне падаецца неперспектыўнай. Па-першае, справы далёкага мінулага; па-другое, і зачэпак асаблівых няма; па-трэцяе, шкада будзе змарнаванага часу. А ў вас, Мікіта, навуковая праца яшчэ далёка не зробленая.

– Іван Іванавіч, я паспею. А ўявіце, якая будзе бомба, калі я раскручу гэтую справу. Мая навуковая праца адразу ж узрасце ў сваёй значнасці.

– Добра, – уздыхнуў Кірвель, – а чым я магу дапамагчы?

– Вы казалі, што калі спатрэбіцца, можаце выйсці на Ленінградскі гістарычны архіў.

– Так, – пагадзіўся дацэнт, – магу. Там працуе мой аднакурснік.

– Іван Іванавіч, а ці не мог бы ён паглядзець архівы Фелікса Юсупава. Ці не сустракаецца там у перыяд з 1913 па 1918 год імя Рыгора Салаўя? Верагодней за ўсё сярод слуг, дворнікаў, не ведаю, садоўнікаў.

– Добра, Мікіта, – пагадзіўся Кірвель, – я сёння патэлефаную. Але глядзіце, праз тыдзень першая частка запланаванай працы павінна ляжаць у мяне на стале. А ў дэтэктывы пагуляеце на пенсіі.

Прайшоў тыдзень, калі Мікіта адчуў, што больш чакаць не ў змозе, і пайшоў на кафедру да свайго навуковага кіраўніка.

– Ну што, Мікіта,– з ледзь прыхаванай іроніяй прамовіў той, – віншую: інтуіцыя, такая патрэбная рэч у працы следчага, у вас сапраўды прысутнічае.

– А што, ёсць вынікі? – усхвалявана запытаў хлопец.

– Так, сапраўды, – дацэнт выцягнуў з папкі на стале нейкую паперыну, – у Фелікса Юсупава служыў з 1913 года выхадзец з Паўночна-Заходняга краю імперыі, нейкі Рыгор Панасавіч Салавей. Знік разам з князем і юсупаўскімі каштоўнасцямі ў 1917 годзе. І калі праз год князь усплыў у Парыжы, пра Салаўя ніхто нічога больш не чуў. Дарэчы, тады ж прапала частка фамільных каштоўнасцяў Юсупавых. Больш за тое, мой аднакашнік паведаміў, што ў мемуарах Юсупава, выдадзеных у Францыі, узгадваецца твой Салавей. Князь піша, што даверыў таму перавезці нейкія важныя рэчы, але на цягнік пад Вільняй напалі салдаты-дэзерціры, шмат каго забілі. Астатніх абрабавалі. Верагодна, што і ваш Салавей загінуў, адстойваючы маёмасць князя, паколькі Юсупаў адзначае, што Салавей быў самым адданым і надзейным слугой.

– Іван Іванавіч, – горача ўсклікнуў хлопец, – Салавей не загінуў! Ён скраў рэчы Юсупава і спакойна вярнуўся ў Гародню. А тут грамадзянская вайна, акупацыя горада немцамі, потым палякамі. Ён жа вопытны злодзей, і мог спакойна прыстасавацца да любой улады. Адсюль і раптоўнае багацце, і мецэнацтва, і павага гараджан. Ён паціху прадаваў скарбы Юсупавых. І дыядэма ў кішэні таму доказ.

– Добра, Мікіта, пераканалі, так усё і было, – усміхнуўся Кірвель. – Засталася дробязь: адшукаць схаваныя скарбы. Вось гэтым і зоймецеся, як здасцё мне першую частку навуковай працы. Мяркую, вы памятаеце пра нашу дамову?

Ужо другую гадзіну сядзеў Мікіта Балько ў парку Жылібера, старанна пракручваючы размову з навуковым кіраўніком. Так, усё нарэшце цудоўна склалася ў адзіны малюнак. Салавей абрабаваў Іосіфа Індурскага і, разумеючы, што падазрэнне перш за ўсё ўпадзе на яго, з'ехаў у Пецярбург: вялікі горад, згубіцца там прасцей за ўсё. Для ўпэўненасці зымітаваў сваю смерць. План абрабавання якога-небудзь багатага арыстакрата хутчэй за ўсё быў распрацаваны ўжо даўно. І вось Рыгор у Юсупавых. Уваходзіць у давер – і атрымлівае магчымасць завалодаць гаспадарскімі каштоўнасцямі. Вяртаецца дадому (хаця гэта не зусім лагічна: а раптам пазнаюць знаёмыя, суседзі) – настальгія, відаць, уласціва ўсім, нават бандытам. Перачакаў ліхалецце вайны, акупацыі, а затым становіцца прамыслоўцам і магнатам: калі ёсць грошы, будзе і павага. Але дзе асноўная частка багацця? Не мог жа ён спусціць за 20 год усе каштоўнасці? Добра, а калі іх забралі бандыты, што забілі самога Салаўя? Тым больш, што колькасць ран сведчыць пра катаванні. Мог жа ён выдаць сховішча? Мог. Але наяўнасць у крыві цыяністага калію якраз сведчыць, што Ян, адчуваючы непазбежныя пакуты, знайшоў магчымасць прыняць яд. Значыць, ён нічога не расказаў злачынцам. Раз'юшаныя, яны нажамі вымесцілі на трупе сваю злосць. Тады што робім далей? Па ідэі, трэба было б знайсці дом Салаўя. Вуліцу Грандзіцкую, 29. Дзе такая? А вось адказаць на гэта пытанне павінны хлопцы з гістарычнага факультэта. Андрэй Русін неаднаразова расказваў сябрам пра гісторыю гарадзенскіх вулачак. Вось ён і дапаможа.

Гісторыкі і юрысты жылі ў адным інтэрнаце, што яшчэ больш спрашчала справу. І Мікіта рашуча пашыбаваў да свайго другога дома. Андрэй сядзеў у кампаніі двух хлопцаў і трох дзяўчат у сваім пакойчыку з гітарай у левай руцэ і шклянкай віна ў правай. Па ўсім было бачна, што ён гаворыць тост. Убачыўшы Мікіту, узрадавана зароў:

– Стражам законаў трохразовае "ўра!"

– Ура! – ахвотна закрычалі астатнія.

– Вы б хаця дзверы зачынялі, калі бухаеце, – параіў Балько. – З якой нагоды паляна?

– Мікітка, не паверыш. Нас усіх узяў да сябе на археалагічную практыку дацэнт Цемянчук. І капаць будзем каля Каложы. Уяўляеш? Там жа цаліна некранутая!

– Віншую! – без асаблівага энтузіязму прамовіў Мікіта, што не засталося незаўважаным Андрэем. Ён падняўся, працягнуў шклянку з віном сябру і загадаў:

– Пі!

– Не, дзякуй, у мяне яшчэ справы, – пачаў адмаўляцца Балько.

– Калі не вып’еш за нас, ты нам больш не сябар, а юрыст занюханы. Пі!

Рабіць не было чаго, Мікіта цяжка ўздыхнуў і выпіў да дна.

– Вось гэта малайца! – узрадаваўся Андрэй. – Рэкамендую: лепшы студэнт юрфака Мікіта Бáлько. А гэта, – абвёў рукою прысутных, – лепшыя розумы гістарычнага факультэта. Нарадзіўся тост. За міжфакультэцкае сяброўства, але толькі разумных людзей.

Ён хуценька наліў усім, грозна зірнуў на Мікіту – і ўсе выпілі.

– І з чым ты прыйшоў, браце Мікіта, – прыкусіўшы, запытаў Андрэй. – Ты ж без справы нікуды, апроч бібліятэкі, ні нагой.

– Народ, патрэбна ваша дапамога, – ажывіўся Мікіта. – Мне трэба знайсці дом №29 на вуліцы Грандзіцкай. Прынамсі, так яна называлася пры цары і пры паляках.

– Знойдзем! – упэўнена адказаў Андрэй і, павярнуўшыся да бялявай дзяўчыны, запытаў: – Наста (гэта, дарэчы, Наста, сакратар нашага навуковага гуртка), хто ў нас пісаў працу па гісторыі назваў гарадзенскіх вуліц?

– Здаецца, Кацярына Бырда, – не зусім упэўнена адказала тая.

– Значыцца, будзем шукаць Бырду! – заявіў Андрэй.

Тут да размовы далучыўся хударлявы хлопчык у акулярах з вельмі тоўстымі лінзамі.

– Не абавязкова шукаць Бырду. Я таксама займаўся тапанімікай Гродна. Калі ўдасца, дапамагу. З вуліцай праблем няма. Грандзіцкай пры многіх уладах называлі сучасную вуліцу Горкага. А вось з нумарацыяй складаней: дамы дабудоўваліся, знікалі, адпаведна і нумары змяняліся. Прасцей вызначыць па прозвішчы гаспадара.

– Яго прозвішча да рэвалюцыі Рыгор Салавей, але хата хутчэй за ўсё бацькоўская, і яна згарэла. А на яе месцы пабудаваў дом Ян Велас, – з надзеяй адказаў Мікіта.

– Ну гэта ўжо штосьці, – задаволена адзначыў хлопец. – Мяне, дарэчы, Мішам завуць.

Ён пакорпаўся ў сваёй торбе і выцягнуў сшытак у чорнай вокладцы. Пачаў няспешна гартаць. Прысутныя сцішана назіралі.

– Ага, вось і ён! – задаволена ўсклікнуў Міша. – А ты, Андрэй, усё кпіў з мяне: педант, зануда, усё б толькі запісваць. Дык вось, дом № 29, у якім пражываў Ян Велас, зараз мае нумар...

– Стой! – рэзка закрычаў Андрэй, падскочыў да Міхася і вырваў сшытак у таго з рук.

– Ты што, звар’яцеў? – разгублена запытаў сябр.

– Толькі пасля магазіна. Мікіта, бяжы па пляшку, а тады і даведаешся пра нумар.

Бáлько нават не спрабаваў спрачацца. Ён толькі кіўнуў галавой і выбег з пакоя.

Калі новая бутэлька перайшла з рук Мікіты ў рукі Андрэя, той напоўніў усім шклянкі і ўрачыста аб’явіў:

– Панове, а зараз мы і даведаемся пра вялікую таямніцу нумарацыі гарадзенскіх дамоў. За што потым і вып’ем. Барабанны дроб. Міхась, твой выступ!

Міхась усміхнуўся.

– Не паверыце, людзі, але дом №29 па вуліцы Грандзіцкая сёння мае № 29 па вуліцы Горкага.

Усе дружна зарагаталі.

– А што гэта за дом? – пацікавіўся Мікіта.

Міхась зноў зазірнуў у сшытак.

– Сёння гэта магазін “Гарачы хлеб”. Дарэчы, а чаму ён так цябе цікавіць?

– Так, чаму? – падхапілі прысутныя.

– Шукаю радавое гняздо, – схлусіў Балько, памятаючы скептычныя ўсмешкі прысутных.

– За гэта варта выпіць! – загаманілі студэнты.

Было далёка за поўнач. Мікіта адзін сядзеў у інтэрнацкай чыталцы, спрабуючы прывесці думкі да парадку. Ён знайшоў сёння дом Веласа. Абышоў з розных бакоў, пабываў унутры, нават накідаў невялічкі план гэтага дома. І зараз трэба вырашыць два пытанні. Першае: дзе мог схаваць скарбы Велас?

Пад дахам. Не, дах хутчэй за ўсё нядаўна перасцілалі, гэта бачна па новай цынкаванай бляхе, што зіхаціць на сонцы. Адпаведна, мянялі кроквы, перасцілалі дах гандлёвай залы. Хутчэй за ўсё, рабілі і перапланіроўку жылых памяшканняў: нейкія сцены разбуралі, новыя ставілі, каб было зручна для пакупнікоў. Таму там быць нічога не можа. І што нам застаецца ў выніку? Падвал. Так, калі там нешта і рабілі новыя гаспадары дома, дык, мяркую, чыста касметычна: навошта магазіну падвал? Вось дзе і можа быць схованка. Але як трапіць у гэты падвал? Не пойдзеш жа да загадчыка магазіна з просьбай пусціць па падвале пашвэндацца. Хаця не, гэта нядрэнная ідэя...

Раніцай наступнага дня Мікіта ціхенька пастукаў у дзверы са сціплай шыльдачкай “Дырэктар”.

– Уваходзьце! – пачуўся жаночы голас.

Балько пераступіў парог і апынуўся ў зусім маленькім пакойчыку, дзе мясціліся толькі стол, крэсла з дырэктарам і адно вольнае крэсла. На шырокім падваконніку стаяў невялічкі металічны сейф.

– Слухаю вас, – прыветна ўсміхнулася дырэктарка.

– Добры дзень! – прывітаўся Мікіта. – Я студэнт Гродзенскага ўніверсітэта, і хацеў бы на лета ўладкавацца да вас на працу грузчыкам ці якім падсобным рабочым, калі ёсць такая магчымасць.

Жанчына ад такой просьбы ажно засвяцілася.

– Сядайце, калі ласка, – яна паказала рукой на крэсла. – Вы не паверыце, а я з раніцы ламаю галаву, дзе мне знайсці грузчыка хаця б на месяц. Зарплата ў нас, разумееце, не вельмі, таму працуюць у асноўным выпівохі. А трымаюцца яны, як правіла, да зарплаты. Таму цякучка велізарная. Зімой яшчэ сяк-так, а летам бяда: усе ягады збіраюць, грыбы, здаюць, тым і кормяцца. Абяцалі мне аднаго прыслаць, але толькі праз месяц. А тут вы! Як, дарэчы, вас называць, малады чалавек?

Мікіта адрэкамендаваўся.

– Цудоўна, – працягвала дырэктарка. – А мяне завуць Ірына Аляксандраўна. І калі вы можаце прыступіць да працы?

– Бачыце, справа ў тым, што да канікул у мяне яшчэ два тыдні вучобы засталіся. А заняткі ідуць з 8.00 да 13.00. Вось калі б можна было б у другую змену...

– Усё можна зрабіць! – перапыніла яго Ірына Аляксандраўна. – Першы завоз хлеба ў нас у 6.00. Да сямі гадзін машыну разгрузіце, у гандлёвай зале на стэлажах раскладзеце. І бягом на заняткі. Другі завоз у 15.00.

Прыходзіце, разгружаеце, пустыя латкі вяртаеце назад. Таксама дапамажаце дзяўчатам-прадаўцам штосьці перанесці, пераставіць. У 17.00 два разы на тыдзень (па аўторках і пятніцах) прывозяць муку ў мяхах, цукар і крупы. Трэба іх разгрузіць і перацягнуць у падсобку. У 19.00 магазін зачыняецца, але калі не паспееце разгрузіць, якой бяды! Разгрузка ідзе са двара, зачыніце дзверы, і ўсё.

– А ключ?

– А ключ будзе пры вас. Толькі не згубіце.

Назаўтра пасля заняткаў Мікіта прыступіў да працы. Калектыў магазіна налічваў чатыры прадаўшчыцы, падзеленыя на дзве брыгады. Кожная брыгада працавала па чатыры дні. Змена, якая працавала ў гэты дзень, складалася з дзвюх жанчын сярэдняга ўзросту, досыць мажных формаў і вясёлага характару. Яны адразу ж пачалі выпытваць у Мікіты звесткі пра яго асабістае жыццё, а пасля безапеляцыйна заявілі, што без уступнай праставы нічога добрага з сумеснай працы не атрымаецца. Давялося Мікіту бегчы ў гастраном па пляшку гарэлкі ("менавіта гарэлкі" – падкрэслілі дзяўчаты). Ну а пасля закрыцця магазіна ў падсобцы і адбылося інтэграванне Мікіты ў працоўны калектыў.

Наступны дзень быў падобным: Мікіта сумленна цягаў латкі з хлебам, перасоўваў па зале мяхі з мукой і бясконца адбіваўся ад настойлівых прапаноў новых калег адзначыць другі дзень Мікітавай працы. Калі магазін зачынілі і расчараваныя паводзінамі хлопца прадаўшчыцы пайшлі дахаты (а, можа, і не дахаты), Мікіта нарэшце заняўся пошукамі. Яшчэ днём ён пераканаўся, што падвал не зачыняецца, а дзверы ў яго проста завязаны дротам. Ён выцягнуў з сумкі прыпасены ліхтарык, турыстычную сякерку і спусціўся ў падвал. На здзіўленне, там уключалася электрычнасць, і перад хлопцам адкрылася прасторнае, хаця і нізкае памяшканне. Падвал, верагодна, выконваў апошнія гады ролю склада для align рознага ламачча. Тут валяліся паламаныя крэслы, стаялі слоікі і бляшанкі з фарбай ці ад фарбы, нейкія скрыні, латкі. Мікіта ўсхвалявана ўздыхнуў і пачаў прастукваць асцярожна сцены, сантыметр за сантыметрам, шукаючы замураваную схованку. Але першая ноч пазітыўных вынікаў не прынесла. Як і другая, і трэцяя. Хлопец быў у адчаі: страшэнна хацелася спаць, усё праверана, а вынік нулявы.

"Думай, Мікіта, думай! – загадваў ён сабе. – Што там было напісана ў сейфе: "Скарбы не ў сейфах, яны ў роднай зямлі! Толькі трэба пакланіцца!" Так, гаспадар быў з пачуццём гумару і любіў таямніцы. Але што гэта значыць? Пакланіцца. Ага, штосьці павінна быць унізе. Падвал – гэта ўнізе. Але нічога няма. А калі яшчэ ніжэй? Так, магчыма, яшчэ ніжэй!"

Мікіта пачаў з той жа педантычнасцю ачышчаць падлогу ў падвале, прастукваючы масніцы. І яго ўпартасць праз два дні (а дакладней, ночы) была ўзнагароджана. Адна з дошак глуха загула. Балько хуценька ўзяў сякерку і пачаў выломваць дошку. Са скрыпам яна выскачыла з пазоў, адкрыўшы пустату. Мікіта адарваў яшчэ некалькі дошак і ўбачыў круглы люк з вялікім стальным кальцом пасярэдзіне. Ён паспрабаваў падняць люк, але той нават не паварушыўся. "Патрэбны лом", – падумаў хлопец. У магазіне лома, на жаль, не было. Прыйшлося зноў маскіраваць схованку і вяртацца ў інтэрнат.

Назаўтра Мікіта за два рублі пазычыў лом на суткі ва ўніверсітэцкага

дворніка і прыхаваў у пакоі пад ложкам. Увесь дзень ён быў у прыўзнятым настроі.

– Хіба закахаўся наш Мікітка? – рабілі здагадкі прадаўшчыцы, калі хлопец прыйшоў на працу. Але той толькі ўсміхаўся, чакаючы закрыцця магазіна. У 19 гадзін ён пабег у інтэрнат, узяў лом і рушыў назад. Мікіта ўжо выразна ўяўляў, як ён знойдзе пад люкам велізарныя каштоўнасці Юсупавых і верне іх чалавецтву. І пачнуцца бясконцыя інтэрв'ю, відэаздымкі, прэс-канферэнцыі. Лунаючы ў сваіх летуценнях, Мікіта пачаў пераходзіць вуліцу Астроўскага і не заўважыў, як злева на поўнай хуткасці на чырвонае святло святлафора ляціць старэнькі “Масквіч”. Віск тармазоў, глухі ўдар, і бясформенным камяком адкінутае цела хлопца стукнулася аб слуп. А п'яны вадзіцель аўтамабіля, пляснуўшыся лобам аб руль, тут жа захроп цяжкім хмяльным сном.

Мікіта ў бальніцы так і не прыйшоў да сябе. А праз суткі быў пахаваны ў роднай вёсцы. Аднакурснікі, выкладчыкі, прадаўцы “Гарачага хлеба” пэўны час абмяркоўвалі гэтае страшнае здарэнне і лом, які нёс кудысьці Мікіта. Але час робіць сваю справу, і ўсё радзей у гутарках узгадваўся Мікіта Балько і яго заўчасная смерць. Жыццё ішло наперад...

*Гістарычная даведка. Рашэннем гарадзенскіх улад 6 кастрычніка 2006 года дом на вуліцы Горкага, 29, помнік архітэктуры канструктывізму, быў разбураны. На яго месцы пакуль нічога не пабудавалі.*

Віктар Сазонаў



...Каб народу стаць народам,
Варта б людзям стаць людзьмі...

# Быць сабою на зямлі...

### *ГАЛЬШАНЫ*

Тут часу бег неўтаймаваны
спыняе веліч таямніц...
Стаяць халодныя Гальшаны
сярод лясоў, палёў, крыніц...

Тут на Ашмянскае ўзвышша
раней прыходзяць халады,
мацней вятры зімою свішчуць,
пазней вясной цвітуць сады.

Суровы кут маёй Радзімы,
сівых паданняў вартаўнік,
разважны, стойкі, самы мілы,
для тых, хто ў сны яго пранік.

Ва ўсім тут ёсць свае парадкі,
стаяць пагоркі ля двароў,
і папрытульваліся хаткі
да тых пагоркаў ад вятроў.

Касцёл, Царква, таемны Замак
і Гарадзішча з вышыні
адзін паказваюць напрамак,
у бег часоў нясуць агні.

Нібыта сцерагуць туманы
і ўсё, што прыйдзе і сышло,
мае халодныя Гальшаны...
Тут сама цёпла мне было...

## КАІН КАІНА ЗАБ'Е...

Прыйдзе дзень, і час праб'е,
Каін Каіна заб'е...
Ну а як жа яму быць?!
Нельга ж Авеля забіць!

Гэта ён ужо зрабіў,
Авеля даўно забіў!
Вось яго крыві пап'е,
Ды і Каіна заб'е...

Стане Каін кіраваць,
А народ яму жадаць,
Каб здаровым Каін быў,
Ён жа Каіна забіў!

І каб доўга Каін жыў,
Бо ён Каіна забіў...
Час прыйшоў, званіца б'е,
Каін Каіна заб'е...

## ЯЎГЕНУ ВАПУ

*(Віншаванні на дзень нараджэння)*

Прымі ад сэрца віншаванні,
жыві як жыў свой варты век,
рэдактар, творца, заснавальнік...
Ды проста – Годны Чалавек!

Руплівец Нівы Беларускай,
куды цябе не занясе,

шырокім шляхам, або вузкім,
паўсюдна там зямлю трасе...

Бо ты як толькі ахрысціўся,
пайшоў этнічны землятрус,
ты беларусам нарадзіўся,
і жыў далей як Беларус!

Даводзіў праўду без прымусаў,
ідэяй дыхаў кожны міг,
і жыў заўжды для беларусаў,
і для сваіх, і дзеля ўсіх!

Натхняюць тых здзяйсненняў горы,
пацвердзяць гэта землякі,
і іншым многа выйшла твораў,
з-пад лёгкай Вапавай рукі!

Не знішчыць гэткую пароду,
якая, пакуль час бяжыць,
жыве дзеля свайго народу...
А без таго дык і не жыць!

Табе заўжды жадаў без меры,
і зараз пажадаю зноў,
любові блізкіх, моцы, веры,
кахання, сілы і сяброў!

Сябе мяняць больш не старайся,
не трэба аніякіх змен,
вось кім ты ёсць, тым заставайся,
і будзь заўжды такім, Яўген!

Такі ты па нябеснай волі,
далей няпросты крыж нясі,
ну, а галоўнае, ніколі,
агонь душэўны не гасі!

### *ДЗЕНЬ*

Спявалі песні жаўрукі,
Суніцы пахлі спелыя,
Стаяла ты каля ракі,
Прыгожая, нясмелая...

Я смех твой сціплы адшукаў,
Там, дзе чарот шапочацца,

І пакахаў... І не чакаў,
Што гэты дзень закончыцца...

Хіба так лёс наканаваў,
Суніцы рэчкаю сплылі...
Нічога вечнага няма,
Ні над зямлёй, ні на зямлі,

Зляцелі недзе ў небыццё,
І пах, і смех, і жаўрукі...
А ў памяці на ўсё жыццё –
Той дзень... І ты каля ракі...

## *ЯШЧЭ МАЁЙ ТЫ НЕ БЫЛА...*

Яшчэ маёй ты не была,
А ўжо каханне клікала,
Шыпшына ружамі цвіла,
А неба зоркі сыпала...
І песні нам спяваў ручай,
І сэрца біла цераз край...
І ноч да нас з нябёс зышла...
Яшчэ маёй ты не была...

Маёй ты не была яшчэ,
Але ж пачуцці рупяцца,
Я чуў, як кроў мая цячэ
І як планеты круцяцца...
І сціхла ноч, спыніўся час,
Увесь сусвет быў дзеля нас...
І месяц засвяціў ярчэй...
Маёй ты не была яшчэ...

Ты не была яшчэ маёй,
Паўруха, каб асмеліцца,
Я адчуваў душой сваёй,
Усё хутка пераменіцца...
І ты падорыш мне цяпло,
І гэта будзе, ёсць, было....
Імгненне вечнасці з табой...
Ты не была яшчэ маёй....

## *ТЫ СА МНОЙ*

Сонца ласкава ўстае,
асвятляе дом,
або песні дождж пяе
недзе за вакном,

ці снег падае густы,
ці разліў вясной,
мне галоўнае, што ты,
як заўжды, са мной!

Ты са мной!

Многа мы з табой прайшлі
разам праз гады,
многа на шляху знайшлі
шчасця і бяды.
А нягоды, што ў журбе,
выпалі на лёс,
без кахання, без цябе
я б не перанёс.

Ты са мной!

Не дарэмна ўсё было,
калі кожны міг,
і што ёсць, і што прайшло,
выйшла на дваіх.
Я на яве, як у сне,
з думкаю адной,
усё, што засталося мне,
падзяліць з табой.

Ты са мной!

## А ШТО ТЫ ЗНАЧЫШ ДЛЯ МЯНЕ…

А што ты значыш для мяне, –
ніхто таго не адгадае,
жыццё міне, і свет міне,
і таямніцу пахавае...

А ў таямніцы той жывуць
маё каханне і надзеі,
гады, што хвалямі плывуць,
пачуцці, мары і падзеі...

А што ты значыш для мяне, –
табе ніколі не дазнацца,
як сэнс узораў на вакне,
пра што ніяк не здагадацца...

А ў тых здагадках існуюць,
маё каханне і надзеі,

гады, што хвалямі плывуць,
пачуцці, мары і падзеі...

А што ты значыш для мяне,
мне самаму як упакорыць?!
Таго не знойдзеш у віне,
чаго віно само не дорыць!

І што ты значыш для мяне
так шмат, як шлях да небакраю,
адкуль даведацца табе,
як сам я да канца не знаю...

## *ПАРОДА*

Тым, хто хоча быць народам,
Трэба, каб ці так, ці сяк
У людзей пайшла парода,
Ну хаця б, як у сабак.

Годны звер не хоча згубы,
І сябе ён адстаіць,
Калі што, пакажа зубы,
Можа нават укусіць.

Тут гісторыя, карэнні,
Свая праўда, свой падман,
І мінуўшчыны здарэнні,
І на будучыню план.

Як ні біся, ні круціся,
Не змяніць гісторый ход,
Хоць пайдзі і задушыся,
А народ ад слова “Род”.

І не трэба без патрэбы
Агароджваць агарод,
Без карэння нават дрэвы
Не цвітуць. А тут народ...

І нічога там не будзе,
Дзе карэнні не ўраслі,
Толькі з імі хочуць людзі,
Быць сабою на зямлі.

Ды пакуль на людскасць мода
Не прыйшла, то хоць бы так:

Людзям трэба хоць парода,
Ну хаця б, як у сабак.

Вось яшчэ б, каб з той пародай
Лепш было б, як ні вазьмі.
Каб народу стаць народам,
Варта б людзям стаць людзьмі.

### *ВАЛЯР'ЯНКА*

У аснове валяр'янкі
палягае прастата –
алкаголіку паўшклянкі,
і жыццё як у ката!

Валяр'янка, валяр'янка,
ты апошняя каханка,
сама верная каханка –
ты не здрадзіш, валяр'янка!

Буду піць цябе і есці,
і з запасам набываць,
ды з гарэлкаю развесці
я не буду забываць.

Толькі шкода, што з каханай,
(тут ужо як не круціць),
нельга выпіць валер'яны –
трэба ёй віна наліць!

Але некалі з каханай,
(прыйдзе час, зыдуць гады),
разам купім валяр'яну –
вось ідылія тады!

На стары Гальшанскі замак,
дзе збіраюцца каты,
каб панюхаць валяр'янак,
сябра мой, прыходзь і ты...

Эх, паеду я ў Гальшаны,
валяр'янку ў замку піць,
каб не бачыць свет паганы
і няўдачы ўсе забыць!

Вось у замку, валяр'янкі
вып'ю я і вып'еш ты,
а пасля чарговай шклянкі
коні прыйдуць... і каты...

Коні белыя і з неба,
ну, і чорныя каты...
(для кантрасту гэтак трэба),
і трубой стаяць хвасты!

А на конях едуць дзеўкі,
дзеўкі едуць на катах,
і гальшанскія прыпеўкі
запяюць, аж едзе дах!

Вось такая валяр'янка,
ты гальшанская каханка,
алкаголіку старому
хіба варта ўжо дадому!

У Гальшаны, на Радзіму,
валяр'янку ў замку піць...
Ну, а што блуднаму сыну
застаецца больш рабіць?!

Там з гальшанскімі катамі,
ліць у шклянкі зноў і зноў,
нібы з лепшымі братамі,
напівацца "да канёў"!

Вось такая зараз п'янка –
"Небілет" і валяр'янка...
Калі далей будзем жыць,
валяр'янку будзем піць...

А пасля ад валяр'яны
у нябёсы ўзляцім,
зверху глянем на Гальшаны
і на замак паглядзім.

Над катамі, над платамі,
дзе лугі ляжаць, палі,
над лясамі, над кустамі,
што на Роднае Зямлі,

паляцім сабе да Крэва,
на Кушляны паглядзім,
адпачнём крыху на дрэве
і ў Гальшаны прыляцім...

Зноў з катамі за платамі,
валяр'янку будзем піць –
калі жыць, дык быць братамі!
Толькі гэтак можна жыць!

Сяргей Машанскі



...пакрыўдзіць чалавека, а потым
зірнуць яму ў вочы не так і проста...

# Варвар

***Апавяданне***

Навіну пра закрыццё сельскай бібліятэкі Тамара Мікалаеўна пачула ў краме, куды прыйшла набыць цёплы абутак. Трыццаць першае снежня – добрая нагода зрабіць сабе падарунак.

Пятроўна, мажная паўнагрудая прадаўшчыца, пляткарыла з пакупнікамі.

– Сельсавет замест бібліятэкі адчыняе ФАП, двойчы на тыдзень да нас будуць прысылаць фельчара. Рыце загадалі вызваліць памяшканне.

– Вось гэта правільна, – падтрымала размову жанчына ў шэрай хустцы, – нашто нам тая бібліятэка? Туды і не хадзіў ніхто, а на ФАПе доктар ціск памерае, лекі выпіша.

Перад аздобленым бліскучай мішурой прылаўкам мітусіліся вяскоўцы, набывалі прысмакі да святочнага стала. Мужчыны бралі гарэлку і віно, жанчыны – прадукты і

цукеркі дзецям пад ёлку. Тамара Мікалаеўна з валёнкамі ў руках стаяла ў чарзе ды слухала размову.

– Рыта страціла добрую працу.

– Вядома, сядзела ў цяпле, а зараз куды дзецца? Мо на ферму пойдзе, ці што.

– У бібліятэцы, канечне, лепш, чым каровам хвасты круціць.

– Во як бывае, Рыце дрэнна, а нам добра.

* * *

Тамару Мікалаеўну ў вёсцы называлі «дачніцай». Тры гады таму яна ажыццявіла даўнюю мару – набыла на ўскрайку Вардаміч ладны дамок з садам і дваццаццю соткамі зямлі. Займела ўласны «райскі» куток, дзе бавіла кожны адпачынак. Людзі тут простыя, збольшага прыветныя. Праўда, маюць адну хібу – шмат выпіваюць. Затое не дзівяцца з яе гаворкі. Тамара Мікалаеўна, настаўніца беларускай мовы і літаратуры, у паўсядзённым жыцці карысталася роднай мовай. У горадзе ёй часта хамілі: «Говорите нормально». У вёсцы такой праблемы не было.

Сваю працу Тамара Мікалаеўна не любіла, на ўрокі хадзіла з неахвотай. Так было не заўсёды. Некалі дзяржава лічыла настаўніка беларускай мовы сваім галоўным хаўруснікам. Гэта былі часы надзеі і натхнёнай працы. Потым беларуская мова страціла статус адзінай дзяржаўнай. Гадзіны катастрафічна скарацілі. Вучні перасталі ўсур'ёз успрымаць прадмет. «Лепш будзем вучыць ангельскую», – казалі яны. Тамара Мікалаеўна не губляла надзеі прышчапіць дзецям любоў да роднага слова, прыкладала высілкі, каб зацікавіць іх літаратурай. «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» – цытавала яна словы класіка з прадмовы да зборніка «Дудка беларуская». Так і прычапілася да яе прыкрая мянушка, што перадавалася з пакалення ў пакаленне, з класа ў клас. Вялікая гарадская школа не называла настаўніцу беларускай мовы інакш, як «Дудка». Тамара Мікалаеўна намагалася не звяртаць увагі, хоць, вядома, было крыўдна. Зрэдчас давала волю слязам, дома на кухні. Рабілася лягчэй.

На мінулым тыдні нервы здалі проста на ўроку. Перад зімнімі вакацыямі праходзілі лірыку Якуба Коласа. Дзеці расказвалі на памяць урывак з паэмы «Новая зямля».

Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць іх буйныя росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы.

Да дошкі выйшаў Бакланскі – гарэза і завадатар. Непрыемна ўразіў першы радок, з якога вучань пачаў дэкламаваць верш. Замест «Ідуць касцы» Бакланскі з выклікам прамовіў: «І Дудка сцы». Клас заўважыў, як пачырванела настаўніца, хоць і зрабіла выгляд, што нічога не адбылося. Наступны вучань, пад з'едлівыя ўсмешкі аднакласнікаў, паўтарыў словы Бакланскага. Малыя драпежнікі адчулі бездапаможнасць ахвяры. Кожны, хто выходзіў да дошкі, пачынаў верш замаскіраваным брыдкаслоўем. У бязлітаснай расправе ўдзельнічалі нават дзяўчынкі. На старонках школьнага журнала расплылася невялічкая плямка, потым другая. «Што я тут раблю? Дзеля чаго трываю абразы?» Настаўніца закрыла рукой чырвоныя вочы і выбегла з класа. На задняй парце задаволена рагатаў Бакланскі.

Назаўтра Тамара Мікалаеўна напісала заяву аб звальненні. Дырэктар не мог зразумець прычыны такога кроку. «Вас абразілі? Як?» – дапытваўся ён. Што магла адказаць настаўніца? Расказаць яму пра «Дудка сцы», пра марнасць сваёй працы? Спачатку дырэктар упрошваў пачакаць да лета. «Настаўнік не павінен сыходзіць пасярод вучэбнага года», – пераконваў ён. Потым раззлаваўся, парваў заяву і прыгразіў, што звальненне магчыма толькі па артыкуле, за прагулы. «Гэта будзе крыж на вашай кар'еры, разумееце?» Настаўніцы было ўсё роўна. Яна цвёрда вырашыла, што ў школу больш не вернецца, нават калі прыйдзецца працаваць прыбіральшчыцай. У апошні раз выставіла адзнакі за чвэрць ды з'ехала на лецішча. Далей ад школы, ад дзяцей, ад крыўды.

* * *

На зваротным шляху, з валёнкамі пад пахай, Тамара Мікалаеўна зазірнула ў бібліятэку. Тры дні таму яна прыходзіла сюды па томік Янкі Купалы. Вершы ўлюбёнага паэта лепшае чытво ў навагоднюю ноч.

– Добры дзень, Рыта. Ці праўда вас зачыняюць?

– Ай, – адмахнулася бібліятэкарка, – самі не ведаюць, чаго хочуць. То патрабавалі павялічваць наведвальнасць, то – на табе!

– Дазвольце, я вярну Купалу пасля святаў.

– Пакіньце сабе, калі падабаецца. Бібліятэку ліквідуюць, усе кнігі падлягаюць спісанню. Можаце ўзяць яшчэ. Я і людзям сказала – каму трэба, хай забіраюць.

На паліцы стаяў сямітомнік Янкі Купалы, рэдкае выданне 1972 года. Шэсць кніг у светла-жоўтай вокладцы. Сёмая ляжала дома. Не марудзячы, Тамара Мікалаеўна пабегла дахаты па торбу.

Праз паўгадзіны настаўніца вярнулася назад. Рыта пакінула бібліятэку не замкнёнай, сама некуды адлучылася. Сярод паліц корпаўся светлавалосы, каржакаваты мужчына. Здаецца, мясцовыя звалі яго Кляпон. Мянушка гэта ці прозвішча, Тамара Мікалаеўна дакладна не ведала.

– Добры дзень, вы таксама па кнігі? – зычліва запытаў мужчына.

– Так, хацела ўзяць сабе, – позірк спыніўся на пустой паліцы, з якой знік Янка Купала. Кляпон здзімаў з кніг пыл і складаў у вялікую клятчатую торбу. Зверху ляжалі кнігі таго самага сямітомавіка.

«Як шкада, – засмуцілася Тамара Мікалаеўна, – хіба папрасіць, каб саступіў?»

Кляпон скончыў збіраць кнігі.

– Сапраўдны скарб! – прамовіў ён, узважыўшы торбу ў руках.

Тамара Мікалаеўна ўзяла беларускую класіку: Быкава, Коласа, Караткевіча, “Вянок” Багдановіча. Хацела дадаць Пушкіна, але пабаялася, што не дацягне, – торба выглядала непад'ёмнай.

– А я вас ведаю, – прамовіў Кляпон, – гэта вы купілі дом у Сымонавых унукаў.

– Так, я.

– Мяне завуць Сцяпан.

– Тамара.

– Вельмі прыемна, давайце памагу.

Кляпон узяў цяжкія торбы, вынес на двор. Перад ганкам стаялі старыя каваныя саначкі, якія ён прадбачліва захапіў з сабой, каб не парваць

на зваротнай дарозе рукі. Настаўніца так і не наважылася папрасіць сямітомавік.

Сцяпан уладкаваў каштоўны груз на санкі і лёгка пацягнуў іх па дарозе. Тамара Мікалаеўна крочыла побач.

– Збеглі на свята ў нашу глухмень?

– Так, даўно не сустракала Новы год у вёсцы.

– У нас сумна. У моладзі адна забаўка – выпіць ды пабіцца ў клубе.

– Затое тут прыгожа, – адказала настаўніца. – Цёплая печ, чыстае паветра, некранутае поле бялюткага снегу. Сапраўдная казка, якую ў горадзе зусім не адчуваеш. Адно шкада, няма ялінкі. Думала схадзіць у лес, але Іванаўна, суседка мая, адгаварыла. Кажа, мясцовы ляснік надта злосны, як зловіць – абавязкова штрафу выпіша.

– Гэты можа, – загадкава ўсміхнуўся мужчына.

– Буду без ялінкі, затое з кнігамі.

Каля клуба Сцяпан звярнуў на бакавую вуліцу, настаўніцы трэба было прамой дарогай у канец вёскі. Кляпон зняў сваю торбу, саначкі пакінуў спадарожніцы.

– Цягніце далей, я ў руках данясу. Санкі аддасцё потым.

– Шчыра дзякую, выручылі мяне. Столькі кніг набрала, не ведаю, ці дацягнула б.

– Няма за што, – адказаў Кляпон і, перакінуўшы цяжкую торбу ў правую руку, пакрочыў дадому.

«Які прыемны мужчына, – падумала настаўніца, – любіць паэзію Купалы. Усе шэсць кніг забраў, скнара».

* * *

Тамара Мікалаеўна зачаравана гартала пыльныя старонкі, мокрай анучкай працірала вокладкі і ставіла кнігі ў шафу. У хату зайшла суседка Іванаўна, жвавая васьмідзесяцігадовая бабулька.

– Ці не Сцяпанавы саначкі ў цябе ў верандзе?

– Так. Пазычыў кнігі падвезці з бібліятэкі.

– Вашымі кнігамі толькі зрок псаваць, – пакруціла галавой Іванаўна. – А саначкі гэтыя я ведаю. Каваныя. Сцёпаў дзед рабіў. Добра, што вы сышліся.

– Што вы такое кажаце, Іванаўна? Ніхто ні з кім не сыходзіўся.

– Тое і кажу – ты адна гаруеш, і ён бабылём мучыцца. Чаму б не пасябраваць?

– Як у вас проста, – засмяялася настаўніца, – так не бывае.

– Яно ўсяк бывае, дзетачка. Брыдкага тут нічога няма, калі людзям на карысць. Ты не глядзі, што ён дзеравенскі. Сцяпан – рукаты гаспадар і амаль не пітушчы.

– Чаму не жэніцца, калі такі харошы?

– Даўно тое было, яшчэ Сцёпава маці жыла. Размеркавалі да нас у кантору бухгалтарку, Кацярынай звалі. Маладзенькая дзяўчына, якраз пасля тэхнікума. Ну, і закахаліся яны. Як Сцёпу забіралі ў войска – сядзела за сталом побач з ім, перад усёй вёскай. Толькі нічога не атрымалася ў іх. Пачаў да гэтай Кацькі інжынер цягацца, гарадскі – прыслалі ў калгас тэхніку направіць. Нехта ўзяў ды напісаў Сцяпану. Той як дазнаўся – уцёк з войска. Прама да яе ў хату прыбег, дзе ўжо чакала міліцыя. Хацелі нават

судзіць, пашкадавалі дурня. Кацька, як адбыла размеркаванне, з'ехала ў горад. Больш мы яе не бачылі. Сцяпан так і не ажаніўся пасля.

У дзвярах бразнула клямка.

– Ці ёсць хто дома? – гукнуў з сенцаў знаёмы голас.

– Тутака мы, ага! – азвалася Іванаўна.

Прыгнуўшы галаў, праз парог пераступіў Кляпон. У руках мужчына трымаў пухнатае зялёнае дрэўца.

– Тамара, вы шкадавалі, што не маеце ялінкі. Вось – гэта вам, падарунак.

– Ад Дзеда Мароза? – не могучы стрымаць па-дзіцячы радасную ўсмешку, запытала настаўніца.

– Не, ад лесніка, – нізкім голасам адказаў госць ды хітравата кашлянуў у каўнер.

– А мы тут, Сцёпа, якраз цябе ўспаміналі, – умяшалася ў размову старая.

– Пэўна, байкі пра мяне расказвалі, так, Іванаўна? – прыжмурыў вока Кляпон. – Вы не ўсяму давайце веры, Тамара.

– Думалі-гадалі, каго нам запрасіць на Новы год, каб удвох не так сумна было Пугачову глядзець, – працягвала сваё Іванаўна. – Вырашылі паклікаць цябе. Усё адно будзеш дома адзін кукаваць.

Кляпон запытальна зірнуў на гаспадыню.

– Т-так, Сцяпан, запрашаем вас... Запрашаю цябе на Новы год. Прыходзь, калі ласка, – разгублена прамовіла жанчына.

– Калі што, я люблю шампанскае, – задаволена крэкнула Іванаўна.

Кляпон прыняў запрашэнне, цішком падміргнуў старой і выйшаў.

– Ну, Іванаўна, язык у вас. Хоць перцам намаж. Я ад сораму ледзь не праваліласяя праз падлогу.

– Нічога, дзетачка, потым дзякуй скажаш. Я без дзеда сёмы год, і тое занудзілася ўся. А ты маладая, векаваць у дзеўках збіраешся, ці што?

– Не такая ўжо і маладая, – ледзь чутна прамовіла настаўніца.

– Тым больш.

* * *

Ад былой Сымонавай хаты, дзе цяпер гаспадарыла сімпатычная дачніца, Кляпон скіраваўся ў краму. Калі нёс з лесу ялінку, меў думку запрасіць Тамару адзначыць свята разам, але не ведаў, як наважыцца. Дзякуй Іванаўне, дапамагла. Трэба аддзячыць старой.

У краме вяскоўцы куплялі пладовае віно, зрэдчас гарэлку. Шампанскае попытам не карысталася. Кляпон стаў у канец чаргі. Перад ім картавая Ірка і бандзюкаваты Толік лічылі капейкі. Жылі яны разам і амаль кожны дзень выпівалі. Віно раскупілі, а на бутэльку гарэлкі ў іх не хапала.

– Ядрон-батон! – вылаяўся Толік. – Сцяпан, пазыч тры рублі.

– У банку крэдыт вазьмі, – грубавата адказаў Кляпон.

– Сёння ж свята, Сцёпа, будзь чалавекам!

– У цябе кожны дзень свята.

– Пятроўна! – зразумеўшы, што ад Кляпона спагады чакаць не варта, Толік звярнуўся да прадаўшчыцы. – Дай на вексель!

– Ты ж не працуеш, дармаед, з чаго аддаваць будзеш?

– Аддам, клянуся! – Толік апусціўся перад прылаўкам на калені і перахрысціўся.

– Ой, цырк! – сказаў нехта ў чарзе.

– Пят’ёўна, ён д’ёвы табе пасячэ, – прыйшла на дапамогу сужыцелю картавая Ірка.

Прадаўшчыца, трохі падумаўшы, з сур’ёзным выразам твару паставіла на прылавак бутэльку.

– Глядзі, пасля святаў чакаю. Сякеру прынось сваю.

Узрадаваны Толік падняўся на ногі, схапіў з прылаўка гарэлку і працягнуў Ірцы, каб паклала ў торбу. Дзяўчына няўдала ўзялася за рыльца ды выпусціла бутэльку з дрыготкіх рук. Аскепкі разляцеліся па падлозе. Рэзка патыхнула спіртовым напоем. Чарга выбухнула смехам.

– Дамоў можаш не прыходзіць. Заб’ю! – працадзіў скрозь зубы Толік і, сцяўшы кулакі, выйшаў з крамы.

Картавая Ірка разгублена румзала носам, выціраючы смаркачы рукавом расцягнутага швэдара.

Сцяпан купіў кілаграм шакаладных цукерак, палку вэнджанага сервелату, дзве бутэлькі шампанскага і бутэльку пяцізоркавага каньяку, на ўсялякі выпадак. Хто ведае гэтых гарадскіх, можа, ім каньяк падавай.

– Думала, ніколі не прадам, – сказала Пятроўна, адлічваючы рэшту, – тры гады стаяў на паліцы. Раскажаш потым, ці хоць смачны гэты каньяк, за такія грошы.

* * *

Дома Кляпон распачаў падрыхтоўку да паходу ў госці. Пагаліўся ў лазні. Дастаў з шафы касцюм, які не апранаў дзесяць год. Адпрасаваў кашулю, наваксаваў чаравікі.

Прынёс дровы і пачаў раскладаць у печы. У гэтым годзе ў лясніцтве выпісвалі выключна адну елку. Бярозы не давалі зусім. Яловыя дровы не хацелі ўпальвацца. Каб не губляць час, Сцяпан дастаў з клятчатай торбы кнігу, вырваў некалькі старонак, піхнуў у печ. Агеньчык заскакаў весялей. Кляпон стараўся не марнаваць грошы без патрэбы, таму газет не выпісваў, яму хапала тэлевізара. Калі пачуў, што Рыта раздае кнігі, адразу пабег у бібліятэку набраць макулатуры, каб было чым падпальваць печ. Агеньчык згас, дровы не ўзяліся. Сцяпан выдраў з кнігі новы стос пажоўклых старонак.

* * *

Тамара Мікалаеўна разам з Іванаўнай завіхаліся над святочным сталом. Старая прынесла з дому марынаваныя агуркі, некалькі салатаў і ладны шмат сала.

– Пачастуеш госця.

– Іванаўна, не пачастуеш, а пачастуем. Збегчы вам не ўдасца.

Настаўніца паставіла ў духоўку пірог з чарнічным варэннем і ўзялася ўпрыгожваць ялінку шклянымі цацкамі, якія ў мінулым годзе адшукала на гарышчы. Засталіся ў спадчыну ад былых гаспадароў.

– Раней людзі жылі весялей. Збіраліся разам, спявалі, вадзілі карагоды. А зараз па хатах сядзяць, гарэлку глыкчуць, – бурчэла старая.

– Іванаўна, раскажыце, як вы варажылі.

– Варажылі мы на Раство, а на Новы год галоўнае было раздаць пазыкі. Інакш наступныя дванаццаць месяцаў правядзеш у беднасці і нястачы.

Старая, нешта ўзгадаўшы сваё, рэзка павярнулася да настаўніцы.
– Сцяпан саначкі забраў?
– Не, а што?
– Як што! Ты сама казала – пазычыў.
– Так, пачынаюцца выкруты.
– Дзетачка, трэба аддаць. Тым больш гэта яго саначкі, разумееш? Інакш пацягнеш сваю адзіноту ў наступны год і надалей.
– Прыйдзе да нас на свята – забярэ.
– Трэба разлічыцца да дванаццаці, я зацягну! – не было падобна, каб Іванаўна жартавала.
– Цемнатой я вас не пушчу, тым больш такім марозам.

* * *

Сцяпан збіраўся закладаць юшку, калі на двары забрахаў сабака. У ваконца пастукалі. Праз заінелае шкло віднелася жаночая постаць. Гаспадар выйшаў на ганак. У новых валёнках па двары тупала Тамара.
– Іванаўна ўсю душу вывернула. Кажа – трэба раздаць пазыкі. Загадала вярнуць саначкі.
«От, хітрая старая, – падумаў Сцяпан, – баіцца, што пасаромеюся прыйсці, то знарок выправіла да мяне Тамару».
– Заходзь, змерзла ўся.
– Не, я пабягу назад. У мяне пірог, – настаўніца хвалявалася, каб Іванаўна не ўцякла дамоў.
– Пойдзем разам, я толькі юшку закладу, а ты трошку сагрэешся. У мяне гарбата заварана з мелісай. У горадзе такой не купіш.
Тамара Мікалаеўна згадзілася, бо сапраўды змерзла, пакуль цягнула ў другі канец вёскі цяжкія каваныя саначкі. Кляпон правёў настаўніцу ў залу, сам пабег на кухню. Госця разглядала халасцяцкае жытло. У хаце было чыста прыбрана. На сцяне каля вакна вісела фотакартка, на ёй маладая жанчына трымала за руку пяцігадовага хлопчыка. На падлозе ля печы ляжаў томік Купалы. Падняла, разгарнула. Пад вокладкай не хапала чвэрці старонак.

Далёкай, нялёгкай сцяганы хадзьбой,
Пад хвойкай высокай мы селі з табой...

«Заручыны», – настаўніца пазнала адзін з самых лірычных вершаў улюбёнага паэта.

На сучча плятуча паўзла дзермяза,
Блішчэла нясмела раса, як сляза...

Пачало казытаць у носе. Тамара Мікалаеўна закрыла рукой вочы.
– Цуд, а не гарбата. Паспрабуй, не пашкадуеш, – Сцяпан паставіў на стол разнос з двума кубкамі і сподачкам мёду.
– Варвар!

* * *

Іскрысты крухмальны снег рыпеў пад нагамі. Настаўніца бегла дамоў цёмнай вясковай вуліцай. Па шчоках цяклі слёзы. «Ёлупень! Хутка сорак

год, а розуму, як у Бакланскага. Купалу ў печ! А я хацела аддзячыць яму за ялінку – падараваць сёмы том, для калекцыі. Дурніца!»

На ганку Тамара Мікалаеўна паслізнулася і бразнулася лбом аб жалезную ручку. «Новы год сапсаваны. Як і заўсёды», – падумала яна.

Іванаўны дома не было, старая ўцякла дамоў, каб не замінаць маладым. Чарнічны пірог стаяў пасярод святочнага стала.

* * *

«Чаму яна збегла? Здаецца, нават плакала. З-за кнігі, ці што?» – Сцяпан узяў у рукі падраны том Купалы.

Ціха суліхай сцікаўся, плыў цень,
За моры, за горы адходзіў наш дзень,
Мінуты ўжо важыў.

З-пад сосны выноснай ты ўстала, я ўстаў...
Над намі сукамі шум-бор рагатаў
Без памяці, дзіка...

«Відаць, у бібліятэку Тамара прыходзіла па кнігі, а не па макулатуру». Сцяпан узгадаў, як некалі сам пісаў вершы. Кацярыне. Кожны тыдзень дасылаў ёй з войска лісты. Вершаваныя.

Самотнай ночкай, дарагая,
Ўзгадай шчаслівыя часы,
Як сарамліва напачатку мая
«Каханы мой» шаптала ты.

Як у абдымках мы танулі,
Як з неба падалі знічы.
Палынны водар старой пуні
Нагбом глыталі уначы.

«Дурань. Верыў у яе прыстойнасць. Як сёння паверыла мне Тамара».

Цяжка ўздыхнуўшы, Сцяпан устаў з-за стала, каб закрыць юшку.

* * *

Тамара Мікалаеўна ляжала на ложку за перабойкай з дошак, металічнай лыжкай прыціскала ладны гузак на ілбе. Слёз не было, была стома і абыякавасць. З тэлевізара даляталі гукі святочнага канцэрта. Прабілі куранты, зайграў дзяржаўны гімн. Грамада спявала: «Мы, беларусы – мірныя людзі, сэрцам адданыя роднай зямлі». Тамару Мікалаеўну не кранаі гэтыя словы. Ад іх веяла няшчырасцю.

– Іван Дамінікавіч, чуеце водар? Чарніцы!

– Шаноўны Канстанцін Міхайлавіч, гэты пах я пазнаю сярод сотні іншых.

– Максім, калі ласка, пастаў на кухні гарбатнік.

– Дзве хвілінкі, паважаныя, зараз арганізуем.

– Там кнопачку трэба націснуць. Знізу пад ручкай – убачыш.

– Разбяромся.

– У мінулы раз Багушэвіч разабраўся. Паставіў пластмасавы гарбатнік на адкрыты агонь. Ледзь бяды не нарабіў. Смуроду было – дзве гадзіны выветрывалі.

– Вы мне ўжо расказвалі гэтую гісторыю, Канстанцін Міхайлавіч. Да таго ж я сышоў амаль на два дзесяцігоддзі пазней за дзядзьку Францішка. Што такое электрычнасць, добра ведаю.

– Ведаць адно, а ўмець карыстацца іншае. Такіх цацак у наш час не было.

На кухню прашмыгнуў цень. «Здалося?» Тамара Мікалаеўна прыслухоўвалася да гаворкі за перабойкай і не магла зразумець, гэта новы канцэрт па тэлевізары, ці што? Надта блізка і натуральна гучаць галасы.

Праз пяць хвілін у пакой зайшоў малады мужчына з гарбатнікам у руцэ.

– Шаноўнае спадарства, калі ласка!

Сумненняў не засталося – у хаце людзі. Тамара Мікалаеўна зусім не спужалася, бо яшчэ ніколі не зазнала крыўды ад людзей, якія размаўлялі па-беларуску. З гузаком на лбе яна выйшла ў залу. За святочным сталом сядзелі тры здані. Настаўніца пазнала іх адразу.

– Зірніце, сябры, гэта ж Паўлінка! – прамовіла здань Купалы.

– Ядвіся! – не пагадзіўся Колас.

– Зорка Венера!

– Максім, Венера гэта планета.

– Для астранома можа і планета, а паэту на небе ззяюць зоркі, – патлумачыў Багдановіч.

– Ці дазволіце, паважаная, паспытаць ваш пірог?

– Калі ласка, частуйцеся, – няўпэўнена адказала настаўніца ды аўтаматычна прыклала лыжку да лба.

– Сядайце, даражэнькая, да нас, – Максім пасунуў крэсла бліжэй да стала, – а я зараз адлучуся па справе, – дадаў ён і, зняўшы з вешалкі капялюш, выйшаў з хаты.

Тамара Мікалаеўна ўшчыкнула сябе за руку, славутыя паэты гасцявалі ў яе хаце.

* * *

З будкі выскачыў кудлаты дварняк, закруціў хвастом, чакаючы ад гаспадара пачастунку.

– Мерзнеш, Бегамот? – Сцяпан нахіліўся да сабакі. – Адны мы з табой. Відаць, так і будзем дажываць век халасцякамі. Можа, каб не забралі ў войска, атрымалася б з Кацярынай. Хаця, войска не перашкода. Хлапцоў жа чакалі. І вось гэта дачніца Тамара. Бяскрыўдная істота, а я... Есці хочаш? Зараз прынясу.

* * *

Госці пачуваліся як дома. Купала разліваў па кубках гарбату, Колас зрабіў цішэй тэлевізар, з якога непрыстойна аголеныя прыгажуні спявалі святочныя песні.

– Звычайна з намі Багушэвіч, яле да вас прыйсці пасаромеўся. Пераживае, з-за той крыўднай мянушкі, – прамовіў Колас.

– Вы не зважайце, даражэнькая, на гэтыя абразы. З дзецьмі заўсёды працаваць складана, – падтрымаў размову Купала.

– Тамара Мікалаеўна, – Колас узяў настаўніцу за руку, – ведаю, вам зараз няпроста, але... Не сыходзьце, калі ласка, са школы. Адданых беларускай справе людзей засталося няшмат. Без вас сітуацыя толькі пагоршае.

– Нямае больш моцы, – панурыла галаву настаўніца. – Усе намаганні марныя.

– Гэта толькі здаецца, даражэнькая. Вы пасееце зярняткі, а ўзыдуць яны пасля, у дарослым жыцці вашых вучняў. Не ў кожнага, зразумела, але абавязкова ўзыдуць. Ведаеце, нават гэты зух Бакланскі вырасце неблагім чалавекам. Ён больш не будзе сваволіць на вашых уроках – вось пабачыце. Беспадстаўна пакрыўдзіць чалавека, а потым зірнуць яму ў вочы не так і проста. Больш за тое – нават праз дваццаць год, сустракаючы вас на вуліцы, ён будзе адчуваць сорам за свой даўнейшы ўчынак.

– Няўжо? – недаверліва хмыкнула настаўніца.

– Так. Ён захоча папрасіць у вас прабачэння, ды не будзе ведаць, як гэта зрабіць.

– Урэшце знойдзе спосаб, – уставіў слова Купала.

– Які?

– Напіша пра вас апавяданне.

– Уяўляю...

– Вельмі вас прашу, не кідайце школу, – працягнуў Колас. – Вучням трэба паказваць прыклад, такое наша настаўніцкае наканаванне.

* * *

Вэнджаны сервелат знік з рук гаспадара з першай касмічнай хуткасцю. Такой смакаты Бегамот не каштаваў за ўсё сваё сабачае жыццё.

– Ну годзе, бяжы ў будку.

Кляпон выйшаў на вуліцу. Ля клуба галёкалі людзі. Чуліся выбухі. Моладзь запускала феерверкі. Сцяпан сеў на зацярушаную снегам лаву. Сцюдзёнае паветра слаба заспакойвала душу. На вясковай дарозе паказаўся малады мужчына. Кляпон не пазнаў чалавека. «Нехта з прыезджых», – падумаў ён. Нечакана незнаёмец збочыў з дарогі, сеў побач з Сцяпанам на лаву.

– Здароў! – бадзёра сказаў ён. – Назіраеш за зоркамі?

Кляпон не адказаў.

– Я таксама люблю назіраць за небам. Магу так цэлую ноч праседзець.

– Не раю. Замерзнеш.

– Мароз не страшны, горш, калі холадна на сэрцы. Вось як у цябе, – сказаў дзівакаваты чалавек і пранізліва зірнуў Сцяпану ў вочы.

– Ты хто? – спытаў Кляпон.

– Я? Летуценнік!

– Чаго такі вясёлы?

– Я заўсёды вясёлы, бо кнігу маю.

«У бібліятэцы назбіраў», – здагадаўся Сцяпан.

Дзівак падняўся, раскінуў ушыркі рукі і зычным голасам прамовіў: «Я хацеў бы спаткацца з вамі на вуліцы. У ціхую сінюю ноч. І сказаць: нашто на зямлі сваркі і звадкі, калі мы разам ляцім да зор?»

На двары забрахаў Бегамот. Кляпон таксама ўстаў з лавы – доўга сядзець на халодным нельга.

– Не нудзіся, дружа. Учыніў некаму крыўду – папрасі прабачэння.

– Дзякую за параду, – не надта ветліва буркнуў Сцяпан.

– Паспрабуй.

* * *

У дзверы пагрукалі. «Іванаўна», – падумала Тамара Мікалаеўна і пабегла адчыняць. На парозе, вінавата апусціўшы галаў, стаяў Кляпон.

– А, гэта ты! Усе кнігі спаліў, ці яшчэ засталося? – з'едліва спытала настаўніца.

– Кнігі я паставіў у шафу. Паліць іх не варта, прабач.

– Чаму ж не варта, – настаўніца зрабіла выгляд, што не пачула выбачэння. – Шкодныя можна і спаліць, як некалі рабілі нацысты.

Кляпон разгублена лыпаў вачыма і не знаходзіў, што адказаць.

– Ці камуністы. Пры іх Біблія была забаронена, а сёння ў кожнай краме набыць можна.

– Тамара, не крыўдуй. Кажу – кнігі на паліцы паставіў.

– Я не крыўдую, Сцяпан. Што крыўдаваць на чалавека, які Купалу – у печ?

– Ведаеш, я і сам некалі вершы пісаў, даўно, праўда.

– Бач ты, адны паэты вакол.

– Як я магу заслужыць прабачэнне?

Тамара Мікалаеўна прыжмурыла настаўніцкае вока.

– Ну, напрыклад, – на момант задумалася, – вывучыць на памяць які-небудзь цудоўны верш.

– Выдатна, які? – Сцяпан узрадаваўся, што лёгка адкараскаецца.

– «Новую зямлю» Якуба Коласа.

– Канечне, вывучу.

– Ну то малайчына, як вывучыш, прыходзь – раскажаш.

Сцяпан улавіў лагодныя ноткі, зразумеў, што атрымаў прабачэнне, а разам з ім і запрашэнне ў госці. Засталося толькі вывучыць верш. Здаецца ў школе нешта пра гэту «Зямлю» праходзілі, даўно тое было.

– Трымай, – Сцяпан працягнуў Тамары пакет з цукеркамі, шампанскім і каньяком.

– Нашто мне столькі, я ж не п'яніца.

– Іванаўне. Яна прасіла шампанскае.

– Хіба што Іванаўне.

Настаўніца вярнула Сцяпану каньяк. Пакет з цукеркамі і шампанскім пакінула для суседкі.

– Бывай.

– Заўтра прыйду верш расказваць, – паабяцаў Кляпон.

– Яшчэ не запрог, а ўжо паехаў.

Калі Тамара Мікалаеўна вярнулася ў хату, за сталом нікога не было. Ад чарнічнага пірага засталося толькі два кавалачкі.

* * *

Кляпон ужо падыходзіў да дома, калі на пустой вуліцы сустрэў картавую Ірку. «Кіруецца да клуба, каб не змерзнуць, – здагадаўся Сцяпан, – дамоў ісці баіцца, там раз'юшаны Толік».

– Ірка, хадзі сюды.

– Чаго т'еба? – раздражнёна спытала Ірка.

– З Новым годам! – Сцяпан працягнуў дзяўчыне бутэльку каньяку.

– Гэта мне?

– Табе. Бяры, толькі не пабі.

– Дзякуй.

Не даючы веры нечаканаму шчасцю, дзяўчына схавала каньяк у кішэню і асцярожна, каб не паслізнуцца, пабегла дадому.

– Ірка! – гукнуў Сцяпан.

– Што? – спалохалася тая. «Хаця б не перадумаў».

– Даўно хацеў сказаць... У цябе самы прыгожы гук «рэ», які я толькі чуў.

– От, жаўтаўнік!

Шчарбаты рот дзяўчыны расплыўся шчаслівай усмешкай.

* * *

Тры постаці бязважкай хадой ішлі па срэбнай дарозе. Маладзік халодным святлом заліў наваколле.

– Задала яна задачку гэтаму качагару. Ці ведаеце вы, Канстанцін Міхайлавіч, сваю паэму на памяць? – спытаў Купала.

– Любімыя кавалкі безумоўна, але каб усю... Там жа трыццаць частак, больш за паўтары сотні старонак.

– Намучыцца «Казанова» з вашым тэкстам.

– Нічога, – адказаў Колас, – да летніх вакацый час ёсць. Калі кахаеш, вершы і пішуцца, і вучацца лягчэй.

– Зірніце, шаноўныя, якая прыгажосць! – зачаравана ўздыхнуў Максім. – Здароў, марозны звонкі вечар, здароў, скрыпучы мяккі снег!

«Шкада хлапца, – падумаў Колас, – вельмі мала ён пахадзіў па зямлі».

Уладзімір Кароткі



...А можа, не было такіх паэтаў?
А можа, не было такіх часоў?..

# Штандар памяці

## *Тры балады*

### *ВАРАГВАЛОД*

*У польскамоўных хроніках Бернарда Вапоўскага, Мацея Стрыйкоўскага, у лацінамоўнай "Гісторыі Літвы" Альберта Віюка-Каяловіча, у старажытнарускім "Сказанні пра князёў Уладзімірскіх" захоўваецца шмат звестак легендарнага і гістарычнага характару, якія пакуль не даступныя шырокаму колу не толькі чытачоў, але і навукоўцаў. Гэтыя звесткі значна карэкціруюць нашы ўяўленні пра гісторыю ўсходнеславянскіх зямель IX-XIV стагоддзяў, а таксама дынастычныя канцэпцыі, звязаныя з Рурыкавічамі. Яны адкрываюць новыя гарызонты для фарміравання ўяўленняў пра Літву, полаўцаў і печанегаў як пабрацімаў, а таксама пра прусаў, русь, варагаў. Мая балада – вынік асэнсавання легендаў і паданняў з гэтых хронік. Няма ніякіх праўдзівых ці непраўдзівых легендаў, бывае дух – або жывы, або мёртвы.*

Варагвалод, сыны-асілкі, брацці –
Іх род здаўна прыйшоў на Полацкі пасад.
Літвы і печанегаў статных раці
Жылі без усялякіх страшных звад.
Ад палавецкіх скокаў бляск Палоты
Да зорак шлях вясельны пралажыў.
Вакол былі лясы. бары, балоты,
І мужны люд прыродзе той служыў.
На камянях імёны абаронцаў
Ён высякаў не крэменем – сцілом.
А сэрцы адкрываў – праз іх аконцы
Агонь палаў, і ўвекавечвалі агнём.
Ён па Дзвіне ва ўсе краіны свету
Ў ладдзях зубрыных смела веславаў,
Ды колькі быляў патанула ў Леце,
Стагоддзі йшлі – паэт не апяваў.
А можа, не было такіх паэтаў?
А можа, не было такіх часоў?
Дык, значыць, мушу напісаць пра гэта –
Пра тое, што пад спудам год знайшоў.
Народ Палоты доўга навучалі
Чужым мелодыям: свой лірнік не спяваў.
То бубны нейкія, або свірэлі гралі;
Чужынец што? Чужынец спавіваў.
Іх гукі роднай мовы патапілі
Ў Дзвіне, і думалі: сплывуць
Яны ўдалеч, ды камяні спынілі
Барыса духам, і яны жывуць.
Уладзімір – ён родам быў з прусакаў, –
Сабраўшы раці, Полацк спапяліў.
Варагвалода ён забіў – ніхто не плакаў,
Рагнеду ўзяўшы, род свой загубіў.
«Хачу цябе, хачу цябе паяці». –
Адказ пачуў: «Ты – рабскае дзіця».
Не, не пра бацьку йшла гаворка, не пра маці,
А пра душу нікчэмную, хаця:
«Твой бацька з маці загубілі князя Мала.
З Малушы захацелі выляпіць рабу.
І што, і што нарэшце атрымалі?
І што напісана на вашым на раду?
Мяне ты хочаш мець? Даўно каханне
Я князю з печанегаў аддала,
Ды лепей Яраполка стрэць на ганку,
Чымся такога бедалагу-ваяра.
Нашу дзіця ліцвінскае пад сэрцам.
Глянь на сябе – тры валасы ў ілбе.

Ну што, прыйшоў, прыпоўз сагрэцца
Ля вогнішча чужога? Што табе?
Цябе прывабіў пах чужога ложка,
Як косткі смак сабаку пад сталом,
І ля дзвярэй чужых ты і рагожку
Схапіўшы ўпотай, скрыцца быў гатоў.
Мой будзе сын – сваёй нашчадак маці.
Твой гвалт... Герой... Жанчыну перамог.
Вякамі людзі будуць праклінаці
Цябе і твой гнілы парог.
Мінуць гады. Уладзімір чарніцу
За жонку – жонку брата ўзяў сабе.
Сын Яраполка, Святаполк, яго правіца,
Абылганы ў гісторыю ўвайдзе.
Напісана: Курэт, ліцвін адважны,
Зняў Святаславу шабляй галаву
І чэрап ён яго, ну быццам чашу,
Такімі словамі, як стужкай, агарнуў:
«Шукаў чужога хто – той і сваё пакіне».
Наліў у чашу горкага віна,
Ды піць не стаў – няхай яно загіне.
І прэч пайшоў, каб асядлаць каня.
Вось летапіс стары пераказаў вам, брацці.
Не ўсё, канешне, можна апісаць.
Гісторыю нікому не схаваці,
Гісторыя не мае права спаць.

## КАРОТКІ ЛЕТАПІС

Сучаснік мой, як доўга ты
Ў жыцці з сабою сам змагаўся.
Усё таму, што йшлі гады –
Не ведаў сам, як называўся.
Спачатку быў ты крывічом:
Занатавана ў даўніх світках
Ці то пяром, ці то мячом –
Лічыўся Кіева здабыткам.
Са скураў звера шаты меў
І брыдкіх слоў ты не цураўся,
Дзічыну ўсякую ты еў,
У ноч купальскую кахаўся.
Усюды быў асветны люд:
Напісана – а ты не ведаў,
Як жыць самому, без прынуд
Варагаў прышлых або шведаў.
Прус Уладзімір твой пасад,

Варагвалода, яго племя
Рубаў, паліў – не свой жа сад, –
Пераўтварыў яго ў паленне.
Рагнеды Слаўны Ізяслаў
Быў сынам маці, дзеда ўнукам,
З паленняў ён агонь узняў:
Народ наш зварушыў і рухаў.
За Ізяславам – Брачыслаў
Біў у званы, і яго славу
Навек уславіў Усяслаў –
Не спаў у шапку ён на лаве.
Палоту, дзіўную раку,
Крыжом Сафіі ён ачоліў,
Не слухаў княжа талаку,
Сам кіраваў і не дазволіў
Чужынцу ў звон Сафіі біць –
Здалёку звон чужынец слухаў.
«Я быў. Я ёсць. Мне вечна быць», –
Нашчадак выдыхнуў у муках.
А потым, хто ты быў? – Ліцвін.
І на шчыце ты меў Пагоню,
Аліўкавых не сек галін –
Абараняў свой люд і гоні.
Альгерд і слаўны сын Якуб –
Пазней Ягайлам яго звалі –
Дзяржавы моцны мелі зруб
І прыхадняў не паважалі.
Калі ж хто меч хацеў з віном
Даслаць як годны падарунак,
Адказам быў ім шабель звон
І з ланцуга ў адказ карунак.
Вось хціўцаў вельмі не любіў
Наш продак – іх страчаў у зброі.
Ці там Усход, ці Захад быў, –
Ён на кані: было не новым.
Пад Грунвальдам сцягі здабыў,
Не спаў на полі Куліковым;
Калі ж не стала караля
Ў суседа – выбар быў няпросты.
І стала роднаю Палоніі зямля.
Маўчу... Снуюць далей, бы кросны,
Багіні – ім даручаны наш лёс...
Не стала дзіўнае Ядзвігі,
Эльжбета, Ганна адышлі.
Да крыжакоў ісці пад Рыгу?
Да немцаў? Не. Ужо былі.

Але на Ўсходзе горад слаўны.
Наш горад Друцк, хто з вас не знаў,
Напісана: з часоў тых даўніх
Ён каралёў, цароў даваў.
Княгіня з іменем Сафія –
Даў лёс ёй доўжыць слаўны род.
На Вавель позірк толькі кіне –
І прысягне ёй наш народ.
Цяпер Арол кіруе небам,
Пагоня землі сцеражэ.
Ёсць соль ды і хапае хлеба,
Вада празрыстая цячэ.
Ды ўсё ж мой сын мяне спытаў:
«Што, дух Ягайлы стаў скароны?
І што – ліцвін палякам стаў?» –
«Не, стаў ён каралём Кароны!»
І колькі дзеяў Ягелонаў
Занатавана – не злічыць
Старых аналаў, кніжак новых...
Ды час няўмольны, час бяжыць.
Не падзялілі штосьці продкі,
Забылі Вітаўта, Сапег,
Знік Радзівіла нават подзвіг,
Калі маскаль з-пад Улы збег.
Забылі ўсё, сябе забылі,
З цялят абралі караля
І праз стагоддзі роднай мовы
Губілі бляск, губілі лад.
Чужынец ладзіць свае ловы,
Шукае продкаў нашых клад.
Усё знявечана, нат шляхціч
Стаў дваранінам – Божы суд!
Каня забралі – вось вам кляча.
З вады зрабілі нейкі бруд.
Замест жа гімнаў – песні жальбы.
А смык без скрыпкі – на, бяры.
Народ наш жыў, скажу так, як бы.
Ну, як без зброі ваяры.
Паэт і той стаў пра варону
Пісаць – забыўся салаўя.
Здурнеў мужык: як абарону
Пашыў свой сцяг з чужых сярмяг.
І ўсяму свету сваё гора
Адзін мужык, дурны мужык
Панёс, а што ён мог агораць?
Адно ў жыцці араць прывык.

Усе, каму жывое слова
Было патрэбна ўваскрашаць,
Заснулі, аднялася мова –
Адно: у прысядкі скакаць.
Напалеон, Кутузаў б'юцца,
Перамяшаліся мундзіры –
З мундзіраў кроў цячэ праз дзіры.
Ізноў з нас кпяць, ізноў смяюцца.
Арла з адною галавою
Гуф з Гродна шабляй услаўляе,
Дзве галавы такія ж мае
Гусараў полк, бясстрашных вояў.
Па коле стрэлкі ў час гуляюць,
Адна другую даганяюць.
Гадзіннай мроя – стаць хвілiннай...
Што ж, не адно – дзве палавіны.
Два гербы, два сцягі, дзве мовы –
Наш продак сам не выбірае.
Дзе правадыр? Зямля чакае!
Народ, нам кажуць, не гатовы.

Бог даў – Міцкевіч. Бацька Нёман
І Свіцязь-маці спавілі
Яго: пачаў ён новы гоман,
І песні новыя пайшлі.
Не мы дзядам, а нашы продкі
Пад вечар на ўспамінны стол
Не хлеб, не сала – гукаў ноты
Нам, вам далі: да хлеба – соль.
І гэта ўсё нас ратавала,
І гэта ўсё жыло, пакуль
Нам вочы не адкрыў Купала...
Ды продкі гінулі ад куль.
Нас падзялялі, раздзялялі
То белы, то чырвоны мор.
І сцяг за сцягам раздавалі –
Былі мы як манетны двор.
Жылі ў Саюзе без саюза,
І кожны ў іншы бок глядзеў:
Адзін і еў і піў ад пуза –
Другі ад працы проста млеў.
Нарэшце ў нашай Белавежы
Саюз той рухнуў, як Калос.
Дзяржаву маем. Свае межы.
Свой засталося мецъ нам лёс.

## АГІНСКІМ

Ашчэрылася Шчара берагамі,
Вада ад гневу хвалямі дрыжыць,
Бо водар – не, смурод сюды нагамі
Нясе ваяр, які даўно абрыд.
Чаго ты прагнеш? Мо зямлі нястача?
Ці птушак не так звонкі перасвіст?
Ці маці не было ў цябе, іначай
Чаму скамечыў ты аліўкі ліст?
Крывавы меч, занесены з Усходу,
Вер, будзе вернуты таксама на Усход.
Яшчэ ніхто не змог забараніць народу –
Майму народу – помніць: ён народ.
Касцюшка, Каліноўскі з ваярамі,
З Пагоняй на скрываўленых шчытах
Калоссі славы шаблямі збіралі
І ахінаў іх крыламі Арол, вялікі птах.
Агінскі-гетман[1], што адзін ты зможаш?
Чаму астатнія, як тое стравуссё,
Схавалі шыі пад спадніцы, гожа
Сваё сабраўшы для чужынцаў калассё?..
Другі Агінскі[2] дар свяшчэнны Бога
(Як той нікчэмны з Кніг) не закапаў.
Ён ведаў: будзе, будзе перамога!
Чаму ж народ мой гэтак доўга спаў?
Ды гукамі Радзімы з Паланеза
Паўстаў, абуджаны, і горда сцяг узняў.
Калі я сам быў немаўля-гарэза,
Ад дзеда сэнс тых гукаў я спазнаў.
Мой сын, мой брат, сыны майго народа,
Складзіце новы гімн, каб уваскрос
І той, хто выракся сваёй зямлі і рода,
І той, хто памяці штандар пранёс.

---

[1] Міхал Казімір Агінскі (1729 – 1800) – гетман вялікі Літоўскі (1768 – 1793). У 1771 г. яго войска прайграла ў бітве пад Сталовічамі расійскаму войску пад камандаваннем А. Суворава. Іншыя беларускія магнаты фактычнага ўдзелу ў гэтай бітве не прымалі. У 1793 г., пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, яго маёнткі былі канфіскаваныя.

[2] Міхал Клеафас Агінскі (1765 – 1833) – адзін з выбітных удзельнікаў паўстання Тадэвуша Касцюшкі, кампазітар, аўтар славутага паланеза "Развітанне з Радзімай".

Сяргей Календа



...Зямля – суцэльная пустка,
прынятая лічыцца жывой...

# Радыеактыўная пустэча

### *Апавяданне*

*Я Госпадзь, Бог твой, Які*
*вывеў цябе зь зямлі Егіпецкай,*
*з дома рабства.*

**Выход 20:2**[1]

***1.***

Іаан распавядаў, што ў яго маленстве людзі жылі раскошна: былі аўтамабілі, самалёты і на ветразях водныя машыны. За грамадствам сачыла праграма, якая сканавала твары і целы і дазваляла карыстацца грамадскім транспартам, набываць прадукты і атрымліваць медыцынскія паслугі.

Жыццё было боскім. Трэба выконваць сваю працу, і атрымаеш усё самае лепшае: цёплую кватэру, ежу, медыязабавы...

[1] Тут і далей цытаты з Бібліі ў перакладзе Васіля Сёмухі, *World Wide Printing Duncanville, USA 2002.*

Было ўсё, і не было незадаволеных.

Быў адзіны Бог Сонца, якога кожны як хацеў, так і называў: Яхве, Егова, Алах, Буда, Крышну...

Жыць было проста: адна праца, адзін Бог, адна сям'я. Не трэба клапаціцца пра штосьці большае.

І тут, у імгненне, ад шчасця нічога не засталося.

Кажуць, быў задзейнічаны вірус, што спачатку скасіў палову насельніцтва, а пасля зламаў сістэму бяспекі ва ўсіх кампутарах свету.

Ёсць сведчанні, што гэта быў запланаваны тэракт. Пасля вірусу мусілі выбухнуць АЭС, пакінуўшы ў жывых толькі мільярд – тых, хто абслугоўваў бы адзінак... Але хтосьці іншы запусціў ядзерныя ракеты, і з *deep state* не засталося нікога.

Цяпер не тое, што кампутары – ровар цэлы складана знайсці.

Зямля – суцэльная пустка, прынятая лічыцца жывой. Жоўтая. З адлівам атрутна-зялёнага. Чырвона-барвовая.

Тут і там узгараецца полымя.

"Нас засталося з дзясятак, мы павінны трымацца адно аднаго", – прамаўляе ў начной цемры стары Іаан.

*2.*

Калі змяніліся тры пакаленні, пачалі нараджацца дзеці, якія здолелі і адаптавацца пад тэмпературу, і ўжываць любую вадкасць, і ўтульна пачувацца ў катлаванах. Старэйшыя не выходзілі з шатра без кіслародных пакетаў – малыя ж гойсалі вольна паўсюль.

Усе новыя дзеці, чацвёртае пакаленне радыеапакаліпсісу, – чырвоныя. Колер іх скуры падобны да крыві.

Незвычайнае цяпер ёсць будзённым.

*3.*

Іаану шмат хто не верыць, бо ён часта пачынае распавядаць байкі пра беспраўадны інтэрнэт і дроны. Але Іаан – самы стары на свеце, і яго многія лічаць прарокам, бо сотні разоў ратаваў іх караван ад бандаў, бо заўжды ведаў больш за астатніх. Іаан кажа, што маладым ён жыў у краіне, дзе трэба было ўмець змагацца і быць гатовым да ўсяго. Цяпер жа прарока часам заносіць у цемрыва памяці так, што нават старое пакаленне не можа патлумачыць, пра што ён кажа. Можа, гэта відзежы, а можа – гэта проста старасць.

*4.*

Аднойчы, калі караван знайшоў даліну, амаль некранутую выбухам, было вырашана застацца ў гэтых мясцінах надоўга – пакуль не скончацца запасы ежы і даліна не будзе даследавана ад кожнага кута да кожнага куста, каб назапасіць харчоў на гады наперад. Іаан кажа, што калі рухацца ў бок зялёнага сонца, якое так няшчадна паліць, можна дакрочыць да напаўцёмнага боку зямлі, дзе, на яго думку, жыццё віруе: там смачная вада і "чыстыя" зубры, на якіх можна будзе паляваць, як у старажытнасці.

Лагер быў разбіты ажно на сем год. Ежы хапала, каб пачаць радавацца жыццю і забыцца на іншы бок планеты.

Чырвоныя падраслі, і пачалася сапраўдная канфрантацыя старых і дзяцей, бо пытанні пра чырванаскурасць былі ўжо абрыдлыя. Як і адказы на тыя пытанні.

Малыя не разумелі, чаму яны такія, і, калі пасталелі, пачалі самі фармавацца ў групоўкі. Лагер ператварыўся ў клубок няўтульных пытанняў і падлеткавай варожасці, калі дастаткова не так паглядзець у іх бок, каб сутыкнуцца са злосцю, непараўнальнаю з позіркам.

Чырвоных дзяцей Іаан назваў марсіянамі.

Ніхто не зразумеў, але ўсе палюбілі гэтую мянушку.

***5.***

А потым адзін са старэйшых з дзяцей – Беньямін – аднойчы прыйшоў на заняткі да Іаана з каляровым крота-пацуком.

Хлопец сказаў, што гэта ён звярыны слуга, бо гэта бог, што плюецца кіслай слінай, ад якой усё зварваецца на вачах. І, каб даказаць свае словы, сціснуў стварэнне – тое плюнула далёка на сценку шатра, і яна адразу пачала плавіцца.

***6.***

Чырвоныя дзеці пачалі таемна адлоўліваць жывёлаў, каб пакланяцца ім, як гэта раіў першы, хто славіў істоту, – марсіянін Беньямін.

Спачатку Іаан не зважаў на тое, што суполка дзяцей паводзіць сябе занадта добра: усе выконваюць хатнія заданні, вучаць мову, чытаюць кніжкі, якія знойдуць, а збольшага недагарэлыя, выцвілыя брашуры і рэкламныя праспекты...

Група марсіянаў жадала жыць па-новаму, і гэта адчувалася ва ўсім. Але ніхто не падаваў выгляду.

Іаан назіраў за звонку і пакуль што маўчаў: вакол пустэльня, паветра бы полымя, а моладзь стварае сабе новае жыццё, быццам беручы сілу з пяску і спёкі.

***7.***

І вось дзеці не падзялілі палаючага звярка.

Марсіяне сварыліся на вачах усёй племя, якое ўжо налічвала сотню жыхароў. Тады Іаан і заўважыў: марсіянскія дзеці хаваюць тузін дзікіх стварэнняў ужо шмат месяцаў. Пакуль гэтыя істоты знаходзяцца ў іхнім атачэнні, яны выглядаюць бясшкоднымі. І гэта дзіўна. Бо ніводны чалавек яшчэ не выжываў самотным у пустэльні – даводзілася яднацца. А тут, у ва ўсіх на вачах і адначасова таемна чырвонаскурыя прыручылі драпежнікаў.

***8.***

Іаан вырашыў сабраць Першы вялікі сход. Стары знайшоў узвышша, загадаў паставіць на ім ложак і лёг.

– Сябры мае! Дзяды, бацькі і маладыя марсіяне! Наш час яшчэ не прыйшоў, бо мы самі не прыйшлі да месца нашага прызначэння! Сем год мы прастаялі тут – выраслі, падужэлі, назапасілі ежы і вады, навучыліся чытаць і пісаць. Цяпер настаў час ісці зноў. І няхай вас больш не пужаюць каляровыя істоты! Марсіянскае пакаленне знайшло да іх падыход, таму я здымаю закон аб забароне радыеактыўных драпежнікаў!

Пачуўшы гэта, марсіяне радасна заскакалі, чаго не скажаш пра старэйшае пакаленне – яны пабеглі ва ўсю моц, падалей ад звяр'я.

Раптам крота-пацук Беньяміна апынуўся каля ложка Іаана і выпусціў тонкі струмень на шыю старога.

***9.***

Прарок знерухомеў і страціў прытомнасць. На трэці дзень яго пахавалі.

Пасля жалобы марсіянін Беньямін сабраў Другі сход.

– Найшаноўнейшае спадарства, будучае грамадства планеты! Жывёлы нашыя – нашыя багі. Так сказаў мне ў відзежах Іаан, прарок наш! Я абяцаю вам усім, што яны абароняць нас у падарожжы. Рушым жа з іх дапамогай у будучыню!

*Красавік – травень*
*Хургада, Мінск, Брно*

паэзія

Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў



...Час прыйдзе – і сцяна
Будзе ў руінах ляжаць...

# Слова – гэта Ён

* * *

*І быў Ён у пустыні сорак дзён, а сатана выпрабоўваў Яго; і быў Ён са звярамі, і анёлы служылі Яму.*

Евангелле паводле Марка 1:13

Са звярамі ў пустыні
ці ў пустыні з людзьмі...
І, самотнае, стыне
неба... Дух мой прымі!

У шэоле памерлых
або ў пекле жывых –
цемра поўнаю мерай
кожны поўніць удых.

Дзе звяры, дзе анёлы?..
Трасца б'е – не суняць.

Толькі раптам... на голым
небе... праменем кволым...
разгараецца золак...
пераможнага дня!

*20 лютага 2021*

* * *

*...Калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю,
не памрэ, дык застанецца адно; а калі
памрэ, дык уродзіць багата плоду.*

Евангелле паводле Яна 12:24

Падае ў глебу зярнятка,
каб памерці і жыць.
Гэткі для ўсіх без вынятку
лёс – ад яго не бяжы.

Можна ўцячы ад Бога,
можна ўцячы ад сябе.
Ёсць у пустэчу дарога,
ёсць адраджэнне ў сяўбе.

Страшна класціся ў глебу,
горай – ляцець на дно.
Зернетка стане хлебам
ці застанецца адно.

*21 сакавіка 2021*

* * *

*...Хто адваліць нам камень ад магільных дзвярэй?*

Евангелле паводле Марка 16:3

Хто адваліць нам камень
ад магільных дзвярэй?
Хто з Сусвету рукамі
боль і смерць аддзярэ?

Ад чыйго сэрцабіцця
зікнуць слёзы ў вачах?
Толькі цемра ў зеніце,
бо настаў яе час.

Ды адвалены камень.
Камень – клопат не наш.
Пад чыімі рукамі
ўпала цемры сцяна?

Дах нябёсаў пахілы...
Сілуэт юнака...
Каго цемра забіла –
тых з надсветнаю сілай
падымае з магілы
Жыццядаўцы рука.

*31 сакавіка 2021*

* * *

Белае ў небе святло.
Чорнае ў свеце зло.
Бог чуе ад зямлі
Чырвонай крыві голас.
Бог чуе голас наш.
Час прыйдзе – і сцяна
Будзе ў руінах ляжаць...
Чым наталяць голад?
Божым хлебам адным,
Чорным і белым. Усім:
Бедным, багатым, злым...
Чырванню праўды
Божай – смагу заліць,
Чыстае неба піць,
Божае Цела дзяліць,
Чэрава цемры забыць,
Боязь прыбраўшы.

*8 красавіка 2021*

* * *

*Тады Ён адкрыў ім розум для зразумення Пісанняў...*

Евангелле паводле Лукі 24:45

Кніга застанецца проста кнігай,
колькі б ні было там мудрых слоў.
З розуму жалезныя вярыгі
здыме Уваскрэслага святло.

Уваскрэслы ўваскрашае словы,
бо адвеку Слова – гэта Ён.
З літары смяротныя аковы
здыме подых велікодных дзён.

Гэтак слых аглухлай глебы ўвесну
будзіць жыццядайных водаў сцёк.
Бо павінен розум уваскрэснуць,
каб радкі зрабіліся жыццём.

*17 красавіка 2021*

* * *

*...Я аддаю жыццё Маё, каб зноў прыняць яго...*

Евангелле паводле Яна 10:17

Аддаць жыццё, каб яго прыняць.
Трымаць святло векавога дня.

Рукою слабай трымаць Сусвет,
рукою моцнай дарыць траве

віно аблокаў і сонца хлеб,
карміць Сусвет, каб Сусвет сталеў.

Бо сярод скарбаў, што не аддаў,
як немаўлятка, сядзіць Адам.

І моўчкі гадуе насенне трава,
што навучылася аддаваць.

*22 красавіка 2021*

* * *

*...Ты жывеш там, дзе пасад сатаны...*

Адкрыццё Яна Багаслова 2:13

Ты жывеш, дзе пасад сатаны,
«под собою не чуя страны».
Як жыццё выбіраць цяпер,
калі хочацца выбраць смерць,
калі хочацца выбраць скон?
Ты жывеш там, дзе смерці трон.

Гэтак лёгка смерці служыць!
Трэба проста... проста не жыць.
Выгляд проста рабіць, што жывеш.
Трэба проста ў пустой галаве
пустату маўкліва трымаць.
Ты жывеш, і твой дом – турма.

А калі гэта дом не твой –
значыць, неба над галавой,
значыць, зноў пад нагамі зямля,
значыць, можна ў жыццё не гуляць,
можна больш не стаяць на мяжы,
можна проста прачнуцца і... жыць.

*30 красавіка 2021*

Алесь Кіркевіч



...гэтая дзіўная гісторыя адбылася не для таго, каб некалі паўтарыцца...

# Шкляны каўчэг

***Апавяданне***

Лета. Вечар. Дзённая спёка сышла, каб даць жывому выдыхнуць ды – вярнуцца ранкам. Ужо а дзявятай будзе пекла. Гэтае лета пабіла тэмпературныя рэкорды нават зусім далёкіх гадоў. Так казалі ў навінах. Па ходніку ішла маладая пара з вазочкам. Адтуль па баках пазірала гадавалае дзіцё ды калашмаціла ў руках пачак вільготных сурвэтак. Найлепшыя цацкі – простыя. Дзеці любяць простае.

*"Охх, мы даўно ўжо так позна не вярталіся,* – хутка і нервова прамаўляла жанчына. – *Амаль адзінаццатая. Зрэшты, Кнопка добра паспала ўдзень, раніцай паўтары гадзіны. Перад прагулкай таксама нешта каля двух гадзін".*

Мужчына меланхалічна каціў вазочак і думаў пра сваё. Вельмі хацелася паліць, але з вазочкам не папаліш. Пазней.

*"У малой рэжым, канечне, збіўся пасля лякарні. Там мы раней клаліся, зараз пазней. Нічога, выправім. У сераду яшчэ пойдзем у прафесарскі цэнтр, паглядзім, што скажуць".*

– Добрый вечер!

Побач прайшла высокая хударлявая жанчына ў лёгкай сукенцы, з ільнянымі валасамі, сабранымі на патыліцы. Яе вялікія зялёныя вочы “ўсміхнуліся”, а вусны, здаецца, нават не здрыгануліся ад прамоўленага. Мужчына кіўнуў на аўтамаце: *“Добры”.*

*“О, гэта ж наш доктар з «Ладэ»! Аксана. Памятаеш, я распавядала? Вельмі ўважлівая да малой, не тое што неўролаг. А скуль ты яе ведаеш? Яна з табой паздароўкалася”.*

*“Я? Са мной?”*

Раптам неба, афарбаванае змрокам, расквецілася морам агнёў. Ракеты, адна за адной, узляталі ды разрываліся залатымі іскрамі. Праз кароткі інтэрвал даносіліся глухія выбухі.

*“О-о-о, Кнопка, глядзі, салют!* – жанчына рухам спыніла вазочак ды прысела на кукішкі, – *Глядзі! На Новы год мы праспалі, а зараз – во! Твой першы салют”.*

Малая, раскрыўшы рот, паядала вачыма расцвечанае фарбамі неба. Пачак вільготных сурвэтак выпаў з ручак. Мужчына таксама глядзеў у неба. Сполахі вагню адбіваліся ў ягоных зрэнках. Пасля чарговага сіпатага скалыхання ў вечаровым небе ён, здаецца, узгадаў, чаму незнаёмка павіталася менавіта з ім.

***

Гісторыя адбылася даўным-даўно. Яшчэ “да рэвалюцыі”, як цяпер кажуць. Калі маленькія праблемы падаваліся вялікімі, а пра вялікія ніхто нічога не ведаў. Бо фронт быў так далёка, што ў тыле не ведалі пра яго існаванне.

Аляксей любіў выпіць. Прычым выключна ў публічных месцах. Не сам з сабою, не на прыродзе, не ў душных сяброўскіх кватэрах. У кабаках. Кожны вечар – фактар нечаканасці: каго сустрэнеш, з кім пазнаёмішся, з кім сфатаграфуешся ці паб’ешся?

Скамечаныя сурвэткі, з напісанымі памадай ці асадкай тэлефонамі, як правіла, на раніцу ішлі ў сметнік. Важным быў працэс. Алкаголь разнявольваў, ірваў заслону шэрасці і страху, надаваў лёгкасці. Няхай на адзін вечар-ноч. Але можна будзе паўтарыць: зноў-зноў-зноў. На колькі хопіць грошай і здароўя.

Добра кульнуўшы з калегам, Лёша спусціўся парай вузкіх вулачак на Віленскую. Ва ўлюбёны кабак. Сябар паехаў дадому, а для Лёшы вечар толькі пачынаўся. Калі піць – то да забыцця. Нарколагі называюць гэта залежнасцю не ад алкаголю, але ад алкагольнай комы. Не напіўся да “чорнага экрана” – вечар прайшоў дарма.

*“Підар, какой-жэ-ты-підар”,* – з жорсткай крытыкай звяртаўся сам да сябе “Чайка”, бармэн гэтага ж бара, седзячы на ходніку ў футболцы *Led Zeppelin.* Учора была ягоная змена, сёння – выхадны. Можна адпачыць. Ліхтары адбіваліся ў чорных шкельцах яго танных акуляраў. Тут было ўсё: заляцанні, бойкі, сэкс у прыбіральні, бітае шкло на асфальце. Страчаны рай з чарцямі, пекла з дэманамі анёльскай красы. Сваё-роднае.

І раптам – цуд. Агеньчык святла сярод цемрадзі. Няспешна, троху хістаючыся, вымяраючы кожны крок, каб не трапіць абцасам між камянёў брукаванкі, з боку скрыжавання Савецкай і Ажэшкі ішла яна. Бялявае дзяўчо ў чорнай вечаровай сукенцы, якая падкрэслівала кожны рух мініяцюрнага

цела. Кароткая стрыжка пасуе дзяўчатам з “тачонымі” тварыкамі. У яе выпадку – падкрэслівалі геаметрыю падбароддзя, высокія скулы, вялізныя вочы, як у рыбы ці змяі. Залатая рыбка, купальская вужалка.

– О-о-о, привет! – яна ўсміхнулася, прыціснулася да Лёшы. Ён яе памятаў, але не быў пэўны, што і яна яго. Дзяўчо ягонага прыяцеля. Не сябра, прыяцеля. Пілі неяк разам. Былая ці актуальная? Зрэшты... Блін, як яе завуць?

– Вітаю! Гуляеш?

– Угу. А ты – п’еш...

Цыгарэты існуюць, каб прыхаваць хвіліны маўчання, часовую пустку ў размове. Дым запаўняе вакуум. Нічога не важыць, але белым туманам захутвае поле бою, на якім часова не страляюць. Каб так проста стаяў моўчкі – гэта дзіўна. Калі паліш – нібы заняты. Можна агледзецца, падумаць, што далей.

– Будзеш?

– Давай, но я ненадолго.

– ?

– У мамы ДР сегодня. Она недалеко, в баре. С подругой. Скоро придут за мной, или я к ним.

– Хадзем.

Кінуўшы недапалкі, яны разам рушылі ўніз па лесвіцы. Праход быў вузкі, прыступкі крутыя. На лесвіцы заўжды палілі, гэтым разам таксама. Панкі з нямытымі патламі, загулялыя фанаты, барадатыя хлопчыкі ў выцертых скуранках, якія ніколі не падарослеюць. Уся гэтая мясцовая бесаўшчына кідалася ў вакі, прырастала да сценаў, замірала, робячыся на момант чарцямі з роспісаў якой драўлянай палескай царквы, маляванай яшчэ да 1839 года, некананічна, проста. Сашэсце Хрыста ў пекла, не йнакш.

– Чо тут пьют? – дзяўчо ўсміхнулася ў бок бармэншы.

– Всё, – прашыпела тая, непрыветна зірнуўшы на Лёшу, ды ўзялася націраць і без таго чысты куфаль.

– Два піва. Эдэльвейс... можа быць?

– Угу.

Кожнага, хто сюды завітваў, сустракаў тузін нерухомых вачэй “пастаяннікаў”. Нават не гасцей, тым больш не кліентаў (кліенты – ў шлёндраў), а жыльцоў. Тутэйшых. Яны адсюль не сыходзілі, а калі з’явіліся – ніхто не памятаў. Ніколі не адводзілі вачэй. Ціль, Озі, Лемі ды іншыя глядзелі моўчкі з чорна-белых партрэтаў. Дзяўчына павольна, адзін за адным, сканавала застыглыя твары. У храме так глядзяць на іконы, дамаўляюцца пра згоду з мясцовымі “багамі”.

– Як там Глеб?

– Не знаю. Мы как бы не вместе. Полгода где-то.

– А ты...

– Я – Каролина, если что. Ничо-ничо, все норм. Сама часто забываю как кого.

Было цеснавата, але яна выцягнула з-пад барнай стойкі далонь, яны павіталіся. Лёша лічыў вітанні за руку з дзяўчатамі феміністычнай звычкай, але не адмовішся ж. Халодная рука. Было цемнавата, але ён звярнуў увагу на пару шнараў вышэй запясця.

– Ка-ра-лі-на! Ага.

– Можно Кара.

– Кара нябёсная?
– Неее, земная.
– Не егіпецкая.
– Неа. Жаб не люблю. А лучше – Лина. Меня так мама называет.

***

...и он запил. Опять. Обещал, не обещал. По...уй. Слова все. По два-три дня так. Проснулся – начинай сначала. Это ну реально кошмар какой-то. Его и с работы выгоняли. Грозились. Но на гос-работе как? Пока директору на стол не нас...ешь – не выгонят. Кого на его место взять? Хорошего осветителя для сцены за такие деньги. Ху...шки найдешь. И вот такая е...ола тянулась-тянулась, а потом мне надоело. Собрала вещи и ушла. К маме как-то стыдно было. Сняла квартиру. Выдохнула наконец-то. Просто лежала днями. Спала. Ела что-то. На мейле висело предложение из Питера, на которое я никак не могла ответить. Мой профиль – дизайн – деньги норм. Думала, перечитывала по многу раз. Боялась чего-то...
– А ён цябе шукаў?
– О-о-о-о. Искал. Телефон разрывался – пока не выключила. Потом новую симку купила, чтобы мама не волновалась. На мейл писал: *“руки на себя наложу”, “ты меня знаешь”, “трахаешься там”*.. в таком духе. И главное знаешь что? Я-то понимала, что он все это время пьет. Все время бухой. Всео-о-о-о-вре-э-э-м-я-а-а-а! То есть, даже то, что я ушла, бля...ь, исчезла, его не остановило! И тогда у меня внутри окончательно все сломалось. А может... не важно. Вообщем, я ответила на мейл. Не его который, а из Питера. И легче стало. Как у Шнура в песне: *“Прощай, пи...добол, не скучай, смотри футбол”*... Слушай, а тебе не стремно, что он твой друг, а я тут косточки ему?..
– Прыяцель, напэўна. Мы апошні раз увосень хіба... Выпадкова. У горадзе. Раніцай ці бліжэй да абеду. Іду. Крычыць: “Лё-о-о-оха-а-а!” О, ён. Вясёлы такі. Ніяк ровар свой не мог ці прышпіліць, ці адшпіліць. Кажа – пайшлі. Ну, пайшлі. Ок. У бар павёў яго, праз дарогу. Во, кажу. Ён агледзеўся, скрывіўся. Бярэ мяне пад руку. На Нёман, маўляў. Га...но гэта ўсё. *“Што бальшавікам плаціць”*. Ну, брыдзем разам. Лісце жоўтае, мокрае. Неба шэрае. Не дайшлі, у парку селі. Ён каньяк дастаў з заплечніка. Я па баках усё глядзеў. Але якія там патрулі ў парку ранкам? Мамы з вазочкамі. Ды алкашы – як мы. Ну і тады ён расказаў. Раскрыўся. У войску, маўляў, праз яго нехта загінуў. Сарваўся, шыю зламаў. Пра парашут, дзедаўшчыну, ой, рознага там... Пасля замялі ўсё. І ён сабе гэтага прабачыць не можа. І столькі год, бачыш...
– Знаешь, – Ліна паклала руку яму на плячо, – Все это ху...ня. Ему просто так удобно. Он столько раз эту е...учую историю рассказывал, что сам в нее поверил. Сорвался, «почему он, а не я», парашют... Это он сорвался. Потом уже. И летит до сих пор. И дна не видит. Тока я не хочу быть его парашютом, ясно?!.

Гэтае “ясна” дзяўчына прамовіла, відаць, занадта гучна. Музыку перакрычала. Некалькі барадачоў па-суседстве павярнуліся да іх. Яна таксама гэта заўважыла і апусціла вочы долу. Адсербанула піва. Лёша таксама моўчкі выпіў.
– Извини.
– Ды нічога...
Трэба было нешта сказаць, але абмяркоўваць банальнасці і нецікавую

асобу Глеба не было жадання. Прыкра, што пра такіх людзей зазвычай кажуць у мінулым часе. Не што зробіць, а што зроблена. Дзе накасячыў. Як пра нябожчыка. І жыць не жыве, і памерці не можа.

Трэба было вярнуцца ў размову, але па-іншаму. Пра ўсё і ні аб чым. Пра ўсіх і ні пра кога. Пра кожнага. Пра Беларусь. Падвесці тэорыю пад банальны сюжэт. Лёша любіў такое. Асабліва па п’янай лавачцы.

– Ведаеш, гэта агульная праблема. Архетыпічная, з гістарычнай аблямоўкай.

– Ага, *так сложилось исторически*! – Ліна нервова засмяялася.

– Да-да. Ну, глядзі. Вякамі тут войны, набегі, пажары, зноў войны. Яно ж не праходзіць дарэмна. Так, у беларусаў не засталося паўнавартаснага фальклору ў форме гераічнага эпасу, бо яшчэ ў Лівонскую вайну... Ладна, гэта пра іншае. Цягам канфліктаў, якія сканчаюцца няўдачамі, ідзе антыадбор. Як па Дарвіну, але наадварот. Там мацнейшыя выжываюць, а тут – тыя, хто выжывае. І нашчадкаў даюць. Пакуль лепшыя недзе там кішкі свае збіраюць, іхніх дзетак, калі з галадухі не здохнуць, выхаваюць выжыўшыя. Тыя, хто змаўчаў, схаваўся, не пайшоў у першыя шэрагі. У выніку маем архетып моцнай жанчыны, якая заўжды гатовая застацца сам-насам з праблемамі. Ад нараджэння гатовая. Вяселле – гэта адразу ж памінкі па мужу, які аднекуль некалі не вернецца. Разам з ёй – архетып інфантыльнага пасіўнага мужчыны. Які не бярэ на сябе адказнасць, бо каб браў...

– ...То спал бы в земле сырой.

– Правільна. Наступны этап, – Лёша кульнуў стопку настойкі, якая немаведама адкуль з’явілася побач з “Эдэльвейсам”. – Калі па выніку ў грамадзе з’яўляюцца, а яны з’яўляюцца, харошыя зухаватыя мужыкі з наборам правільных рэфлексаў, то грамадства, жанчыны, іх не прымаюць. Бо не вераць. Бо так не бывае. Жанчыны на аўтамаце бачаць у іх слабае звяно. Можна любіць, але давяраць, быць “як за сцяной” – не працуе. І мужык разумее, што ягонае мужчынскае як бы і не патрэбнае. Нікому. Ні-да-ча-го. Куды яго прыкласці? Дровы пасекчы? Усё вырашыць жанчына. А ён – выканаўца.

– *Ввввыканаўца!* – Ліна зрабіла вялікія вочы ды ўзяла ў зубы цыгарэту.

– Не-не, тут не паляць, – ейная рука ўжо сціскала запальнічку, а ягоная сціснула яе далонь. – І ніхто не разумее, што ў гэтай гісторыі не так. А ўсё не так. З мужчынам, з жанчынай. І кожны з іх па-свойму няшчасны. І ён – п’е. Наш край здаўна быў абсаджаны корчмамі, дзе мужыкі злівалі рэшткі тэстастэрону. Яна, тым часам, цягне. Крыж свой. А можа, і не свой. І не крыж зусім. І цягнуць ніхто не прасіў.

– Ммм, «Отягощенные злом» – как у Стругацких.

– Радавы праклён, як у баптыстаў. І, што цікава...

– Ой, подожди-подожди, мне звонят, – Ліна кінула на стойку торбачку, з якой пасыпаліся карткі на каву, ключы, мятыя цэтлікі. – Да, да... Близко... Щас подойду...

Тут Лёша зразумеў, што гэта канец. Не толькі гістарычнай дыскусіі, але і вечару ў прыемнай кампаніі. Без яе дакладна застанецца ўпіцца да “чорнага экрана” сярод барадатых чарцей у гэтым падзямеллі.

– Это мама. Меня ждут. Они уже сворачиваются, недалеко, – Ліна ў момант знайшла сярод хаосу банкаўскую картку і пацягнула бармэншы, – Слу-у-у-ушай! А пошли с нами? Заберем маму с Наташей и домой поедем. Будем в швабру петь. У мамы ДР. Будет весело!

– Х-м-м-м.

Паездка да некага дадому ў Лёшавы планы ніяк не ўваходзіла. Тым больш – ДН мамы. Гэта як?.. Дзецям накрыюць “салодкі стол” з марозівам і шакаладнай каўбасой, уключаць мульцікі з касеты? Але, чорт вазьмі, развітвацца не хацелася.

– Не тупи, это прикольно, особенно когда...

“Жыве-э-э-э-бе-э-элар-уа-а-а-у-у-э-э-э-...-...” – з працяглым ровам касматы здаравяк паваліўся на барную стойку зусім побач, перакуліўшы піва і пару шотаў, налітых дакладна для некага іншага. Гук разбітага шкла. Квахтанне бармэншы. Воплескі аднекуль з дальняй залы. Тут заўсёды цешацца, калі б’ецца шкло. На шчасце. Шкла разбітага вагон з вазком, а дзе тое шчасце?

– Лан, пайшлі адсюль.

Яна ўсміхнулася ды ўзяла яго пад руку.

***

Па дарозе Ліна нешта распавядала, смяялася, задавала рытарычныя пытанні ў нікуды. У ноч. Лёша зрэдку падтакваў або маўчаў. Цёмная, нібы атрамант, ноч таксама маўчала. Яна – слухач, назіральнік, але ніводнага разу не дэкарацыя. Роля дэкарацыі прынізлівая, а вось маўчанне – таксама рэакцыя на прамоўленае. Часам больш вагомая за словы.

У тым наступным бары ўжо зачыняліся. Апроч дзвюх жанчын ды стомленай дзяўчынкі за стойкай не было нікога. Адно стэлажы з півам з усяго свету да самай столі. Піўная бібліятэка. Лёша не быў тут ніколі, таму першай справай змерыў вокам шыхты этыкетак-карэньчыкаў, мясцовае чытво. Пазней толькі агледзеў жанчын.

Мама аказалася копіяй Ліны, але вышэй ростам ды больш грацыёзная, ці што. Даўгія валасы, больш павольныя, стрыманыя рухі, не такая мабільная міміка і словы. Дарослейшая. Яна назірала, пралічвала, даследвала. Моўчкі. Як ноч, з якой яны сюды трапілі. Маміну каляжанку Лёша зусім не запомніў. Тая мала гаварыла і шмат смяялася.

– Лёша – Оксана, Оксана – Лёша, Наташа – Лёша, – паралельна рытуалу знаёмства Ліна ўзнялася на барным крэсле, каб лепш агледзець асартымент.

– Мы уже все... Касса закрыта.

– Правда? – у голасе Ліны гучала дзіцячае расчараванне.

– А наяўнымі?

– Если только без сдачи.

Ліна запляскала ў далоні ды пачала вадзіць пальцамі ў паветры, нібы перад ёй сэнсарны экран. Бармэнша здымала новыя і новыя пляшкі, а на стойцы хутка намалявалася батарэя са стракатымі цэтлікамі. Аксана назірала за працэсам, нібы правяраючы густ дачкі. Яе сяброўка хіхікала.

– Ну, все! В швабру? – здаецца, Ліна была задаволеная.

– В тыкву! – Аксана ўрэшце ўсміхнулася. – Детям спать пора. Шучу! Я уже вызвала по Яндексу, сейчас приедет.

На вуліцы ўся кампанія, тры жанчыны ды крыху разгублены Лёша, паспелі пакурыць. Выявілася, што Аксана – лекар з прыватнай медустановы. Наташа – яе начальніца. Свае заняткі Лёша акрэсліў як “працаўнік выдавецтва”. Свой статус – што менавіта ён робіць на гэтым свяце жыцця – не мог вызначыць нават для сябе самога. Ад яго і не патрабавалі.

Усё неслася само сабою, як цыгарэтны дым на вятрыску. Вецер узмацніўся, а зоркі гаслі адна за адной, як у апавяданні пра канец свету. Змянялася надвор'е, з Сувалак насоўвалася навальніца. Зарніцы блішчэлі яшчэ рэдкімі бязгучнымі сполахамі, як нешта далёкае, але немінучае.

Таксі. Вакзал. Начнік. Цыгарэты. Бурбон. Пяць-пяцьдзесят за паездку. *"Спасібо-удачного-вечера-оставьте-отзыв-в-пріложеніі"*. Нарэшце, зарослы бэзам ды алычой дворык трохпавярховіка. Той рэдкі выпадак, калі савецкі канструктывізм удала ўпісаўся ў ландшафт. Дом стаяў па-над глыбокім зялёным ярам, як над прорвай. Нібы спаўзаў долу, але зачапіўся, утрымаўся.

Відавочна, нетыповы праект, не "хрушчоўка" ці "брэжнеўка". Уваходаў было некалькі, з розных канцоў, каб жыльцы не турбавалі адно аднаго, а ў дадатак – павуцінне балконаў-лоджыяў-пераходаў, якія перацякалі адно ў другое. Здалёк павеяла прыемнай прахалодай. Недзе там, на паўночным захадзе, на прадмесці, ужо ішоў дождж.

Кватэра аказалася нечакана вялізнай. Здаецца, некаторыя сцены тут знеслі, а дзвярныя каробкі вынялі, перарабіўшы ў брамы, каб надаць памяшканню выгляд студыі. Палічыць колькасць пакояў з ходу было няпроста. Мінімум рэчаў. Сучасная графіка на сценах. Пара скульптураў з дроту. Барная стойка. Неахайна раскіданыя па падваконні глянцавыя часопісы ды альбомы жывапісу. Ноўт на падлозе каля разеткі.

Налілі. Выпілі. Калі на стале з'явілася попельніца – закурылі. Вецер усё выцягваў у адчыненае Аксанай вакно. Размова, нарэшце, стала падобнай да нязмушанай плыні акцэнтаў, сэнсаў, клічнікаў. Як заўсёды ў выпіўшых людзей. Невыносная лёгкасць выпадковай кампаніі. Калі Лёша зразумеў, што губляе арыенціры, пайшоў шукаць прыбіральню.

Перш-наперш ледзьве не зайшоў у лядоўню. Пасля ўрэшце намацаў ручку дзвярэй пад колер сценаў. Прасторнае памяшканне, джакузі ды – вялізнае люстэрка на ўсю сцяну. Умыўшыся, ён некалькі разоў паглядзеў на свой адбітак. Вочы ў вочы. Пасля выставіў наперад два пальцы правай рукі – указальны і сярэдні, складзеныя разам. Пару секундаў глядзеў на іх, пасля – зноўку сам сабе ў вочы. Так некалькі разоў. Гэта стары спосаб, каб не напіцца.

Сэнс у тым, што цела і асоба могуць быць якімі-заўгодна, а свядомасць заўсёды адна. Халодная, абыякавая, вечная. Ёй усё роўна. Бо там, за крышталікамі вачэй, пустка. Галоўнае ў практыкаванні – не прапусціць момант. Пасля адказаць на пытанні: *"Хто я? Дзе я? У якіх стасунках з рэчаіснасцю? Навошта ўсё гэта?"* На раніцу можна не памятаць анічога, але гэты момант застанецца. Лёша адказаў на ўсе пытанні, апроч апошняга.

Калі хлопец вярнуўся, у зале-студыі ўжо грала музыка. Ноўт нарэшце ажыў. Пад ноўтам была падушка, відаць, каб не моцна турбаваць суседзяў знізу.

> Смотри, приблизилась точка
> Ты видишь, это корабль,
> А там бескрайнее не-е-е-бо-о...

Ён пасміхнуўся: "Ну, канешне. Наста Полева. «Фрэгат». Колькі там гадоў імянінніцы? Зрэшты, захавалася няблага. Харошы карабель. Як нямецкія-трафейныя, што хадзілі ў СССР да канца 1980-х".

– Ну, это во времена Великого княжества...

– Литовского.

– Литовского! – Ліна ледзьве рухала языком. – И кабаки эти, корчмы, тоже оттуда. От депрессии. Короче, поэтому у нас тут бабская доля – невыносимая и бессмысленная. А все мужики – гандоны...

Лёша моўчкі падсунуў крэсла, сеў, наліў сабе. Вочы Аксаны сустрэліся з ягонымі. Толькі зараз ён звярнуў увагу. Зялёныя! О, богі... Ліна нарэшце яго заўважыла:

– Леша лучше расскажет. Расскажи!

– Очень самокритично для белорусскоязычного юноши, – замест яго ў размову ўвайшла імянінніца, пацалаваўшы чарку акрайчыкам вуснаў. – А я не белоруска, к примеру.

– Поўнач Расеі? Карэлія?

– М-м-м. Не перестаете нас удивлять.

– Нічога складанага. Высокія скулы, вочы, крыху ўзняты нос...

– Стоп-стоп, хорошо. А что у нас? У меня отец русский. Мама – украинка с Херсонщины.

– Расея – гэта суцэльны патрыярхат, – Лёша паспрабаваў сабрацца, каб пайсці ў апошні інтэлектуальны наступ. – З рэдкімі выключэннямі. На той самай Наўгародчыне, напрыклад. Зрэшты, пасля Івана Грознага... Ладна. У Масковіі мужчына заўжды правы. Бо мужчына. Які б ні быў. Жанчына, нават моцная, саступае, або рупіцца, каб яе маніпуляцыі выглядалі як саступкі і клопат. Тут татарскага шмат. Гэта як традыцыя нашэння маністаў, калі кожны шэраг манетаў падкрэслівае не статус уласніцы, але статус яе мужа. То бок – яе вартасць. Адпаведна, і аб'ём праблемаў, якія атрымае той, хто падкоціць або пакрыўдзіць. Бо яна – ягоная ўласнасць.

– Да, да, это ожерелья из монет с дырочками! Я себе покупала в Питере на вернисаже как-то! – Ліна запляскала ў далоні, ухапіўшыся за дэталь.

– Ш-ш-ш, – лагодна, але настойліва спыніла Аксана, – а украинцы?

– Там матрыярхат. Ён нікуды не сыходзіў, толькі форму змяняў. Скіфія, Сарматыя, Юля Цімашэнка, Верка Сярдзючка, каменныя бабы ў палях... Казакі казакамі, але кіраваць будзе Салоха. Згадайце Гогаля. Нават Запарожская Сеч – адчайная спроба эмансіпацыі мужчынаў. Як зараз рух феміністак, толькі наадварот. Калі Сеч раздзярбанілі, казакі вярнуліся да свайго ўтульнага хатняга рабства. На хутар бліз Дзіканькі. З гарілкай, чарцямі ды цыцкамі Салохі.

– А Пацюк? – нечакана ў размову ўвайшла Наташа. Яе вочы глядзелі ўжо ў розныя бакі. Верагодна, яна найлепш з прысутных памятала Гогаля. – Ну тот, с варениками и бровями?

– Да-да, кстати, – Аксана салідарызавалася з сяброўкай. – Он же колдун?

– Калдун. Вядзьмак. Ён і ёсць той архетыпічны Казак-Мамай, якога ў хатах-мазанках вешалі побач з іконамі. Сярэдняе паміж варагам і туркам. Толькі ён на тое і вядзьмак, каб жыць па-за часам. Час для яго не існуе. І цыцкі Салохі не цікавыя. Ён назірае і галушкі есць. А Вакула – далба...б...

Наташа засмяялася, ажно аліўка не ў тое горла пайшла. Пракашляўшыся і папрасіўшы прабачэння, дадала: "Мне пора". Пакуль сяброўка вошкалася з тэлефонам, плэйліст дакаціўся да Сцінга. *Shape of My Heart*, канечне.

Аксана падхапіла дачку, каб закружляць у медляку. Тая не супраціўлялася. Яны разумелі адна адну без словаў. Дарэчы, Ліна немаведама калі паспела пераапрануцца. Замест чорнай сукенкі, якая падкрэслівала кожны сантыметр, на ёй былі джынсавыя шорты і шырачэзная майка з надпісам *Backstage*. Верагодна, з нейкага фестываля. Аксана, у такт павольным рухам, разважала:

– Как-то гуляли по ночному Минску. Проспект пустой. Гляжу – билборд. Там два мужика. Один подтянутый, кожа гутаперчевая, красивый. Рядом – обрюзгший такой, с мешками под глазами, брови накрашены... Такое. Это Стинг и Киркоров. У них концерты были в одно время, так впихнули на один билборд. Я исторически раскладывать не умею и не хочу. Просто один говно, а второму не грешно и...

– Отдаться?! – Наташа апошні раз хіхікнула, ужо з калідора.

– Ты смотри таксиста со Стингом не перепутай, – Аксана ўсміхнулася і адкінула галаву назад. – До понедельника!

– Пока-пока, Лёша, оч приятно... – словы даносіліся ўжо з цемры лесвічнай клеткі. Званочак смеху бразгацеў яшчэ нейкі час, пакуль дзверы не зачыніліся.

***

Яе рука была такой самай халоднай, як у бары. Дзіўна, чаму? Гэтыя халаднаскурыя мініяцюрныя дзяўчаты ўсе нечым падобныя. Заўсёды мерзнуць. Заўсёды ў вачах нешта змяінае. Зноў павольны танец. Польская тэма: *Zawsze tam gdzie ty*. Галава Ліны на ўзроўні Лёшавай ключыцы. Гэтак галаву кладуць дзеці, калі засынаюць падчас шпацыру. Зрэшты, гэтага Лёша яшчэ не ведаў.

На вуліцы грымела. Нетутэйшы вецер гайдаў фіранкі. Адна са свечак на падваконні патухла, дзве іншыя Аксана пераставіла на барную стойку. Падалей ад бяды. Пад апошнія акорды *Lady Punk* на стол бухнуўся здаравезны фотаальбом.

– Ма-а-а-ам, не надо!

– А что? Давай глянем. Лёша не видел.

З талмуда вывалілася кіпа старых здымкаў. Збольшага каляровыя, але былі і чорна-белыя. На мяжы 80-90-х ч/б фармат усё яшчэ дамінаваў.

– Тут Лине год. Уже глазки строит. А это с папой в Крыму. Три с половиной. Шашлыки, арбузы, миртовые кусты в кадр не вошли, ха-ха! – Аксана саступіла магіі выпітага толькі зараз, упершыню яна голасна засмяялася. – А это грустняшка на утренике. Разревелась. Нашла глазами маму в зале, и все – в плач! ...Боже, что ты делаешь?!

Тым часам Ліна стала на карачкі ды церлася аб маміну нагу, нібы котка. Або – дзіцё, якое робіць выгляд, што яно – котка. Кацянё. Дзяцінства – тая ўтульная ракавінка, куды можна схавацца ў любы момант. Нават калі ў сённяшнім моманце не засталося анічога. Асабліва ў гэты момант.

– Ма-а-ам. Отпустишь меня с Лёшей? Мы на такси. Без хождений. Утром приеду.

Хлопец аслупянеў, бо сам не прапаноўваў такога варыянту. Хоць, вядома, задумваўся. Трымаў у галаве. Скуль яна ведала, што ён адзін? Што кватэра пустая? Што наогул яна ведала пра яго? Зрэшты...

– Зачем? Есть твоя комната. Сходи – постели.

Ліна сышла. Аксана прысела. Запаліла. Калі попел упаў на разварот з фотаздымкамі (на фота быў чалавек у вайсковай форме), яна ў момант яго здзьмула, стрэсла рукой ды закрыла альбом, пераклаўшы на край стальніцы.

– Проблема в том была, что они оба дети. И Глеб, и Лина. Только ей 12, а ему, ну, 8 от силы. А так быть не может. Рядом с ребенком должен быть кто-то взрослый. Мой папа в ГДР служил, и я там как-то потерялась. В Дрездене. На старом вокзале...

Нібы цень, у пакоі з'явілася Ліна. Павольна, пластычна прайшла па сценачцы, пераступіўшы ноўт. Лізнула адну з драцяных скульптураў ды – нібы праз ручай – скочыла да вакна. Аксана інстынктыўна падхапілася, быццам дзіцё зараз выпадзе. Ліна спынілася нерухома, а пасля пачала закручвацца ў фіранкі. Спачатку нагадвала нявесту ў вэлюме, але праз пару абаротаў – кукалку матылька.

– Та-а-а-ак. Спать, – Аксана затушыла цыгарэту ды зачыніла вакно.

***

Лёша сядзеў на шырокім артапедычным матрацы, пакладзеным на падлогу. Матрац займаў мінімум палову пакойчыка. Шафа для адзення, стол для не зробленых хатніх заданняў, шведская сценка з турнікам ля дзвярэй. Вось яна, тая ракавінка, той страчаны рай, куды яна вярталася зноў і зноў. Але пытанне ў іншым.

Што ён тут рабіў? У цемры, седзячы на разасланым матрацы ў адных майтках, п'яны. Што адбываецца? Напэўна, каб напрыканцы гэтага шабашу яго прынеслі ў ахвяру, выпілі кроў, а каля трупа зладзілі оргію... Прынамсі, гэта мела б сэнс. Тлумачэнне. Логіку.

Дзвярная ручка павярнулася. У пакой увайшлі дзве постаці. *"Нарэшце. Кроў піць",* – Лёша нават кіўнуў на знак згоды. Але нешта было не так. Ён не мог іх пазнаць, пакуль не прыгледзеўся. Аксана апранула чорную вячэрнюю сукню дачкі, а Ліна – нешта светлае, накшталт піжамы.

– Ха! Ну как, идет? – Аксана выставіла наперад сцягно, па назе праходзіў разрэз. – Ладно, детки. Добрых снов!

Мама зачыніла за сабой дзверы, а дачка, зрабіўшы паўкрока, плюхнулася ў ложак тварам уніз. Лёша накінуў на яе коўдру ды акуратна прыабняў. Піжама навобмацак аказалася мяккай, прыемнай. Напэўна, калі разгледзець пры святле, на ёй намаляваныя снегавічкі ці совы. Мілата якая-небудзь. Яе шыя і валасы пахлі мокрым асфальтам. Як у дзяцінстве, калі на вуліцы канец траўня, а школа хутка скончыцца. Ён заплюшчыў вочы і намацаў вуснамі шыю.

Нечакана дзяўчына падхапілася, як ад начнога кашмару, падскочыла, кінулася да шведскай сценкі. Тое, што адбылося далей, імгненна вярнула Лёшу да свядомасці. Яна подбегам, з месца, ускараскалася на вяршыню сценкі, дзе быў замацаваны турнік, перавярнулася ў паветры, зачапіўшыся нагамі за планку і – павісла ўніз галавой. Майка, зразумела, адкінулася, закрыўшы твар. Ноч, як таленавіты графік, заліла атрамантам тло, пакінуўшы адно белыя абрысы бязважкага крохкага цела з чорнымі кропелькамі цмочак. Яна злёгку пагойдвалася. Нібы кажан. Або – кацянё, якое ўявіла сябе кажаном.

Лёша ў момант падхапіўся і зняў кацянё з умоўнага дрэва. Яна не супраціўлялася. Падумаць пра тое, які абарот набыла б справа, калі б дзяўчо звалілася і зламала сабе шыю, ён не паспеў. А варта было б. У роднай кватэры. Вярнуўшыся з Піцера на пару дзён. П'яная. З такім самым п'яным мужыком у майтках у пакоі. І – п'янай мамай за сцяной.

– Немогу-немогу-не-хо-чу-не-е-е-ехо-о-о-очу-у-у! Люблю, люблю-й-его, отпусти-и-и-и...

Яна гэтага не ўзгадае. Нічога не ўзгадае. Лёша, як мог акуратна, паклаў дзяўчыну зноўку на ложак, адкінуўшы нагой коўдру. Яна нешта прашаптала і, павярнуўшыся на бок, змоўкла. Пачала сапці праз хвіліну. Нейкі час, седзячы на ложку, ён глядзеў на яе моўчкі. Пасля правёў далонню па

рэбрах, зрабіў паўкола па ўскрайку правых грудзей, спусціўся да пругкага жывата, ніжэй, пакуль мізінец не крануўся жорсткіх валосікаў пад мяккімі шортамі. Яна ўжо соладка спала, а на шкло кляліся першыя кроплі дажджу.

*"Што цяпер? М-м-м-м. Не-не... А калі заснуць побач? Немагчыма".* Яшчэ некалькі хвілін Лёша сядзеў на матрацы. Кожны рух падаваўся хібным, нявартым. Урэшце набраў у грудзі паветра, палічыў да дзевяці, выдыхнуў. У другі раз накрыў яе коўдрай. Пацягнуўся да сваіх рэчаў, дзе таксама валяўся і заплечнік.

Акуратна расшпіліў маланку, дастаў нататнік. Навобмацак адкрыў у самым канцы, дзе дакладна мелі быць чыстыя аркушы. Бель паперы крыху асвятліла цемру. Накрэмзаў нешта, падумаў, дапісаў. Вырваў і паклаў на падушку, каля яе галавы. Самае цікавае, што на наступны дзень ён так і не змог узгадаць, якое пасланне пакінуў. Памятаў, што апошнім радком быў ягоны нумар. Забягаючы наперад, дададамо, што на нумар так ніхто і не патэлефанаваў. У нататніку ж застаўся "шнар". Ад вырванай старонкі. Праз пару тыдняў Лёша памяняў штодзённік на новы.

А далей... Тое, што адбылося далей, ён не мог сабе патлумачыць ані праз тыдзень, ані праз паўгода. Максімальна ціха апрануўшыся (галоўным было не бразнуць металічным язычком рэменя аб паркет), ён выйшаў у калідор. Адтуль трапіў у залу-студыю з маўклівымі руінамі папойкі. Ледзьве не наступіў на ноўт. Свечкі ўжо згаслі. Дзе тут што? Святло? Не, не варыянт. Па сцяне, хістаючыся, назад у калідор. Там меўся быць абутак і – выйсце.

*"Чортаў лабірынт. Дадому пешкі. Прыбіральня, ага. З люстэркам. Дзе яна? Яшчэ б з лядоўняй не паблытаць. Вось клямка. Цень як ад клямкі. Святло, дзе святло?.."* Абмацаўшы сценку, Лёша так і не знайшоў выключальніка. Мабыць, усярэдзіне. *"Бля...ь, тут усё аднолькавае",* – прашаптаўшы гэтыя словы, ён націснуў на ручку, дзверы адчыніліся ўсярэдзіну.

Не, гэта была не прыбіральня. Вялікі пакой, асветлены ліхтаром з вуліцы. Насцеж адчыненае вакно. На вуліцы ліло як з вядра, але вакно выходзіла на іншы бок, таму кроплі не білі па шыбах. Дождж адно аддаваў сваю прахалоду, заліваючы пакой веснавой свежасцю. Толькі зараз ён заўважыў ды – аслупянеў.

– Закрой, сквозняк.

Яна стаяла ля вакна, збоку, спінай да яго. Святло ліхтара падкрэслівала сілуэт, але прыхоўвала дэталі. Сукенка Ліны чорным ценем ляжала на бялюткім ложку. На ёй не было анічога. Аксана не рухалася, вецер толькі злёгку перабіраў расцярушаныя па плячах валасы. Скульптура. З каменю ці бронзы.

Ён бязгучна зачыніў дзверы. Заплечнік машынальна паставіў у кут. Чамусьці паглядзеў на ногі, нібы без гэтага не разумеў, ёсць на іх красоўкі ці няма.

– Не бойся. Свет только не включай.

Зрабіўшы некалькі крокаў, ён апынуўся зусім побач. Яе валасы амаль кранулiся шчаціння на падбароддзі. Пару кропель з вуліцы ўсё ж даляцелі да яго твару. Лёша заплюшчыў вочы.

– Знаешь, у меня скалиоз. Всю жизнь с этим мучалась. Мама заметила, когда мне было лет 12. Одно плечо выше другого. Рентген показал S-образное искривление, 2-3 степень. С разворотом позвоночника в обе стороны. Консилиумы, врачи, профилактории. Папа больше всего

переживал. Медики говорили про плохую динамику. Позвоночник рос быстрее, чем мышцы. В перспективе меня бы скрутило, как проволочные скульптуры в зале, которые Лина облизывала. Два варианта. Операция или – чудо. Под чудом подразумевались корсет и тренировки. Мышцы должны были создать в результате живой корсет, который бы поддерживал и сдерживал. Папа выбрал последний вариант. Чудо. «Триумф воли», как он говорил. Сначала консервация, потом – улучшение. Но да, море слёз. Специальная парта. Специальная кровать. Доска скорее, а не кровать. Массажи. Спина не кривилась дальше, и это уже было победой. Где-то в 17 мой рост остановился. В 18 я почувствовала себя полноценным человеком. Но тренировки через день, мозоли на руках, это уже на всю жизнь. Потом я пошла в мед, выучилась на врача. А в комнате дочери первым делом появилась шведская стенка. На всякий случай. Наверное, ты обратил внимание, – яна павярнулася да яго тварам, злёгку крануўшыся плячом каўнера кашулі, – Я красивая, как думаешь?

У апошнім пытанні не было гульні. Не было жарту, змяінага, падступнага. У ім было пытанне чалавека, які чакаў на адказ. Ён змаўчаў. Падалося, што яе твар быў мокры. Нават калі б на ім былі слёзы, ён бы не заўважыў.

***

– Как-то неудобно отправлять тебя в дождь...

– Ты что, норм, – сам таго не заўважыўшы, хлопец адказаў па-расейску.

Аксана глядзела ў вакно, захутаўшыся ў прасціну. З краечку ложка да падваконня можна было дацягнуцца рукой. Зручна. Дым у момант спаўзаў долу па сцяне.

– Ты про этого... Вакулу говорил. Мой папа был такой. Мама украинка, типичная, а он – какой-то неправильный русский. «За черевичками» – это про него.

– Ты пра вакзал распавядала. У Дрэздэне.

– О-о-о, да. Моя любимая история из детства. Как я потерялась. Года четыре может было, но помню, как сегодня. Ступеньки помню. Огромные такие. Мегалитические. А я по ним поднимаюсь. Куда? Наверное в сторону дома, по памяти. А мама закрутилась где-то, потерялась из виду. И мужик какой-то меня нашел. В коричневом пиджаке. С бородой. А у папы никто из друзей с бородой не ходил. Да и он, понятно, брился. Повел за руку на пост полиции или в комендатуру. Там тетка нарисовалась. Толстая такая, с выбелеными волосами, в голубом платье. Она уже по-русски говорила. Строгая. Я, судя по всему, как-то объяснила, откудова я потерялась, где гуляли. Ну, мы и пошли. Пришли в сквер возле вокзала – там нет никого. И мамы нет. Как она меня ругала! Тетка та. Подумала, что я наврала. Придумала. Дети ведь всегда врут. Не то, что взрослые, да? И мне так обидно, стою, плачу. Смотрю на нее снизу вверх. И по сторонам. И солнце такое яркое. И отттуда, где солнца больше всего, люди бегут. Папа! С ним еще там кто-то. Бежит и рукой фуражку придерживает. А я стою, как вкопаная, ни с места. На руки схватил, тут фуражка и свалилась. И в пыль куда то. Я на нее почему-то смотрела все. И щека у него такая... царапучая, – яна зрабіла паўзу. – Он странный был. По-своему. Потом, мне уже лет 16 было. Поездка в Польшу, обмен какой-то. Так говорит, ни с кем там не общайся из «ихних», компас возьми, а спички, ха-ха, а спички лучше, говорит, воском залей. Чтобы не промокли. Представляешь? У меня мальчики в голове, джинсы, а тут – спички в воске... Ты не опоздаешь?

– Так. Ужо час.
– Слу-у-у-ушай. А набери мне. Где-то телефон посеяла. Номер, щас, а давай сама наберу, дай сюда.
“Ву-у-у-ум-ву-у-у-ум” – тэлефон адазваўся з падлогі.
– Есть! Спасибо.

***

Дождж скончыўся. На вуліцы панавала светлая шэрасць. Дзіўна, Лёша запомніў лесвічную клетку, сходы, кроплі на кустоўі, але ў галаве зусім не адбілася лакацыя самога дома. Парк ці сквер побач, пасля – вуліца. Цягнікі чуваць, вакзал блізка. Лужыны на мокрым ашфальце. Рэдкія таксі. Да планёркі яшчэ чатыры гадзіны. Варта паставіць будзільнік на тэлефоне ўжо зараз. Ён пацягнуўся па тэлефон. *“Што за дзіўны нумар? А-а-а”*. У адраснай кнізе з’явіўся новы кантакт: *“Мама Ліны”*.

Чым далей заставаўся той дом нетыповай планіроўкі ў зарасцях бэзу ды алычы, тым больш сціскалася нешта ўсярэдзіне. З кішэні Лёша выцягнуў пакамечаны пачак цыгарэт. Заставалася адна цэлая, адна паламаная на сярэдзіне. Запаліўшы, ён вельмі дакладна зразумеў адну ісціну: гэтая дзіўная гісторыя адбылася не для таго, каб некалі паўтарыцца. Ідучы, ён не азіраўся.

***

Падзеі той ночы сталі мінулым, а мінулае – нічым. Бо, каб стаць гісторыяй, пра гэта варта было б напісаць, некаму распавесці, абмеркаваць. З кім такое абмяркуеш? Таму – попел. Дым згаслай свечкі. Каб не тая сустрэча на вуліцы, зусім нядаўна. Лягчэй ад гэтага не стала, затое Лёша ўжо дакладна ведаў, што не прысніў, не выдумаў. Дарослыя ж, як і дзеці, любяць выдумляць. Невядома, хто болей.

Лета 21-га пабіла не толькі тэмпературныя рэкорды. Выдавецтва, дзе ён працаваў, зачынілася. Раней Лёша праўдамі і няпраўдамі спрабаваў збегчы з працы ў горад. Праца заўжды ёсць, а выдыхнуць? Зараз, не маючы працы, выдумляў прычыны і справы, для якіх мог пайсці ў горад з дому. Проста так. Пасядзець у кавярні. Адзін. Тых, з кім можна было сустрэцца, амаль не засталося. А тут гэтая дзіўная сустрэча – як каменьчык у стаячую ваду...

– А чаму ў шоце? – Лёша здзівіўся, калі афіцыянтка ў летняй кавярні паднесла яму эспрэса і каньяк, але апошні – у незвычайным шкле.
– Коньячные разбились. Что есть.
– На шчасце.
– Наверное.

За столікам ён піў адзін. Па суседстве таксама нікога не было, апроч сталага рудога мужчыны з жыватом ды кірпатым носам. Ён быў апрануты па-летняму, ільняная кашуля, белыя штаны, сандалі. Мужчына таксама замовіў каньяк, але не звярнуў увагі на форму падачы. Ці звыкся. Хутка да яго падселі дзве жанчыны. Адна з кароткай стрыжкай, сівая. Другая – чарнявая, у клятчастай спадніцы. Нейкая інтэлігенцкая кампанія. Мастакі ці музыкі, у гэтым духу.

Раней Лёша любіў клеіць вуха да чужых размоваў, але не сёння. Настрой не той. Той, кірпаты, відаць, моцна хваляваўся, таму адбіваў нагой у сандалі рытм па драўляным насціле. Даўгая дошка акурат даходзіла да Лёшавага століка. Там, за тым сталом, нешта шумна абмяркоўвалі. Ага, размаўлялі па тэлефоне. Каб усім было чутно і бачна – па відэасувязі.

Рэплікаў з тэлефона не было чуваць, адно рэакцыі з-за стала. Адказвалі хорам:

*«А ты нас видишь? ...да-да-слышим! ...домой идешь ...красиво ...и аня тебя хочет видеть ...я хочу его видеть? ...ха-ха ...ты загорел ...пфайзер ...нет, не за рулем, могу себе позволить ...ты устроился, молодец ...грант ...не наши копейки ...а вы вместе? ...скоро прилетает?! ...ох, какие вы молодцы ...слава богу! ...без пяти минут ...традиция, ты помнишь, перед отпуском каждые два дня на озеро ...не море, как у тебя, но ...глебушка, еще скажи...»*

Лёшу ажно перасмыкнула. Гэтага не можа быць. Ён жа сам, пакуль не выдаліў акаўнт у фэйсбуку, перапошчваў навіну, як Глеб, той самы Глеб, з якім пілі ў парку, не дайшоўшы да Нёмана, з'ехаў мінулай восенню. У Польшчу ці ў Чэхію. Пасля ў Батумі. У вушах загуло. Ногі сталі ватнымі, як перад бойкай, пакуль яшчэ страшна. Усярэдзіне, здаецца, адкрылася прорва, гатовая праглынуць горад, кавярню, усе столікі ды недапітыя шоты з каньяком.

*"Ну, пахне чабор!* – мужчына памахаў дробным кулачком над столікам ды суцішыўся. – *Я же выключил?.. Да, выключил"*. Кампанія згарнулася гэтаксама хутка, як і з'явілася. Нехта некага меўся падвозіць, кірпаты ўгаворваў сяброваў аддаць яму цяжкія торбы, з-за рога з'явіўся старэнькі сіні "пежо", на якім яны і зніклі. Як і не было. Гэтыя не з'едуць нікуды. Прынамсі, пакуль тут ёсць праца, на якой трымаюць да смерці, каньяк у шотах ды возера штовечар перад адпачынкам.

Пачак з цыгарэтамі быў пусты. Рукі не слухаліся, нататнік з асадкай паляцелі на падлогу. Так. Тэлефон. Кантакты. "Мама"... "Мама Ліны". Ёсць! Ён існуе! А што пісаць? Што можна напісаць чалавеку, якога сустрэў двойчы ў жыцці – у ложку і на вуліцы – з вялікім разрывам у часе? Усміхнулася – памятае. Не можа не памятаць.

*"Прывітанне. Мы днямі бачыліся. Гэта Лёша. Магу набраць?.."*

Даслаць. Даслана. Сярод ліпкай гарачыні, прысыпаных ліпавай пыльцой столікаў і крэслаў *Coca Cola*, заседжаных восамі і рэдкімі гасцямі, з калонак гучала:

Смотри, открытое море,
Исчез проклятый корабль,
А там, в предутреннем небе,
Поплыл свинцовый ковчег...

Калі чалавек хвалюецца, то часцяком чапляецца за дробязі. Разгадвае нікому – яму ў тым ліку – непатрэбныя загадкі. Вось і Лёша думаў, што ў гэтым куплеце ідзецца пра *"стеклянный ковчег"*, а тут – свінцовы. Істотная розніца. Вагомая. Першы можа разбіцца, а можа – выплыць. Гульня такая. Другі – цалюткі, навюткі – абавязкова пойдзе на дно. Такім яго некалі і знойдуць.

Адказ на смс прыйшоў праз пару хвілін. Лёша два разы перачытаў паведамленне, пасля адсунуў тэлефон на край стала, сам паклаўшы падбароддзе на плячо. Перад тым, як згаснуць, на экране яшчэ некалькі імгненняў свяціўся надпіс:

*Nie znayu vas prostite esli po proektu to pishite na telegram telefon skoro nedostupen uletayu v gruziyu.*

Марта Багдановіч



...Я тваё шчасце вымалю ў Бога,
Ў душы сваёй збудую Божы храм...

# Ляціце хутка, мілыя арэлі...

* * *

Нішто нявечна ў гэтым свеце...
Што нарадзілася – памрэ.
І тая кветка у суквецці
Адзелянее, адцвіце.
І тая птушка, што спявае
І будзіць раніцой зямлю,
Хвіліны спевам адмярае
Травінцы, дрэўцу і камлю.
І так было, так ёсць, так будзе
Працягвацца з века ў век,
Каб зразумелі ўрэшце людзі –
Жыве нявечна чалавек.
І той слядок, што ён пакіне,
Дапоўніць іншыя сляды,
А чалавек цялесна згіне,
Душою ж будзе жыць заўжды.

* * *

Мне колісь тата змайстраваў арэлі
На зайздрасць усім сяброўкам і сябрам.
Пад самыя аблокі паляцелі,
Вясёлку падзялілі напалам.
Я на арэлях марыла, спявала
І хуткасць развівала кожны міг.
Я на арэлях сілы набірала
Ды з вышыні я бачыла ўсіх.
І татам змайстраваныя арэлі
Узгадавалі, быццам немаўля,
Я ўзрасла, суседзі пастарэлі,
Змянілася і вёска, і зямля.
Аднак і зараз сяду на арэлі,
Зраблю нябачны ў дзяцінства мост,
Імгненне – зноўку хутка паляцелі,
Забыўшыся пра статус і ўзрост.
Ляціце хутка, мілыя арэлі,
Здаецца, даляцім да ўсіх краін!
Ляціце ў садоў чароўнай белі
І сейце ў сэрцы добры ўспамін!

* * *

Так сумна ў бабулінай хаце,
А ў сэрцы заўжды ўспамін:
Як грабіла сена маці,
Як сох на павеці тмін.
Яе агарод каляровы
У кветках заўжды патанаў,
А ў печы кракталі дровы,
Агеньчык ціхутка спяваў.
На досвітку пеўні будзілі,
Бярозы, як трубы, гулі.
З матуляй на бульбу хадзілі,
Так блізка былі да зямлі.
А раніцай – шпарка на ганак!
Так сон адступаў пакрысе.
Вітаў зноўку новы світанак
Святлом на крыштальнай расе.
Ды клікала ў хату бабуля,
Сняданак гатуючы ўсім.
Стаяла мачанка, цыбуля
І пахам маніла сваім.

І разам на кожнае свята.
Цяпер – навакол быльнягі...
Пустуе бабуліна хата
Куток на зямлі дарагі.

* * *

Я тваё шчасце намалюю на паперы,
І з яркіх фарбаў твой складзецца лёс.
Аддам усё. Сабе пакіну шэры.
Не будзеш ведаць ні пакут, ні горкіх слёз.

Я твае шчасце вышыю на белым,
Вузлоў, замінак там не дапушчу.
І сэрцам адчуваю я збалелым –
Не хопіць нітак – лёс свой распушчу.

Я тваё шчасце музыкай сыграю,
Ствару мелодыю. Душою закрычу.
Не хопіць зыкаў. Шчыра адчуваю.
Свайго жыцця я песню скарачу.

Я тваё шчасце вымалю ў Бога,
Ў душы сваёй збудую Божы храм.
Каб роўнай і прамой твая дарога
Заўжды была – жыццё сваё аддам.

дэбют

Злата Клачок



…Бездань ёсць глыбіня,
У якой я шукаю прабачэння…

# Чараўніцтва – гэта не казка…

* * *

Лунаем у бязмежжы пачуццяў,
Губляем арыентыры,
Нас не было і не будзе,
Зліваемся з вірам плыні.

Мы, натхнёныя марай,
Чакаем часу фіесты,
Застаёмся сам-насам з сабой,
Адзінотай забытыя дзесьці...

Шукаем сябе ў іншых,
Глядзімся ў люстра быцця –
І бачым ўсё той жа адбітак –
Мінулыя крокі жыцця.

Час прымаем як дар,
Нясём за сабой цяжар скрухі,
Пакідаем лёс на алтар
І слязьмі абмываем рукі...

Назаўсёды ў момант той
Забываем, дзе мы і хто...
За неўміручай брамай жыцця
Здабыўшы сабе супакой.

### *СПАДЗЯВАННЕ*

Спадзяёмся на зоркі ў небе,
Абдзяліў нас літасцю Бог.
Зноў шукаем жыццю тлумачэнне,
Зразумеўшы душы некралог.

Няўмольна прыходзім да праўды:
Не шкадуе нічога час,
Зоркі – і тыя калісьці
Непазбежна згаснуць для нас.

### *ЧАРАЎНІЦТВА*

Чараўніцтва – гэта не казка.
Чараўніцтва – у выразах ласка.
Шапаценне старонак кнігі,
Што вядзе да душэўнай адлігі.

З табой пах кавы сённяшняга ранку.
З ім выйдзеш на прыступкі ганка,
Зірнеш навокал: “Божа, як прыгожа!”
Дык гэта чараўніцтва, можа?

І маладосці цёплыя абдымкі
У імгненні на вінтажным фотаздымку...
Хачу чароўнай палачкай ўзмахнуць
І прашаптаць ціхутка: “Не забудзь!”

Мой дружа, чуеш?
Музыка ў цішы:
Пад крокамі тваімі
Спеў душы.

* * *

Месяцоваю
хадой
блукаю,
Завіткамі
вечнасці
іду.
Пасярэдзіне –
спляценне
адшукаю
Сонцу
адзінокаму
майму.
І няхай
яно асвеціць
шлях –
znічцы, што
знікае
без
любові...
Затрымаю
ў сваіх далонях
частку неба,
што
імкнецца
да зямлі.

* * *

Дзе я? Хто я?
Самотны сярод іх.
Сярод тых,
Хто згубіў сябе.
Мне трэба знайсціся.
Але я шукаю цябе,
Каб знайсці і сваё.

* * *

Ты і я –
асобы адзіночнага ліку.
Мы толькі тады
робімся множным,
калі хтосьці
за спінаю кажа:
“ТЫЯ”.

### *БЕЗДАНЬ*

Бездань побач.
Бездань паўсюль.
Бездань гукаў.
Бездань слоў.
Бездань думак.
Бездань сэнсу.
Бездань жыцця.
Бездань ёсць глыбіня,
У якой я шукаю прабачэння.
Сабе. Маёй бездані.

### *ЛІРЫЧНЫ РОЗДУМ*

"Я шчаслівы!" Ты можаш сказаць з упэўненасцю, што так яно і ёсць на самой справе? Я хачу табе нешта паведаміць. Шчасце не мае адзінак вымярэння. Я не магу дадаць яго ў сваё жыццё, як лыжку цукру ў гарбату: "Вось тры лыжкі – дастаткова!" Сёння адчуваеш сябе шчаслівым, бо маеш тыя пяцьдзясят рублёў, якія казычуць кішэню. Назаўтра пакутуеш ад таго, што не сустрэў чалавека, які б падтрымаў у бліжэйшыя пяцьдзясят год. Калі-небудзь шчасце насупраць – "візаві". Але мы такія недарэчныя! Мы не бачым таго, што наперадзе, але заўсёды адварочваемся назад, калі пакліча мінулае паразмаўляць "тэт-а-тэт". Шчасце не павінна быць вонкавым. Шчасце павінна грэць знутры, пакуль цела яшчэ не спарахнела ад душэўных пакут. Я хачу адчуваць, што гэты свет шчаслівы. Магчыма?

Мабыць, хтосьці падзяліўся б сваім шчасцем, але сам баіцца застацца няшчасным... Ці мусіш ты змяніць гэта?

Акутагава Рунаскэ



...Прымі маю падзяку,
міласэрная Божая Маці.
Пачуй голас выгнанага дзіцяці Евы...

# О-Гін

***Апавяданне***

*Пераклад з японскай мовы Аляксандры ПЯТРОВІЧ.*

Ці то ў эпоху Кан'эй[1] гэта было, ці то ў эпоху Гэнна[2] – адным словам, даўно.

У тыя часы людзей, што адкрыта вызнавалі хрысціянскую веру, вышуквалі, каб паліць на вогнішчах і ўкрыжоўваць. Але сярод жахлівых ганенняў Госпад Усемагутны, здавалася, яшчэ мацней атачаў вернікаў нашай краіны Сваёй цудоўнай апекай. Часам вёскі вакол Нагасакі разам з апошнімі промнямі сонца наведвалі анёлы і святыя. Кажуць, некалі сам святы Ян Хрысціцель з'явіўся перад вернікам Міхаілам Яхэем на яго вадзяным млыне ў вёсцы Уракамі. Адначасова і д'ябал выпрабоўваў хрысціянаў: альбо ў незвычайным абліччы мурына, альбо пад выглядам заморскай зёлкі, альбо ў форме плеценага паланкіна ён раз за разам з'яўляўся ў тых самых вёсках. Нават мышы, што дзень і ноч мучылі Міхаіла Яхэя ў яго

земляной вязніцы, насамрэч мусілі быць чарговым увасабленнем д'ябла. Яхэя спалілі на вогнішчы разам з адзінаццаццю іншымі вернікамі ўвосень восьмага года эпохі Гэнна[3]... А тое, пра што цяпер пойдзе гаворка, было ці то ў эпоху Кан'эй, ці то ў эпоху Гэнна – адным словам, даўно.

У гэтай горнай вёсцы Уракамі жыла і дзяўчынка, якую звалі О-Гін. Бацькі яе прыйшлі ў Нагасакі ажно з далёкай Осакі. Абое яны памерлі, не паспеўшы атаўбавацца на новым месцы, і О-Гін засталася адна. Канечне, бацькі яе, людзі нетутэйшыя, нават не чулі пра хрысціянства. Верылі абое ў Буду. Медытацыя, сутра Лотаса[4], рай Чыстай Зямлі[5] – усе яны бяруць пачатак у вучэнні Шак'ямуні. Адзін французскі езуіт расказваў, што ад прыроды хітры Шак'ямуні вандраваў па Кітаі, прыняўшы імя Буды Аміды, і прапаведаваў сваё вучэнне. А пасля перабраўся ў Японію і тут таксама ўзяўся за сваё. Паводле яго, наша чалавечая душа, у залежнасці ад цяжару і глыбіні здзейсненых грахоў, можа перарадзіцца ці то птушачкай, ці то каровай, ці то дрэвам альбо кустом. Яшчэ кажуць, што Шак'ямуні пры нараджэнні забіў уласную маці[6]. Зразумела, што вучэнне яго бязглуздае, а да таго ж і вельмі благое – так сцвярджаў той езуіт, Жан Красэ[7]. Але бацькі О-Гін, як ужо згадвалася, спасцігнуць ісціну не маглі. І нават пасля апошняга ўздыху яны працягвалі верыць у Буду. У сваіх самотных магілах пад ценем хвоі яны марылі пра недасяжны рай, не ведаючы, што іх чакае хрысціянскае пекла.

Аднак лёс О-Гін не азмрочыла цемната яе бацькоў. Адзін селянін з гэтай вёскі, надзвычай спагадлівы Ян Магасіці, паспеў праліць над галавой дзяўчынкі святую ваду хрышчэння і даць ёй імя Марыя. О-Гін не верыла ў словы, якія голасна прамовіў Буда пры нараджэнні, паказаўшы пальцам на зямлю і на неба: «У нябеснай высі, на зямным падоле – толькі я святы!» Затое яна верыла, што Найсвяцейшая Панна Марыя, ласкавая, літасцівая і салодкая, зачала Свайго Сына беззаганна. Яна верыла, што Езус, Які памёр на крыжы, быў пакладзены ў каменную магілу і пахаваны глыбока пад зямлёй, на трэці дзень уваскрос. Верыла, што прагучаць трубы Страшнага Суда і на зямлю сыдзе Госпад у моцы Сваёй і хвале; што памерлыя ўстануць з праху, душы іх з'яднаюцца з целамі, і праведнікі спазнаюць райскае шчасце, а грэшнікі і дэманы[8] праваляцца ў пекла. Асабліва верыла яна ў Найсвяцейшы Сакрамант Эўхарыстыі, калі сілай Божага слова хлеб і віно пераўтвараюцца ў Цела і Кроў Хрыста, не змяняючы сваіх знешніх рыс. Душа О-Гін, у адрозненне ад бацькоўскіх, не была пустыняй, дзе гуляе засмяглы вецер. Яна была жытнім полем, дзе буяюць чыстыя дзікія ружы і красуе багаты ўраджай. Пасля таго, як О-Гін страціла бацькоў, Ян Магасіці яе ўдачарыў. Жонка Магасіці, Яна О-Сумі, таксама была добрым чалавекам. Разам з імі О-Гін пасвіла каровы, вырошчвала ячмень і жыла шчаслівa. Канечне, яны стараліся і пасціцца, і гаварыць пацеры так, каб не трапляць на вочы іншым сялянам. Гледзячы на малады месяц, О-Гін заўсёды жарсна малілася ў ценю фігавага дрэва, што расло ля калодзежа. Малітва гэтай проставаласай дзяўчынкі была нескладанай:

– Прымі маю падзяку, міласэрная Божая Маці. Пачуй голас выгнанага дзіцяці Евы. Звярні свой ласкавы позірк на гэтую няшчасную даліну плачу. Амэн!

Праз пэўны час, у ноч Раства, д'ябал разам з некалькімі каравульнымі раптоўна завітаў у дом Магасіці. Там у вялікім ачагу гарэў прывітальны агонь. На закуродымленай сцяне толькі на гэтую ноч павесілі крыж. І, нарэшце, у хлеве за домам, у каровіных яслях была падрыхтаваная вада, каб абмыць

дзіцятка Езуса. Каравульныя паківалі адзін аднаму і скруцілі Магасіці з жонкай. Звязалі яны і О-Гін. Але ўсе трое зусім не здаваліся напалоханымі. Яны былі гатовыя да любых катаванняў, каб выратаваць уласныя душы. Канечне, Госпад мусіў абдарыць іх Сваёй цудоўнай апекай. Хіба адное тое, што іх схапілі ў ноч Раства, не было доказам асаблівай Божай ласкі? Усе яны былі ў гэтым абсалютна ўпэўненыя, так, нібыта згаварыліся загадзя. Каравульныя цягнулі іх, звязаных, да сядзібы губернатара. А яны, не зважаючы на чорную ноч і павевы халоднага ветру, паўтаралі ўслых словы каляднай малітвы:

– О Паніч, народжаны ў Бэтлееме, дзе Ты цяпер? Хвала Табе, хвала!

Д'ябал, пабачыўшы арышт гэтых траіх, заляскаў у ладкі і весела зарагатаў. Аднак іхняя мужнасць моцна яго раззлавала. Застаўшыся адзін, д'ябал плюнуў і ўмомант ператварыўся ў вялікую каменную ступу. А потым з грукатам пакаціўся ў цемру і знік.

Ян Магасіці, Яна О-Сумі і Марыя О-Гін былі кінутыя ў земляную вязніцу, дзе на іх выпрабоўвалі розныя катаванні, каб змусіць адрачыся ад хрысціянскай веры. Але ані мука вадой, ані мука агнём не зламалі іхняй рашучасці. Нават калі гарэла іх плоць, яны верылі, што вось-вось, праз уздых-другі ўвойдуць у райскую браму, трэба толькі ўсё перацярпець. Не – калі яны ўзгадвалі пра нязмерную Божую ласку, сама змрочная вязніца перапаўнялася для іх райскай веліччу. Да таго ж ці то ў сне, ці то наяве шляхетныя святыя і анёлы не раз прыляталі, каб суцешыць траіх хрысціян. Асабліва часта блаславілі яны О-Гін. Аднойчы святы Ян Хрысціцель прынёс ёй у сваіх вялікіх далонях прыгаршчу акрыдаў і загадаў есці. Іншым разам арханёл Габрыэль, лапочучы белымі крыламі, падаў ёй вады ў прыгожым залатым келіху.

Губернатар, які сам не вызнаваў ані хрысціянскай веры, ані веры ў Буду Шак'ямуні, канечне, не мог зразумець упартасці гэтых траіх. Часам ён думаў, што яны папросту звар'яцелі. А калі даўмеўся, што гэта не вар'яцтва, то вырашыў: мабыць, яны не людзі, а нейкія дзіўныя стварэнні накшталт удаваў ці аднарогаў. Натуральна, паводле тагачасных законаў падобных пачвар нельга было пакідаць у жывых, бо ад гэтага залежаў спакой усёй краіны. Вось таму не прайшло і месяца з тае ночы, як траіх хрысціян кінулі ў земляную вязніцу, а губернатар ужо загадаў спаліць іх на вогнішчы. (Шчыра кажучы, ён, як і іншыя суайчыннікі, не надта дбаў пра спакой нашай краіны. Але, па-першае, такі быў закон, па-другое, такая была агульнапрынятая мараль, таму можна было асабліва не пераймацца.)

Трое вязняў, якіх на чале з Янам Магасіці прывялі да месца пакарання на ўскрайку вёскі, нічым не выказвалі страху. Месца гэтае было зусім побач з могілкамі, на камяністай пустцы. Там каравульныя спярша зачыталі ўслых правіны вязняў, а потым прывязалі іх да трох велізарных слупоў. Справа стаяла Яна О-Сумі, пасярэдзіне – Ян Магасіці, а злева – Марыя О-Гін. Пасля доўгіх катаванняў О-Сумі, здавалася, раптам зусім пастарэла. Ад зарослага твару Магасіці нібы назаўсёды адхлынула кроў. А О-Гін... У параўнанні з імі О-Гін як быццам амаль не змянілася. Але ўсе трое, стоячы на высока наваленым галлі, мелі аднолькава спакойныя твары.

Ля месца пакарання ўжо даўно сабраўся натоўп пустацікаўцаў. Сосны, што раслі бліз могілак, працягвалі свае галіны ў неба, насустрач гэтаму натоўпу, як балдахін.

Калі ўсё было падрыхтавана, адзін з каравульных выйшаў наперад, стаў перад асуджанымі і ўрачыста аб'явіў, што да пакарання ў іх будзе яшчэ трохі часу, каб падумаць над уласным лёсам: варта ім толькі адрачыся ад хрысціянскай веры, як іх адразу ж развяжуць. Але вернікі нічога яму не адказалі. Яны глядзелі ў далёкае неба, і на іхніх вуснах, здавалася, гулялі слабыя ўсмешкі.

На некалькі хвілінаў і каравульныя, і пустацікаўцы змоўклі. Незлічоныя вочы пільна ўтаропіліся ў твары трох асуджаных. Усе нават затрымалі дыханне, але не ад спагады. Пустацікаўцы з нецярплівасцю чакалі, калі ж распаляць агонь. Каравульныя нудзіліся, бо пакаранне адклалі, але ў іх не было адвагі і на тое, каб пачаць ціхутка перамаўляцца між сабой.

І тут выразна пачулася нечаканае:

– Я вырашыла адрачыся ад хрысціянскай веры.

Гэта быў голас О-Гін. Пустацікаўцы ажно зараўлі ад здзіўлення. Але, крыкнуўшы разок, адразу сцішыліся. Усё таму, што Магасіці павярнуўся да О-Гін і смутным, аслабелым голасам сказаў:

– О-Гін! Цябе спакушае д'ябал? Патрывай яшчэ хвілю, і ты пабачыш аблічча Госпада!

Не паспеў ён дагаварыць, як О-Сумі, якая стаяла занадта далёка, таксама крыкнула немым голасам:

– О-Гін! О-Гін! Цябе апантаў д'ябал! Маліся... Маліся...

Аднак О-Гін не адказала. Яна толькі звярнула свой позірк на натоўп, туды, дзе хвоі працягвалі свае галіны да неба над могілкамі, як балдахін. Тым часам адзін з каравульных загадаў развязаць О-Гін.

Калі Ян Магасіці пабачыў гэта, то заплюшчыў вочы, нібы здаючыся:

– Усемагутны Божа, будзь воля твая!

О-Гін нарэшце развязалі, і яна нейкі час проста стаяла на месцы, быццам не разумеючы, што адбываецца навокал. Але калі яна зноў зірнула на Магасіці і О-Сумі, то павалілася перад імі на калені і моўчкі расплакалася. Магасіці так і не расплюшчыў вачэй. О-Сумі адвярнула твар, каб не глядзець на О-Гін.

– Татачка, мамачка, калі ласка, даруйце мне!

О-Гін нарэшце загаварыла.

– Я адраклася ад веры. Усё таму, што заўважыла тыя хвоі, што працягваюць свае галіны да нас, нібы балдахін. У цяню гэтых галін, у магілах, спяць мае бацькі, якія не ведалі хрысціянства і цяпер мусяць гарэць у пекле. Я не магла б дараваць сабе, калі б адна ўвайшла ў райскую браму. Лепш я праваліся на самае дно пекла разам з маімі бацькамі. Татачка, мамачка, ідзіце да Госпада Хрыста і Найсвяцейшай Панны! А мне, што адраклася ад веры, ужо нявартa будзе жыць адной пасля вас...

О-Гін няскладна выгаварыла ўсё гэта і зноў пачала ўсхліпваць. Тады і Яна О-Сумі праліла слёзы проста на вецце, што грувасцілася пад яе нагамі. Канечне, хрысціянцы не пристала ісці ў рай вось так, з уздыхамі і стогнамі. Ян Магасіці, засаромеўшыся, павярнуўся да прывязанай побач жонкі, каб гучна і гнеўна прыкрыкнуць на яе:

– І ты паслухалася д'ябла? Калі ты вырашыла адрачыся ад веры, давай, адракайся! Я адзін пакажу вам, як трэба гарэць жыўцом!

– Не, я буду з табой! Але я... але...

О-Сумі праглынула слёзы і амаль крыкнула, выкідваючы з сябе словы:

– Гэта не таму, што я хачу пайсці ў рай! З табой... Я хачу быць з табой!

Магасіці надоўга змоўк. Толькі ягоны твар то бялеў, то зноў наліваўся чырванню. Пярлінкі поту паказаліся на ягоным ілбе. Напэўна, у гэты момант Магасіці ўнутраным зрокам бачыў сваю душу. Бачыў, як за яе змагаюцца анёл і д'ябал. Калі б О-Гін, што рыдала ля ягоных ног, у гэты момант не падняла твару... але яна яго падняла. З яе вачэй, якія пільна ўглядаліся ў Магасіці, лілося дзіўнае святло. У глыбіні яе зрэнак відаць было не проста нявінную душу малой дзяўчынкі. Гэта была душа «выгнанага дзіцяці Евы» – душа кожнага чалавека.

– Татачка! Хадзем у пекла. Са мной, і з мамачкай, і з тымі маімі бацькамі... Усе разам аддамося д'яблу!

І Магасіці ўрэшце зламаўся.

Сярод жахлівых пакут, што зведалі хрысціяне нашай краіны, гэтая аповесць стала найбольш ганебнай легендай, якую перадавалі з вуснаў у вусны. Калі трое адракліся ад веры, нават тыя пустацікаўцы – усе, і мужчыны, і жанчыны, і дзеці, – што нічога не разумелі ў хрысціянстве, узненавідзелі іх. Магчыма, проста пакрыўдзіліся, што не атрымалася паглядзець на доўгачаканае спаленне жыўцом. Кажуць яшчэ, што д'ябал ад шчасця ператварыўся ў агромністую кнігу і ўсю ноч лётаў над месцам пакарання. Але аўтар вельмі сумняваецца, што такая перамога д'ябла вартая была настолькі бурнай радасці.

*1922 г.*

---

[1] 1624-1645 гг.

[2] 1615-1624 гг.

[3] 1622 г.

[4] Адзін з найважнейшых сакральных тэкстаў у японскім і кітайскім будызме школы Махаяна.

[5] Рай Буды Амітабхі (Аміды), таксама вядомы пад назвай Заходні рай, – месца, дзе перараджаюцца праведнікі пасля смерці. Апісваецца як надзвычай прыгожая краіна, поўная кветак, садавіны і чароўных дрэў, на якіх адпачываюць рэдкія птушкі; багі і людзі жывуць у гэтай краіне поруч, і любыя іх жаданні нязменна здзяйсняюцца.

[6] Паводле будысцкіх паданняў, маці Шак'ямуні, царыца Махамая, памерла праз некалькі дзён пасля яго нараджэння.

[7] Жан Красэ (1618-1692 гг.) — французскі каталіцкі тэолаг, аўтар багаслоўскіх прац, у тым ліку «Гісторыі японскай Царквы», выдадзенай у 1689 г. і перакладзенай на некалькі моў.

[8] У арыгінале – *tengu*, горны і лясны дух з японскіх павер'яў: даўганосае, чырванатварае, чалавекападобнае стварэнне, надзеленае здольнасцю лётаць і неверагоднай фізічнай сілай. Веруючыя будысты лічылі іх сапраўднымі дэманамі, ворагамі манахаў, але ў простанароднай язычніцкай свядомасці *tengu* ўспрымаліся як капрызлівыя бажкі, што маглі несці людзям і дабро, і зло.

пераклады

## Васіль Стус



...Нібы пачвары ў пякельным коле,
навокал цені, нідзе – патолі...

# Не паміраем двойчы...

* * *

Ўжо цэлы тыдзень абжываю хату.
Здавалася б, абвыкнуцца пара.
Услон ды ложак, вольных тры квадраты,
што споўнены гаючага дабра
нябёс прасветлых. Сонечнае ззянне
аж ломіцца ў вузенькае вакно.
Дык вось табе пра славу і змаганне.
Дык вось яно, жыццё.
Дык вось яно.

* * *

Да жніва не дабыў,
ані жыта не жаў.

*Пераклад
з украінскай
мовы
Галіны
ДУБЯНЕЦКАЙ.*

Не згубіў, не набыў.
І не жыў. І не жаль.
Цьмяных нашых жаданняў старая мяжа:
дзе напасці са шчасцем заўжды на нажах.
Безбаязна не смейце любіці свой край, –
а зазнаў бы ты, свеце вялікі, дабра.
Смерць паглядвае ў вочы.
Зацята душа
навучае, прарочыць: табе кунтуша
ужо не апранаці, а чорны бушлат –
ён як бацька і маці, і жонка, і брат.

* * *

Госпадзе, гневу прачыстага
прагну – не май за злое.
Дзе ні стаяцьму – выстаю.
Дзякуй Табе, што малое
людское жыццё, хоць надзею
доўжу яго ў вякі.
Верай тугу развейваю,
што буду заўжды такі,
як маці мяне нарадзіла
і блаславіла ў свет.
І добра, што не ўбараніла
ад негаданых бед.

* * *

Няўжо ты нарадзіўся, чалавеча,
каб зазіраць у келлейку маю?
Няўжо табе жыццё не зашчабеча?
Ці, можа, праўду ты здабыў сваю
на гэтай нуднай і нязраднай працы,
дзе ўсё людскою мукаю смыліць?
Ды не магу я на цябе злавацца,
тваё няшчасце ў сэрцы мне баліць.
Бо двойчы за маю – твая нягода
гарчэйшая. Бо – сам я. Ты ж як цень.
Я ёсць дабро, а ты – труха і тлень.
Агульнае – што вязні мы абодва
па кожны бок дзвярэй. Ты – там, я – тут.
Муры нас падзялілі, як статут.

* * *

Танцуе зэк у чобатах бацькоўскіх,
нібы драўляным гупае бічом.
Пад шызым небам і касым дажджом
абтрушвае душу ён ад каросты
знявагаў і згрызот. А дождж ідзе,
бяжыць вада ў каршэнь – дык болей гонару:
ад Кіева дабег бы да Жытоміру
за шэсцьдзесят хвілін, якіх штодзень
яму “стае” на радасці ды гулі.
У хлеў загнанаму, яму дарма,
што ні прасветліны, ні продыху няма,
ён, апантаны, долі круціць дулі.

* * *

Калымскія зязюлі закувалі,
вада шумуе, вогкая шыпшына
жаўтлявы гоніць ліст. Аблок шматкі
вісяць на парцалянавай сінечы.
А я тут на лістоўнічнай калодзе
чытаю пра высланца-дзівака.
Табе, дзівача, жыць – што блазнавацца.
Жыццё – тваё найбольшае дзівацтва,
і пры табе цымбальны твой стажаль –
губляць, шукаць, і траціць, і знаходзіць,
і зноў губляць – то наш вясёлы кон.
Не паміраем двойчы. Мы існуем
раз – назаўсёды. На вякі вякоў.
І не жабруем ласкі ні ад кога.
Уцешна: ў лесе галасы зязюль.

* * *

Ужо Сафія адшалахцела,
адзіхацела бэзавым гроннем.
Ты йшла да мяне, а ж не паспела
за першым енкам, за першым громам.
Нібы пачвары ў пякельным коле,
навокал цені, нідзе – патолі.
Ды благаслаўляю тваю сваволю,
дарога долі, дарога болю.
Снягі ды сцюжа. Вятры й таросы.
Гудкі ды крыкі. Злыя праклёны.
Сабачы брэх. Свісткі паравоза.
І закмашыны і заквагоны.

Шпалы і фары. Псы і салдаты,
драты, і рэйкі, і загарода.
Леглі – і ходу. Ўсталі – і ходу.
Ў плечы штурхаюць нас аўтаматы.
Квадратнае сэрца – квадратнаму колу,
ў смяротным карэ мы падаем долу.
Ды бласлаўляю тваю сваволю,
дарога долі, дарога болю.
На ўсерасхрысці лютасці й жаху,
на ўсеспаленні вясны і мары
дай, Украіна, годнага шляху,
дай, Украіна, гордага твару!

* * *

Увесь абшар – чатыры на чатыры.
Куды ні глянеш – мур, ікол ды рог.
Душу праеў мне шлак той шэры збрыдлы,
ды плецiва заломленых дарог.
Далей за далеч – родная хаціна!
Калодзеж, тын, два сумныя вакны,
што ў вечаровым тлеюцца вагні.
І ў шыбе – нібы дзьве жарыны –
вачэй журлівых зоркі. Гэта ты,
прасветлая мая зязюльча-маці!
Ўжо да цябе шляхоў не напытаці
і ў ноч бяссонную тваю мне не зайсці.
То жджы мяне. Чакай мяне. Чакай,
хоць марна, але жджы, нябога.
І за мяне ты памаліся Богу.
А як памру – і з тога свету выглядай.

* * *

Прыцемкі сутонныя апалі
на душу і сонны край зямлі.
Адзіноты слёзныя харалы
шчыльна мне дарогу замялі.
І куды ні йду, ні папрастую –
хвойны змрок уверсе ледзяны.
Выглядаю долю залатую,
не спаткаю – выпаду з гульні.
А ж, гульня: лятаюць галавешкі,
зубы ляскаюць пад ідыёцкі смех.

Рагачу ў куце – тугу палегчыць
(а як пацяжэе – то ж не грэх).
Што цябе клясці, мая нядолю?
Не кляну. Не кляў. Не пракляну.
І жыццё – жарсцвянае ўсё поле –
маю перайсці, не абміну.
Дацягну да краю. Хай рукамі,
хай на локцях, попаўзам – дарма,
хай душу раздрапаю аб камень –
ды нідзе мілейшае няма
ад зямлі той страчанай, лядачай,
той нячулай, бажавольнай, злой,
той, якою дні свае ўсе значу,
што ля сэрца барвіцца слязой.

* * *

Цярпі, цярпі – цярпенне нас гадуе,
гартуе дух – цярплівы ўсё сцярпіць.
Ніхто цябе з нядолі не ўратуе,
ані наважыцца з пуціны збіць.
На ёй – сваёй – і стой давеку-скону,
яе трымайся і глядзі далей.
Хай шлях – да раю, пекла ці палону –
усё прайдзі і вынесці здалей.
Змагай свой шлях, які тваім назваўся,
які цябе знайшоў, цябе абраў.
Ты да яго адмалку рыхтаваўся,
Сам Госпад прад табой яго паклаў.

* * *

На калымскім марозе каліна
зацвітае рудымі слязьмі.
Неабсяжная зыркая дніна,
і празрыстай царквой Украіна
праступіла на сценах турмы
Цішыня і бязлюддзе наўкола,
толькі сонца, і снег, і разлог.
І кацілася каці-колам
маё сэрца ў мядзведжы бярлог.
І лістоўніцы нылі без лісця,
пазіралі алені з імглы.
І канцы і пачаткі сышліся
на чужынскай на гэтай зямлі.

* * *

Сплыла Сафія ў золкавым свячэнні,
упаў каштан скрай шляху акурат.
Старонка родная, да пабачэння!
Ты найгарчэйшая між горкіх страт.
Сухі мароз, і ўсё без квету вяне,
на яблынах і лісця ўжо няма.
Каменная труна. І ты – драўляны,
бы чорт, з яе што дыбіцца стырчма.
Журба такая – пэўна, задушыцьме,
ні трапятнешся. Вось ты, джала мук!
Не жыць каму з нас? А каторы жыцьме?
Каб сэрца чуць перадсмяротны стук.
Вакол – абледзянелая пустэча.
Няма нічога на шляху завей.
Душа! Ці не твая то паражнеча?
Тады таксама слепні і нямей!
Туга такая – пэўна, задушыцьме...
Кідайся ў роспач – у зашклёны схоў!
Каму не жыць ужо? А хто з нас жыцьме
пад хіжым небам ледзяных вякоў?

* * *

Цэрква святое Ірыны
крыкма крычыць між імглы,
мабыць, табе ўжо, мой сыне,
голкі душу працялі.
Моракам горла абгорне,
сцісне задуха пятлёй.
Жалься бядзе сваёй чорнай,
мулкай дарозе сваёй!
Плешчуцца крылы аб камень,
чым я тугу развяду?
Жонку пакінуў на ганьбу,
маме пакінуў бяду.
Родная чайца-сястрыца
б'ецца аб сцены грудзьмі.
Госпадзе! Свет не сваціцца –
павар'яцелі ўсе мы.
Госпадзе, ходзіш з кадзілам –
чадам бяссонных начэй, –
штось мяне светам вадзіла,
а не раскрыла вачэй.
Цэрква святое Ірыны,
крык пугача між імглы,
хорам эрыній нарыне

роспач, зацягне вузлы,
каб не дыхнула давеку
плойма знямоглых надзей,
ціха стуляе павекі
шэра-народжаны дзень.

* * *

За шыбамі буркуюць галубы
і вераб'і цілікаюць шчасліва,
іх шчэбетаў вясёлых пералівы
у шыбы плешчуць, плёхаюць, нібы
прыбой, што адгароджаны вакном
і тоўшчаю муроў. Блакіт нябёсны
так да цябе схіляецца мілосна,
а я, малы і недалужны гном,
цягнуся да яго праз краты,
бы патароч. А блазан барадаты,
ў кажух убраны, топча першы снег,
які пад ногі веецца са стрэх
і дол бяліць дае паціху рады.
Маўляў, хто чым багаты, тым і рады.
Пакрыўдзіць гэткіх нас – хіба не грэх?

* * *

Мой пераніцаваны палітон,
адзіны мой таварышу няздрадны,
хто, як не ты, распавядзе дакладна
пра гэты свет і тое, хто ёсць хто –
з усіх, каго з табою спазнавалі мы
гадоў мо дзесяць... Хто была яна,
сяброўка першая, каторая адна
бяды на цэлы век наладавала мне,
пакут сумлення? Хто б яшчэ сказаў,
што свет я ёй давеку завязаў,
разлукаю ды мукаю абсмалены?
Стары мой палітон, скажы пра нас,
і што з табою нас узімку грэла;
як дзесяць год перад вачыма збегла,
і, нібы долата, ўвагнаўся час
у дрэва прахлае. Скажы пра ўсё.
Куды мяне нясе цераз жыццё
бяда мая, і да якога віру?
Хто крыж на мне паставіў? Піша вырак?
Стары мой палітон, скажы пра ўсё.

пераклады

Аляксандр Ірванец



...з катамі княскай эпохі
звязана нямала гісторый –
цікавых і найцікавейшых...

# Валынскія Каты-Легенды

***З хронікі Ката Базілеўса***

*Пераклад з украінскай мовы Уладзімера АРЛОВА.*

*Гуляючы вуліцамі Роўна, Дубна ці Астрога, не абражайце катоў. Каты на Валыні маюць слаўны і старажытны радавод. Краязнаўцы дый прафесійныя слугі Кліа, на жаль, не надаюць належнай увагі пэўным цьмяным старонкам з гісторыі роднага краю. Таму трэба выпраўляць сітуацыю, рупліва запаўняючы белыя плямы.*

*Пішу гэта я, кот Базілеўс, ён жа Васілеўс, для асабліва набліжаных – Васіль. Жыхары слаўнага места Астрожскага маглі мяне бачыць надзвычай рэдка, бо з узростам я зрабіўся вельмі спасцярожлівым. Жыву я ў Астрозе на самым пачатку даўжэзнай, як наша гісторыя, вуліцы Бельмаж, паходжанне назвы якой губляецца ў смузе стагоддзяў. Я папяловае масці з далікатнымі няяркімі палоскамі і зялёнымі вачыма. Хвост пасля размаітых баявых прыгодаў маю куртаты, затое шляхетна пышны. І я не проста кот. Я – Кот-Храніст.*

*Гісторыю кашэчага роду я даследую ўжо даўным-даўно. Вы, пэўна, здзівіцеся, бо сярэдні каціны век рэдка дасягае дваццаці пяці-трыццаці гадоў. Усё насамрэч так. На жаль, каты жывуць не надта доўга. Але на свеце існуе некалькі Вечных Катоў, тых, якія некалі з'елі Зачараваную Мыш. Такая мыш трапляецца адна на сто мільярдаў звычайных шэрых мышак, і ўпаляваць яе – амаль неверагодны шанцунак. Мне пашчасціла, і вось я ўжо колькі вякоў вяду гэтую хроніку.*

*Дарэчы, у мінулым стагоддзі нейкі здраднік распавёў пра Зачараваную Мыш амерыканскаму пісьменніку Стывену Кінгу. У фільме "Зялёная міля" паводле ягонага сцэнарыя між іншага паказаны і сам працэс зачаравання мышы, і яе далейшае зачараванае існаванне. Такія мышы жывуць практычна вечна, і, з'еўшы адну з іх, ты зараджаешся (ці заражаешся) яе неўміручасцю. Мне мая мышына трапілася... Лепей пра тое распавяду іншым разам. Бо зараз хачу нарэшце перайсці да ўпарадкавання і канчатковага рэдагавання сваіх нататак. Раблю я іх хаатычна і з пярэрвамі, вось жа і заглыбляюся ў запісы, першыя з якіх яшчэ на пергамене з авечае шкуры.*

***1.***

Канстанцін Іванавіч Астрожскі – вайсковы і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага, стараста брацлаўскі, вінніцкі і звянігарадскі, стараста луцкі і ўпіцкі, маршалак Валынскае зямлі, кашталян віленскі, ваявода троцкі, вялікі гетман літоўскі трымаў пры сваім двары баявых катоў. У славутай бітве пад Воршай 8 верасня 1514 года гэтых катоў выпусцілі ў найважнейшы момант баталіі, і яны, залазячы маскавітам пад кальчугі і панцыры, дзерлі кіпцямі ды кусалі непрыяцеляў за іхнія, перапрашаю, геніталіі ды іншыя далікатныя й балючыя месцы. У значнай ступені менавіта гэта паскорыла перамогу войска князя Астрожскага. Маскавіты атрымалі жорсткую і балючую паразу – і ад ваяроў князя Канстанціна, і ад ягоных катоў.

Таксама баявыя каты князя Астрожскага бралі ўдзел у бітве з туркамі пад Церабоўляй 2 ліпеня 1524 года. Таго разу наш вершнік, сядаючы на каня, браў з сабою двух-трох катоў і пры набліжэнні шпурляў іх у ворага, а адважныя чатырохлапыя стварэнні далей ужо самі чапляліся кіпцямі й зубамі ў супраціўніка – найперш у твар, але знаходзіліся і такія каты, што прымудраліся прасунуць галаву пад кальчугу ці панцыр і перакусіць ярэмную жылу, ад чаго непрыяцель канаў за пару хвілінаў. Умелі баявыя каты ўчыніць шкоду і варожым каням: учапляліся ў галаву спераду – тады конь страчваў раўнавагу, падаючы разам з вершнікам, і ўжо на доле іншыя баявыя каты гуртам дабівалі сваю ахвяру. Каня пры гэтым каты болей не чапалі. Усе гэтыя гераічныя чыны былі зафіксаваныя ў малавядомым манускрыпце канца XVI стагоддзя "Sicut Victoriae stent a Felibus urbis Ostroh" ("Пераможныя дзеянні катоў места Астрожскага"), які да верасня 1939 года зберагаўся ў архіве гарадскога музея, а з прыходам Чырвонай арміі загадкава знік.

Уся Валынь далёка славілася сваімі кашэчымі баямі, якія наладжваліся ў XV – XVI стагоддзях падчас кірмашоў у Астрозе, у Дубна і радзей – у Роўна. У часы росквіту, калі да ўладанняў князёў Астрожскіх належалі яшчэ і Заслаўскае, Звягельскае, Тураўскае і Сцяпанскае княствы, кашэчыя баі ў Роўне на восеньскім кірмашы (верасень – кастрычнік) ператвараліся

ў сапраўдны чэмпіянат Еўропы. Удзельнікі паядынкаў са сваімі катамі прыбывалі з усіх княстваў, а яшчэ і з чужых земляў – са Швецыі, Прусіі, Маравіі, з Вугоршчыны і Валахіі. Аднаго разу з'явіўся нават пасланец ад каралевы Ізабэлы Кастыльскай – кароткапоўсцевы кот Хорхес. Але вандраваў ён з Гішпаніі так доўга (гадоў пад дзесяць), што за той час пастарэў, страціў зрок ды баявыя якасці і загінуў, прайграўшы ўжо ў першым баі.

Сам Канстанцін Астрожскі меў чорнага ката-ўлюбёнца Люцыфера, ваяўнічага і непераможнага ў паядынках. Калі Люцыфер быў яшчэ ў зусім маладым веку, яго змусілі біцца з сабакам, і хоць кот урэшце перамог, псіна ўсё ж адкусіла яму ступак на правай задняй лапе. Медычная дапамога паспела хутка і паспяхова (пры княжацкім двары служыў ветэрынар-італіец Паола Гальвані, які спецыялізаваўся менавіта на катах), а найлепшы астрожскі каваль Мікалай Бэн Дзюк выкаваў дасканалы металёвы пратэз у форме кашэчага ступака з кіпцюрамі. Жалезныя пазуры не ўцягваліся, таму Люцыфер цокаў імі пры хадзе па цвёрдай паверхні. Але ў баталіі ён ужываў пратэз смела і эфектыўна, выпускаючы суперніку вантробы і змушаючы таго да капітуляцыі.

У Астрозе пад самым княжацкім замкам знаходзіўся "каціярый", хоць самі астрожцы называлі тое памяшканне "кацярняй". Гэтая доўгая драўляная спаруда, цяпер зруйнаваная, згадваецца ў летапісах разам з ейнымі жыхарамі: "Насельнікі каціярыя мянуюцца Вялесій, Мацік, Маргадон, Дзішкант і Вовафакін. Ядуць невераемна шмат і вішчаць агідна, як чэрці", – паведамлялі тагачасныя храністы. Але кот Люцыфер меў заслужаны прывілей жыць з князем у ягоным палацы.

Уначы ў князевых пакоях цокат металёвае лапы Люцыфера лунаў звонка і водгульна з найцямнейшых куткоў – кот пільна клапаціўся пра бяспеку гаспадара і двойчы выкрыў змоўнікаў, што намерыліся былі забіць князя. Кот, апярэдзіўшы ліхадзеяў, скочыў на гаспадароў ложак і гучным прарэзлівым мяўканнем абудзіў князя, пасля чаго кінуўся на бліжэйшага зламысніка, які ўжо ўскінуў над князем свой корд. Адным імклівым скачком Люцыфер пярэднімі лапамі ўчапернуўся нападніку ў вочы, а металёваю задняй праваю лапай з усяе моцы выцяў таго ў гарляк. Вораг выпусціў зброю і закалаціўся ў раптоўным прыступе трахеятаміі. Князь тым часам здолеў дацягнуцца да свайго меча, які заўсёды стаяў напагатове ў похвах каля ложка, і з адметным хаканнем дасведчанага фехтавальніка пасек усіх закалотнікаў на капусту – а было іх з паўтузіна. Пасля гэтага здарэння Астрожскі загадаў пазалаціць Люцыферу пратэз, і тамтэйшы злотнік Мойша Мазоль выдаткаваў на тое 0,33 унцыі ліставога золата, як найтанчэй раскаванага швейцарскімі майстрамі. Князь аддзячыў злотніку, даўшы ў пасаг ягоным тром дочкам вёскі Куцянку, Ажэнін і Вяльбоўнае. Апрача таго Мазоль атрымаў дазвол пакінуць сабе рэшту – 0,67 унцыі ліставога золата, і неўзабаве пазалаціў сабе пярэдні зуб.

Дайшлі да нашых дзён таксама аповеды пра паядынак ката Люцыфера з катом каралевы і вялікай княгіні Боны Сфорцы, паласата-рудым Жыгімонтам, вядомы сваім жахлівым укусам – ухапіўшы за горла, ён не расціскаў сківіцаў, ажно пакуль супраціўнік не пачынаў канаць. Але Люцыфер здолеў выкруціцца і запхаць Жыгімонта ў пашчу свайго металёвага пратэза на задняй лапе, аб які фанабэрлівы польскі кот абламаў свае смяротныя зубы, з ганьбаю прайграўшы паядынак.

На знакамітым партрэце аўтарства невядомага мастака сярэдзіны XVIII стагоддзя ўвагу мастацтвазнаўцаў прываблівають спецыфічныя складкі на багатым абрусе, куды князь схіліў правую руку з гетманскай булавою.



Складкі тыя, выразныя і ненатуральна вялікія, якія агульным абрысам сваім нагадваюць нейкую істоту, дамаляваныя пазней, бо ў першасным варыянце партрэта пад дзясніцаю князя стаяў на задніх лапах чорны кот Люцыфер, аднак потым бязлітасная царкоўная цэнзура загадала схаваць выяву гэтага дарагога для князя зверабаронца. Невядомы мастак усё ж пакінуў на партрэце прыкметны намёк – каля правага бота князя апускаецца долу залацістая аблямоўка абруса, і ў тым выгіне можна змеціць абрысы пазалочанага пратэза кацінага ступака. Калі разглядаць карціну ўважліва і зблізку – аніякіх сумневаў у вынаходцы мастака не застаецца.

Пазней, ужо за часамі існавання Грэка-лацінскае школы, гэта значыць, пры самым канцы XVI стагоддзя, будучы патрыярх канстанцінопальскі, а тады рэктар і выкладчык старажытнагрэцкае мовы Кірыла Лукарыс прывёз з сабою ў Астрог ажно з Грэцыі ката Сакратаса, сівога і разважнага, з вялікай галавою і важкімі віслымі вусамі. Той Сакратас не браў удзелу ў баях, але выславіўся як знакаміты птушкалоў і паляўнічы – са старыцы па-над Гарынскай прытокаю Віліяй ён вяртаўся да гаспадара, цягнучы ў зубах то куліка, то кірлю, а то і цэлую чаплю. Прыносіў ён часам і рыбу, малую і буйную. Лукарыс зазвычай аддаваў Сакратасаву здабычу галодным студэнтам, і таму тая юшка ў іх называлася не інчай як “юшка ад Сакрата”.

Асабліва кот Сакратас вызначаўся неверагоднай кемлівасцю і здольнасцю ацаніць сітуацыю. Колькі разоў, вяртаючыся надвечар ад рэчкі са здабычаю ў зубах, кот сустракаў п’яных у зюзю мяшчанаў ці сялян, якія ціхамірна спалі на ўзбочыне ў духмяным палыне. Кот кідаў рыбіну, выцягваў зубамі ў апівуды гаманец (неяк нават перагрыз дзеля таго каляны скураны пас), і праставаў дадому ўжо з больш каштоўнаю здабычаю. Аднаго разу дзеля забавы (а гумар – гэта прыкмета інтэлекту!) кот Сакратас, выцягнуўшы гаманец з-за пазухі ў непрытомна п’янага майстра-калодзежніка Назара з Вяльбоўнага, запхаў таму замест гаманца вялізнага сазана, якога валачыў з Віліі.

Аднойчы замест рыбы Сакратас прыцягнуў у двор двух прыдушаных, аднак яшчэ жывых бабранятаў. Уладыка Лукарыс выхадзіў зверанятаў, што, як высветлілася, былі братам і сястрою. Іх назвалі Тарасікам і Саламійкаю, і бабраняты выявіліся не толькі жывучымі, але і вельмі цямлівымі: яны хутка навучыліся тачыць дрэва не абы-як, а па лякалах. Спярша выгрызалі найпрацейшыя вырабы: стальніцы, кухонныя ды вялікія дошкі-рассякальні

для разнікоў, потым перайшлі да выточвання лыжак і качалак для цеста, а яшчэ пазней Саламійка, як больш таленавітая, засвоіла выгрызанне вінтавой разьбы, чым надала значны штуршок развіццю ў Астрозе мэблевага мастацтва. Нават трон князя Астрожскага, які нядаўна адноўлены рэстаўратарамі (глядзі ў інтэрнеце) мае нямала элементаў, відавочна выштукаваных так зграбна і дасканала, як не мог тады ніводны станок.

У тыя часы разам з Лукарысам у Астрог прыбыло шмат людзей з Грэцыі, а сярод іх – пчаляр Дыямід, што паставіў сабе хату на краі горада, каля поплаву па-над Віліяй. Дыямід таксама меў ката – чарапахава-плямістага Рэктара. Гэты кот застаўся ў гісторыі дзякуючы дзіўнай звычцы – цягам навучальнага года штодня пасля пачатку заняткаў ён заяўляўся ў апусцелы ад студэнтаў двор Грэка-лацінскай школы і павольна пахаджваў туды-сюды, пільна аглядаючы ўсе закуткі і незадаволена мяўкаючы, калі заўважаў нечыю постаць. Апрача таго кот Рэктар наведваў усе ўрачыстыя імпрэзы Астрожскай вышэйшай школы – канвакацыі, кангрэгацыі й экзекуцыі над студэнтамі-правіннікамі. Экзекуцыі адбываліся двойчы-тройчы на месяц, у нядзелю перад агульнай малітваю. Рэктар, абгарнуўшыся хвастом, сядаў наўзбоч, каб добра бачыць увесь працэс, і раз-пораз ухвальна ківаў галавой.

Рэктар вылучаўся і нецярпімасцю да распусных паводзінаў, якія дазвалялі сабе асобныя студыёзусы. Неяк шкаляр Юхім з-пад Вішняўца спакушаў пад вярбою па-над Віліяй даверлівую і не надта кемную старэйшую дачку бондара Няплюхі з Татарскай вуліцы. Спакушэнне зайшло так далёка, што парачка ўжо лягла на траву пад той ніцай вярбою і пачала непрыхавана песціцца, – як на іх знячэўку наляцеў, падрапаўшы абаім найпатаемнейшыя месцы, кот Рэктар. Са скрываўленымі міжножжамі гаротная парачка пацеглася ў горад. Саромныя раны схаваць не ўдалося, і гультай Юхім Бадацкі мусіў узяць шлюб з Ярынаю Няплюхаю. Аднак сямейнае жыццё ім выпала доўгае і шчаслівае.

Калі ў сярэдзіне XVI стагоддзя ў Астрозе атабарыліся паланёныя князем татары, яны не забыліся прывезці і сваіх катоў. Сярод іх звярнуў на сябе ўвагу буйны і зухаваты ў паядынках каракал Мустафа. Аднаго разу супернікам Мустафы быў ацэлот – вялікі кот ажно з Амерыкі, кантрабандай дастаўлены з Гішпаніі да двара караля Багеміі й Вугоршчыны Людовіка II Ягелончыка. (Ацэлота суправаджалі тры каралеўскія пасланцы, якія прывезлі нябачаную раней на Валыні кілбасу салямі.) Ацэлот меў мянушку Ласла, і з Мустафою яны біліся надзвычай доўга, амаль цэлы дзень, пакуль абое, выснажаныя паядынкам, не знепрытомнелі. Гэта быў ці не адзіны выпадак, калі каціны двубой скончыўся ўнічыю.

Тады ж нарадзілася і адна адметная астрожская прыказка. Яе гісторыя наступная: трое вугорцаў спыніліся на пастой ва ўжо згаданага старшыні астрожскага кавальскага цэху Міколы Бэн Дзюка. Велізарныя запасы кілбасы салямі госці паклалі ў сутарэнні, частавалі ёю астрожцаў і самі паціху паядалі смачнае наперчанае едзіва. Але неўзабаве на каціныя баі прыбылі пасланцы з Масковіі – баяры Дарожкін і Нядзведзін, якія таксама вымагалі для сябе камфортнага перабывання. Яны мелі з сабою царскага ката ад самога Івана Жахлівага. Ката звалі Авакум (хоць Нядзведзін вымаўляў: “Вакуум”), ён быў чорны і бліскучы, большы за Люцыфера, надта злы і неўтаймоўны. Надвечар наступнага дня, калі гаспадар і вугорцы наразалі гасцям-маскавітам чарговую палку салямі да чарговае чаркі астрожскай

медавухі, Авакум якімсьці чынам выбавіўся з клеткі, пракраўся ў сутарэнні і паспеў панадкусваць ужо ці не ўсю кілбасу, калі яго заспеў на гарачым ахмістр айцец Васіль.

Усчалася сварка і скандал, каваль заявіў, што паведаміць пра гэты інцыдэнт князю, і маскавітаў з іхнім катом не дапусцяць да паядынку. А трэба зазначыць, што князь Астрожскі сярод іншых ягоных рэгалій ачольваў яшчэ і ЕККБ (Еўрапейскі камітэт каціных баёў, з якога ў будучым вырасце Міжнародны алімпійскі камітэт). Маскавіты спярша паагрызаліся, а потым, пад цяжарам неабвержных доказаў у выглядзе слядоў Авакумавых зубоў на кілбасе пачалі ўгаворваць каваля Міколу, каб не надаваў справе гучнага розгаласу, і заплацілі яму некалькімі сабалінымі шкуркамі (як пазней выявіў злотнік і кушнер Мойша Мазоль, шкуркі былі каціныя, падфарбаваныя авечай мачою), а апрача таго прысягнулі дасвеццем пакінуць Астрог. Выехалі яны сапраўды вельмі рана, нікога не пабудзіўшы, але ў сутарэннях пасля іхняга ад'езду не засталося нават надкусанай палкі салямі. З таго часу ў народзе і пашырылася прыказка "Не еж салямі з маскалямі", якую і сёння можна пачуць з вуснаў дасціпных астрожцаў.

Гісторыя таксама зберагла колькі фрагментарных згадак пра нейкага Сафонія Катавода-Катовіча, нашчадка збяднелага шляхецкага роду аднекуль з Галіцыі. Ужо за часамі князя Канстанціна-Васіля гэты Сафоній паступае ў Астрожскую славяна-грэка-лацінскую-школу, дзе вывучае рыторыку, дыялектыку, музыку і астраномію. Вучыўся ён даволі доўга, бо пачынаў навуку яшчэ з будучым гетманам Войска Запарожскага Пятром Сагайдачным, а заканчваў, калі астрожскім студыёзусам стаў малады вясковец Мелецій Сматрыцкі, будучы пісьменнік і праваслаўны архіепіскап полацкі. З Сагайдачным Сафоній Катовіч любіў выпіць кухаль піва і сто грамаў гарэлкі ў піцэрыі "Маэстра", пасля чаго ўчыніць бойку з зарэчнымі пацанамі, а маладога Мелеція бязлітасна прыгнятаў, змушаючы таго мыць зубной шчоткаю плінтусы ў студэнцкім інтэрнаце.

Засумаваўшы праз аднастайнае студэнцкае быццё, Сафоній Катовіч засноўвае пры школе кашэчы тэатр, які сёння, найверагодней, назвалі б цыркам. Нашчадкі баявых катоў князя-ваяра выявілі не абы-якія здольнасці ў навуцы гармоніі і мастацтве пластыкі. Каты ў тэатры Катовіч гралі на лютнях, арфах і цымбалах, вымяўквалі царкоўныя гімны, танчылі модны танец катыльён, хадзілі на задніх і пярэдніх лапах, скакалі праз вогненнае кальцо, і нават рабілі жывую піраміду. Астрожцы разам з прыезджымі шчыльнымі радамі ішлі на паказы кашэчага тэатру, а тым часам Сафоній усё больш разважаў пра магчымасці развіцця свайго прыбытковага прадпрыемства. Аднаго разу ён набыў у Яўгена Лушчыка, што жыў у крайнім высокім будынку на той самай вуліцы з загадкаваю назваю Бяльмаж, каня з возам, наладаваў яго скрынкамі з катамі ды выправіўся ў свет шукаць лепшага лёсу. Пры гэтым ён таксама спакусіў на ўцёкі яшчэ двух шкаляроў-галічанаў – Цімк*а* Чыхрая з Самбара ды Юлька Міхалецкага з Бучача. У Львове тыя двое прыядноўваюцца да авантурнай бандыцкай сябрыны Самойлы Нямірыча, услаўленага ў будучыні айчынным майстрам прыгожага пісьменства Юрыем Андруховічам (глядзіце выбраныя творы Ю.А.). Сам жа Сафоній накіроўваецца ў Прагу, дзе пры двары караля Рудольфа II мае шалёны поспех.

Храністы адзначаюць, што Сафоній у сваіх метадах муштравання катоў

стаяў на перадавых гуманістычных пазіцыях. У прыватнасці, ён ніколі не карыстаўся гвалтам, затое шырока ўжываў заахвочванне. У ягоную тэатральную трупу на роўных правах уваходзілі каты і коткі, тады як у тагачасным чалавечым тэатры на сцэне выступалі толькі мужчыны. Сярод артыстаў тэатру Катовіча былі яшчэ й каты і коткі нетрадыцыйнай арыентацыі і нават адзін кот-інвалід з адкушаным вухам. Абсечаныя хвасты таксама былі ў наяўнасці ў добрай трацiны трупы, але на той час гэтая фізічная хіба інваліднасцю не лічылася.

Фундатарка Астрожскай акадэміі, прынцэса Альжбета Астрожская мела рудую котачку Ларысу (La Ryssa), невераемна спрытную і мудрую. Ларыса паходзіла з Астрога і пражыла з князёўнаю блізу дваццаці гадоў. Калі Альжбету кінулі ў вязніцу і яна мусіла пакутаваць у вежы ажно ў Прусіі, каля Познані, котка Ларыса сталася незаменнаю ў стасунках з навакольным светам. Увішная Ларыса мноства разоў засведчыла сваю здольнасць караскацца па высокім цагляным муры, несучы цыдулкі ці невялікі груз. Найчасцей такім грузам быў бурдзючок рому або мадэры, ёмістасцю ¼ карчагі, што меней за літр і болей за паўлітра (якраз тое, што трэба). Ліставанне князёўна вяла з польскім шляхцічам Янам Астраругам, закаханым у яе, як і безліч іншых мужчынаў таго часу.

З катамі княскай эпохі звязана нямала гісторый – цікавых і найцікавейшых. Усе тыя аповеды павінны стаць здабыткам будучых пакаленняў катоў і людзей, каб слава пра чацвераногіх вояроў Валыні не сцьмела ў вяках.

*2.*

Гадоў восемдзесят таму нашая ровенская рэчка Вусця яшчэ не была загнаная ў бетонная рэчышча і плыла значна шырэйшаю, разгаліноўваючыся рукавамі і затокамі. Найусходнейшаю з такіх затокаў была цяперашняя Лебядзіная азярына, альбо папросту Лебядзінка, якая злучалася з Вусцяй нешырокім каналам, а вуліца Замкавая перапаўзала яго кароткім масточкам. Ровенскія мальцы ў тыя часы бавіліся не толькі на сушы, але і на воднай прасторы – плавалі па ёй на калодах і на змайстраваных сваім рукамі плыціках. Улетку цэлыя флатыліі наладжвалі “марскія баі”, без ахвяраў, але з вясёлым верашчаннем і крыкамі, што разлягаліся па наваколлі. Як вядома, каты і коткі не вялікія аматары такіх гульняў, дзе можна імгненна апынуцца ў вадзе, але чатырохлапыя ровенскія жыхары былі ўдзячнымі гледачамі і, як паказалі далейшыя падзеі, рабілі патрэбныя высновы.

Тады, пад час Другой сусветнай вайны, у будынку сучаснага музея месцілася канцылярыя “Рэйхскамісарыяту Украіна” і рэзідэнцыя пыхатага гітлераўскага паплечніка гаўляйтэра Эрыха Коха. Савецкі выведнік-тэрарыст Мікалай Кузняцоў, які дасканала валодаў нямецкай моваю і па-майстэрску ўдаваў з сябе обер-лейтэнанта Паўля Зіберта, неяк атрымаў дазвол на аўдыенцыю ў гаўляйтэра. Баец нябачнага фронту меў намер застрэліць Коха і нават схаваў у патайную кішэню маленькі пісталет. Але ў кабінеце гаўляйтэра, проста каля ягонага стала ляжалі, пільнуючы кожнага госця, два велічэзныя даберманы на мянушкі Шнапс ды Штрудзель. Візітант у часе размовы з гаспадаром кабінета палез ва ўнутраную кішэню, дзе прадбачліва паклаў насоўку – і абодва псіны ў тое ж імгненне ўзвіліся на лапы з пагрозлівым гырчаннем. Але выгляд насоўкі іх заспакоіў, ды, апрача таго, і гаўляйтэр даў знак ляжаць. Таму Кузняцоў застрэліць Коха

не здолеў, але даведаўся ад яго шмат цікавага пра план “Барбароса”, а таксама пра кабарэ “Der Blaue Engel” на берлінскай вуліцы Кюрфюрстэндам, дзе былі найлепшыя танцоркі. Гаўляйтэр марыў запрасіць тое кабарэ з гастролямі ў Роўна – сталіцу рэйхскамісарыяту, але, на вялікі жаль, тыя летуценні так і не ўрэчаісніліся, інакай усе аматары спакуслівых жаночых ножак адбілі б далоні захопленымі воплескамі, а баец нябачнага фронту Кузняцоў, магчыма, патрапіў бы ў зручны момант выцягнуць свой пісталет, пагатоў даберманаў, адрозна ад валынскіх катоў, у зале магло і не быць.

Даберманаў у гаўляйтэра мелася чатыры – акрамя згаданых Штрудзеля і Шнапса ў другую змену былі на варце Шніцэль і Штолен. Іхнюю службу наладзілі з тыпова нямецкай педантычнай стараннасцю. Даглядалі сабак два прыгажунчыкі-яфрэйтары, бландзін і брунет Дытэр і Томас. Выправіўшыся на штодзённую прагулянку, яны спускалі сабак з павадкоў і мірна курылі, папіваючы з вялікіх кубкаў слабенькую цыкорыевую каву, якую так шануе нямецкі народ. А ўкормленыя і вымуштраваныя даберманы ў гэты час люта ганялі ровенскіх вулічных катоў, не жартоўна, а насамрэч, бязлітасна кусаючы і шматаючы ўсіх, каго ўдавалася дагнаць.

Зразумела, што ганарлівыя ровенскія каты, нашчадкі слаўных баявых катоў Валыні, не збіраліся моўчкі й пакорліва трываць такія звярыныя здзекі. Вось жа ў адзін з цёплых летніх дзён 1943 года, калі двух вольных ад вахты даберманаў вывелі на прагулянку, і яфрэйтары з кубкамі кавы, выпусціўшы псоў на волю, уладкаваліся на лавачцы, прыкурваючы свае папяроскі, паласата-шэры кот Мурко з выклікам падышоў да чорнага гаўляйтэрава мерседэса і, задзершы хвост, пусціў на кола струмень-пазнаку ўсяго за два метры ад аслупянелых праз такое нахабства Шнапса і Штрудзеля. А тут яшчэ іншы ровенскі кацяра, чорны Масько, выскачыўшы з-за капота мерседэса, адважна падбег да Штрудзеля і лапаю з вострымі кіпцямі з усяе моцы выцяў таго па носе. Пераляканы доберман скурчыўся і заскавытаў ад болю. Аднак у тую ж хвілю, прыгадаўшы, што ён – сабака, мабілізаваўся і кінуўся на Маська. Шнапс імчаў на дапамогу. Але спрытнюгі-каты, бліскавічна выкруціўшыся, на злом галавы паджгалі да агарожы, маланкава пралезлі праз яе і, як на крылах, паляцелі ў бок азярыны. А вось разгадаваныя сабачымі пайкамі вермахту даберманы скрозь агарожу пралезці не змаглі, таму мусілі бегчы праз брамку.

Раз’ятраныя псіны хутка несліся між прыбярэжных вербаў Лебядзінкі, цяжка хекаючы драпежнымі чырвонымі пашчамі з гострымі жаўтлявымі зубамі. З пашчэнкаў звісалі і блішчэлі на сонцы струмкі сліны. Наблізіўшыся метраў на трыццаць да берага, даберманы спрактыкавана разбегліся шырэй, заціскаючы ўцекачоў паміж сабой і не пакідаючы ім магчымасці адступлення. Але каты ўпэўнена імчалі да вады. Захеканыя даберманы ўжо амаль дагналі катоў, калі тыя, сінхронна, нібы ў цырку, скочылі ўперад, пераляцелі метраў шэсць і апынуліся на кавалку дзіцячага плыціку з чатырох дошак. Інерцыйнай энергіі двух дужых кашэчых целаў хапіла, каб плыт зрушыўся з месца і павольна паплыў на глыбіню. Даберманы спыніліся на самым узбярэжку, пераглянуліся і кінуліся ў ваду, прагнучы помсты і расплаты. Хоць плыт з катамі адплыў ужо даволі далёка, але пачаў патрохі загамоўваць рух на непраточнай вадзяной роўнядзі. Вострыя галовы даберманаў набліжаліся да плыціка ўпэўненымі рыўкамі, і здавалася, мужных катоў ужо нішто не ўратуе. Мурко з Маськом, настаўбурыўшы загрыўкі, плячук у плячук сталі на краі плыціка, каб адбівацца да астатняе змогі.

Ды ў той жа момант з зарасніку трыснягу, якім густа параслі берагі азярыны, з гелгатаннем ды шыпеннем выплыла-вылецела, для паскарэння яшчэ і ўзмахваючы крыламі, пара лебедзяў, што нядаўна вывела ў гэтым гушчары птушанятаў. Лебедзі даўно, як той казаў, гастрылі на даберманаў зуб, праўдзівей, калі гаворка пра птушак (ды каб амаль у рыфму), – дзюб. Нямецкія псіны на сваіх прагулянках не раз палохалі малых лебедзянятаў, абгаўкваючы іх з берага. Дый на саму лебедзь яны аднаго разу падступна накінуліся, калі яна неабачліва выйшла на глеісты бераг. Тады яе птах-сужэнец, рынуўшыся з неба, грозным шыпеннем здолеў запыніць нападнікаў, і пад злобны сабачы брэх пара белых птушак адплыла ў бяспечнае месца. Даберманы ажно захлыналіся ад лютасці, але ўвайсці ў ваду не наважыліся.

А цяпер злапамятныя лебедзі былі ў сваёй стыхіі, а сабакі – наадварот. За колькі метраў ад плыціка з катамі лебедзі перацялі шлях нямецкім акупантам і заўзята ўзяліся іх трапна і моцна дзяўбсці сваімі масіўнымі дзюбамі: па насах, па вачах, па цемечках. Гучнае жаласнае скавытанне над азярынаю не далятала да стаўкі гаўляйтэра: надбярэжныя вербы і трыснёг надзейна глушылі гук. Калі дасхочу наабдымаўшыся за каваю прыгажуны-яфрэйтары звярнулі ўвагу на доўгую адсутнасць даручаных ім службовых сабак, да берага ўжо прыбіла два нежывыя целы захопнікаў са скрываўленымі чарапамі і перадсмяротна вырачанымі вачыма.

Лебедзі з птушанятамі ў той самы вечар перабраліся на Вусцю ажно па той бок замка, падалей ад злых сабак ды іхніх гаспадароў, а нашых герояў Мурка з Маськом паціху аднесла ласкавым паўднёвым ветрыкам да процілеглага берага азярыны. Легенду пра іхні гераічны чын ровенскія каты і сёння з гонарам і годнасцю пераказваюць, то бок перамяўкваюць сваім нашчадкам.

*(Працяг будзе).*

Галіна Бурына – Алесь Разанаў



...кажыце ўсё,
што хоча казацца,
слухаю словы
і яшчэ нешта...



# Вам усяго добрага

***Ліставанне***

**Слоўца ад “дзеяслоўцаў”**

*Увесну 2021 года на электронны адрас “Дзеяслова” прыйшоў ліст ад Алеся Разанава:*

*“Вітаю! Недзе каля 10 гадоў таму назад спраўдзілася і акрэслілася ў тэкстах кніга, дзе адкрываецца ўтоенае, вымаўляецца захаванае, гаворыцца ўголас, што ўхіляецца ад атэстацыі, – кніга эпісталярнага жанру “Вам усяго добрага”. Дасылаю яе ў “Дзеяслоў” – глядзіце: у ёй шмат разнастайных звестак. Калі раптам якая звестка ці пасаж выклічуць пярэчанне, можаце звярнуць увагу на тое, што так напісалася 10 гадоў таму.*

*Ці, урэшце, нават апусціць дзе-якія словы, сказаўшы пра гэта.*

*Супрацоўнічаем далей.*

*Найлепшага!*

*А. Р.”*

*На жаль, параіцца пра мажлівыя праўкі ў матэрыяле, удакладніць і спраўдзіць штосьці ўжо немагчыма. 26 жніўня Алесь Сцяпанавіч Разанаў сышоў у вечнасць.*

*У якасці аўтарскай анатацыі да меркаванай кнігі былі такія словы: “Кніга – ліставанне Галіны Бурынай і Алеся Разанава: у ёй, дзякуючы ўласцівасцям самога эпісталярнага жанру, вытлумачваюцца ўзаемастасункі, выяўляюцца малюнкі жыццёпісаў, аблічны дня і тыдня, сегменты найноўшай гісторыі”.*

*Варта адзначыць, што, пачаўшы рыхтаваць гэтую публікацыю на восень, мы даведаліся, што беластоцкі часопіс “Тэрмапілы” таксама зацікавіўся ліставаннем, і ў 25-м нумары часопіса – у жніўні 2021-га – яно пабачыла свет. Праз тое рэдакцыя “Дзеяслова” спярша вырашыла адмовіцца ад друку, але шаноўны рэдактар “Тэрмапілаў” спадар Ян Чыквін – з увагі найвысокай значнасці гэтага тэксту для беларускага чытача – пераканаў нас зрабіць выключэнне з прынятых правілаў і не адмаўляцца ад публікацыі. Звязаўшыся з другой удзельніцай ліставання – намесніцай дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Галінай Бурынай у тыя гады – мы даведаліся, што, апрача лістоў, дасланых нам Алесем Сцяпанавічам (і надрукаваных у “Тэрмапілах”), якія датуюцца лістападам 2011 – кастрычнікам 2014 гг., спадарыня Галіна гатовая ласкава прапанаваць увазе чытачоў “Дзеяслова” і некалькі пазнейшых лістоў, у тым ліку – напісаных незадоўга да сыходу Алеся Разанава. З імі можна будзе пазнаёміцца ў далейшых нумарах “Дзеяслова”.*

*10.11.11*

Добрага Вам дня, дарагі Алесь Сцяпанавіч!

Высылаю фотаздымкі, магчыма, некаторыя пададуцца Вам цікавымі альбо з’явіцца жаданне ўспомніць гэтыя імгненні ў Брэсце... Адправіць адным архівам не атрымліваецца (вялікі аб’ём), таму будзе некалькі пісьмаў. Спадзяюся пагаварыць з Вамі па тэлефоне, калі застану Вас у Мінску ў бліжэйшыя дні. Дай Бог Вам здароўя, вялікі дзякуй за ласку, цярпенне і дабрыню... З самымі светлымі пачуццямі і пажаданнямі для Вас,

Галіна Іосіфаўна

**Дзякуй**

*11.11.11*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Дзякуй за дасланыя газеты – мне было цікава пачуць меркаванне людзей пра тое, у чым сам удзельнічаў; дзякуй за дасланыя фотаздымкі – нанова знаёмлюся са знаёмымі і аднойчы ўбачанымі абліччамі, яны красамоўныя; дзякуй за ліст, за вымаўленыя словы – яны асветленыя сонцам і мне ў радасць. Мерапрыемства, што адбылося ў Брэсце, усё яшчэ адбываецца, магчыма, яно змагло нейкім чынам вымавіць тое істотнае, што мае дачыненне да ўсіх.

Маё шчырае прывітанне берасцейцам – нашым агульным знаёмым. Абяцаныя кнігі чакаюць нагоды, каб апынуцца ў бібліятэцы.

Вам усяго добрага.

Алесь Разанаў

**Дзякуй**

*16.11.11*

Шаноўны Алесь Сцяпанавіч!

Вельмі радавалася і радуюся Вашаму пісьму, дзякуй! Прабачце, калі ласка, што не адразу адказваю – хацела дакладна даведацца пра нагоду для кніг, але пакуль нічога не высветлілася, акрамя таго, што, магчыма, – у снежні.

Ваша прывітанне перадала нашым з Вамі знаёмым людзям, але пакуль што не ўсіх бачыла, і такая прыемнасць яшчэ чакае гэтых людзей і мяне.

Алесь Сцяпанавіч, мне хочацца запытацца пра Вашыя ўражанні ад паездкі

ў Каўнас, калі не памыляюся, але не магу Вас турбаваць і “забіраць“ Ваш час, таму проста буду чакаць інтэрв‘ю з Вамі ў газетах ці часопісах. Такім жа чынам буду шукаць адказы на свае пытанні ў Вашых творах... Хіба што будзе такая вострая неабходнасць, такая нагода і такая ласка з Вашага боку, як у той самы дзень, 16 кастрычніка – вельмі Вам удзячныя! Так, мерапрыемства сапраўды адбываецца і пакуль што канца не відаць, ва ўсякім выпадку, для мяне. З Вашага дазволу буду інфармаваць Вас аб агульных справах па тэлефоне ці электроннай пошце, а зараз развітваюся з Вамі з пажаданнямі самага добрага!

Галіна Іосіфаўна

**Вокны**

*18.11.11*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

На дварэ глыбокая восень, і я засяроджаны. У вясны і лета набіраўся ўражанняў і назіранняў, а цяпер тая пара, калі словы дзівяцца ў вынік, а дні ў вокны. У Коўне звычайная, з музыкай, літаратурная вечарына – нагода, каб паразумецца і аб’явіцца, але там я не быў амаль дваццаць гадоў (а гэта старадаўняя сталіца літоўшчыны), і вось ён апынаецца цяпер у новых акалічнасцях, той самы і ўжо не падобны да сябе ранейшага, і самае глыбокае ў ім тамтэйшыя людзі. Услухоўваўся ў іхнюю гаворку (трохі валодаю літоўскай – жамойцкай), углядаўся ў твары: у іх захоўваецца тое самабытнае, што памятае вякі. Вякі памятаюць таксама і нас, але па-свойму, і калі мы гутарым між сабой, то і з імі, і тое, што чытаем, чытае таксама нас. Вядома, калі яно тое. Рады, што маё для Вас тое.

Пішыце, тэлефануйце, перадавайце прывітанні. Вы шчыры чытач, я таксама.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Вокны**

*21.11.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

З удзячнасцю і хваляваннем чытала Ваша пісьмо, і з цікавасцю таксама... Вы так паэтычна і так проста адказалі на маё пытанне, дзякуй! Сёння ў нашай бібліятэцы прайшлі літаратурныя чытанні з твораў Генрыха фон Клейста (на нямецкай і рускай мовах). Мы адзіныя ў Беларусі далучыліся да Сусветных чытанняў, якія прайшлі 21 лістапада, у дзень смерці нямецкага паэта, драматурга, пісьменніка, які скончыў сваё жыццё самагубствам разам з жанчынай, якая згадзілася прыняць смерць з яго рук... Але ж не буду Вам пераказваць гісторыю яго жыцця і творчасці, ды Вы і ведаеце, думаю, але неяк гэта ўсё мяне ўсхвалявала...

1 снежня у нас будуць літаратурныя чытанні з нямецкім пісьменнікам Лео Тома з дапамогай Гётэ-Інстытута. Карын прыме самы непасрэдны ўдзел, таму што аўдыторыя будзе толькі нямецкамоўная. Нешта не магу пагаварыць з Аляксандрам Фамічом, не застаю яго дома, можа, хварэе... Мікола Пракаповіч зрабіў передачу з Вамі, абяцаў перапісаць на дыскі для Вас і для бібліятэкі. Ён рэдка бывае задаволены тым, што робіць, але цяпер сказаў, што атрымалася цікава.

Прабачце, калі ласка, за сумбурнае пісьмо: пачуцці і думкі – раскіданыя, і ад гэтага нервуюся... Прывітанні Вам ад Тамары Паўлаўны і Алы Міхайлаўны, Таццяна Вам вельмі ўдзячная за час, які Вы былі з намі, і за размову...

Усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Мір**

*24.11.11*

Добры дзень, Галіна Іосіфаўна!

Мір дому Вашаму! Мір – тое, што заўсёды маем загадзя, а асягаем потым, у ім духоўная Айчына, і ўсе сцежкі, якімі б блытанымі яны ні былі, скіроўваюцца туды, Генрыха фон Клейста таксама. Калі я быў у Берліне, наведваўся некалькі разоў да яго магілы, яна ўпісана ў тамтэйшы краявід, непадалёку чыгуначны паўстанак і возера Ванзэ, пры ім літаратурны калёквіюм (LCB), і ад яго да Генрыха фон Клейста, вечнай выспы нямецкай літаратуры, нейкі дзясятак-другі хвілінаў хады. Тое, што Клейст у Брэсце, кажа, што гісторыя там становіцца сучаснасцю тут і што наогул паміж сучаснасцю і гісторыяй для сэрца і розуму няма неадольных межаў.

Пра перадачу, створаную Міколам Пракаповічам, чуў ад Алеся Зайкі, ён яе хваліў.

Пазаўчора ў музеі гісторыі беларускай літаратуры адбывалася творча-юбілейная вечарына Анатоля Вярцінскага, ён па-маладому няўрымслівы, у дыялозе з людзьмі і светам, і "мір дому твайму" – яго заўсёднае вітанне. Чыталіся вершы (у тым ліку ім самім і ў тым ліку прысвечаны мне "Закон адпаведнасці"), гучалі віншаванні, прыгадваліся карцінкі, а я правальваўся ўглыб, у двубой, у сутыкненне, у нежаданне хаўрусаваць з імітацыяй, што авалодвала прасторай, і, калі А.В. запрасіў да слова, сказаў, расчытваючы адзін яго верш, у якім ёсць канстатацыі, кшталту "Суддзя ў змагары хулігана знайшоў", тое, што хацела казацца (і, відаць, не адным мною, бо пасля завяршэння некалькі чалавек падыходзілі і, як сакрэтам, як з-пад накінутай на галовы сеткі, дзяліліся ўхвалай). Вось аскепак з таго выступу: "Мы прыйшлі ў шоў... Махляр, што робіць ён?!. Хлус, што робіць ён?!. Мы недастаткова ёсць, таму ашукваемся і ашукваем..." Казаў, маючы на ўвазе прысутных там дзвюх дваістасцяў – кадравых гульцоў, і калі гэта казаў і паказваў на іх рукой, яны сядзелі, угнуўшы галовы, а ў зале панавала ціша, якая, здавалася, звініць – такую цішу чуў, калі ў Доме літаратара аднойчы казаў свае слова пра Максіма Багдановіча. Напрыканцы вярнуўся (узняўся) ў гутарлівы тон вечарыны, згадаў, што калі атрымаў кватэру на Веры Харужай 46, то нічога не меў з сабою, а Анатоль Ільіч жыў побач, у доме 48, і я падаўся да яго: дайце штонебудзь!.. – і ён мне падарыў тады лямпачку Ільіча. Свяціла доўга. Свяціла доўга?

А Ваша бібліятэка як сям'я, свая многім, мне ў тым ліку. Перадавайце прывітанне тым людзям, каго назвалі ў сваім лісце, і, пры нагодзе, тым, каго не назвалі.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Добрая навіна**

*30.11.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Калі прыйшоў Ваш ліст, я была ў Івацэвічах. Выдалася нагода паехаць на машыне праведаць родных і дапамагчы ім. Хацела напісаць Вам пра свае ўражанні, але не магу, слёзы – на вочы...

Не, дзякаваць Богу, усё добра, але ўспаміны – роем, ніяк не атрымліваецца жыць сённяшнім днём, не хачу, а вяртаюся думкамі ў мінулае – гэта цяжка, перашкаджае адэкватна пражываць менавіта гэтую хвіліну, гадзіну, дзень ці ноч... Прабачце, калі ласка, не звяртайце ўвагі – эмоцыі...

Добрая навіна – сёння ў газеце "Вечерний Брест" выйшаў артыкул пра кнігу Алеся Зайкі "Дым з коміна". Аўтар Іван Арлоў, карэспандэнт газеты, наш добры сябра. Ён вельмі любіць чытаць, чытае многа і на старонках дадатку да гэтай газеты "Вечёрочка" распавядае пра кнігі з фондаў абласной бібліятэкі, цікавыя,

на яго погляд. Рубрыка называецца "Буквоед". Можна паглядзець у інтэрнэце ці магу даслаць, калі хочаце. Алесю Фамічу абавязкова патэлефаную, але, напэўна, ён ведае ад сяброў. Дні бягуць за днямі, не паспяваю нават асэнсаваць усё, што адбываецца за дзень, нейкае вавёрчына кола, "суета сует", але ўсё звязана з людзьмі і таму важна... Заўтра – першы дзень зімы... Вы так прыгожа і правільна сказалі пра гісторыю і сучаснасць, дзякуй за такія цёплыя словы пра нашу бібліятэку, для нас – гэта гонар! Прывітанне ад Вас перадаю абавязкова, усе, хто Вас ведае, зычаць Вам дабра і здароўя.

З удзячнасцю,

Галіна Іосіфаўна

**Водгук**

*02.12.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Толькі што праглядзела і праслухала перадачу, якую стварыў, як Вы сказалі, Мікола Пракаповіч. Нібыта зноў апынулася ў тым часе, у атмасферы, напоўненай Вашай прысутнасцю, а водгук відаць у людскіх вачах... Дыск я перадам Карын, яна звяжацца з Вамі, а плануе быць у Мінску ў наступныя выхадныя дні.

Учора ў нас прайшлі літаратурныя чытанні паспяховага, як напісана ў інтэрнэце, пісьменніка і настаўніка нямецкай мовы Леанарда Тома. Можна яшчэ дадаць, што ў яго вялікія акцёрскія здольнасці. Вывучаў германістыку і філасофію ў Мюнхене. Потым працаваў настаўнікам нямецкай мовы, выкладаў яе ў якасці замежнай у Італіі і Францыі. З 1996 года працуе ў Іспаніі і выкладае ва ўніверсітэце Барселоны. Раніцою ён праводзіў семінар у школе, дзе працуе Карын, потым – экскурсія па крэпасці, абед і літаратурныя чытанні. Ён чытаў урыўкі са сваіх кароткіх апавяданняў, у асноўным, дыялогі, і жэстамі і мімікай маляваў партрэты сваіх герояў, ды так трапна, што зала смяялася праз кожныя 5-7 хвілін. Школьнікі актыўна ўдзельнічалі, таму што па ходу мерапрыемства Лео, як яго называюць, пытаўся ў іх пра тыя ці іншыя рэчы. А дзяўчынка, якая сядзела побач са мною ў перапоўненай зале, сказала сваёй сяброўцы, што на Разанаве – яна так сказала – было больш цікава... Бачыце? Мне вельмі спадабаўся гэты чалавек, ён такі жывы, адкрыты, відаць, што яму самому падабаецца тое, што ён робіць, што ён любіць людзей... А адбылося ўсё дзякуючы Гётэ-Інстытуту. Дарэчы, калі Леанарда запрасілі паглядзець выставу плакатаў аб жыцці і творчасці Генрыха фон Клейста, памятаеце? – то ён сказаў, што гэта яго любімы пісьменнік і што яго дыпломная работа была прысвечана Клейсту. Такая цікавая рэч...

Не ведаю, ці звярнулі Вы ўвагу на старыя будынкі каля нашай бібліятэкі: жылы дом і дзве "канторы" побач, – то зараз іх ужо няма, разбурылі... За працэсам назіралі рабочыя, супрацоўнікі, проста прахожыя. Глядзець на гэта было балюча – адразу будаваўся асацыятыўны рад, звязаны з чалавечым жыццём, ды і сам дом было шкада: ён таксама шмат чаго бачыў і перажыў разам з людзьмі, якія ў ім жылі, а магчыма, у яго было сваё жыццё...

Алесь Сцяпанавіч, прабачце мне, калі ласка, можа, у Вас не заўсёды ёсць час, каб адказаць мне, то я гэта разумею і прымаю. Шчыра ўдзячная Вам за давер і дапамогу, найлепшыя пажаданні Вам – ад Міколы Пракаповіча, Тамары Паўлаўны і Алы Міхайлаўны, пакуль што бачу толькі іх...

Галіна Іосіфаўна

**Сябрына**

*04.12.11*

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Я не кожны дзень звяртаюся да кампутара і не заўсёды адразу адгукаюся

лістом на дасланы ліст, але адгукаюся, нават нічога не атрымаўшы: некалі, у неймавернай наступнасці, мы пакінем словы – навучымся абыходзіцца без іх, і творчасць, па самым апошнім (ці, лепш, перадапошнім) рахунку, і ёсць вызваленне ад слоў. Але цяпер словы кажуць, і калі яны кажуць, рэчаіснасць набывае аблічча, людзі ажываюць, і брэсцкі краявід вымалёўваецца ў вачах. Мы да ўсяго маем дачыненне, праўда?

Дзень гэтаксама добры. І ўчора, і сёння далёка нікуды не хадзіў, адно на рынак і ў краму, але лагчынай – наваколле заходзіла за небакрай і ў сонцы была спагада. Спагада таго, што адыходзіць, да таго, што застаецца, спагада таго, што застаецца, да таго, што адыходзіць, а мы адначасова адыходзім і застаёмся, і промні, аддаючыся, маюць уласцівасць вяртацца туды, адкуль узяліся, мы не адразу мы, доўжыцца час, узаемадзеянне пераадольвае распадзелы, і потым – яно і цяпер.

Чаго нам заўсёды не хапае, дык гэта відушчасці, але ў спагадзе яна ўжо (ці, можа, яшчэ) ёсць. Хто ў Вас у Івацэвічах?

Вы адгукаецеся на мае словы – дзякуй! Я не настаўнік і не прапаведнік, а з той самай сябрыны, што і Вы. Яна самае істотнае, што можа ўзнікаць у людскіх стасунках.

Прывітанне сябрыне!

Алесь Разанаў

**Душа**

*05.12.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Не ведаю нават, з чаго пачаць... Пачну з галоўнага: шчасце ёсць! Я была вельмі рада чуць Ваш голас і размаўляць з Вамі па тэлефоне – усё ж жывы голас, інтанацыі, гаворка, паўзы; калі ты адразу адказваеш, а не пішаш; калі ты адчуваеш, як пачынае хутчэй біцца сэрца і ружавее твар; калі ты ўвесь ператвараешся ў слых: з аднаго боку, жадна ўбіраеш у сябе кожнае слова, кожную інтанацыю, з другога, – стараешся адказваць “упапад” (баюся, няма такога слова), і ад гэтага працэсу ты мяняешся сам – пачынаеш усміхацца, усё тое, што нядаўна было шэрым, пачынае набываць фарбы, ты пачынаеш любіць усё жывое і проста ўсё на зямлі і ў небе, і нейкая радасць, нейкія сонечныя праменьчыкі пранізваюць цябе наскрозь... Вось такія былі ў мяне адчуванні, калі я з Вамі гаварыла, і потым доўжыліся...

Дзіўна, але гэта адчуванне (не пачуццё, а менавіта адчуванне, як нечага рэальнага) шчасця, радасці нікуды не падзелася, яно ўва мне засталося, і спадзяюся, што змагу ўспамінам вызваць яго зноў... Так было добра Душы, я не магу перадаць словамі, ніякага параўнання з фізічнымі адчуваннямі, я не ведаю, што гэта, магу толькі здагадвацца, але думаю, што Вы мяне разумееце, як разумееце і тое, чаму я Вам пра гэта кажу: таму што перажыла гэта разам з Вамі, Вы прабудзілі маю Душу, і гэта цудоўна! Алесь Сцяпанавіч, я вельмі ўдзячная Вам за тое, што Вы адгукаецеся, нават, калі не пішаце, я гэта адчуваю.

Ведаеце, мне неяк няёмка было Вам пісаць, было адчуванне таго, што я забіраю ў Вас час, што Вам нецікава і непатрэбна, што я задаю “дзіцячыя” пытанні, што Вы – на вяршыні гары, а я – унізе... Але Вы такі шчыры ў лістах, такі спагадлівы і далікатны, а Ваш голас такі цёплы і нават трошкі ўсхваляваны (можа, мне падалося?)... Вы спыталі пра Таццяну, дзякуй, яна вельмі ўзрадавалася і абяцала лішні раз не турбаваць, толькі калі вельмі будзе трэба, – адным словам, я Вам давяраю і пастараюся не злоўжываць Вашым даверам... Прабачце, калі ласка, маю, можа, залішнюю эмацыйнасць, бачыце – праз слова – “адчуванне”, “пачуццё”, – але дазвольце мне сказаць Вам тое, што сказала (сказалася)!

Галіна Іосіфаўна

**Знак**

*06.12.11*

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Прачытаў Ваш ліст, быў яшчэ дзень – і амаль адразу ўзяўся адказваць, ды адхіліўся, і ўношу цяпер у напісанае папраўкі, але адгэтуль усё застаецца як і раней: усё добрае ўзаемна, усё шчырае ўзаемна, усё светлае ўзаемна, і Вы нічога ад мяне не адымаеце, а, наадварот, нешта істотнае дадаяце.

Учора паўдзельнічаў у фэсце "Кахай па-беларуску, жыві па-еўрапейску", бо паабяцаўся даўно, не ведаючы нават тэмы, тэрмін пераносіўся, а прыпаў на 5 снежня. Перад пачаткам ужо расчароўваўся ў сваёй згодзе: моладзева-гуллёвы варыянт, але гэта апыналася на паверхні, пад ёю творчае, і, магчыма, сваім удзелам я здолеў унесці ў мерапрыемства нейкі, зусім не лішні, інгрэдыент. Ёсць адлегласць, якая кладзецца ў мінулае, і ёсць адлегласць, якая кладзецца ў наступнасць (у вышыню), абедзве яны дадаюцца зроку, першая аднавектарная, а другая рухомая і жывая, і я заўсёды зычу сваім сябрам, каб яны раслі і ўздымаліся, калі гэта адбываецца, дасягненні аднаго – дасягненні астатніх.

Вы не каля падэшвы гары, а я не на вяршыні – вяршыня заходзіць у пазасвет, мы спадарожнікі, а мэта высокая, і таму, хто ідзе, яна пасылае знакі наступнасці.

Цешуся з Вамі, што Вас кранул такі знак.

Алесь Разанаў

**Словы**

*09.12.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Дзякуй – я ведала, што Вы адкажаце хутка, але трошкі не дачакалася: у 5.10 раніцою 7-га паехала ў камандзіроўку ў Мінск, учора вярнулася пасля 23-х, пазнавата, але першае, што зрабіла, – уключыла камп'ютар і прачытала Ваш ліст. Не казала Вам раней, бо не ведала, як атрымаецца, ці будзе вольны час, каб патэлефанаваць Вам у Мінску альбо нават сустрэцца. Так і здарылася: вольнага часу амаль не было, з цягніка – на цягнік, ды яшчэ і прыхварэла трошкі, таму і сёння пішу позна, прабачце! У Рэспубліканскай навукова-тэхнічнай бібліятэцы нас вучылі, як працаваць з чытачамі, – зараз іх называюць карыстальнікамі, – з дапамогай інтэрнэта, у так званых "сацыяльных сетках". Выступалі прадстаўнікі буйнейшых навуковых бібліятэк, бібліятэк ВНУ, Інфармацыйнага Пасольства ЗША. Вельмі, вельмі цікава! А яшчэ, хоць і тэмпературыла, але пайшла разам з калегамі на фільм "Высоцкий: спасибо, что живой". Многа рознага пра яго гавораць, Вы, пэўна, ведаеце, але мяне фільм вельмі ўразіў... Галоўны герой безумоўна, але і людзі, што былі побач з ім, іх паводзіны, барацьба чалавечага са звярыным у чалавеку і – перамога чалавечага! Ведаеце, фільм ідзе ўжо тыдзень, а зала была поўная, шмат моладзі: яны ж не жылі ў той час, не паспрабавалі, дзякаваць Богу, на сабе ціскоў той машыны, але Вы б чулі, як яны спачувалі і перажывалі за Высоцкага! А можа, і не за яго, а за абагульнены вобраз чалавека, які ўмеў сябраваць, трымаць слова, браць адказнасць на сябе і працаваць з поўнай адданасцю! А гэтая дзяўчынка, якая рызыкавала жыццём... Яна проста любіла...

Алесь Сцяпанавіч!

Вашыя словы – гэта ўчынкі! Вы рэальна дапамагаеце жыць і рухацца, хоць і маленькімі крокамі, але рухацца і развівацца! Дай Вам Бог здароўя!

Сёння кранулася ў дарогу Карын, так што чакайце яе званка, добрай Вам сустрэчы!

Галіна Іосіфаўна, а можна проста Галіна, калі можна.

Беражыце сябе, калі ласка!

**Крылы**

*11.12.11*

Згаджаюся, пішу:

Галіна, добры дзень!

Фільм, пра які Вы згадваеце, мне не даводзілася глядзець, з Высоцкім, як і з іншымі творцамі, усталяваліся (і ўсё яшчэ ўсталёўваюцца) свае адносіны, нішто тут не лішняе і лішняе ўсё, нават яны самі са сваімі жыццяпісамі, і адлегласць – мера, якая дазваляе з’явы ўспрыймаць і прыймаць, інакш хвалі ўражанняў захопяць і не захочуць адпускаць, а правіла простае: чым бліжэй да сваёй вышыні, да сваёй сутнасці, тым бліжэй да ўсіх сутнасцяў і вышыняў.

Учора бачыўся з Карын, дзякуй за дыск, калі-небудзь абавязкова пагляджу, а потым пабачыўся і з Міколам Пракаповічам, і з іншымі берасцейцамі – у Палацы мастацтва адбываўся пісьменніцкі з’езд, і знаёмыя аблічча былі знаходкай.

Аднак дадому вяртаўся нейкі спустошаны: з’езды самае няўдзячнае месца, дзе могуць прымацца праўдзівыя рашэнні, тут колькасць заўсёды пераважае якасць, асабліва ў час, які не ведае, куды кіравацца: не той узровень, не тыя прыярытэты, не тыя духі вядуць рэй. Так, прозвішчы пісьменнікаў, што адышлі за гэты перыяд у іншы свет, прагаварыліся такой скарагаворкай, што я не здолеў іх улавіць, а хацеў бы хоць хвіліну засяродзіцца на кожным. Амаль без водгуку засталося выступленне Віктара Казько; ён гаварыў пра заўсёдны пісьменніцкі абавязак – абавязак берагчы душу: нешта не гэтак з ёю – нешта не гэтак з літаратурай; амаль не пачутым прайшоў зварот Ніла Гілевіча (самога яго не было, зачытваўся ліст) – пра адказнасць пісьменніка перад Айчынай і словам: усё гэта ўжо як бы не для нас і мы ўжо як бы не для гэтага...

Папрысутнічаў, паўдзельнічаў, паслухаў, пабачыў, пагутарыў: называюцца імёны і прыводзяцца лічбы, але сама літаратура (што такое літаратура?) як бы адсутнічае, хоць яна тая адзіная справа, вакол якой яшчэ магчыма яднанне. Гэта што зблізку, а пра тое, што робіцца і не робіцца ў тым, генеральскім, пісьменніцкім асяродку, ужо нават не ахвота ведаць. Мы няўмольна ссоўваемся ў заняпад, і ўратаваць могуць адно крылы (як тут, так, зрэшты, ва ўсім свеце), не прыхілімся да іх – яны ўздымуцца і без нас. Кропка палёту – самая надзейная апора, Вы яе намацалі: радуйцеся! Вітайце знаёмых.

Усю восень я і людзі карысталіся зёлкамі, што назбіраліся ў Хрышчонавічах, – святаяннікам, чаборам, крываўнікам, рамонкам, сунічнікам ды яшчэ ліповым цветам, нацярэбляным са шчодрай ліпы спадароў Здзітаўцоў у Альшаніцы, ды яшчэ мятай, узятай, добра не памятаю, адкуль. Што Вам узычыць наступны раз?

Алесь Разанаў

**Беражыце сябе, калі ласка!**

*13.12.11*

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Дзякуй Вам за размову, за кнігі, за пачастунак! Дарэчы, гэтыя грушы, на жаль, я не ведаю, як яны называюцца, мае самыя любімыя: яны вельмі смачныя і з імі (менавіта гэтым сортам) звязаны дзіцячыя ўспаміны, калі мы з сяброўкай у класе 5-6, не памятаю, частаваліся імі без дазволу гаспадароў, і што нам потым за гэта было... Але смак не стаў ад гэтага горшы. І, як аказалася, любяць іх многія! Сёння вярталася дадому ў свой “спальны” раён, – цемень, толькі маленькія агеньчыкі-ліхтарыкі на дрэвах (прыбраліся да Новага году), – думала пра Вас, пачала ўсміхацца, і святлей стала на Душы...

Прабачце, што адказваю не адразу і пішу, можа, не зусім зразумела, – трошкі хварэю, але, спадзяюся, усё будзе добра... Беражыце сябе, калі ласка, прывітанне Вам ад усіх нашых,

Галіна

P.S. Алесь Сцяпанавіч, а як Вы звычайна сустракаеце Новы год? Для Вас – гэта свята? Ці... ? – калі можна... Па якім календары Вы жывяце? А Ражаство?

**Свята**

*15.12.11*

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

І зноў пішу Ваша імя ў два словы, настроіўся на такі транскрыпт, у ім ужо ёсць свой рытм, у ім ужо ёсць размова, і што я ўвесь час раблю – дык гэта ўключаюся ў размову, укладзеную ў імя. Галіна – сцежка ў цямноцці, якой Вы вяртаецеся дадому, Іосіфаўна – маляўнічыя ліхтарыкі, развешаныя на свята, яны лёгкія, не зусім прадметныя, калі іх апрадмечваць, належала б пісаць Язэпаўна (гэтак, дарэчы, зрабіла Ніна Мацяш) альбо Восіпаўна, у гэтых артыкуляцыях больш тутэйшасці і заземленасці, і Ніна Мацяш, напэўна, мела ў гэтым патрэбу – яна была небяспечна набліжанай да неба, і прадметнасці ёй як бы не хапала.

Рады, што грушы, перададзеныя Карын, Вам спадабаліся і да таго ж абудзілі даўнія згадкі, а ў мяне да Вас нават просьба набегла: будзеце пісаць – дадавайце, калі ласка, усялякі раз да ліста старонку якой-небудзь згадкі, як мінулы раз візуальныя малюнкі, гэтым разам слоўныя, добра?

Каляндарныя святы – не зусім святы, яны мусовыя. Так, аддаю даніну традыцыі, збіраемся ўсёю сям'ёй, нешта прамаўляем, частуемся, пільнуем час, а праўдзівае свята – яно прысвячэнне ў... (не знаходжу адразу адпаведнага слова, хай будзе таўталагічнае: у свята; без прысвячэння любое свята, якое б яно ні было, усяго толькі мерапрыемства, у якім больш спусташэння, чым творчасці, і адзінота, напоўненая прысутнасцю запаленай свечкі, – узор, якім яно мусіла б насампраўдзе быць).

На сёння развітваюся.

Свеціцца свечка – і размыкаюцца прастора і час.

Алесь Разанаў

**Лунная алея**

*15.12.11*

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вам і сапраўды цікава чытаць мае згадкі? Добра, тады не буду саромецца, можа, гэта важна, важна для мяне, каб нешта дадумаць альбо зразумець, а Вы так ласкава далі згоду дапамагчы мне ў гэтым... Ведаеце, сёння я бачыла "лунную алею", уяўляеце? Шкада, што ў мяне няма фотаапарата, а мабільны не дазваляе фатаграфаваць, я б паспрабавала... На бульвары Шаўчэнкі, калі ісці да рэчкі, да вуліцы Набярэжнай, там яшчэ гасцініца "Беларусь", можа, Вы там спыняліся, – дык вось: на невялікіх дрэўцах, прыблізна аднолькавых, свецяцца срэбрам маленькія шарыкі – і ўтвараецца воблака... Так прыгожа і незвычайна... Дрэўцы з абодвух бакоў і іх даволі многа... Многа срэбных аблокаў, і так блізка... і так нерэальна... Сказаць праўду, я не наважылася падысці бліжэй, таму што цудоўнае магло знікнуць, распасціся на часткі... Цяпер у мяне ёсць маленькая тайна: кожны вечар пасля работы я іду пару прыпынкаў, каб паглядзець на гэты цуд...

А можна і пафантазіраваць! Ці запомніць той трошкі ўстрывожаны і ўзрушаны стан, хваляванне і здзіўленне... Вы так прыгожа напісалі пра ліхтарыкі і, сапраўды, на кожны крок: і-о-сі-фаў-на, мне нават падалося, што яны гучаць, калі да іх дакранаецца вецер, – тоненька, як срэбныя калакольчыкі... Мне вельмі падабаецца і нават ўсплыла "дзіцячая" крыўда, калі супрацоўніца прачытала мне з кнігі пра імя Іосіф, дзе было напісана, што гэта нешта вельмі слабое, нерашучае, невыразнае і г. д., і ўсё з негатыўным зместам... Мне было крыўдна не таму, што так трактуецца гэта імя, не за бацьку, якога так назвалі ягоныя бацькі, а таму, што яна смяялася

пасля кожнага эпітэта, і атрымлівалася, што гэта ўсё яна адрасавала мне... Можа, на той момант гэта так і было, і не толькі на той, таму што кожны, нават моцны чалавек бывае і слабым, і нерашучым...

А Вы “рэабілітавалі” і імя, і мяне, і людзей, – дзякуй!

Галінай Язэпаўнай калі-нікалі мяне называюць Мікола Пракаповіч і Алесь Каско, але я не атаясамліваю сябе з ёю, я не Язэпаўна і не Восіпаўна, – Вы адзіны гэта адчулі... То атрымліваецца, што яны размаўляюць не зусім са мною? А я думаю, чаму ўвесь час адчуваю сябе неяк няёмка, нібыта я выдаю сябе за другую, але ж так яно і ёсць, я з імі – другая, і з іншымі – іншая... Майго бацьку ніхто ніколі так не называў: бацькі і родныя звалі Ёзікам, а мама – Юзіком і Іосіфам, бо маміны бацькі былі рэпрэсіраваныя, і мама нарадзілася на Урале, у Пермскай вобласці, і гаварыла і гаворыць, дзякаваць Богу, па-руску. Дзякаваць Богу не таму, што па-руску, а таму, што з намі, дай ёй Бог здароўя! Памятае яшчэ і па-пярмяцку, і вершы на нямецкай мове... Калі Вам будзе цікава, то я трошкі напішу пра родных, як Вы?

Прытаміліся Вы ўжо чытаць мае згадкі, бачыце, што робіцца, можа, не пісаць? Алесь Сцяпанавіч, я таксама адчуваю святы, як Вы напісалі... А можна я закончу свой ліст Вашымі словамі, якія не проста словы, а ключ ці пароль, не ведаю, як правільна сказаць, але Вы разумееце, што я хачу і не магу выразіць: “Свеціцца свечка – і размыкаюцца прастора і час...”

Галіна Іосіфаўна

**Жыццяпіс**

*18.12.11*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Ад раніцы за вокнамі бялеў снег, цяпер яго амаль няма: зіма спрабуе настаць і з каляндарнымі раскладамі не супадае, а свечка высвечвае ў іх праўдзівыя святы – Раство ды Вялікдзень, яна сама запальваецца ад іх. Свята – малітва, якая спраўджваецца, ёю яднаюцца зямля і неба, і калі гэта адбываецца, людзі адчуваюць, што яны Божыя, а калі яна супольная – мае велізарную моц. У глыбіні душы заўсёды цепліцца свечка, у глыбіні душы заўсёды зберагаецца свята. Вы слушна акрэслілі ў найменні, якое носіце з сабою, актаву, гук “с” у ім, па-мойму, самы высокі, але чаму настаўніца вытлумачвала яго (найменне) так недакладна ці прадузята?

Усё пражытае мае сваё значэнне; гэтае значэнне застаецца не толькі ў мінулым – не застаецца толькі ў мінулым, ім захопліваецца і наступнасць, яна ўвесь час вынікае з гэтага захплівання, і таму ніколі не вытлумачваецца дарэшты, а найпаўней выяўляецца ў вобразах і абразках. Любы жыццяпіс істотны, а вось гартаць яго – талент, вы таленавіта чытаеце і ведаеце: усё шчырае для таго, хто яго чытае, становіцца сваім, для некага, хто нават не знаёмы са мной асабіста, я гэтаксама свой, я зацікаўлены ў тым, каб людзі чыталі і каб Вы гарталі свой жыццяпіс, я свой гартаць не магу і ўспамінаў пісаць не ўмею, няма з чаго – яны для мяне ўжо амаль адсутныя, адно свеціць сонца і дзень бясконцы, а тое, што ёсць са мною, – яно ненапісаны твор.

Вітайце людзей,
Вам усяго добрага.
Алесь Разанаў

**Сэнс**

*22.12.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Дзякуй вам за добрыя словы і за тое, што Вы так глыбока і проста тлумачыце

сэнс усяго істотнага і таго, што дапамагае ці перашкаджае гэтаму істотнаму выявіцца... Ведаеце, мяне вельмі ўразілі Вашыя словы, што для Вас успаміны “амаль што адсутныя, адно свеціць сонца і дзень бясконцы, а тое, што ёсць са мною – яно ненапісаны твор”. Але потым я падумала і трошкі наблізілася да разумення таго, як гэта можа быць... Не, хутчэй адчула, чым зразумела... Як Ваша кніга? Вы казалі, што ёсць надзея напісаць да Новага Года?

У нас усё па-ранейшаму. Трошкі напружаная праца – канец года, усялякія справаздачы і іншае. Настрой у мяне палепшыўся, нягледзячы на розныя цяжкасці, можа таму, што стараюся не надаваць ім вялікага значэння і пытанне “за што?” замяняць на “для чаго?”... Заўтра еду праведаць маму і брата з сям’ёй, дзякаваць Тамары Паўлаўне, яна мяне “адпускае”, калі ні папрашу, заўтра ж працоўны дзень... Але потым будзе нагода папрацаваць і ў выхадныя дні... Прывітанне Вам ад усіх нашых, прабачце, калі ласка, калі я што не так напісала, усяго Вам добрага.

Галіна Іосіфаўна

**Плынь**

*25.12.11*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Чалавечы час гэта як цячэ рака, адна плынь, а розныя токі: тут строма, там вір, а там падбярэжжы са сваімі затокамі, усё ўзаемазлучана, усё мае сваё значэнне. Кніга, пра якую Вы пытаецеся, задумалася, бо адчулася (адначасова адчулася і задумалася), і два месяцы таму больш яўна і больш акрэслена, чым цяпер, я адразу ўцягнуўся ў здзяйсненне, і калі б наступныя тыдні былі проста працягам папярэдніх, яна была б ужо завершана, але яны гэтага на схацелі, і яна яшчэ не завершана.

У чарнавіках ляжыць сотня з нечым Wortdichte, іхняя асаблівасць у тым, што на гэты раз яны ўклаліся ў фармат пункціраў, але пункцірамі не сталі, я іх цяпер не перачытваю, нават не памятаю, якія яны, перачытваць, перапісваць і асвойваць пачну тады, калі адчую, што праца скончана, а яна доўжыцца, плысці відавочна цяжэй, магчыма, я стаміўся альбо адчуў набліжэнне берага, а ён для плыўца небяспечны арыенцір (пераарыенцір), але адпусціць задуманае не магу.

Вы спасылаецеся на адчуванне (“адчула”), згодзен: у ім ёсць відушчасць і мера відушчасці, і гэтая мера надае рэчаіснасці мэтазгоднасць, а людзям асабовасць; прамень дакранаецца да выніку, які потым будзе здабывацца досведам, але вынік адчування і вынік досведу заўсёды адрозніваюцца, іх (адчуванне і досвед) раз’ядноўвае блізіня, а далечыня яднае.

Які было Ваша падарожжа на радзіму? Мне на самой справе было б больш чым цікава пазнаёміцца з яе тапаграфіяй.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Плынь**

*28.12.11*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Другі раз бяруся пісаць – і ўсё нейкія перашкоды... Забылася расказаць Вам цікавую рэч, а можа, Вы і ведаеце... Ужо каторы год Карын запрашае мяне на святкаванне надыходзячага Раства.

Як правіла, гэта дзён за 10 да Свята, таму што на Свята яна едзе дадому, у Цвікау. Вельмі прыгожа прыбірае кватэру, – у яе шмат ўсялякіх прыладаў для гэтага, нават не магу апісаць, – запальвае свечы, многа свечак, і рыхтуе святочную ежу. Цікава, што ў немцаў прынята спачатку з’есці салодкае, а ўжо

потым больш грунтоўна закусіць, і толькі потым – трошкі чырвонага віна, а калі і не трошкі...

Але я не пра гэта хацела расказаць... І на гэты раз яна запрасіла прадстаўнікоў нямецкіх арганізацый у Брэсце і мяне. Дык вось Альмут, якая працуе ва ўніверсітэце па лініі DAAD, расказала цікавы звычай, які захоўваецца да гэтай пары. Калі малады чалавек хоча вывучыцца на плотніка, то ён павінен пайсці з бацькоўскага дому на тры гады і адзін дзень, ісці пешшу па людзях і вучыцца ў розных майстроў. У той вопратцы, якая на ім, без грошай, без тэлефона. Калі яго праводзяць родныя да канца вёскі, то ён ні ў якім выпадку не павінен павярнуцца, каб паглядзець на маці ці блізкіх. Альмут гэта ведае дасканала, таму што мінуў толькі тыдзень з таго часу, як з іх сям'і пайшоў так "у людзі" яе малодшы брат... Мяне гэта вельмі ўразіла... А потым, калі я выйшла з пад'езду дома, дзе жыве Карын, да мяне кінуліся дзве ці два вялікія сабакі, – я нават не паспела напалохацца...

Адзін з іх, чорны, проста стаяў побач і глядзеў, а другі, – палевы з белым, устаў на заднія лапы і пачаў адбіраць у мяне сумку... Цягнуў моцна, і я зразумела, што магу застацца без сумкі з ключамі ад кватэры і рознымі патрэбнымі рэчамі... Тады пачала з ім размаўляць, – маўляў, у мяне там нічога цікавага для цябе няма, і чаго ты ад мяне хочаш, адыдзі... Сабака моўчкі цягне сумку з рук і не рэагуе на мае словы, хіба што голас, інтанацыі яго супакойваюць... Нарэшце я ўспомніла каманду "Фу" (добра, што не "Фас") і некалькі разоў так сказала, дадаўшы, што нельга, а калі яна хоча, то няхай ідзе са мной на прыпынак. Сабака выпусціў сумку, і яны ўдвох пайшлі са мною... А потым, на маё шчасце, іх увагу прыцягнуў кот, які сядзеў ля суседняга пад'езду, і яны мяне пакінулі (з катом таксама ўсё скончылася мірна)...

Потым я пачала думаць, што гэта было? Што мне хацелі паказаць ці сказаць? Можа, што я "чапляюся" за розныя матэрыяльныя рэчы, а патрэбна больш клапаціцца пра Душу? Ці што я не гатовая, як той малады чалавек пакінуць усіх і ўсё і пайсці некуды на тры гады і адзін дзень... Але ж з соцыуму ён вернецца зноў у соцыум...

Алесь Сцяпанавіч, Вы так паэтычна і так дакладна напісалі пра чалавечае жыццё! А можна мне ў Вас спытацца? Не, пакуль не магу...

Маё падарожжа на радзіму было спакойным і добрым. Пабачыліся і паразмаўлялі з мамаю і братам. Мама жыве недалёка ад вакзала ў кватэры двухпавярховага чатырохкватэрнага дома, дзе мы з братам выраслі. Каля дома ёсць маленькі агародзік – занятак на лета. А брат з жонкай зараз жывуць у доме Таніных бацькоў, якіх ужо няма, а дзеці ў Мінску: сын працуе, а дачка – першы год вучыцца ў лінгвістычным універсітэце.

Наш бацька пайшоў у 1980 годзе, прабачце, мне цяжка пра гэта гаварыць... Мама – вялікая аптымістка, вельмі дапамагае нам з братам, падтрымлівае маральна, як гавораць, сваім прыкладам і добрым характарам... Брат у мяне вельмі добры, а зблізіліся мы не так ужо і даўно, калі ў 2009 годзе Саша перажыў разлеглы «обширный» «шырокі» інфаркт... Прыйшлося многае перадумаць, перагледзець, памяняцца... Вельмі дапамагла яму вера і зараз дапамагае... Грэка-каталіцкая... Я таксама была многа разоў на службе ў царкве святых апосталаў Пятра і Андрэя (святар – айцец Ігар, вельмі цікавы чалавек), але гэта для мяне складана ў тым сэнсе, што служба дзейнічае эмацыянальна, пачынаю плакаць, ёсць і іншыя моманты... Мне лепш, калі я малюся сама, напэўна, гэта няправільна...

Прабачце, калі ласка, сёння расказаць пра радзіму не атрымалася, напэўна, гэта мая бяда: зашмат эмоцый і ўспамінаў, але ж яны не адпускаюць... Што рабіць?..

Добры і цярплівы Алесь Сцяпанавіч, прабачце мне, калі ласка! Добрага Вам адпачынку і плённай працы!

Галіна Іосіфаўна

**2012**

*03.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вельмі хочацца назваць Вас рознымі прыгожымі, цёплымі і добрымі словамі, але я не смею па розных прычынах і галоўнае – ні адно з іх не будзе да канца выказваць мае пачуцці да Вас, нават не пачуцці, не толькі пачуцці, а нешта большае, чаму я не ведаю назвы...

Як Вы сябе адчуваеце ў першыя дні новага года? Нейкія змены? Чаму Вы сказалі, што “2012-ы мае быць істотным”?

Вы вельмі кранулі мяне сваім суперажываннем і са мною, і з сабакамі... Я прачытала Ваш версэт “На Нямецкай дарозе” – Вам было больш страшна – і таксама перажывала за Вас і за лірычнага героя... І выпадкова, таму што назва мяне не насцярожыла, я прачытала “Нож з драўлянымі тронкамі” – і анямела...

Мой бацька, які так рана пайшоў з жыцця, таксама выпіваў, – гэта была наша, мая бяда, мора маіх пачуццяў, асабліва, калі я вучылася ў старшых класах, – ды што я Вам кажу, Вы ведаеце... а потым – пачуццё віны, што я хавала сваю любоў да яго, можа, ён яе і не адчуў як след, а потым было позна...

Прабачце, калі ласка, – зноў слёзы, відаць, хопіць... Вы вельмі правільна напісалі, я адчуваю, што гэта праўда і што Вашыя словы мне дапамогуць, ужо дапамагаюць, але нешта зноў не вытрымала... А потым, калі пачуцці трошкі адступілі, я зразумела Вашыя словы пра тое, што ў Вас амаль што няма ўспамінаў, а ёсць напісаны ці ненапісаны твор... Ці адгукнулася Ірына Дашына? Я ўсё ёй сказала, як Вы хацелі, яна была радая пачуць, што Вы цікавіліся, як яна... Таццяна перадае Вам прывітанне і самыя добрыя пажаданні і гаворыць, што пакуль не можа пісаць, таму што шмат мітусні і яна ў гэтым коле знаходзіцца і не хоча, каб гэта наноснае, неістотнае перадалося Вам...

Алесь Сцяпанавіч, ці можна Вам патэлефанаваць, каб не перашкаджаць? Які час для Вас зручней?

З Вашага дазволу я б хацела пачуць Ваш голас і Вашыя словы... Ці можна? Прабачце мне, калі ласка! Усяго Вам добрага!

Галіна Іосіфаўна

**Каля вытокаў**

*05.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Апроч таго, што ён высакосны, што ў ім сыходзяцца на сваю патаемную раду планеты і што ў старажытных календарах яму адводзіцца адмысловае месца, 2012-ы для мяне яшчэ істотны тым, што яго пазнака склалася як дасканалы зном: лічбы суадгукаюцца паміж сабой і твораць сузор’е зместу, відавочным чынам ён (змест) намі чытаецца ў штодзённых распарадках і акалічнасцях, невідавочным чытае і піша нас; так, у нас заўсёды ёсць узроўні, якія для нас зямля невядомая і якія мы мусім асягаць, быць проста ў плыні, быць проста вынікам недастаткова, істотнае – яно каля вытокаў.

Яно – якасць таго, што ёсць, уваскрошанне, у якім мы больш мы, чым былі дагэтуль, і каб яно здзяйснялася, зямля праходзіць свае кругі; яна праходзіць кругі, вызваляючыся ад іх, а мы ў небяспецы... Ваша сляза глядзіць у адвітанне, а сустрэча бачыць яе. Нашы найлепшыя зычэнні, якія мы пасылаем знаёмым і блізкім, як бы далёка яны ні былі, даходзяць да іх, і калі яны на тым свеце, яны на зямлі невядомай, а той, хто плача, ужо і ўсміхаецца. Праўда? Таццяна малайчына, што адасабляе істотнае ад наноснага, калі яны зблытваюцца, узнікаюць непаразуменні, калі разблытваюцца – знікаюць. Ярына Дашына (так звыкся

вымаўляць яе імя) дакранулася да нябёсаў, ёй, мусібыць, няпроста ўтрымліваць раўнавагу ў надзённым – мы ўсе, кожны па-свойму, пакліканыя да падзвіжніцтва, бліжэйшай мэты няма: няхай трымаецца гэтага арыенціру. Ала Міхайлаўна па самой сваёй прыродзе зродненая з мастацтвам, яе любіць вясёлка, яна яе німб, які – што прасцей! – мусіць ёю прыняцца. Тамару Паўлаўну выяўляе справа: як магнітная вось, яна з'ядноўвае сябрыну і ўсім сястра.

А Галіна Іосіфаўна – голас...

Набегла імправізацыя, Вы не дужа зважайце на гэтыя вольныя і міжвольныя выявы, а ўсім перадавайце найлепшыя зычэнні на ўвесь гэты год.

Алесь Разанаў

**Удзел**

*12.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Вы не адны, не смуткуйце і не ўпадайце ў роспач: тое, пра што Вы пішаце, кранае – у ім дотык невыпадковасці. Мы невідавочна і моцна знітаваны з Сусветам, больш за тое, самі ўдзельнічаем у тым, што адбываецца там, справа не ў зорных адлегласцях, а ў нашым удзеле, калі тут, гэта ўжо і там, калі тое, што адбываецца з другімі, па-свойму адбываецца і з намі, мы тлумачым акалічнасці, а ўдзел тлумачыць нас; дух, душа і цела, пэўна, адно і тое ж, але на розных узроўнях. Вы згадваеце пра гэта: калі па-свойму лягчэй – гэта па-свойму цяжэй, навучаемся з выпрабаванняў здабываць змест. Ёсць лета і ёсць вясна, але ёсць зіма і восень, яны ўзаематлумачацца, і змест з'ядноўвае ўсе поры жыцця і года.

Свет адступаўся, і сэнс раствараўся ў імгле бязмежжа, недзе паралельна з Вамі я быў гэтаксама адсутны – і мне было мала гэтай адсутнасці, яна існуе паралельна з прысутнасцю, недастаткова адсутныя, мы недастаткова прысутныя, а сутнасць заўсёды глыбей, і манахі ішлі ў пячору і ў пустку, каб здабыць свет і сябе. Мне здаецца,што я яшчэ ніколі не быў цалкам адсутны і зусім самотны, няздзейсненыя, яны (сутвы адсутнасці і самоты) жывуць і ведаюць нешта пра страчаную айчыну.

Вяртаемся – Ваша віншавальная паштоўка файная, паказваў яе сваім людзям, яны таксама хвалілі работу, перадавайце прывітанне працаўніцы, якая са звычайнага ўмее тварыць прыгожае.

Вам усяго добрага, адгукайцеся, калі ласка –

Алесь Разанаў

**Вяртаемся**

*12.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Вялікі дзякуй, што адгукнуліся адразу!

Хацела запытацца ў Вас, як Вы выходзіце з такога стану (у тым, што Вы перажываеце падобнае, але, думаю, больш глыбока і балюча, не сумнявалася, толькі ў тую хвіліну не падумала, што гэта можа адбывацца з Вамі амаль паралельна...), але не асмелілася... А ўчора ўзяла "Паляванне ў райскай даліне", пачала чытаць зномы і знайшла водгукі не толькі гэтаму стану, але і тлумачэнні, чаму так бывае...

Я ведала, што Вы адразу напішаце, калі будзе магчымасць, і вельмі Вам за гэта ўдзячная!

Не, я не буду ўпадаць у роспач: Вы паэтычна і, на дзіва, проста, як і раней, – не крыўдуйце на мяне, калі ласка, што я не перастаю здзіўляцца гэтаму, – паставілі ўсё на сваё месца, у тым ліку і ў маёй галаве, душы і нават целе, добры стан якога і жыццяздольнасць увогуле залежаць ад духа і душы, якія, як Вы напісалі, "пэўна адно і тое ж, але на розных узроўнях"... Думаю, што стан "адсутнасці",

няпоўнай, як Вы заўважылі, і я з Вамі згаджаюся, – будзе паўтарацца, але ўжо трошкі ведаючы, чаму ён прыходзіць, я не буду яго так востра ўспрымаць і абвінавачваць сябе ў тым, што дзеецца... Памятаю, як Вы казалі, што непатрэбна ўзвальваць віну за ўсё на сябе, трэба многае і многіх проста “адпусціць”, не патанаць у эмоцыях, а то можна там і застацца, – кепска самаму чалавеку і тым людзям, якіх ён “трымае” тут і перашкаджае ім рухацца туды, дзе яны павінны быць і існаваць на іншым узроўні... “Свет адступаўся, і сэнс раставараўся ў імгле бязмежжа”, – сказаць лепш немагчыма!

...Сёння нарэшце перадала Вашы словы Ярыне Дашынай – яна “впитала” і сэнс, і форму, і была вельмі ўзрушаная... – сказала, што патэлефануе Вам, а хутчэй за ўсё напіша...

Таццяне (другой, працаўніцы, як Вы яе назвалі) перадала словы падзякі, ёй было вельмі прыемна, і не здзіўлюся, калі яна зробіць нешта цікавае для Вас, а я пастараюся перадаць ці пераслаць...

Добра, Алесь Сцяпанавіч, буду адгукацца, так! Хацела Вам і пра адно расказаць, і пра другое, і згадкі, як Вы гаворыце, узніклі і пытанні, – але “накрыла” гэтая хваля з галавою... Нічога, Бог дасць, усё будзе добра, праўда?

Усяго Вам самага светлага і добрага!

Галіна Іосіфаўна

**Падарожжа**

*13.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Сёння, блізу адвячорку, пазванілі ў дзверы, пайшоў адчыняць – трое дзетак праспявалі калядку, прынеслі навіну, яны былі рады, і я рады павіншаваць Вас са Старым Новым годам! Традыцыя захоўвае ў сабе нешта, што не ўкладаецца ні ў якія распарадкі, магчыма, я паўтараюся, але свята не паўтараецца і старым не бывае, а іхні спеў насампраўдзе мне стаўся святам. У працяг – ад дасведчаных людзей чуў, што, калі захоплівае вір, не трэба з ім змагацца, усё роўна не пераможаш, адно знямажышся, лепш набірайся дыху і дазваляй яму ўцягваць цябе, куды хоча ўцягваць, і выкідваць, дзе хоча выкідваць, адно хапіла б дыху на гэтае падарожжа.

Мы ў падарожжы, і віры нас не абыходзяць, і калі настае адсутнасць, яна мой вынік, а я без выніку, словы не вымаўляюцца, думкі не думаюцца, а ў сэрцы цепліцца полымя свечкі, і ўвага звернута да яго. Так, мы адкрываемся ў прысутнасць, але адкрываемся і ў адсутнасць – адкрываемся наадварот: яшчэ не зусім прылады, маем неадступнае дачыненне да таго, да чаго яны не, і кіт носіць у сваім чэраве прарока Іону, каб той пабыў адсутным дарэшты – да сутнасці, а тады выкідвае на бераг, і Іона прамаўляе слова Божае, ад якога ўхіляўся.

Некалі гэтая дзівотная біблейная прыпавесць дапамагала мне авалодваць іншымі мовамі, я ведаў яе амаль на памяць па-славенску і па-нямецку, а сутнасць на памяць цалкам ведае нас. Хто скажа, на якой мове?

Дзякуй, Галіна Іосіфаўна, за дасланыя выявы – яны святочныя, з салодкага печыва, а тая, дзе дрэва заселенае, мне раптам нагадала вёску Харошча, летась туды наведаўся: каля тамтэйшага тартака высіцца разгалістая ліпа, на ёй узведзены будан – і ўсё блізка: водар, пчолы, а ўначы дык і зоркі. Калі Ярына наважыцца напісаць ліст, дайце ёй, калі ласка, мой гэты адрас, мне ва ўсякім разе гэтак пісаць прасцей.

Развітваюся, зазірнуў у акно: долы засলаліся шчодрым снегам.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Сініца**

*18.01.12*

Галіна Іосіфаўна маўчыць – думай што хочаш...

Думаю добрае, зычу ўсяго добрага, зіма на дварэ – пайду частаваць зярнятамі сініцу.

А. Р.

**Сініца**

*18.01.12*

Алесь Сцяпанавіч!!!

Прабачце!!! Прачынаюся з думкай пра Вас, з Вамі цэлы дзень, кладуся спаць – думаю пра Вас, і – маўчу, так... Цяжкія дні на рабоце – такая мітусня, Вам не выказаць... Не хацела ў такім настроі пісаць, але вырашыла, што сёння напішу, як ёсць, як мы з Вамі дамаўляліся, а тут – Вы адгукнуліся раней...

Алесь Сцяпанавіч, светлы Вы чалавек, выбачце, напішу вечарам сёння... Ведаеце, Вы адгукнуліся – і ў мяне добры настрой, спадзяюся, на цэлы дзень! Як сініца? А я не так даўно бачыла сароку, таксама прылятала да людзей...

Г. І.

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Пачну з добрай навіны – Ярына сёння ўзяла Ваш электронны адрас.

У нас таксама зіма, снег, нават невялікая завіруха...

Але, сказаць па праўдзе, амаль не заўважаю: раніцою і ўвечары, калі вяртаюся дадому, аднолькава цёмна, а выйсці ў абедзены перапынак не заўсёды атрымліваецца, хаця патрэбна хоць трошкі глытнуць свежага паветра і перастаць думаць пра работу... Зараз у нас як раз напісанне планаў на год (потым дабаўляецца яшчэ столькі ж паверх плануемага), справаздача, інфармацыі ў розныя інстанцыі і паралельна штодзённая праца з супрацоўнікамі і чытачамі, сярод якой многа будзённага, не творчага, а парою і нікому не патрэбнага... Апошнія дні былі напружанымі, не магу сказаць, што па самой рабоце, якую робіш, як заўжды, а па нейкіх непаразуменнях у адносінах паміж супрацоўнікамі, і гэта “нешта” “вісела” ў паветры...

Можна сказаць, што “адкрылася ў прысутнасць” занадта, уцякло многа энергіі... Калі ты знаходзішся ў прысутнасці, то таксама трэба нейкім чынам размяжоўваць больш і менш важныя падзеі ці ўспрымаць усё аднолькава “блізка да сэрца”, а ўжо потым падумаць, што не варта было так рэагаваць (унутры сябе) на тую ці іншую падзею? Як правільна, я не ведаю, а толькі атрымліваецца, што прыходзіш з работы амаль без сіл, спустошаны маральна і фізічна...

Алесь Сцяпанавіч, дзякуй вам за віншаванні! І я Вас віншую і зычу ўсяго добрага! Да нас дзеткі не прыходзілі, мабыць, не дайшлі, бо ў мінулыя гады заўсёды былі і я ўспрымала гэта як нейкі знак...

А выявы сапраўды святочныя і салодкія, згаджаюся з Вамі... Мне радасна, што Вы ўзгадалі Харошчу, а мае вочы зараз цягнуцца да яркага, хаця ў жыцці люблю пастэльныя фарбы, мяккія пераходы, – відаць, не хапае сонца і станоўчых эмоцый...

Хаця, грэх так казаць: дзякуй Богу, усё зараз добра: усе жывыя і амаль здаровыя, ёсць да каго паехаць, на каго паглядзець і каго паслухаць! Думаю пра Вашы “дарожныя знакі”, пакуль не дадумала да канца: мы “прыцягваем” тых людзей, якія сустракаюцца нам на шляху, ці гэта вырашана раней? А калі мы не здолелі засвоіць урок, нам зноў пасылаецца чалавек, другі, але з тым жа ўрокам, які мы не засвоілі? “Прачытаць па парадку і цалкам засвоіць нам скіраваны змест” – не проста... але ж ніхто і не абяцаў лёгкага жыцця...

Ведаеце, 12 студзеня 1980 года не стала бацькі... і ўпершыню за ўсе гэтыя гады я не плакала ў гэты дзень, хіба што трошкі навярнуліся слёзы...

Вось разбяруся са справамі і паеду ў Івацэвічы наведаць родных, хвалююся за іх: мама ў сталым ўзросце, ціск, у брата хворае сэрца, ой, зноў слёзы, да што ж гэта такое, а хацела, каб Вы парадаваліся за мяне... на табе... пэўна, віной эмоцыі і вобразнае мысленне: адразу ўспамінаю, як гэта было, перажывалася чалавекам і мною, і пачынаю плакаць, усё, не буду пакуль больш...

Алесь Сцяпанавіч, калі гэта не сакрэт і калі можна: як праходзіць Ваш звычайны, а ён у Вас заўсёды не звычайны, думаю, дзень? Вы, відаць, вельмі самаарганізаваны і дысцыплінаваны чалавек! Мне вельмі цікава, хоць Вы і пісалі пра Творчасць і Паэта, але адкажыце, калі ласка! Добрай Вам ночы, прашу ў Вас прабачэння і заўсёды чакаю ад Вас весткі...

Галіна Іосіфаўна

**Як Вы?**

*20.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добрага Вам дня!

Хачу напісаць Вам сёння, а калі атрымаецца, то патэлефанаваць, хутчэй за ўсё заўтра, калі застану Вас дома, ці іншым разам... Ці можна? Як Вы? Віншую са Святам і зычу ўсяго добрага!

Г. І.

**Югра**

*20.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Пішыце заўсёды і тэлефануйце ў любы для Вас зручны час – нібы ў дарозе, мы ў дыялозе, і арыенцір – Айчына.

Сёння мне сніўся тэкст: надрукаваны, ён укладаўся ў нешта накшталт аповесці, і я яго хутка прачытваў і перажываў; перад самым завяршэннем пайшлі паасобныя словы, сказ – слова, калі іх чытаў – кранаў, і яны варушыліся як жывыя істоты, а абудзіўся – з усяго прачытанага згадаў адно слова: югра, што яно азначае? У сноў свая мова, можа, нават першамова, а мне шкада тэксту, які прачытаўся і загарнуўся, пакінуўшы згадку і шкадаванне, што я яшчэ не ўвесь я.

З гэтай нагоды ўсплыла даўнейшая згадка і яшчэ большае, хоць ужо і прамінулае, шкадаванне, дзялюся імі. Гадоў дваццаць таму назад, калі я ўсёю сваёю існасцю аддаваўся таму, што называецца духоўным пошукам, а потым пераарганізоўвалася ў рэрыхаўскі рух, аднаго дня, стомлены і заняты ўсімі і ўсім, я на гадзіну забег дадому, упаў у дрымоту, і нейчы голас з нейкага астралу – я мусіў бы яго баяцца, бо ён быў угневаны і ўладны – нешта мне гаварыў, а я замест гэтага ў адказ смяяўся; абудзіўся – і ўсё запомніў, нібы яно аддрукавалася ўва мне, мне невядомая мова і невядомы змест, а потым уголас паўтарыў гэта прысутным, якія сабраліся, і т а я, з меркаваннем якой я вельмі лічыўся (яе ўжо няма тут, а яна валодала дзівоснаю здольнасцю бачыць мінулыя людскія жыцці – так, разгарнула мне некалькі маіх увасабленняў (Спарта, Рым), адно з якіх вядома з гісторыі, – здольнасцю ацаляць, беручы на сябе і такім чынам адольваючы, людскія немачы, чытаць думкі прысутных), мне параіла тое, што я тады агучваў, забыць. Я паслухаўся яе, дый, прызнаюся, сам трохі пабойваўся таго невядомага, што клалася на вусны, і яшчэ думаў, што пачую і наступнае, прыязнейшае, і яно паступова, нібы неахвотна, згасла. Шкадую, што не запісаў тады тое на дыктафон або не занатаваў на паперы – адчытанае, яно сталася б, магчыма, падзеяй калі не ў маім жыцці, то ў лінгвістыцы, бо не ўваходзіла ў параўнанне ні з якімі чутнымі мовамі, і мне не была нязвыклай і цяжкай, каб вымаўляцца. Наўздагад, паварочваюся тварам да старажытнага Шумеру, да старажытнага Егіпту, нават да Атлантыды, там застаюцца цэнтры цывілізацыі, духоўны пошук якіх дайшоў да межаў... А што Вам сніцца, Галіна Іосіфаўна?

Ну а прысутнае на паверхні, яно мае быць, і мы мусім з ім лічыцца, урок доўжыцца, мусім навучыцца чытаць яго тапаграфію, у тапаграфію ўкладаюцца сляды і знакі, а душа не, пачнем укладаць – жыццё пачне жаліцца, а людзі пярэчыць (яны яшчэ знаёмяцца з сабою і светам), а мы мінаем і застаёмся і маем Айчыну ў грудзях.

Я не дужа трымаюся вонкавай дысцыпліны, а з унутранай суадносшуся, і вершы твораcца ўсё-такі з суаднясення, а не па загадзе, і пакаленні, мінаючы, забіраюць усё асабовае, а за істотным стаяць вякі.

У мяне да Вас просьба: той раз у Брэсце Уладзімір Барысюк – ці ведаеце Вы яго? – перадаў мне для азнаямлення свой манускрыпт “Водар вечара”, яго тэлефоннага нумара ў мяне не засталося, ці не маглі б Вы знайсці яго (У. Б.) і сказаць, каб ён патэлефанаваў мне?

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Сны**

*20.01.12*

Добры вечар, Алесь Сцяпанавіч!

Вашу просьбу выканала – дала нумар Вашага тэлефона Уладзіміру Барысюку, ён узрадаваўся і сказаў, што гэта вельмі добрая навіна ў яго дзень нараджэння, з якім я яго і павіншавала... Услед за Вамі бачыла, як варушыліся словы-сказы, толькі не бачыла, вядома ж, якія... Перажываю і шкадую разам з Вамі, што тое не захавалася, і боязна сапраўды...

Пісала Вам, здаецца, што бывала некалькі, многа разоў у грэка-каталіцкай царкве ў Брэсце, у айца Ігара. Пасля службы, якая ў нядзелю пачынаецца ў гадзіну, працягваецца да трох, потым робіцца сумесная трапеза для ўсіх – калі заставалася на яе, калі не, – аднойчы засталася на вечар... Добра памятаю гэты дзень, таму што менавіта айцец Ігар сказаў мне, што ў майго брата здарыўся інфаркт, – яшчэ ўчора гаварыла з Таняй, жонкай, яна нічога не сказала, – памятаю, што айцец Ігар трымаў мяне за руку ўвесь час, я была адсутная, і засталася на вячэрнюю службу, таму што, сказаць па праўдзе, не магла вяртацца дадаму і быць адна, – дык вось: у час службы ці пасля, я не памятаю, людзі, у асноўным моладзь, маліліся і ўпадалі ў экстаз: хто плакаў, хто смяяўся, хто падаў на падлогу, хто крычаў, што гэта ўсё – хлусня, а некаторыя гаварылі на незразумелай мове ці мовах...

Што мне сніцца? Ой, Алесь Сцяпанавіч, я і сама хацела Вам напісаць пра гэта, але саромелася...

Ведаеце, да класа 5-га – толькі не смейцеся, бо пішу, як было, – да мяне ў снах вельмі часта прыходзіла Баба-Яга, я яе вельмі баялася, але нібыта ўжо адчувала яе набліжэнне і як толькі адчыняліся дзверы і яна з’яўлялася на парозе, я разбівала аконную шыбу і вылятала на вуліцу і ляцела калі нізка, а калі і высока, і пачуццё жаху прападала, толькі гэты сон заўжды быў чорна-белы, нават шэры, нібы ў тумане... Доўга ён мне сніўся...

А аднойчы, прыкладна ў тым жа ўзросце, мне прыснілася мая Душа... Так, яна была ў вобразе казачнай прынцэсы, майго ўзросту, і вылятала чамусьці з нашага коміна і паляцела некуды ў неба... Я глядзела на яе, і такі спакой, такая гармонія з Сусветам, Космасам, не ведаю, як правільна назваць, апанавалі мяне, гэта было пачуццё нейкага незямнога шчасця, не магу Вам перадаць словамі, толькі ніколі больш я такога не адчувала... І толькі адзін раз, памятаеце, калі мы пагаварылі з Вамі па тэлефоне і я Вам пра гэта напісала, я зноў адчула любоў, спакой, мір, эмацыянальны пад’ём, надзею, удзячнасць Богу і Вам... Так, канешне, удзячнасць Богу ёсць заўсёды, але ў будзённым жыцці яна як бы суіснуе разам з другімі пачуццямі, сярод якіх напружанасць і страх... Страх – гэта асобная тэма...

А зараз? Перад хваробай звычайна сніўся бацька, нібы папярэджваў... Снілася многа сноў, каляровых, потым яны нейкім чынам збываліся, але зараз не памятаю... Калі прасіла Бога дапамагчы ў нейкай жыццёвай сітуацыі ці не ведала, як правільна паступіць, заўсёды ў сне давалася парада, здаецца мне, што гучаў голас, можа, і мой: я прачыналася – і рашэнне ці думка былі ўжо гатовыя... Калі я думала пра работу, а я часта пра яе думала, то нават, памятаю, ускоквала з пасцелі, каб запісаць тое, што прыйшло ці ўклалася кімсьці ў галаву ноччу, бо раніцою магла і не ўспомніць...

Добрай Вам ночы, усяго добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Апынацца**

*23.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Сны – патаемныя ўніверсітэты, тут мы ў занятках і ўвасабленнях, але дзвярыма, вокнамі дый комінам гэтае тут злучана з тым там; там ёсць усё і тут ёсць усё, адно на сваім узроўні і не дарэшты, не будзем спяшацца і спазняцца не. Чуў: адыход адсюль – гэта прыход туды, і адыход адтуль – гэта прыход сюды, і там шкадуюць таго, хто адыходзіць, і тут, але затрымліваць народзіны не выпадае. Норберт Рандаў, нямецкі славіст, неяк пры сустрэчы расказваў, што на выспах у Паўночным моры (яго жонка Тэда адтуль) прыезджыя дактары спачатку не маглі даўмецца, чаму немаўляты, якія вось-вось павінны былі аб'явіцца, як бы перадумваюць гэта рабіць і робяць гэта пазней, праз якія суткі ці паўсутак, урэшце прыйшлі да высновы: яны нараджаюцца натуральна ў час прыліву, а ў час адліву не хочуць, прымушаць – парушаць, будзем уважлівыя да таго, што настае, вунь жа і фінскія хакеісты асягаюць заўважны вынік, кіруючыся не туды, дзе шайба ёсць, а туды, дзе мае апынуцца, у снах мы таксама апынаемся, а ў Вас яны ўмеюць лётаць.

Пэўна, праца, у якую ўкладаешся, забірае ўсяго, і ўсё ж такі для мяне навіною, што праца ў бібліятэцы змушае Вас думаць і ўначы, і, па-другое, – айцец Ігар: тое, што Вы сказалі, уводзіць сны ў яву, ці можаце Вы сказаць, якімі апынаюцца пасля сеансу набажэнства ягоныя ўдзельнікі, калі святлейшымі – шчасце.

Валодзя Барысюк раскладае на стале буйныя (ядроныя – кажуць у Хрышчонавічах) журавіны – сувеніры ўдзельнікам сустрэчы, для каго яны ў смак, для каго яшчэ мусяць даспяваць, людзі, калі даспяваюць, ужо нікуды не спазняюцца; Вам дзякуй за паслугу, ён мне яшчэ не тэлефанаваў, можа, я лепш патэлефаную сам, калі назавеце нумар ягонага тэлефона.

Што тычыцца сініцы, то яна пасялілася ў адным Wortdichte, не перакананы, што ёй у ім дужа ўтульна. А з сарокаю, што аб'яўлялася Вам, у мяне своеасаблівыя адносіны. Некалі, у 1991 годзе, калі нейкі месяц гасцяваў з Вячаславам Адамчыкам у Берлінскім літаратурным калёквіюме (LCB), пасябраваў з адной маладою сарокай, сядаем за сталом на вольным паветры – прылятае яна і нікога не хоча баяцца, я ёй паказваў сваю кніжку і чытаў беларускія вершы, на вокладцы кнігі "Zeichen vertikaler Zeit" змешчаны здымак з ёю, з'ехалі мы – казалі, яна больш не прылятала. Потым у Ворпсвэдэ другая сарока дзялілася са старою бярэзінаю нейкаю навіной, у гэтым было нешта, што кранала душу, уклаў у пункцір, а розуму было незразумела – што, праз некалькі гадоў прачытаў у гэтым вестку; мы чакаем вестак, а яны ўжо заўсёды ёсць там, дзе ёсць мы, застаецца іх прачытаць.

Калі Вам пішу, Галіна Іосіфаўна, ніткі аповеду сплятаюцца і расплятаюцца, а Вы іх умееце прымаць і ўспрымаць, Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Тэлефон**

*23.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

Вельмі (ці ёсць мера?) удзячная Вам за аповед, хочацца хутчэй даехаць да дому і напісаць Вам; спадзяюся, так і будзе...

Усяго Вам добрага,

Г. І.

**Айцец Ігар**

*24.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Ведаеце, магчыма, і хутчэй за ўсё так і было, тая жанчына, пра якую Вы згадвалі ў мінулы раз, ведала, чаму Вам патрэбна было тое забыць, – відаць, існавала нейкая небяспека для Вас, а можа быць, і не толькі для Вас... Але ўсё роўна шкада, я Вас разумею...

Фотаздымак са знаёмай сарокай я бачыла на вокладцы кнігі – ён мне вельмі падабаецца! Там сапраўды адбываецца як бы дыялог, хаця сарока толькі слухае.

...Успомнілася пра адыход адсюль... Прыкладна ў тым жа ўзросце (10 ці 11 гадоў) у нейкі момант на мяне абрушылася звестка, што некалі не будзе мяне, бацькоў, родных, – недзе з тыдзень, а можа, і болей, кожную ноч я плакала і не магла ўявіць, як гэта можа быць...

...Айцец Ігар... Не магу сказаць адназначна... Так, твары ў людзей прасвятляліся, гэта праўда, айцец Ігар проста “лучыўся” дабрынёй і любіў і баслаўляў усіх, ён заўсёды вельмі радуецца, калі на набажэнства прыходзяць людзі, і знаёмыя, і незнаёмыя... Заўсёды падыдзе, павітаецца, запытаецца, чаму доўга не была (гэта ў мяне), у іншых, напэўна, іншае... Хацела даслаць Вам артыкул пра яго, але не атрымалася хутка знайсці, то наступным разам, добра, калі Вы зацікавіліся...

Пры царкве існуе грэка-каталіцкая супольнасць “Мараната”, у ёй людзі пастаянныя, прыходзяць у храм кожны дзень на малітву, у іх ёсць свае абавязкі, яны аддаюць нейкія грошы, не памятаю, ці не трэцюю частку заробку, разам едуць да сваіх сяброў, – не, яны гавораць, братоў – пратэстантаў у Кобрын, сябруюць з яўрэйскай суполкай; а яшчэ яны вельмі прыгожа спяваюць, выдалі два альбомы і зборнік вершаў прыхажан... У зборніку ёсць некалькі вершаў Таццяны, жонкі майго брата... Яна і спявае добра, а Саша, брат, добра грае на гітары... У царкве можна пажыць некаторы час і пераначаваць, калі няма дзе, ёсць кухня, дзе гатуецца ежа для ўсіх, кожнае набажэнства суправаджаецца “жывой” музыкай і спевамі... Сярод прыхажан няма “простых” людзей, хіба што дзеці бязгрэшныя, а так, у кожнага ў жыцці і цяжкасці, і трагедыі, і гора... Вельмі многа моладзі...

Дарэчы, канцэрт Лявона Вольскага, які ў апошні момант забаранілі ўлады, адбыўся ў парафіі... Алесь Сцяпанавіч, адказаць на Ваша пытанне лёгка і хутка не атрымаецца, а мне б хацелася трошкі пра гэта Вам расказаць, калі Вы зацікавіліся, – то я напішу крыху пазней, добра? – сёння панервавалася ізноў на рабоце...

Алесь Сцяпанавіч, а той Wortdichte, у якім пасялілася сініца, на нямецкай мове? А пункцір пра сароку і старую бярэзіну я пашукаю...

Усяго Вам добрага –

Галіна Іосіфаўна

Алесь Сцяпанавіч, гэта фотаздымкі з вяселля дачкі сястры жонкі майго брата (складаная канструкцыя...), адзін здымак, без людзей, адправіла выпадкова...Царква будавалася па праекце айца Ігара...

Г. І.

**Нітка**

*26.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры дзень!

Што, няма ў свеце справядлівасці?

Аднак людзі ёсць, а справядлівасць блукае ў лабірынтах акалічнасцяў, душы, што з ёю зродненыя, смуткуюць, парушана раўнавага, калі раўнавага парушана, усе самі не свае і таму што не свае, Вы горнецеся да сваіх, і святары на тое, каб быць сваімі. Калі гэта дзейсніцца – вяртаецца раўнавага, ацаляецца парушанае і альфа і амега лучацца ўсёю мовай. На здымках, што Вы даслалі, а. Ігар бачны ў абліччы і ў дзеянні; назіранне: месяц у квадры, што набліжаецца да поўні; адчуванне: магніт з ім; пытанне: з якога чыну вынікае транс, пра які Вы згадвалі, і што вымаўляе мова?

На здымках прысутныя ў патыліцах, але на тым здымку, дзе дзяўчынка вымыкае з набажэнства і звернута ўвышыню, – яна душа і здымка, і самога набажэнства: яна яшчэ самая блізкая да першапачатку.

У кожнага свая Арыядніна нітка, што не дае згубіцца, людзі ёй лучацца з Айчынай, мы ў дарозе да Айчыны, розум яшчэ не здольны распазнаць, што ўжо ўведала сэрца, яно радуецца вызваленню, і, якія яны ні былі б, акалічнасці мусяць заставацца ў мінулым.

Раўнавагу трымае дарога?

Вам усяго добрага, адгукайцеся –

Алесь Разанаў

**Нітка**

*26.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добры дзень!

На жаль, не магу сказаць, з якога чыну вынікае транс і што вымаўляе мова... Мне здаецца, што шмат чынаў: чалавек рыхтаваўся, можа, пасціў, быў на ранішняй службе, абедні і застаўся на вячэрню – уважліва слухаў святара, маліўся, перажываў, засяродзіўся, уздзеянне музыкі, спеваў, – гэта вельмі многа, мне думаецца, для чалавека, а галоўнае – ён (чалавек) адкрыўся Богу, з яго “зляцела” ўсё наноснае і ад усіх гэтых ўражанняў можна страціць прытомнасць і загаварыць на іншай мове... Калі людзі падалі на падлогу, то твары былі рознымі: у каго – прасветленыя, з добрай усмешкай, а хтосьці пачынаў крычаць, плакаць, нават лаяцца і зневажаць Бога... У той раз я бачыла гэта: на а. Ігара балюча было глядзець, нібы гэтыя словы падалі на яго каменнямі... Мой брат казаў, што бачыў і такое, і іншае, калі людзі рыкалі, я бачыла ўпершыню... напалохалася, але, бачыце, – запомніла, значыць, назірала, як бы збоку, не ўдзельнічала... Калі служба скончылася, людзі з групы спявалі, грала музыка, а. Ігар у хваляванні хадзіў туды-сюды па храме і хутка гаварыў, можа, на латыні, можа, па-грэчаску, – відаць, малітву...

Так, згодная з Вамі – той здымак, так... А я не магу разабрацца, відаць, з сабою: мяне і цягне пайсці на службу, і нешта перашкаджае... Толькі разы 2 ці 3 я пайшла, проста паляцела – такая была патрэба...

Алесь Сцяпанавіч, зараз я гарнуся да Вас, мая душа – да Вашай душы... Іншы раз падумаю: не, не буду пра гэта пісаць, хоць яно і не дае мне спакою, але Вы – як Вы адчуваеце “балючыя” кропкі? – прама ці ўскосна цікавіцеся тым, пра што хацела прамаўчаць...

Вось і цяпер: і парафія, і а. Ігар, і розныя мовы... Калі ласка, пішыце, Вашы лісты для мяне жыццёва неабходныя... Не буду абяцаць, што сёння, але хачу напісаць пра многае і не на ўсе пытанні яшчэ адказала... Дзякуй Вам!!!

Галіна Іосіфаўна

**Бітва**

*26.01.12*

Галіна Іосіфаўна, добры вечар!

Памятаеце эпізод з Евангелля, калі Хрыстос тым, што сабраліся (а гэта былі і фарысеі, і вучні, і проста прысутныя) сказаў: “Хто з вас без грэху, хай першы кіне ў яе камень”? Усе неўпрыкмет разышліся, засталіся ён і Марыя Магдалена.

Не стамляйце сябе, стома забірае набыткі, і не пераймацеся лішнімі думкамі; няма сярод людзей беззаганных, мы таму і ёсць тут, каб праходзіць урокі, той, хто дасягае найвышэйшага, – ужо святы, і гэта не завяршэнне... Айцу Ігару шчырая хвала, што ён душою перажывае за парафіянаў і што здольны весці бітву. Ніхто не вольны ад цёмных нападаў, яны заўважаюць усякую слабіну і праточваюцца ва ўсякую прабоіну ў аўры, але баяцца іх няма чаго, яны выганяюцца альбо адступаюцца самі адтуль, дзе ім няўтульна. “Запальвайце сэрцы!” – кажуць настаўнікі, і калі адчуеце ў сэрцы цеплыню – радуйцеся: цемра, як бы блізка ні падступілася, адступіць. Дзякуй, што пастукаліся ў мой шчыт і нагадалі, што бітва займае ўсіх і што мы ваяры.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

**Праца**

*27.01.12*

Алесь Сцяпанавіч, добры вечар!

Не, што Вы, барані Божа: я не шукаю справядлівасці і нікога не асуджаю! Так, нейкая думка ці пачуццё прамільгне, але я стараюся яе ці яго не развіваць, а проста добра рабіць работу далей, не трымаю зла на людзей і наогул, не люблю ўсялякія размовы-перасуды, маўляў, той сказаў тое, а тая зрабіла так ці не так... Не магу сказаць, што гэта прыйшло з гадамі, проста не люблю і ўсё, але тое, што ў чалавеку, ува мне столькі ўсяго “намешана”, пастаянна ідзе барацьба светлага з цёмным, – менавіта з цягам часу стала адчуваць вельмі востра... І стала бачыць гэтую барацьбу ў другім чалавеку... Вас здзівіла, што праца ў бібліятэцы змушае думаць уначы... І Вы заўважылі, што праца можа забіраць усяго чалавека, так і ёсць... Калі сказаць коратка, то прафесію я выбрала выпадкова, проста вельмі любіла (люблю) чытаць і любіла (люблю) ангельскую мову, таму двойчы паехала “за кампанію” паступаць у інстытут замежных моваў, адзін год пасля школы з адной сяброўкай у Мінск, другі год з другой – у Ленінград... Самае цікавае, што здавала я добра, але абодва разы забірала дакументы разам з сяброўкамі, якія “завалілі” экзамен, а я чамусьці не магла застацца і здаваць далей...

Ці я баялася застацца адна, ці была не ўпэўнена ў сваіх сілах, хаця настаўніца ангельскай мовы вельмі перажывала, што я не вучылася ў “Ін’язе”, куды паступілі яе вучні з больш нізкім узроўнем ведаў, з яе слоў... А на трэці год зноў з сяброўкай, якая скончыла падрыхтоўчае аддзяленне, а гэта азначала, што яна паступіць, – паехала ў Мінск і стала студэнткай Інстытута культуры...

Алесь Сцяпанавіч, не буду Вам “дурыць галаву”, можа, прыйдзецца да слова іншым разам, – думала па начах спачатку таму, што мучылася “комплексамі непаўнавартасці”, а потым яшчэ павялічыліся адказнасць і аб’ём работы, калі перайшла па просьбе Тамары Паўлаўны з гарадской бібліятэкі ў абласную... Дадаць яшчэ, што старалася амаль усё рабіць сама, заставалася пасля работы, выходзіла ў выхадныя дні, брала паперы дадому, – кіраўніку так рабіць нельга! – Вы разумееце... Далей можна здагадацца, што такі вобраз жыцця можна весці, калі ты жывеш адна і не “залежыш” ні ад каго і ніхто не “залежыць” ад цябе... Таксама асобная гісторыя, не думаю, што цікавая... Заўтра паеду ў Івацэвічы,

у нядзелю вярнуся, буду чакаць ад Вас весткі, калі Вы не супраць... Сёння не атрымалася да Вас дазваніцца, нічога, Бог дасць, пачуемся...

Прабачце, усяго Вам добрага,

Галіна Іосіфаўна

**Студзень**

*29.01.12*

У паветры разліты агонь, студзень праўдзівы – у снезе, сонцы і маразах, праўдзівае суадпаведнае, якім яно было, Ваша падарожжа на радзіму, ці можа зіма быць радзімай і што Вам кажа цягнік туды і адтуль? Усялякі раз Вы праязджаеце каля маёй радзімы, дарога з Бярозы ў Сялец адно кіламетры, а вось у дарогу з Блудня да Сяльца ўкладаюцца часы і далячыні, туды і адтуль пехатою, гэтак найбліжэй да сябе, да людзей і яшчэ да нечага, з чым уваходзіш у размову, і адно ў Блудні спыняліся цягнікі. Туды скіроўваліся позіркі і імкненні, сястры Любе – яна на пяць гадоў старэйшая, а я яшчэ не хадзіў у школу ці, можа, толькі пачынаў – бацькі дазволілі паехаць на станцыю Аранчыцы, там яе павінны былі пераняць сваякі, што жылі ў Слабудцы, я вельмі хацеў з ёю, але мяне пакідалі дома, бацька пайшоў яе праводзіць, вяртаўся, а я кінуўся ўпотай следам, Любу заспеў у Блудні, яна не ведала, што са мною рабіць, ужо намерылася браць з сабою, зноў аб'явіўся бацька і быў са мною ласкавы, купіў пернікаў і цукерак, і я зноў апынаюся ў Сяльцы.

Лета вялікае, каля царкоўнай агароджы павырасталі ўпоравень з царквою ліпы, вароны на іх нарабілі гнёздаў, і святар Навумаў намаўляе майго аднакласніка Лёню Здановіча, каб той паўзлазіў на ліпы і гнёзды паспорваў, той гэта робіць, вароны абураюцца, людзі глядзяць і пасміхаюцца – у гэтым, напэўна, ёсць нешта, вартае ўсмешкі, а лета ўсё мае і, маючы, мінае, якая пара Вам адкрываецца найахвотней, Галіна Іосіфаўна?

Людзі – гэта мы таксама, і "судзіць" мае некалькі значэнняў: першае – выносіць канчатковы прысуд (мы проста не тая інстанцыя, каб гэта рабіць); другое – абгаворваць ці, па-руску, "судачіть" (гэта дзіравіцца і дарма рассыпаць словы); і трэцяе – арыентавацца ў тым, што ёсць, і таму, што ёсць, даваць праўдзівую ацэнку, калі вочы бачаць, вушы чуюць, розум разумее, – і вось гэта, каб не блытацца ў хлусні і не слугаваць зману, мы проста абавязаны рабіць, таму судзіце, называйце рэчы сваімі імёнамі і справядлівасць знаходзьце.

Будзем спрыяць перамозе, яна ўжо ўгрунтавана ў свет, і барацьба, пра якую Вы згадваеце, шлях да яе; гэта шлях ад цела да духу, ён не паддаецца разуменню і тым не менш дзейсніцца. Час ад часу я як бы перасяляюся ў людзей, што жылі стагоддзі дагэтуль, тысячагоддзі, а то і даўней, так, як ім гэта трэба было, нічога іхняга мне ўжо не трэба, яны ў сваім целе, я без свайго, але перад тымі, што прыйдуць у свет праз сотні гадоў, я апынаюся ў суадпаведным становішчы: не ўсё ўзяў, не ўсё аддаў, а душа чуе музыку.

Кажыце ўсё, што хоча казацца, слухаю словы і яшчэ нешта.

Вам усяго добрага –

Алесь Разанаў

*(Працяг будзе).*

Рыгор Барадулін – Уладзімір Караткевіч



...толькі думка аб тым, што ён жыве і працуе, дае мне крыху асэнсавання неабходнасці цягнуць далей усю гэтую непатрэбшчыну...

# "У адну эпоху з кім жыць пашчасліўіла"

## *Пра адно літаратурнае сяброўства*

*Падрыхтоўка, прадмова і каментары Сяргея ШАПРАНА.*

Гаворачы пра блізкіх сяброў, Рыгор Барадулін нязменна называў Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Міхася Стральцова і – Уладзіміра Караткевіча, якому прысвяціў не толькі вялікае мноства вершаў і эпіграм – а пасля смерці сябра быў укладальнікам і аўтарам прадмовы да яго першай пасмяротнай кнігі і ўзначальваў камісію Саюза пісьменнікаў па яго літаратурнай спадчыне (звяртаўся ў той час у выдавецтва «Художественная литература» з просьбай «издать избранные произведения классика белорусской литературы»). Апроч таго, напісаў сцэнарый дакументальнага фільма «Акафіст Уладзіміру» (1995) і пакінуў вялікае эсэ-ўспамін «І коскі з месца не зрушу!..», у якім, у прыватнасці, згадаў знаёмства з Караткевічам: «Упершыню ўбачыў я здзіўленавокага, нязвыкла даверлівага, амаль па-малечы, цыблакаватага і разам з тым мажнога хлопца, у якога нечакана спалучалася вяскова-мястэчкавая беларуская шчырасць з урбаністычнай еўрапейскай шырынёй і ўзважнасцю. Было гэта ўвосень 1954 года на традыцыйнае нарадзе маладых у Каралішчавічах»[1].

Гэтую адметную рысу сябра Барадулін неаднойчы пасля яшчэ згадваў, напрыклад, напісаў у вершы «Да партрэта Уладзіміра Караткевіча»: «Дзіця з вачыма празарліўца, З душой, пакрыўджанай на свет...» І іншым разам засведчыў: «Калі і чым ён, Караткевіч, нам запомніўся ўпершыню? Маё пакаленне памятае: з лагодных і, можа, трохі наіўных радкоў пра зайца і зайчыху, што пачастуюцца перад зімовымі халадамі півам і тоненькімі галаскамі песеньку «“Цвіцела морква” – запяюць». Мы толькі-толькі выходзілі тады з зімы, саграючыся думкай пра будучае, лепшае будучае, вядома, але ж з намі быў і вопыт той “зімы”, якой не жадалі ўжо нікому, бо ў ёй і радасць была не радасць, бо ўся сіла і малой радасці ішла на веру, цярплівасць і трыванне. Гэта стала зразумела яму тады, як і нам, – вось чаму гэты верш такі пранікнёны і журботны»[2].

І гаварыў значна пазней: «...да Караткевіча мяне пацягнула адразу з першай нашай сустрэчы. Ён быў для мяне ўзорам высокага інтэлекту і адукаванасці, веды ў яго былі неверагодныя! Караткевіч быў недасягальнай велічынёй для мяне»[3].

А ўжо ў часе апошняга ў жыцці інтэрв’ю, у лютым 2014 года, назваўшы Караткевіча сваім сямейнікам, Рыгор Барадулін, якому вось-вось павінна было споўніцца 79 і які перажыў сябра на трыццаць гадоў, прызнаўся: «...я дасюль лічу, што не варты, дапусцім, следу ад абцаса Уладзіміра Караткевіча»[4].

Варта, праўда, удакладніць: гэтае знаёмства адбылося, відаць, не ў 1954-м, а, як мінімум, годам пазней, бо запіс пра вышэй прыгаданую трохдзённую VI рэспубліканскую нараду маладых пісьменнікаў у барадулінскім дзённіку датуецца 21 верасня 1955 года. Між іншым, Караткевіч тут запісаны прадстаўніком Кіеўскай вобласці. Добрае слова пра яго тады, па сведчанні Р. Барадуліна, казалі Максім Танк («Здольны пісьменнік, якому трэба пісаць»), Максім Лужанін («Вельмі здольны чалавек. Па-сапраўднаму добра») і Васіль Вітка, які адзначыў схільнасць Караткевіча да эпічнай паэзіі[5].

Што ж тычыцца далейшых пошукаў больш дакладнай даты знаёмства двух паэтаў, варта ўспомніць, што пісаў у эсэ «Шчыравала ў бары пчала...» сам Уладзімір Караткевіч, калі згадваў першую кнігу Барадуліна «Маладзік над стэпам», якая выйшла чатырма гадамі пазней, у 1959-м: «Я тады амаль цябе не знаў. Ведаў – ёсць. Ведаў – вершы, якіх пажадаў бы найлепшаму Другу. Пажадаў бы – каб гэта я мог – сабе». Разам з тым тут жа знаходзім яшчэ адну адсылку: «І мы з табой знаёмыя – і сябры – дваццаць з лішнім гадоў»[6]. Калі ад 1977-га (года напісання эсэ) адмінусаваць 20, то атрымаецца 1957-ы, а калі ўлічыць, што не проста дваццаць, а «дваццаць з лішнім гадоў»... Таму магчыма меркаваць, што першае, па сутнасці, кароткае знаёмства магло адбыцца ў верасні 1955-га, аднак затым у стасунках пачынаючых паэтаў узнік пэўны перапынак, які быў абумоўлены, відаць, тым, што ў 1954–1956 гадах Караткевіч настаўнічаў у вёсцы Лісавічы на Кіеўшчыне, а затым, уключна да 1958-га, працаваў настаўнікам у Оршы.

На жаль, Уладзімір Сямёнавіч не пакінуў мемуараў, таму пра стасункі двух сяброў магчыма штосьці даведацца, напрыклад, з манаграфіі «Жыццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: партрэт пісьменніка і чалавека» іншага яго блізкага сябра – навукоўца Адама Мальдзіса[7]. Аднак перадусім, безумоўна, невычэрпнай крыніцай застаюцца эсэ, інтэрв’ю і гутаркі Рыгора Барадуліна, дзе ў дасціпнай форме аўтар ахвотна і з цеплынёй апавядае пра любоў сябра да спеваў і вострых на язык жартаў, або распавядае напаўміфічную гісторыю пра тое, як сабака па мянушцы Дазор выратаваў рукапіс рамана «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» і дзе тлумачыць паходжанне мянушкі Фама Фаміч, як пэўны час называлі Караткевіча сябры. Адбылося гэта, калі Караткевічу нарэшце ўсталявалі дома тэлефон, але далі нумар, які раней належаў намесніку дырэктара па гаспадарчай частцы Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі. Таму дома ў Караткевіча ў першыя дні бесперапынна чуліся тэлефонныя званкі:

– Фама Фаміч, аплачвайце заказ...

– Фама Фаміч, чакаем машыну...

Спачатку Караткевіч цярпліва тлумачыў, што адбылася памылка, што нумар перададзены іншаму абаненту, але паступова гаспадар пачаў закіпаць. Пакуль аднойчы позняй ноччу зноў не патрывожылі:

– Фама Фаміч, прыйшлі вагоны. Разгружаць?

– Так! – зароў Караткевіч, нібы той мядзведзь. – Абавязкова разгружаць!

Пасля таго тэлефанаванні, дзённыя і начныя, спыніліся, ніхто больш не пытаўся Фаму Фаміча. Аднак Караткевіч так прызвычаіўся да мянушкі, што ахвотней адгукаўся на Фаму, чым на Валодзю. Ва ўсялякім выпадку, так сцвярджаў Барадулін, які напісаў не адну эпіграму на «Фаму Фаміча», напрыклад, такую:

Ходят слухи, что Фома
От работы без ума.
Пишет много, как Дюма,
Но удел его – сума.

І тут асобна трэба сказаць пра дзённікавыя нататкі народнага паэта, якія апошнім часам робяцца дасяжнымі дзякуючы самаахвярнай працы Наталлі Давыдзенка, укладальніцы барадулінскіх «Дзённікаў і запісаў» і аўтарцы каментарыяў. Падрыхтаваўшы ўжо восем тамоў, Наталля Аляксееўна робіць без перабольшвання тытанічную працу, храналагічна ўпарадкоўваючы запісы, якія дагэтуль хаатычна існавалі ў сотнях нататнікаў і процьме неразабраных папер.

Вось, напрыклад, запіс, які быў зроблены ўвосень 1965 года падчас праходжання вайсковай службы на Далёкім Усходзе і які з іроніяй апісвае храналогію аднаго вераснёўскага дня: «Дажджы – ехаць нельга. [...] Пошта, Фаму ўгаварылі на 0,5. Пасля дыскусія наконт кіно. Фаму вывелі з сябе. Называецца, падзяка»[8]. Некалькімі днямі пазней: «Знік Фама. “Няшчасная я” са свістком у губах» (размова, відаць, пра песню: «Рябина, рябина, несчастная я. // Два парня, два друга влюбились в меня»). На наступны дзень: «Ноччу з’явіўся Фама. У дым». Яшчэ праз дзень: «Хмяліў Фаму. Знайшоў лазню». Запіс праз тыдзень: «Фама аднекуль цёплы. Коцік лыка не вязаў, а Гаўрылу пра нас [казаў]» і ніжэй знакамітая эпіграма, якая, як вынікае з дзённіка, там, на Далёкім Усходзе, і нарадзілася ў Барадуліна:

У гарэлку ўткнуўшы лыч,
Задрамаў Фама Фаміч[9].

Або яшчэ такі іранічны экспромт:

Скажите, славный витязь,
Когда вы отрезвитесь?

І следам памета Барадуліна: «Валодзя адказаў: “Ніколі!”»[10].

Ці такая чарговая бахусная зацемка, зробленая на Раство 1970 года: «Фама пасля кожнай чарачкі ўсё больш і больш расчульваўся, аж пакуль у люлю не бухнуў. Вячэру прынёс яму, ледзь разбудзіў»[11].

Або нататкі на пленуме Саюза пісьменнікаў па прозе 15 лістапада 1979 года. Так, калі з дакладам выступаў Іван Чыгрынаў, Караткевіч пажаліўся: «Балбоча, а я застуджаны, мне галава баліць». І, намаляваўшы льва (подпіс пад малюнкам: «Нясмелы леў»), філасофскі заўважыў: «Сапраўды сказана ў старажытных: краіны ў перыяд росквіту раджаюць вялікіх паэтаў, герояў і каханкаў, а ў перыяд заняпаду – пыл і шмат начальства...»[12].

Ужо іншым разам Барадулін запісаў: «Званю Караткевічу, дзякую за кніжку, за аўтограф Ілоне, за эсэ пра Скарыну ў “Беларусі”, №4. Кажу, калі буду некалі пісаць пра цябе, напішу, што з гісторыяй быў як роўны. Як з суседкай.

– У якой суседа няма, – дадае Валодзя»[13].

Альбо такі яшчэ ўспамін: «Валодзя любіў пад настрой на добрае надвор'е цытаваць Тувіма ў расійскім перакладзе. Верабей з п'янкі вяртаецца й апраўдваецца перад жонкай:

Вечер был такой хороший,
Не волнуйся, дуся.
Не хотелось мне лететь,
Я решил – пройдуся!»[14].

*Et cetera, et cetera,* як пісаў у падобных выпадках Уладзімір Сямёнавіч. Усё пераказаць немагчыма, таму згадаю яшчэ толькі вершаваныя экспромты Караткевіча, пра якія нічога не было б вядома, каб зноў жа не аповеды Рыгора Барадуліна.

Так, да прыкладу, калі адзін літоўскі паэт пачаў даказваць, што Даўгаўпілс – літоўскі горад (але так «натхнёна даказваў», што апынуўся пад сталом), Караткевіч вершарэзюмаваў:

Хотел дойти до Даугавпилса,
Но вместо этого допился.

Калі ж іншым разам Барадулін прыдумаў жартаўлівае двухрадкоўе пра сябра:

На Беларусі ёсць Фама,
А больш пісьменнікаў няма, –

Караткевіч з'іранізаваў:

На Беларусі шмат дзярма,
Але дзярмей за ўсіх Фама.

А іншым разам зарыфмаваў:

Сцяпан Захарыч Гаўрусёў
Уцёк ад жонкі без трусоў[15].

Ці такі вершаваны экспромт рукой Караткевіча ў паперах Барадуліна, які імаверна датаваць 1966 годам:

Купались две форели,
И с ними был форел.
Форели постарели,
Форел не постарел[16].

Нарэшце яшчэ запіс:

Жыву, як на моры,
Што мне
Рабіць,
Людзі, дайце веры, –
Штормы,
Прылівы, адлівы –
Веры,
Лівы,
Валі, –
Мяне ўсе
　　　апанавалі.

(Маналог Фамы запісаў Рыгор.)
31.XII.67 г.[17]

Аднак што датычыць паэтычных прысвячэнняў Рыгора Барадуліна – ніхто, здаецца, яшчэ не браўся за іх падлік. Энцыклапедыя «Уладзімір Караткевіч» сціпла называе пяць вершаў і восем эпіграм. Хоць насамрэч Барадулін ахвяраваў сябру адных толькі вершаў не менш за дзясятак (большасць з іх была напісана пасля ягонай смерці): «Дзятлінка», «Да партрэта Уладзіміра Караткевіча», «Трымайся, агнец між ваўкоў...»[18], «У вянок жалобы Уладзіміру Караткевічу» («Здаецца нам, што вечныя сябры...»), «Партрэт Уладзіміра Караткевіча ў унтах з двума сабакамі», «Валун Караткевіча», «Успамін пра Уладзіміра Караткевіча», «Уладзіміру Караткевічу на 60-годдзе і на вякі», «У высокім палоне» (у першай рэдакцыі «Адкрываючы помнік Уладзіміру Караткевічу»), «Акафіст Уладзіміру». І, апроч таго, зрабіў Караткевіча героем не васьмі, а больш чым трох дзясяткаў эпіграм. Прывяду тут назвы і іншыя рэдакцыі, бо зноў жа ці «суміраваў» хтосьці барадулінскую караткевічавіяну? – «Вочы ў вочы, каленькі ў каленькі...», «Гарластыя ў нас ёсць хвалевічы...»[19], «Дзе, скажыце, логіка...», «Достоин он высокой платы...», «Ён адзін пастараўся...», «І не па вадзе...», «І паваліцца славы казённы тын...», «Казаў з трыбуны Уладзімір...»[20], «“Каласы пад сярпом тваім”...»[21], «Красив и тучен город Щучин...», «Мой лепшы друг...», «На Беларусі ёсць Фама...», «Наша моц і гордасць...», «Наш наГапистый Фома...», «Рупліўцам гісторыя на ручніках...», «Скажите, славный витязь...», «Твердо верю в это...», «Твой раман падабаецца ўсім...», «У гарэлку ўткнуўшы лыч...», «У гневе – леў...», «Уладзімір Караткевіч. “Як бачыце, расту ў цане я...”», «Ул. Караткевіч: – Я не звяду людзей у зман...», «У Мінску неспакойна штосьці...», «Ходят слухи, что Фома...»[22], «Фама і ў вус не дзьме...», «Я пераводжу з тома ў том...», «Яшчэ пры жыцці».

Аднак што да стаўлення цяпер ужо не Рыгора Барадуліна да Уладзіміра Караткевіча, а наадварот. Пра гэта сёння кажуць паэтычныя ахвяраванні сябру і найперш – малая паэма «Віно дажджоў». Праўда, тая ж энцыклапедыя «Уладзімір Караткевіч», забыўшыся пра яшчэ адзін верш-прысвячэнне («Гіене – баяцца, сабаку – вішчаць...»), сцвярджае, нібыта Уладзімір Сямёнавіч ахвяраваў Барадуліну «многія эпіграмы і шаржы», але насамрэч вядомая толькі адна эпіграма («Каляды ў доме генія»). Да таго ж нельга не згадаць і забытае той жа энцыклапедыяй эсэ «Шчыравала ў бары пчала...», у якім Караткевіч, называючы маці Барадуліна Акуліну Андрэеўну сваёй другой Мамай (менавіта так, з вялікай літары), пісаў: «Калі ласка, не чакай асаблівай ухвалы ў свой адрас. Усе мы – і ты і я – нічога не варты перад талентамі нашых матак. Усё ў нас – ад іх. Толькі ад іх.

Я не меў гонару ведаць твайго бацьку (хіба што на фота ў маленькай тваёй ушацкай хаціне), але матку тваю з найпрыгажэйшымі ў свеце вачыма – я ведаў. І дужа яе любіў – між іншым – і за тое, што яна нарадзіла гэткага здаровага і таленавітага дурня». І следам прызнаваўся: «Існуюць людзі, дзеля якіх нельга быць аб'ектыўнымі. Таму што іх любіш». І казаў пра Рыгора Барадуліна, як пра «сына сваёй зямлі, сваёй маці, сваёй Беларускай Паэзіі»[23].

Праўда, тут жа знаходзім і нечаканую характарыстыку гэтага хрэстаматыйнага ўжо сяброўства, якая была скарочана ў часе першапублікацыі ў часопісе «Полымя»[24] і ўзноўлеўна толькі праз амаль сорак гадоў, пры падрыхтоўцы 25-томнага Збору твораў, што выдаецца цяпер «Мастацкай літаратурай» найперш з ініцыятывы і турботамі Анатоля Вераб'я і Адама Мальдзіса : «...хаця адзін Бог ведае, колькі мы з табой за гэтае кароткае наша жыццё лаяліся аж да самых зубоў. І, дарэчы, я ніяк не забыў гэтыя нашы вушацкія, аршанскія, рагачоўскія, віцебскія праклёны.

Народ, які ўмее – пры выпадку – так клясці, – гэта жывы народ. Таму што ён умее не толькі да апошняга клясці. Ён умее дапамагаць. Ратаваць суседа. Ратаваць дружбу, Таварыства, Любоў. [...]

Мы з табою – зусім розныя людзі. Мы нават супрацьпаказаны адзін аднаму»[25].

Апроч таго, нялішне прыгадаць, што менавіта Барадуліну Караткевіч ахвяраваў адзін з любімых сваіх твораў – навелу «Ладдзя Роспачы». Не надта каб характэрны

для яго жэст – уласную прозу Караткевіч прысвячаў не так ужо часта: яшчэ маці Надзеі Васільеўне (апавяданне «Богун-трава» і раман «Каласы пад сярпом тваім»); больш агульнае прысвячэнне – «Маці беларускай прысвячаю» – папярэднічае легендзе «Маці ветру»; інтрыгуючае прысвячэнне «В. К., якой гэты раман абяцаў дзесяць год назад, з удзячнасцю» мае «Чорны замак Альшанскі». Апроч таго канкрэтныя адрасаты ёсць у рамана «Леаніды не вернуцца да Зямлі», апавяданняў «Белае Полымя», «Барвяны шчыт», «Залаты бог» і напісанай сумесна з паэтам і сябрам Алегам Лойкам казкі «Пра Пана Галавана» (прысвячэнні адпаведна Гераніму Стулпану, Міколу Садавому[26], Янку Брылю, Уладзіміру Калесніку[27] і Ганечцы).

Вяртаючыся ж да «Ладдзі Роспачы», дарэчы будзе прыгадаць, што ў лісце да Янкі Брыля Караткевіч называў галоўнага героя навелы Гервасія Выліваху «беларускім “зламірогам”, які любіў жыццё»[28] і вось якую даваў яму характарыстыку: «Сабою быў дзівосна гожы і пяшчотны, а паводзін – самых заганных. ...Хобаль, залётнік, піяка, задзіра, піток, бабздыр несамавіты. Не было на ўсёй зямлі беларускай падобнага яму. Ляхі такіх завуць – “завалідрога”, а мы, людзі роду крывіцкага, “адарвірог”, бо некалі, кажуць, такія ў самога Люцыпара рог сілком аддзерлі і зрабілі з яго келіх для пітва. Вады нальеш, і, сілаю самога рога, робіцца гарэлка»[29].

Хоць неправільна было б лічыць, што выключна будучы народны паэт паслугаваў прататыпам для Вылівахі, – любы літаратурны герой, па словах Р. Барадуліна, зборны, і лепш казаць, што ў Выліваху частка ад Барадуліна і частка ад Караткевіча[30]. Дый сам аўтар «Ладдзі Роспачы» бачыў у сваім героі не толькі Барадуліна й сябе, але і агульнага іх сябра Васіля Быкава, што засведчыў, падпісаўшы Быкаву сваю кнігу: «Таму што ты таксама крыху Выліваха, як я, і з тых, што не плачуць у “Ладдзях Роспачы”»[31].

І ў гэтым таксама праявілася асоба Уладзіміра Караткевіча – у дарчых аўтографах для сяброў. У тых жа інскрыптах для Барадуліна амаль паўсюль прачытваецца найвялікшая павага і любоў да «вытанчанага майстра верша»[32]. Гэта можна казаць пэўна і без перабольшвання, бо ці магчыма нешта дадаць да такога прачулага прызнання: «Міламу Рыгору, без існавання якога сябе не мыслю і без якога я не існаваў бы ў поўнай меры такі, які я ў літаратуры ёсць»[33]. Гэтыя ацэнкі нават па-іншаму прымушаюць паглядзець на тады яшчэ маладога паэта, яны быццам абярэг яму, своеасаблівая ахоўная грамата: «Дарагому Рыгору Барадуліну з любоўю да яго самога, добрага і шчырага чалавека, і яго светлай, сапраўды вялікай, нашай, беларускай паэзіі. Нічога, браце, зразумеюць, побач з кім жылі», – гэтак абнадзейваў Караткевіч сябра на пачатку яго творчага шляху[34].

Нарэшце, пашырыць аповед пра стасункі двух выбітных пісьменнікаў, кангеніяльных па свайму генію, можа таксама эпісталярная спадчына Уладзіміра Караткевіча, якая сёлета будзе апублікавана ў 20-й кнізе яго 25-томнага Збору твораў. Праўда, трэба адзначыць, што лісты Караткевіча захаваліся, відаць, не ўсе. Напрыклад, адсутнічае наступны, які Барадулін згадаў у 1990 годзе ў дзённіку: «Чытаю ліст Караткевіча, дзе ён апісвае ката як аграмаднага, як тыгра ў мініятуры, сумесь хатняй кошкі і ўсурыйскага ката, а гэта было простае пушыстае кацянё сібірскай пароды, дужа пухнатае. Паездку ў Мсціслаў, як паездку ў жахлівую пургу недзе на неабжытых нетрах»[35].

Таксама трэба дадаць, што лісты і тэлеграмы, за выключэннем асобна агавораных, друкуюцца паводле арыгіналаў, якія раней захоўваліся ў хатнім архіве Р. Барадуліна, аднак цяпер іх месцазнаходжанне невядомае – магчыма, яны былі перададзены разам з астатнім архівам паэта ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва ў фонд № 524 (фонд Р. Барадуліна, часова неапрацаваны). Што ж датычыць пасланняў Барадуліна да Караткевіча, то яны друкуюцца паводле арыгіналаў, якія захоўваюцца ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**Сяргей ШАПРАН**

**1. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[6 ліпеня 1965 г.]*

«Кожны мае свае Ушачы...»[36]

І вось цяпер[37] сяджу я ў сваіх рагачоўскіх Ушачах[38], пішу (скончыў скарачаць «Хрыста»[39]) і ўспамінаю цябе і ўсё іншае такое. Як там Ваўчэнскае возера[40]? Ці пішуцца на ягоных берагах вершы? А ты ж мне на дзве тэлеграмы не адказаў[41]. Хаця паштоўку грымзні. Слухай, ты памятаеш, што калі нас не забяруць у рады[42], то 7-га жніўня мы павінны быць у яго, Адама[43], а потым у Вільні. І таму трэба нам з табою чысла 6-га (7-га Адасю Хрыстоў узрост[44]) сустрэцца ў Гудагаі[45], або 5-га ў Мінску. Думай над гэтым. І напішы мне, як ты мяркуеш з гэтым быць.

Цалую. Твой сябар

*Уладзімір.*

Прывітанне ад дзядзькі. Кажа: «Напішы, што прама цалую хлапца».

---

*Рукапісная паштоўка без даты. Датуецца паводле штэмпеля – 6.07.[неразб.]. Зыходзячы са зместу, пэўна можна казаць пра 1965 г.*

**2. Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў, Еранім Стулпан – Рыгору Барадуліну**

*[Сярэдзіна 1960-х гг. (?)]*[46]

Дорогому Милому Ригору від однодумців.
Дарагому Любаму Рыгору ад аднадумцаў і калег.
Dārgajam un mīļajam Rigoram no kolēģiem un lidzbiedriem.
Drogiemy, miliemy Rygorowi od jednodymih i coliegów[47].
Дорогому, милому Рыгору от единомышленников и коллег.
*Ул. Караткевіч, М. Стральцоў*[48]*, Ieranims Stulpans*[49].

---

*Рукапісная паштоўка без даты за подпісамі У. Караткевіча, М. Стральцова і Е. Стулпана. Амаль ідэнтычны па змесце тэкст на ўкраінскай, беларускай, латышскай, скажонай польскай і рускай мовах. Надпіс па-латышску зроблены, мусіць, Е. Стулпанам. Астатнія надпісы зроблены Караткевічам.*

**3. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*29.IV.66.*

Рагачоў

Rygorus primus –
– salve!
Uladsimirus scribit![50]

Віншую цябе, маму, Валю і Лану з наступаючым святам[51]. Жадаю табе здароўя, шчасця, доўгіх год. А таленту не жадаю, бо ён у цябе і так ёсць, а таму толькі ваюй і мей творчыя поспехі. Як з'ехаў я, дык хаця б слова пісануў. Кепска, дзед! Не ведаю нават, дзе ты, траву топчаш ці асфальт. Пішу і на Ўшачы[52], і на Мінск. Будзь ласкавы, напішы ты мне, прыедзеш ці не. Буду ў Рагачове да 8–10-га. Але як атрымаю аб цябе ліст-тэлеграму, або тэлефонны званок, што будзеш, – можам пасядзець тут і да самога з'езду[53].

Ну вось, уласна, і ўсё. «Хрыста» скончыў[54], вершы праўлю. Можа, вазьмуся і за «Чазенію»[55].

Цалую цябе,

твой *Уладзімір.*

---

*Рукапісная паштоўка.*

**4. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*29.IV.66*

Рыгорка!

Віншую цябе з наступаючым святам, братка. Жадаю найлепшых – перш за ўсё творчых – поспехаў.

Як паехаў я, то ты ані словам не абмовіўся. Кепска! Не ведаю, нават, дзе ты, таму пішу і на Ушачы. Дай ты мне звестку, прыедзеш ці не. Пазвані, а, можа, ліст-тэлеграму дашлі. Я тут да 8–10-га, але як даведаюся, што ты будзеш – затрымаемся да з'езду. Цалую цябе.

Твой сябра *У. Караткевіч.*

Прыязджай, трэба абмеркаваць, што скажам на з'ездзе[56].

---

*Рукапісная паштоўка без даты. Адваротны адрас на паштоўцы: Гомельская вобл., Рагачоў, Чкалава, 41, Караткевічу.*

**5. Рыгор Барадулін – Уладзіміру Караткевічу**

*[30 красавіка 1966 г.]*

Слаўны Віцязь зямлі беларускай!

З Вясной Цябе, сям'ю Твайго мілага, дарагога дзядзькі, Дняпро Славуціч!

*Валя, мама, Рыгор*

P. S. Хутка буду [ў] Мінску, напішу падрабязней усё.

---

*Рукапісная паштоўка без даты. Датуецца паводле штэмпеля. Была дасланая на адрас: Рагачоў, Чкалава, 41, Уладзіміру-Свет Караткевічу. Адваротны адрас: Ушачы, Р. Барадулін. АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1199, арк. 1.*

**6. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[Сярэдзіна 1960-х гг. (?)]*

Пане Гжэгож![57]

Падацель сяго, як ты, пэўна, і сам здагадваешся, і ведаеш, прыйшоў да цябе не так сабе, а па нашай з табою дамоўленасці наконт рэкамендацыі (паколькі я далёка)[58]. Ты згадзіўся ўсё арганізаваць, і я вельмі ўдзячны табе. Калі ён цябе не застане – хай пакіне тэлефон і вы дамовіцеся аб сустрэчы. Моцна цісну тваю лапу.

*У. Караткевіч.*



*1955 г. Нарада маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах. Злева направа: Юрка Гаўрук, Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін, Мікола Засім, Васіль Вітка, Алесь Кузняцоў, Уладзімір Верамейчык, Юрась Свірка.*

P.S. Абавязкова, тэрмінова пазвані Янку Брылю[59] і даведайся, як з паездкай весняй[60].

*Рукапісны тэкст без даты. Зыходзячы са зместу, імаверна датаваць сярэдзінай 1960-х гг.*

**7. Рыгор Барадулін – Уладзіміру Караткевічу**

*[Сакавік-красавік 1967 г. (?)]*[61]

Дорогой Фома Фомич, дела с романом могут быть плохими, если ты не сдашь его быстро. Надо приехать и поработать с редактором. Был у Божко[62], он сказал, что редактор готов хоть сегодня начинать работу с тобой. Решай, как быть. Обнимаю тебя. Привет от родной Беларуси = Твой *Рыгор*.

*Пісьмо-тэлеграма*[63] *без даты. Была дасланая на адрас: Ялта, Крымской, гостиница «Ореанда», писателю Владимиру Короткевичу. АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1199, арк. 2.*

**8. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[5 сакавіка 1968 г.]*

Только вернулся из Вильни. Узнал о твоей болезни. Вот бедолага. Слава богу, что тебе лучше. Поправляйся скорей. Приезжай. Все друзья опечалены твоей болезнью. Выздоравливай. Пиши еще долго на радость всем нам. Мы все тебя любим, дурня. Будь счастлив, а таланта тебе не занимать = *Короткевич*.

Тэлеграма. Датуецца паводле штэмпеля.

**9. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[Сакавік-красавік 1968 г. (?)]*[64]

Хлопцы, выручайте. Обещал Заболотский[65] грошей выслать, но студия[66] не дала. Хоть одолжите, а вышлите двадцать пять на адрес: Брест 13 Московская 57/1, кв 36. Лучше телеграфом. Через пару дней буду дома, сразу отдам. Крепко вас всех целую и обнимаю. Много и хорошо тут работаю. Книгу почти кончил[67] = Ваш *Владимир*.

*Тэлеграма.*

**10. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[1968 г. (?)]*[68]

Гіене – баяцца, сабаку – вішчаць,
Пацю – рокхаць у брудзе сваім.
А льву патрэбны саванаў гушчар,
Родны край і свабода ў ім.

І таму не пабойвайся, не чакай,
А скачком бяры частакол.
І рыкай. І калоціцца вораг няхай,
Калі гойсае леў вакол.

Жыві сярод кінутых родных лясоў,
Клыкамі за іх ірві...

Бо мы з табой не з гіен, не з псоў,
Бо мы – ільвінай крыві.

Льву Рыгору
Леў Уладзімір

*Рукапісны тэкст без даты.*

**11. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*2 красавіка 69 г.*
*Ялта*

Рыгор!

Трымай пераклады[69].

Бачыш, ты атрымаеш іх якраз на пару дзён раней таго тэрміна, аб якім дамаўляліся. Пабачу я цяпер, калі ты выкалаціш пераклады з другіх[70].

Стараўся перадаць манеру старога, а манера ў яго цемнаватая. Яснасці няшмат. Так яно і атрымалася. Трэба было б яшчэ папрацаваць, высветліць, зрабіць лепей, але ж ты насеў з нажом, не думаючы, што я па 12 гадзін сядзеў на тых вайсковых зборах.

Ладна, абыйдзецца, мабыць.

Адрас мой: «Ялта, Дом творчасці пісьменнікаў, мне».

Тэлефон 2–33–61 (званіць лепей з 8[-і] да 9[-і] раніцы). Я гэта табе вось чаму кажу. Сяджу я тут амаль на бабах. Бурсаў[71] і «М[олодая] гв[ардия]» грошай не высылаюць, хаця Ваня і абяцаў, што даб'ецца, каб 25-га выслалі (я яму тэлеграму даўно даў). Пераплётчыкаў – таксама.

Таму просьба мая такая. Пазвані:

1) Пераплётчыкаў Ісак Абрамавіч (тэл. 3–11–55)[72].

Як справы з Кар[аткевічам?] Ён прасіў даведацца. Калі добра, то куды выслалі? Можа, дамоў? І нагадаць адрас ялцінскі.

2) Пазваніць Мішу Стральцову. На работу, дадому не званіць[73]. 5 Як там справы. Ці не атрымана на дом з Масквы? Калі так – хай пазвоніць, а я дашлю яму даверанасць. А ён хай высылае хутчэй.

І ты мне звякні. А я ўжо тады сам табе пазваню, калі буду ведаць, што і як.

Ну, вось і ўсё. Моцна цісну руку.

Зрабі гэта абавязкова і хутчэй. Твой *Уладзімір.*

*Рукапісны тэкст.*

**12. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[Канец 1960-х – пачатак 1970-х гг. (?)]*[74]

Найвялікшаму беларускаму хунвэйбіну і Маодзэдуністу[75] Рыгору Барадуліну з вялікай падзякай ад яго кітайскіх паслядоўнікаў. Прыпадаем пад ногі твае, вялікі бахдыхан Нябеснай Імперыі нашай![76]

*Мао 1*
*Мао 2*
*Мао 3*[77]

*Рукапісная паштоўка без даты.*

**13. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[12 мая 1971 г.]*

Дарагі Рыгор, смуткуем разам[78]. Вельмі кахалі тваю маці. Заўсёды будзем яе помніць. Любім цябе, шкадуем. Трымайся. Цалуем = *Караткевічы.*

---

*Тэлеграма. Датуецца паводле штэмпеля.*

**14. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[Не пазней за 1975 г. (?)]*[79]

– Рыгор Іванавіч, «Белавежскую»[80] можаце?
– Магу, дружа, магу, стары, магу.
– А «Пліску»[81], Рыгор Іванавіч, можаце?
– І блізка магу.
– А «Сталічную»[82], Рыгор Іванавіч, можаце?
– Магу!!!!!!!!!!
– А [«]Хванч-Кару[»][83], Рыгор Іванавіч, можаце?
– Не магу, стары. Мяшаць баюся.
– Ну і дуп вы, Рыгор Іванавіч!

---

*Рукапісны тэкст без даты за подпісам «ПІФУЛЕЧКА» (літары «У» і «К» напісаны па прынцыпе люстэркавасці) і, магчыма, самаго У. Караткевіча, а таксама з трыма іншымі неразборлівымі подпісамі.*

**15. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**




*26 красавіка 78 г.*
*Пятроўшчына, 9 клініка*

Так вось я і хварэю, дарагія мае. Пашкадуйце беднага за яго сабачае жыццё.

*Уладзімір* з казарменна-бальнічным лёсам[84].

---

*Рукапісны тэкст пад малюнкам, на якім У. Караткевіч намаляваў сабачку з перавязанай хусткай галавой.*

**16. Рыгор і Валянціна Барадуліны – Уладзіміру Караткевічу**

*[Чэрвень 1978 г.]*[85]

Дарагі і любы Валодзенька! Папраўляйся, не сіраці родную літаратуру і чытачоў яе. Цябе ўсе чакаюць дамоў! Абдымаю, *Рыгор.*

Цалую цябе, Валодзенька. *Валя*[86].

---

*Фотатэлеграма. АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1199, арк. 4.*

**17. Рыгор Барадулін – Уладзіміру Караткевічу**

Валодзя!

Самы любімы пісьменнік земшара! Не хварэй!

Падпішы сваю кнігу Ілоне[87], каб яна нашчадкам паказвала, у адну эпоху з кім жыць ёй пашчасlівіла!

Абдымаю –

*Рыгор.*

*Мінск, 17.ІІ.79*

---

*Рукапісны тэкст. АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1199, арк. 5.*

**18. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну і яго сям'і**

*[1979 (?)]*[88]

Віншуем Барадуліна, Барадуліху і Барадулінятка[89] з Вялікаднем!

Жадаем поспехаў, доўгіх год, новых кніг, высокіх учынкаў, здароўя, шчасця і ўсяго-ўсяго добрага.

*В.* і *Ул. К.*




---

*Рукапісны тэкст без даты. Велікоднае віншаванне на адвароце малюнка, на якім У. Караткевічам намаляваны куранятка з яйкам і напісана: «З Вялікаднем!».*

**19. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*[22 мая 1979 г.]*[90]

А за тым краем,
Як за тым раем
Цяжка ўздыхаем
І плачам.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз,
Яшчэ раз убачым.
. . . .
Бойся, урад,
Бойся, кат,
Яшчэ раз убачым.
Яшчэ раз,
Яшчэ раз
Вернемся,
Убачым[91].

*Барадулін,*
*Караткевіч.*

---

*Рукапісны тэкст без даты. Подпісы «Барадулін, Караткевіч» зроблены рукой У. Караткевіча.*

**20. Рыгор Барадулін – Уладзіміру Караткевічу**

Дарагі Фама!

Шаноўны Уладзімер сын Сямёна!

У Мінску неспакойна штосьці –
Усе ад мудрацоў да самак
Чакаюць нумар «Маладосці»,

Дзе засвітае
«Чорны замак»[92].
P. S.
Дзе паляваў калісьці дзядэк,
Паказвай скептыкам азадак!
Заўсёды твой
*Рыгор.*
*Мінск, 13.VII.79*

---

*Рукапісны тэкст. АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1199, арк. 6.*

**21. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*17 ліпеня 79 г.*
*Друскенікі*

Мілы Рыгорус!

Лічаных пару дзён засталося мне быць тут. Не ведаю, ці падлекаваўся я, а вось што запсеў ад няробства – гэта неабвержны факт.

І ўсё ж чыркаю табе паштоўку, пару словаў, у адказ на твае пару слоў, якія вельмі ўзрадавалі мяне. Толькі сюжэтаў тут у мяне так мала, што і верша не прыдумаеш у адказ. Абдымаю цябе і цалую. Скора ўбачымся.

Твой *Уладзімір.*

**22. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*24 ліпеня 79 г.*

Міламу майму Рыгору Барадуліну, з якім мы «на ўзмежках цвілі і выстаялі»[93]. А мабыць, што выстаялі. Хаця лепей сказаць аб гэтым пазней.

*Ул. Караткевіч.*

---

*Рукапісны тэкст.*

**23. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*3.VII.80*
*г. Мінск*

Мы не дачакаліся Вас, Рыгор Іванавіч! Адыходзім у мяккіх тапачках.

*Ул. Караткевіч*
*Н. Кіслік.*

«Бес удалился, смердя»
/Н. В. Гоголь/[94].

---

*Рукапісны тэкст на адвароце лістка календара.*

**24. Рыгор Барадулін (?)[95] – Уладзіміру Караткевічу**

*[Лістапад 1980 г.]*

Дарагі Уладзімір Сямёнавіч!

Ты рыбак і паляўнічы,
Ты заўсёды са «здабычай»,
Ці вандруеш дзе па моры,
Ці караскаешся ў горы...

Нетры ты і неба зведаў,
Бо заўсёды непаседа.
Знаюць гэта ўсе наўкруг:
Ты паэт і драматург,
Раманіст адметны, знатны
І гісторык ты выдатны –
Справа ўсякая ўдаецца,
Ганарыцца выдавецтва –
Ты цудоўны аўтар наш
І цікавы твой багаж.
Дык жыві, працуй, ствара й,
Хай аж іскры – з-пад пяра!
Спрыту зычым,
Хваткі хвацкай! –
Шанаванне ад «Мастацкай!»..

*Машынапісны тэкст ад імя выдавецтва «Мастацкая літаратура» без даты. Датуецца зыходзячы са зместу. АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1054, арк. 2.*



*1968 г. Разам з Валянцінай і Рыгорам Барадулінымі ў ваколіцах Мінска. Фота Сяргея Панізніка.*

**25. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

*7 студзеня 82 г.*

<u>Каляды ў доме генія</u>[96]

Кватэра ў Грышы лепшая на свеце:
Тут філіял Грунвальда ў кабінеце[97].
Ў шуфлядах – вершы лепшыя ў сусвеце,
І сто Індыраў[98] скача ў туалеце.
. . . . . . . .
Між рукапісаў геній Барадулін
Згубіўся з жонкай, Ланай і Рыжуляй[99].

*Уладзімір Караткевіч.*

*Друкуецца паводле рукапіснага факсімільна ўзноўленага тэксту: Барадулін Р. Здубавецьця. – Мінск: Выд. ТАА «Паліфакт», 1996, [форзац].*

**26. Уладзімір Караткевіч – Рыгору Барадуліну**

<u>Меню на Вялікдзень 18 красавіка 1982 г.</u>

Фарбаванкі[100].
Студзіна з хрэнам.
Студзіна без хрэна.
Хрэн без студзіны.
Целенціна, шпігаваная часныком, для важнасці па-польску.
Огеркі хіньскі[101] (або в'етнамскія, хто іх ведае).
Бульба вараная *a la*[102] Караткевіч.
Бутэрброды з сырам гарачым[103].
Крывое мяса (па-простаму каўбаса).
Сала *a la* свіння.
Кансервы скумбрыя п'янага пасолу.
Грыбы-баравікі над грыбамі палкаўнікі.
Масліны *a la* Арыстафан Папасатырас[104].

Зялёны гарошак па-заечаму (фірменнае Валі Барадулінай).
Лімон *a la* Кісламардзевіч.
Сыр хатні з радзімы Янкі Купалы[105].

---

Напіткі

Тураўская Юбілейная Крыварылаўка.
Жыватоўка з перцам.
*et cetera, et cetera*[106].

Дарагі Рыгор! Дасылаю табе меню, якое хацеў забраць. Віншую з 1 мая і жадаю тысячы год і дзвюх тысяч кніг. Будзь шчаслівы.

*Уладзімір.*

Дадатак да меню: «лыжка дзёгцю». Бо трэба, калі абяцаў, заходзіць да сяброў не толькі на Вялікдзень. Нават калі б у цябе стрыечны брат адышоў да Абрама прабацькі на піва[107] – пазвані, папрасі жонку ці сябра. І не адгаворвацца, што меў на ўвазе 28 красавіка... 1983 года.

Справа, для якой ты быў патрэбен – ляснулася. Цяпер пра яе і гаварыць не буду. Іншым можаш «званіць ужо з трамвая»[108], але я ані разу, абяцаючы зайсці, не падвёў цябе.

---

*Друкуецца паводле: Барадулін, Р. Зб. тв. Т. 4, с. 187–188. Чарнавы аўтограф меню пад назвай «Меню на Вялікдзень 18 красавіка 82 г.» адрозніваецца ад публікацыі наяўнасцю нумарацыі страў і варыятыўнасцю напісання (АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 2, адз. зах. 1029, арк. 2).*

**27. Уладзімір Караткевіч – Валянціне Барадулінай**

*18 красавіка 83 г.*

Валечка, дарагая!

З гэтымі страшнымі падзеямі[109] разгубіў усе мазгі. Згубіў адрас і не ведаю, куды ў энцыклапедыю я павінен быў адасланць гэтую артыкуліну[110]. Можа, ты ведаеш, лепей разбіраешся і занясеш (і папросіш прабачэння, што я заліў машынапіс кавай: у гэтыя дні я, па-мойму, заліў ёю ўсе лісты і ўсе рукапісы). Загадзя дзякуй табе за гэта.

Я схаваўся. Нікога не магу бачыць, асабліва з сяброў. Як убачу – успамінаю, як ездзілі ў лес і шашлыкі смажылі і былі шчаслівыя. Ці яшчэ нешта ўспамінаю. І... сама разумееш.

Скора ўсё адно вымушаны буду з'явіцца. Трэба ж зборнік вершаў скласці[111]. А там зноў, як камета, куды-небудзь. Ад дома, дзе жыве непапраўнасць.

Цалую цябе і сябра твайго і майго найлепшага Рыгора. Скажы яму, што толькі думка аб тым, што ён жыве і працуе, і так! працуе, дае мне крыху асэнсавання неабходнасці цягнуць далей усю гэтую непатрэбшчыну і муру.

Ваш *Уладзімір.*

---

*Рукапісны тэкст.*

[1] Барадулін Р. Зб. тв. Т. 4: крытычныя артыкулы, успаміны, літаратурныя запісы. – Мінск: Маст. літ., 2002, с. 162.

[2] Машынапіс без назвы. Хатні архіў Р. Барадуліна.

[3] Шапран С. Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным. – Мінск: Логвінаў, 2011, с. 80.

[4] Барадулін Р. У неба пехатою. Апошнія вершы / прадм. У. Някляева; пасляслоўе, укладанне С. Шапрана. – Мінск: Медыял, 2014, с. 188, 194

[5] Паводле: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. I. 1951–1969 / укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2015, с. 53.

[6] Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т. Т. 14: публіцыстыка. Эсэ-рэцэнзіі. Эсэ-лісты. Матэрыялы для газеты «Боевая вахта». Суаўтарства. Інтэрв'ю. Літаратуразнаўства: 1946-1983 / падрыхт. тэкстаў і камент. П. Жаўняровіча; рэд. тома В. Іўчанкаў. – Мінск: Маст. літ., 2014, с. 54.

[7] Мальдзіс А. Жыцце і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: партрэт пісьменніка і чалавека. – Мінск, 1990, 2010.

[8] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. I, с. 192.

[9] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. I, с. 197, 198.

[10] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. I, с. 217.

[11] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. II. 1970–1978 / укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2015, с. 6.

[12] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. III. 1979–1982 / укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2016, с. 83.

[13] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. III, с. 136–137; Барадулін, Р. Зб. тв. Т. 4: крытычныя артыкулы, успаміны, літаратурныя запісы. – Мінск: Маст. літ., 2002, с. 187.

[14] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 5. Вып. 5. 1989–1991 / укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2018, с. 201, 202.

[15] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 5, с. 202. Гаўрусёў Сцяпан Захаравіч (1931–1988) – беларускі паэт.

[16] Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. I, с. 233.

[17] Рукапісны тэкст. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (далей – АРКіР ЦНБ НАН Беларусі), ф. 11, воп. 2, адз. зах. 626, арк. 3.

[18] «Трымайся, агнец між ваўкоў // Пакуль славянства дух не вымер...»; у другой рэдакцыі: «Трымайся, агнец між ваўкоў. // Хай сніць масціты тыражы...»

[19] У першай рэдакцыі: «Шматгранныя ў нас ёсць Гілевічы...»

[20] «Казаў з трыбуны Уладзімір: // – Мой род, з асветнікаў...»; у іншай рэдакцыі: «Казаў з трыбуны Уладзімір: // – Мой род дасведчаны не вымер...»

[21] «“Каласы пад сярпом тваім”, // Пад тваім жа цапом зярняты...»; у першай рэдакцыі: «Твой раман пададаецца ўсім, // Ды пытаннем чытач заняты...»

[22] «Ходят слухи, что Фома // От работы без ума...»; у першай рэдакцыі: «Ходят слухи, что Фома // Выживает из ума...»

[23] Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т. Т. 14, с. 53, 61.

[24] Полымя, 1977, № 1.

[25] Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т., т. 14, с. 54.

[26] Садавы Мікалай Аляксандравіч (1893–1965) – муж сястры бацькі У. Караткевіча Вольгі, які ў 1938 г. быў беспадстаўна арыштаваны, але ў 1939 г. адпушчаны. Ветэран Другой сусветнай вайны. Перад вайной і пасля яе настаўнічаў у Смаленскай вобласці. У 1948 г. пераехаў з сям'ёй у Оршу. М. Садавы істотна ўплываў на У. Караткевіча, з якім яго яднала глыбокая духоўная повязь. Менавіта яму малады пісьменнік у пачатку свайго творчага шляху паведаміў пра жаданне напісаць сто тамоў і прысвяціў апавяданне «Белае Полымя».

[27] Калеснік Уладзімір Андрэевіч (1922–1994) – беларускі крытык, літаратуразнавец, пісьменнік. Заслужаны работнік вышэйшай школы БССР (1979). Кандыдат філалагічных навук, прафесар (1983). Загадчык кафедры літаратуры Брэсцкага педагагічнага інстытута (1956–1988). Сакратар Брэсцкага абласнога аддзялення СП БССР (1956–1970). Апроч апавядання «Залаты бог», Караткевіч прысвяціў У. Калесніку і яго жонцы Зосі верш «Белавежскі алень», а таксама эпіграму «А Калеснік добры быў...» і эсэ «Шляхі ў палях», у якім назваў Уладзіміра Калесніка сябрам і «адным з найвыдатнейшых сучасных нашых крытыкаў».

[28] З ліста У. Караткевіча да Я. Брыля ад 26 ліп. 1964 г. // Уладзімір Караткевіч і Янка Брыль. Перапіска 1958–1983 гг. / прадм. і падрыхт. тэкстаў Л. Мазанік // Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. [Вып. 2]. / уклад. У. Мархель. – Мінск: Маст. літ., 1990, с. 106.

[29] Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т. 5: легенды. Навела. Паэма. Аповесць: 1960–1972 / падрыхт. тэкстаў і камент. П. Жаўняровіча і А. Вераб'я; рэд. тома В. Іўчанкаў. – Мінск: Маст. літ., 2013, с. 160.

[30] Паводле: Шапран С. Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным, с. 102–103

[31] З дарчага аўтографа У. Караткевіча В. Быкаву ад 22 жн. 1979 г. на кнізе: Караткевіч Ул. З вякоў мінулых: апавяданні, аповесці. – Мінск: Маст. літ., 1978. Асабісты архіў В. Быкава (Мінск).

[32] Паводле нарыса «Зямля пад белымі крыламі»; гл.: Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т. Т. 12: публіцыстыка. Эсэ-нарысы: 1952–1982 / падрыхт. тэкстаў і камент. П. Жаўняровіча; рэд. тома В. Іўчанкаў. – Мінск: Маст. літ., 2016, с. 379.

[33] Дарчы аўтограф ад 1 студз. 1984 г. на праспекце выдавецтва «Мастацкая літаратура» «Владимир Короткевич. Vladimir Korotkevich».

[34] Дарчы аўтограф ад 25 студз. 1964 г. на кнізе: Караткевіч, У. Блакіт і золата дня: апавяданні і аповесці. – Мінск: Дзяржвыд БССР, 1961.

[35]Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. 5. Вып. 5, с. 202.

[36] Радок з паэмы Р. Барадуліна «Куліна».

[37] У арыгінале: «И вось цяпер...»

[38] Маецца на ўвазе г. Рагачоў Гомельскай вобласці. Тут жыў дзед Караткевіча па лініі маці Васіль Юллянавіч Грынкевіч (1861–1945), які здзейсніў вялікі ўплыў на пісьменніка і стаў прататыпам Данілы Загорскага-Вежы ў рамане «Каласы пад сярпом тваім». З пасляваеннага часу ў дзедавай хаце жыў з сям'ёй і настаўнічаў у школе дзядзька Ігар, Грынкевіч Ігар Васільевіч (1908–1985), у якога часта гасцяваў Караткевіч. Тут, у Рагачове, ён напісаў многія свае творы.

[39] Мусіць, размова ідзе пра другі варыянт кінасцэнарыя «Христос приземлился в Гродно» (усяго ў перыяд з 25 мая 1965 г. па 29 сакавіка 1966 г. Караткевіч напісаў шэсць варыянтаў сцэнарыя), экранізаванага ў 1966–1967 гг. на кінастудыі «Беларусьфільм» кінарэжысёрам Уладзімірам Бычковым пад назвай «Жыцце і ўзнясенне Юрася Братычка».

[40] Любімае возера Р. Барадуліна ва Ушачах, дзе прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады паэта і куды й была адрасаваная паштоўка.

[41] Гэтыя тэлеграмы, відаць, не захаваліся.

[42] У жніўні-верасні 1965 г. Уладзімір Караткевіч, Рыгор Барадулін і Генадзь Кляўко [1931 (афіц. 1932) – 1979], беларускі паэт і перакладчык, праходзілі вайсковыя зборы ва Уладзівастоку, у штодзённай газеце Ціхаакіянскага флоту «Боевая вахта». Р. Барадулін так апавядаў пра гэта: «А пачаўся наш ваяж і проста і вясёла. Сядзелі мы ўтрох у мяне на кватэры па вуліцы Бялінскага. Калі бутэлькі на стале можна было падстаўляць ветру, каб свістаў, сумна пачалі разважаць, што хочацца паездзіць, свету пабачыць. Мне цюкнула ў галаву пазваніць генералу Аляксееву, які ўзначальваў ваенна-шэфскую камісію пры Саюзе пісьменнікаў. [...]

І пазваніў я генералу Аляксееву, каб паслаў ён нас на стажыроўку ў якую-небудзь вайсковую газету. Нас – гэта Уладзіміра Караткевіча, Генадзя Кляўко і мяне. У добрым настроі мы прасіліся пасланць як можна далей. Генерал адказаў, што далей Уладзівастока пасланць не можа. Тэлефонная просьба да генерала была глыбокай восенню, амаль зазімкам 1964 года. Дні шлі. Пра размову мы забыліся. Настала вясна. Уладзімір сабраўся ехаць да любімага дзядзькі ў Рагачоў, дзе, у асноўным, і пісаліся "Каласы пад сярпом тваім". Я настрыўся да мамы ў Вушачу. І тут прыходзяць позвы ў ваенкамат усім тром. [...]

І былі мы 1 жніўня 1965 года ва Уладзівастоку» (Барадулін Р. Зб. тв. Т. 4, с. 168).

[43] Мальдзіс Адам Іосіфавіч (1932–2022) – беларускі літаратуразнавец, пісьменнік, перакладчык. Доктар філалагічных навук (1986), прафесар (1990). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1980). Кавалер Ордэна Францыска Скарыны (2013). З 1962 – навуковы супрацоўнік, з 1981 – загадчык аддзела беларускай дакастрычніцкай літаратуры Інстытута літаратуры імя Я. Купалы. У 1991–1998 – дырэктар Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф. Скарыны. У 1991–2005 – прэзідэнт (з 2010 –ганаровы старшыня) Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Аўтар кнігі «Жы́ццё і ўзнясенне Уладзіміра Караткевіча: партрэт пісьменніка і чалавека» (1990). Адзін з найбліжкіх сяброў Караткевіча. Яму прысвечаны вершы «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў» і «Мы не ўпершыню, Адась Каханы...». Апроч таго, многія штрыхі творчай біяграфіі А. Мальдзіса адбіліся ў вобразе Мар'яна Пташынскага, «ларніка вучонага» з рамана «Чорны замак Альшанскі», у якім адзін з персанажаў носіць творчы псеўданім Мальдзіса – Алесь Гудас.

[44] 7 жніўня 1965 г. А. Мальдзісу спаўнялася 33 гады.

[45] Мястэчка ў Астравецкім раёне Гродзенскай вобласці, паблізу з якім – у вёсцы Расолы – нарадзіўся А. Мальдзіс.

[46] Імаверна датаваць сярэдзінай 1960-х гг., бо ў гэты час У. Караткевіч і Р. Барадулін двойчы разам наведалі Рыгу, дзе жыў Е. Стулпан (у снежні 1964-га і ў чэрвені-ліпені 1966 г.). Але магчыма таксама датаваць сакавіком 1966 г., калі Стулпан наведаў Мінск, ці – што найбольш верагодна – ліпенем 1965-га, калі Стулпан прыязджаў у Мінск на святкаванне юбілею беларускага паэта П. Глебкі (1905–1969) і прысутнічаў у тым ліку на святкаванні дня нараджэння жонкі Барадуліна Валянціны – на карысць гэтага кажа наяўнасць подпісу М. Стральцова, які таксама быў на хатнім свяце Барадуліных.

[47] Неадпаведны пераклад на польскую мову: «drogiemu, milemu» – па-польску амаль тое самае, няма ў польскай мове і слова «jednodumca» (павінна быць: «od człowieka o tych samych poglądach»), і не «coliegów», а «colegów».

[48] Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонцьевіч; 1937–1987) – беларускі паэт, празаік, літаратуразнавец, перакладчык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Купалы (1986). У. Караткевіч прысвяціў М. Стральцову верш «Усё, што было, і ўсё, што часам сніцца...»

[49] Стулпан Еранім Уладзіслававіч (1931–1981) – латышскі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык. Са Стулпанам, названым у нарысе «Казкі Янтарнай краіны» найлепшым сябрам, Караткевіч вучыўся ў 1958–1960 гг. на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. Быў хросным яго дачкі Ілзіты і пераклаў тры яго вершы. Еранім Стулпан (Караткевіч пісаў *Геронім*) паслужыў прататыпам для Яніса Вайвадса ў рамане «Леаніды не вернуцца да Зямлі», які Караткевіч першапачаткова думаў апублікаваць з наступным прысвячэннем: «Другу моему в дни горя и радости, поэту Ерониму Стулпану – посвящаю» (з ліста У. Караткевіча да Е. Стулпана ад 3 кастр. 1960 г. // Караткевіч У. Лісты ў Краіну янтарнай казкі: з пісьмаў да латышскіх сяброў / публ. і ўступ. слова А. Вераб'я // Шляхам гадоў: гіст.-літ. зб. [Вып. 1]. / уклад. Г. Кісялёў. – Мінск: Маст. літ., 1990, с. 45). Аднак у першай, часопіснай публікацыі рамана прысвячэнне выглядае больш сцісла: «Другу майму Ераніму Стулпану – прысвячаю» (Полымя, 1962, № 5, с. 15). Што ж датычыць кніжнага выдання, то паколькі «Леаніды...» дваццаць гадоў знаходзіліся пад забаронай і выйшлі асобным выданнем пасля смерці Стулпана, Караткевіч змяніў прысвячэнне на *Памяці друга майго Гераніма Стулпана...*

[50] Рыгорус першы – вітаю! Уладзімірус піша! *(лац.)* Як згадваў А. Мальдзіс, Караткевіч меў звычку зынačваць імёны і прозвішчы: да прыкладу, Мальдзіс быў Мальдзісевічам або Адасевічам, Барадулін – Рыгорусам або панам Гжэгажам, а ягоныя жонка Валянціна і дачка Ілона – Барадуліхай і Барадуліняткам. Сам жа У. Караткевіч засведчыў, што, працуючы над раманам «Каласы пад сярпом тваім», «заразіўся» зваротам «панове» і ніяк не мог ад яго адстаць.

[51] Маці Р. Барадуліна Акуліну Андрэеўну Барадуліну (1909–1971), жонку Валянціну Барадуліну (у дзявоц. Манасзон; нар. у 1939), дачку Ілону Барадуліну (1962–2019). Відаць, маецца на ўвазе свята Першамая.

[52] Паштоўка, мусіць, была дасланая ва Ушачы, паколькі наступная паштоўка была адрасаваная на мінскі адрас Р. Барадуліна.

[53] Відаць, маецца на ўвазе V з'езд Саюза пісьменнікаў БССР, які 12–14 мая 1966 г. праходзіў у Мінску.

[54] Размова ідзе, мусіць, не пра чарговы, шосты па ліку варыянт кінасцэнарыя «Христос приземлился в Гродно» (гл. каментар да 1-га ліста У. Караткевіча да Р. Барадуліна), а пра раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», які быў напісаны на падставе аднайменнага кінасцэнарыя і які сам аўтар вызначыў як «Евангелле ад Іуды». Паводле пазнакі на апошнім аркушы машынапісу, працу над творам Караткевіч скончыў у Рагачове ў дзень напісання ліста да Барадуліна – 29 красавіка 1966 г.

[55] Паэма, ідэя якой узнікла ў У. Караткевіча пасля праходжання вайсковых збораў разам з Р. Барадуліным і Г. Кляўко ў газеце Ціхаакіянскага флоту «Боевая вахта» (жнівень-верасень 1965 г.).

[56] Відаць, маецца на ўвазе V з'езд Саюза пісьменнікаў БССР, які 12–14 мая 1966 г. праходзіў у Мінску і дзе У. Караткевіч і Р. Барадулін з прамовамі не выступалі.

[57] Гл. каментар да 3-га ліста да Р. Барадуліна.

[58] Магчыма, размова ідзе пра А. Мальдзіса і пра рэкамендацыю для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. У асабістай справе А. Мальдзіса ў архіве Саюза беларускіх пісьменнікаў захавалася наступная рэкамендацыя ад 1 лістап. 1966 г.: «Я, Рыгор Барадулін, даўно (гэта не традыцыйная фраза) ведаю даследчыка і прапагандыста нашай літаратуры, нашага роднага слова. Пералік артыкулаў і кніг – сумная справа. Той, хто цікавіцца мінулым нашай пісьменнасці, ведае Адама Мальдзіса. Лічу – Адама Восіпавіча Мальдзіса абавязкова трэба прыняць у сям'ю беларускіх пісьменнікаў».

[59] Брыль Янка (Іван Антонавіч; 1917–2006) – беларускі пісьменнік, перакладчык. Народны пісьменнік БССР (1981). Ганаровы акадэмік НАН Беларусі (1994). Лаўрэат

Сталінскай прэміі (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі імя Я. Коласа (1982). Адзін з найблізкіх сяброў У. Караткевіча. Яму Караткевічам прысвечаны вершы «Мова» і «Бахайская чарапаха», апавяданне «Барвяны шчыт» і эсэ «Мой друг і мая зямля».

[60] У другой палове мая 1966 г. (ці на пачатку чэрвеня) У. Караткевіч, Я. Брыль і Р. Барадулін «калясілі па налібоцкім пушчанскім наваколлі», як засведчыў у эсэ «Шляхі ў палях» Караткевіч (Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т. Т. 13: публіцыстыка. З жыццяпісу. Адказы на пытанні. Эсэ-партрэты. Эсэ-артыкулы. Эсэ-фельетоны: 1957–1982 / падрыхт. тэкстаў і камент. П. Жаўняровіча; рэд. тома В. Іўчанкаў. – Мінск: Маст. літ., 2016, с. 139). Аднак не выключана, што ліст можа быць датаваны і першай паловай 1965 г., бо ў чэрвені гэтага года Караткевіч, Брыль і Барадулін таксама падарожнічалі па Магілёўшчыне і Віцебшчыне. Праўда, у адваротную супярэчнасць з абедзвюма версіямі ўступае дата вышэй працытаванай рэкамендацыі, якую Р. Барадулін даў А. Мальдзісу для ўступлення ў Саюз пісьменнікаў, – 1 лістап. 1966 г. Зрэшты, нельга выключаць, што рэкамендацыю Барадулін напісаў не адразу, як атрымаў ліст Караткевіча, а пазней.

[61] Тэлеграма без даты. Імаверна меркаваць, што магла быць дасланая вясной 1967 г., бо менавіта 15 сакавіка – 28 красавіка У. Караткевіч разам са здымачнай групай фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» быў у Крыме. Да таго ж размова ў тэлеграме ідзе хутчэй за ўсё пра раман «Каласы пад сярпом тваім», паколькі прыгадваецца А. Бажко, загадчык рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь», дзе ў гэты час рыхтаваўся да друку раман. Нарэшце, у тэлеграме згадваецца рэдактар – верагодней за ўсё А. Мальдзіс, з якім Караткевіч, вярнуўшыся ў Мінск, і рэдагаваў 18–24 мая «Каласы...».

[62] Бажко Алесь (Аляксандр Цімафеевіч; 1918–2013) – беларускі паэт, празаік. Заслужаны работнік культуры БССР (1977). У 1962–1970 – загадчык рэдакцыі мастацкай літаратуры выдавецтва «Беларусь».

[63] Бланк 1964 г.

[64] Імаверна дадатаваць сакавіком-красавіком 1968 г. На карысць гэтага найперш кажа размова пра ганарар, мусіць, за сцэнарый фільма «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», які ў 1966–1967 гг. здымаўся на кінастудыі «Беларусьфільм» (праца была пралангіравана ўключна да лютага 1968 г.) і дзе згаданы ў тэлеграме А. Забалоцкі быў аператарам. Па-другое, па ўказаным адрасе ў Брэсце жыла Валянціна Нікіціна (у дзявоц. Ватковіч; 1934–1983), з якой Караткевіч пазнаёміўся ў лістападзе 1967 г. у часе чытацкай канферэнцыі па раману «Каласы пад сярпом тваім» і якая ў 1971 г. стала яго жонкай. Нарэшце, на сакавік-красавік 1968 г. указваюць даты, пазначаныя У. Караткевічам пад шэрагам вершаў, якія былі напісаны ў гэты час ў Брэсце.

[65] Забалоцкі Анатоль Дзмітрыевіч (нар. у 1935) – кінааператар, фотамастак. У 1960–1969 – кінааператар кінастудыі «Беларусьфільм». У далейшым працаваў на кінастудыях «Талінфільм» і «Масфільм», на кінастудыі імя М. Горкага. Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1967), РСФСР (1976) і Рэспублікі Хакасія (1998). Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола (1979) і Міжнароднай прэміі Андрэя Первазванага «За веру і вернасць» (2005). Быў аператарам дакументальнага фільма па сцэнарыі У. Караткевіча «Сведкі вечнасці», а таксама мастацкіх фільмаў: «Альпійская балада», «Жыццё і ўзнясенне Юрася Братчыка», «Печкі-лавачкі», «Каліна чырвоная» і інш. Забалоцкаму Караткевіч прысвяціў «Баладу пра дзіка і чалавека».

[66] Кінастудыя «Беларусьфільм».

[67] Размова, відаць, ідзе пра кнігу «Мая Іліяда», якая выйшла ў 1969 г. у выдавецтве «Беларусь». Дакладна вядома, што вясной 1968 г. Караткевічам у Брэсце былі напісаны вершы «Таруская віла», «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў», «Скрыпка ціхая ночы. Дрымоткая музыка ночы...»

[68] Справа ад верша, дзе на паштоўцы з выявай льва тыпаграфскім шрыфтам пазначана «Куда», Караткевіч напісаў: *Льву Рыгору*, ніжэй: *Леў Уладзімір*. Імаверна датаваць пасля 1963 г. (года выдання паштоўкі), верагодна – 1968 г., бо ў гэты час (18 сакавіка 1968 г.) Караткевіч прысвяціў А. Мальдзісу верш пад назвай «Амаль хрысціянскі тост за ворагаў», які, па сутнасці, з'яўляецца распрацоўкай тэмы, закладзенай у вершы, што быў ахвяраваны Р. Барадуліну.

[69] Размова, мусіць, ідзе пра пераклады вершаў народнага паэта Латвійскай ССР Яна Судрабкална (сапр. Пейне Арвід; 1894–1975) і яго кнігу «Яшчэ адна вясна» (Мінск: Беларусь, 1969), дзе былі змешчаны тры пераклады У. Караткевіча: «Зломлены», «Лірычны скандал у бочцы», «Сярэдневяковы чалавек». Паводле пазнак напрыканцы белавых рукапісаў перакладаў, Караткевіч зрабіў пераклады ў дзень напісання ліста Барадуліну (АРКіР ЦНБ НАН Беларусі, ф. 11, воп. 1, адз. зах. 185, арк. 2–9).

[70] Сярод перакладчыкаў кнігі Я. Судрабкална «Яшчэ адна вясна» таксама былі

Э. Агняцвет, С. Блатун, С. Гаўрусёў, С. Грахоўскі, Хв. Жычка, В. Зуёнак, Е. Лось, А. Кудравец, Г. Кляўко, К. Паўтаржыцкі, Г. Шаранговіч, У. Шахавец і Р. Барадулін.

[71] Бурсаў Іван Цярэнцьевіч (1927–2019) – беларускі паэт, перакладчык. У 1962–1964 – рэдактар аддзела прозы часопіса «Неман». Пераехаўшы ў 1965 г. у Маскву, працаваў у выдавецтве «Молодая гвардия». Пераклаў паэтычны зборнік У. Караткевіча «Вечерние паруса» (1969) і асобныя вершы. Караткевіч прысвяціў Бурсаву верш «Лебедзь».

[72] Далей ідзе сказ: «Ці з Масквы выслалі дакум[енты] на Караткевіча», які Караткевічам быў закрэслены.

[73] У гэты час М. Стральцоў, разышоўшыся з першай жонкай, жыў у інтэрнаце журналісцкага факультэта БДУ.

[74] Імаверна датаваць канцом 1960-х – пачаткам 1970-х гг., бо прыкладна ў гэты час (не раней за 1969 г.) Караткевічам на кнізе «Мая Іліяда» быў зроблены жартаўлівы дароўны надпіс Барадуліну ў аналагічнай стылістыцы:

«Вышэйшаму –
– ніжэйшы –
– дэдукую –
цалуючы прах пад
ягонымі ступамі.
Дарагому майму сябру –
МАЯ ІЛІЯДА * ВЕРШЫ
– не чыя-небудзь, а мая, на знак трапятання, павагі, любові, яснаму нашаму ззянню, заранцы нашай
Уладзімір».

Р. Барадулін так апісваў паштоўку: «Не было нечаканкай (Васіль Быкаў любіць гэтае слова) атрымаць канверт, у якім ляжала выразка з якога-небудзь польскага ці чэшскага часопіса, дзе вядомы кінаакцёр абдымае паненку. І подпіс змененым (вядома ж, караткевічаўскім) почыркам: “Фальклорных спраў майстра, згалі бараду!” (Гэтая выразка ў архіве Р. Барадуліна, відаць, не захавалася. – *С. Ш.*). Альбо прыходзіць у канверце паштоўка з рэпрадукцыяй карціны Лі Цы “Старшыня Мао Цзэ-дун на будаўніцтве Шысаньлінскага вадасховішча”. Познатка: кітайская туш, 1958 г. На карціне вялікі корнік правай рукой абапёрся на шуфлепадобную рыдлёўку, а левай датыкаецца да вышыванага ручніка, які падаюць яму шчаслівыя будаўнікі светлага заўтра крамлёўскага ўзору. Некалькі ў кашулях і портках, рэшта ў майках і шортах, а самы дужы з паголенай галавой нясе на каромысле зямлю ў кашах. На адвароце паштоўкі зноў жа змененым почыркам: “Найвялікшаму беларускаму хунвэйбіну і маодзэдуністу Рыгору Барадуліну з вялікай падзякай ад яго кітайскіх паслядоўнікаў. Прыпадаем пад ногі твае, вялікі бахдыхан Нябеснай Імперыі нашай! Мао 1, Мао 2, Мао 3”. Усе тры Мао ў слупок, а пасля кожнага яшчэ, думаю, незразумелыя й для кітайцаў іерогліфы» (Барадулін Р. Зб. тв. Т. 4, с. 193).

[75] Хунвэйбіны [«чырвоная гвардыя», «чырвоная ахова» *(кіт.)*] – члены атрадаў студэнцкай і школьнай моладзі, створаных у 1966–1967 гг., актыўныя ўдзельнікі «Культурнай рэвалюцыі» ў Кітаі, ініцыятарам якой быў Мао Цзэдун (1893–1976), кітайскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, старшыня Камуністычнай партыі Кітая (1943–1976). На адвароце паштоўкі рэпрадукцыя карціны «Старшыня Мао Цзэдун на будаўніцтве Шысаньлінскага вадасховішча. Кітайская туш. 1958 г.».

[76] Бахдыхан (ці багдыхан) – тэрмін, якім у рускіх граматах XVI–XVIII ст. называлі імператараў Кітая дынастыі Мін і Цын. Нябесная Імперыя, дакладней Паднябесная – кітайскі тэрмін, які выкарыстоўваўся для абазначэння ўсяго свету, а пазней тэрыторыі, на якую распаўсюджвалася ўлада кітайскага імператара.

[77] Побач з імёнамі У. Караткевічам у якасці подпісаў намаляваны іерогліфы.

[78] Тэлеграмма з нагоды смерці маці Р. Барадуліна Акуліны Андрэеўны, якая хварэла на анкалогію. У арыгінале тэкст набраны паводле рускага правапісу: «Дараги Рыгор смуткуем разам вельми кахали тваю маци уседы будзем яе помниць любим тябе шкадуем трымайся цалуем = Караткевичи». Была дасланая на адрас: *Ушачы, вул. Калінінская, 13.* У. Караткевіч прысутнічаў на пахаванні і, па сведчанні Р. Барадуліна, нёс вечка труны.

[79] Гэты жартаўлівы дыялог мог быць напісаны ў часе сяброўскага застолля, аднак паколькі пачынаючы з сярэдзіны 1975 г. Р. Барадулін не ўжываў алкагольныя напоі, тэкст гіпатэтычна імаверна датаваць не пазней за азначаны год.

[80] Назва настойкі.

[81] Назва каньяка.

[82] Назва гарэлкі.

[83] Гатунак грузінскага чырвонага віна.

[84] З 20 красавіка ўключна па 7 мая У. Караткевіч ляжаў у 9-й бальніцы Мінска ў

гепаталагічным аддзяленні з дыягназам: хранічны халецыстыт, бескаменны хранічны гепатыт.

[85] Фотатэлеграма была дасланая на адрас: *Симферополь, гостиница «Украина», ком. 203*. Імаверна датаваць чэрвенем 1978 г., бо ў гэты час У. Караткевіч адпачываў у Кактэбелі і ў часе ўзыходжання на гару Карадаг аступіўся і ўпаў, у выніку чаго з 31 мая да 21 чэрвеня знаходзіўся на стацыянарным лячэнні ў 6-й бальніцы г. Сіферопаля ў траўматалагічным аддзяленні з дыягназам: закрытая чэрапна-мазгавая траўма і субарахнаідальнае кровазліццё.

[86] Допіс рукой жонкі Р. Барадуліна Валянціны Міхайлаўны. Тут жа ёю намалявана котка.

[87] Ілона Барадуліна, дачка Рыгора Барадуліна.

[88] Імаверна датаваць 1979 г. – у гэтым годзе аналагічнае віншаванне, з кураняткам і яйкам, У. Караткевіч даслаў сваё цётцы Яўгеніі Грынкевіч (1896–1983). Ва ўсялякім выпадку, магчыма датаваць не пазней за май 1982 г., бо віншаванне падпісанае ад імя Валянціны і Уладзіміра Караткевічаў (Валянціна Браніслаўна памерла ў лютым 1983 г.).

[89] Віншаванне Рыгору Барадуліну, ягонай жонцы Валянціне Міхайлаўне і дачцэ Ілоне.

[90] Датуецца 22 мая 1979 г. паводле: Барадулін Р. Дзённікі і запісы. Вып. ІІІ. 1979–1982 / укл., прадм. Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2016, с. 42. Упершыню: Барадулін Р. Зб. тв. Т. 4, с. 193.

[91] «А за тым краем...» – беларуская народная песня. Р. Барадулін згадваў: «У свой час калекцыянаваў я этыкеткі моцных напояў з аўтографамі. Адна мне асабліва дарагая. На, як бы сказаць, тытульным баку: сталічная гарэлка, унізе: цана 2 руб. 95 кап. без кошту посуду. Чарнільнае кляймо: рэстаран “Нёман”. На адвароце акуратна адклеенай этыкеткі знаёмым почыркам:

А за тым краем,
Як за тым раем [...].

Уладзімір дужа шчымліва спяваў гэтую песню з часінаў паўстання Кастуся Каліноўскага, праўда, крыху з іншымі словамі:

Краю наш,
Раю наш,
Мы цябе не ўбачым».

(Барадулін Р. Зб. тв. Т. 4, с. 193–194).

[92] Маецца на ўвазе раман «Чорны замак Альшанскі», які быў апублікаваны ў «Маладосці», 1979, № 7–8; 1980, № 1–2.

[93] Перафраз двухрадкоўя з верша Р. Барадуліна «Дзятлінка», прысвечанага У. Караткевічу: «Таксама і Беларусь мая // На ўзмежках цвіла і выстаяла».

[94] Размова ідзе, відаць, не пра прамую цытату, а пра стылёва-моўную гульню. Гогаль Мікалай Васільевіч (1809–1852) – рускі пісьменнік украінскага паходжання (нарадзіўся ў мястэчку Сарочанцы Палтаўскай губерні); класік рускай літаратуры.

[95] Вершаванае віншаванне У. Караткевічу з нагоды 50-годдзя ад імя «Мастацкай літаратуры», аздобленае каляровым сяброўскім шаржам, гіпатэтычна магчыма прыпісаць аўтарству Р. Барадуліна, які працаваў у «Мастацкай літаратуры» і часам пісаў ад імя выдавецтва віншаванні сябрам-літаратарам.

[96] Верш напісаны ў якасці ілюстрацыі да малюнка (упершыню: Барадулін Р. Здубавецыця. – Мінск: Выд. ТАА «Паліфакт», 1996, с. 21), які быў зроблены У. Караткевічам, відаць, перад ад'ездам у госці да Р. Барадуліна, аб чым сведчыць запіс у дзённіку: «7/І. Чацвер. [...] 16.30. – Таксі. Да Рыгора на каляды». У гэтай рэдакцыі верш адрозніваецца чацвёртым радком – першапачаткова было: «Індыраў сотня скача ў туалеце».

[97] Грунвальдаская бітва ў час вайны паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім з аднаго боку і Тэўтонскім ордэнам з іншага (1410) згадваецца Караткевічам у пераносным сэнсе як абазначэнне кабінета, што завалены шматлікімі рэчамі. Аналагічнае параўнанне прысутнічае таксама ў рамане «Чорны замак Альшанскі»: «У пакоях сапраўдны Грунвальд: лётаюць пад столлю анёлы, ускідваюць крыжы з лазы Яны Ксціцелі, а Яны Непамуцкія нясуць пад пахаю ўласныя галовы, нібы кавун у трамваі. Юры з вылупленымі ад жаху вачыма папірае нагою цмока, рыдаюць ужо трыста год Магдаліны. Іконы на сценах, іконы, нібы ўкрытыя ржою па кутах, і іконы, распасцёртыя на сталах, свежанькія, нібы толькі з Ярдані, усміхаюцца чалавеку, што іх зноў стварыў. Пахне хіміяй, дрэвам, пахучай старой фарбай. Залацяцца спінкі кніг. Скаляць зубы грыфоны, падобныя на сумных курэй» (Караткевіч У. Зб. тв. У 25 т. Т. 10. Чорны замак Альшанскі: раман / падрыхт. тэксту і камент. М. Кенькі; рэд. тома А. Верабей. – Мінск: Маст. літ., 2015, с. 25).

[98] Магчыма, пад Індырай маецца на ўвазе не нейкая канкрэтная або міфічная асоба, а жаночае імя, якое набыло папулярнасць дзякуючы Індыры Гандзі (1917-1984), індыйскаму палітыку, адзінай жанчыне – прэм'ер-міністру Індыі, якая займала гэтую пасаду ў 1966-1977 гг. і пачынаючы з 1980 г. уключна да дня яе забойства ў 1984 г. На слушнасць гэтай здагадкі ўказвае ў тым ліку тое, што на малюнку, які ілюструе верш, У. Караткевіч намаляваў жанчыну з кропкай на лобе (біндзі ў індуізме, або знак праўды, так званае трэцяе вока), як гэта прынята ў індыйскіх замужніх жанчын.

[99] Лана – вытворнае ад імя дачкі Р. Барадуліна Ілоны. Рыжуля – котка Барадуліных.

[100] Велікодныя, спецыяльна размалёваныя яйкі з'яўляюцца атрыбутам аднаго з галоўных рэлігійных святаў хрысціян – дня памінання цудоўнага Уваскрасення раскрыжаванага на крыжы Ісуса Хрыста.

[101] Жартаўлівая гульня слоў і геаграфічных паняццяў: *огеркі* – відаць, наўмысна скажонае ўкраінскае «огірки» ці польскае «ogyrki»; вызначэнне *хіньскі* верагодней за ўсё з'яўляецца скажоным беларускім перакладам з польскага «chiński», што значыць «кітайскія».

[102] a la – на манер, у стылі *(франц.)*.

[103] У чарнавым аўтографу: *Бутэрброды з сырам гарачыя*.

[104] У чарнавым аўтографу: *Маслины a la Арыстафанос Папасатырос*. Жартаўлівая назва маслін (любімай стравы Караткевіча) на грэчаскі манер, якая, відаць, паходзіць ад імя старажытнагрэчаскага камедыёграфа Арыстафана (466 да н. э. – 385 да н. э.). Адпаведна Папасатырас – гульнёвае вызначэнне Караткевічам прафесіі камедыёграфа: «папа сатыры» з выкарыстаннем уласцівага грэчаскім імёнам канчатка «ас».

[105] Мусіць, маецца на ўвазе Маладзечанскі раён (фальварак Вязынка былой Радашковіцкай воласці), дзе нарадзіўся Янка Купала (сапр. Луцэвіч Іван; 1882–1942) – народны паэт Беларусі (1925); класік беларускай літаратуры.

[106] І гэтак далей, і гэтак далей *(лац.)*.

[107] Фразеалагізм, які азначае: адысці з гэтага свету на той. Абрам – усечаная форма старажытнаяўрэйскага імя Аўраам. Упершыню сустракаецца ў Старым Запавеце.

[108] Па сведчанні сяброў, Р. Барадулін меў звычку спазняцца, аднак умеў куды хочаш і адкуль хочаш дазваніцца, і гэта ў той час, калі мабільных тэлефонаў яшчэ не было. Так, да прыкладу, паэт Г. Бураўкін прыгадваў, што ўпершыню пачуў гэта ад сябра, калі павінен быў адбыцца запіс на Беларускім радыё з удзелам народных артыстаў СССР Г. Глебава і Б. Платонава, аднак Барадулін спазняўся. У адчаі Бураўкін патэлефанаваў у рэдакцыю часопіса «Бярозка», не спадзеючыся, што хтосьці здыме трубку, але да тэлефона падышоў Барадулін. Бураўкін быў у жаху, аднак сябар супакоіў: «Не хвалюйся, я ўжо ў аўтобусе еду!». «Гэта было так нечакана і смешна, што я распавядаў пра гэта знаёмым, – прыгадваў Г. Бураўкін. – Усе смяяліся, бо ўявіць аўтобус з тэлефонам ніхто не мог». Гэтая жартаўлівая фраза, якая выпадкова вырвалася тады ў Барадуліна, стала прымаўкай як у яго самога, так і ў ягоных сяброў.

[109] 28 лютага 1983 г. памерлі жонка Караткевіча Валянціна Браніславаўна і родная цётка па матчынай лініі Яўгенія Васільеўна Грынкевіч.

[110] Немагчыма высветліць, што меў на ўвазе У. Караткевіч. Верагодна, размова ідзе пра артыкул, які быў замоўлены ў выдавецтве «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі», дзе ў той час працавала Валянціна Барадуліна.

[111] Відаць, маецца на ўвазе паэтычны зборнік «Быў. Ёсць. Буду», які выйшаў ужо пасля смерці У. Караткевіча – у 1986 г. Аўтарам прадмовы і ўкладальнікам быў Р. Барадулін.

Адам Глобус



...свабода значна больш каштоўная ў мастацтве і ў жыцці за ўсе званні, пасады і ўзнагароды...

# Кастусь

***Словы пра кніжнага графіка Кастуся Шаранговіча***

**Знешнасць**

Кастусь Шаранговіч меў ад прыроды шляхетную знешнасць. Глядзіш на яго і бачыш: у чалавека ўсё добра, усё на сваім месцы, усё ўраўнаважана. Такім зайздросцяць, бо ёсць чаму зайздросціць. Да шляхетнай знешнасці Кастуся дадавалася яшчэ яго добразычлівасць. Прынамсі, так – добразычліва – ён ставіўся да маладзейшых за сябе мастакоў. Яго гумар меў мяккасць, яго жарты не праціналі наскрозь, яны наносілі адно лёгкія і трапныя ўколы. Кастусь заўсёды знаходзіўся пад надзейнай аховай старэйшага брата Васіля, і ў гэтым яму пашанцавала. Яшчэ варта сказаць, што Кастусь Шаранговіч падабаўся відным жанчынам. Дакладней, ён падабаўся самым розным жанчынам, але побач з Кастусём я бачыў толькі відных і эфектных жанчын, такіх, якім прырода таксама падаравала знешнасць шляхцянак.

**Проста так**



*«Дзяўчына». 1988 год. Папера, туш. Малюнак для кнігі «Казкі ў сучасных запісах» з серыі «Беларуская народная творчасць».*

Пытаюся ў Кастуся Шаранговіча: «Чаму ты не малюеш?» – «Няма замоў, кнігі змяніліся, на выставах ніхто нічога не купляе... Сэнсу не бачу, каб засесці і пачаць маляваць... Няма больш матывацыі...» – Кастусь усміхнуўся, але мінорнасць захавалася на ягоным твары. «Малюй проста так, малюй для сябе, малюй, бо ты ж умееш... Столькі людзей навокал малююць, зусім не ўмеючы гэта рабіць. Яны малююць, спадзеючыся, што яшчэ навучацца добра маляваць. Яны не навучацца, а ты навучыўся. Ты выдатны малявальшчык – і чамусьці не малюеш... Гэта ж няправільна. Нельга талент у зямлю закопваць». – «Не пераканаў. Ведаеш, мне і сапраўды падабалася маляваць, калі я дакладна ведаў, куды і нашто малюю. Замовілі акварэль у часопіс «Бярозка» – я сеў і зрабіў яе. Папрасілі аздобіць кніжку беларускіх казак – прыходжу ў майстэрню, пачынаю чытаць казкі і рабіць накіды ілюстрацый. Маляваць проста так і за проста так – не для мяне... Я лепш у гэты час у кафэ з жанчынай схаджу, у горадзе пагуляю ці наведаю батанічны сад... Мне так лепш».

Пэўна, сярод мастакоў і малявальшчыкаў толькі ад Кастуся Шаранговіча я чуў, што ён не хоча маляваць проста так.

**Вуліца**

У розных мастакоў розныя ўзаемаадносіны з люднай вуліцай. Адны могуць прыйсці на бульвар, сесці на лаўку і пачаць маляваць партрэты з натуры за невялікія грошы. А другія не могуць, бо для малявання на бульварнай лаўцы патрэбны пэўныя здольнасці... Маляваць ты мусіш хутка. Малюнак павінен мець падабенства з арыгіналам, няхай гэта будзе шаржыраванае падабенства, але без яго ніяк. Пакуль малюеш, табе яшчэ трэба аджартоўвацца ад прыдзірлівых крытыкаў, якія пазіраюць на тваю працу з-за спіны і балбочуць над вухам. Ператварыць пісанне партрэта ў невялічкі вясёлы перформанс – найпершая задача вулічнага мастака.

З тых маіх знаёмых малявальшчыкаў, хто з усімі гэтымі задачамі спраўляўся на выдатна, найлепшым быў Кастусь Шаранговіч. Спатрэбіліся грошы – няма праблемы! Ён выходзіў на вуліцу і маляваў партрэты. Хутка, упэўненай рукой, з выразным падабенствам, з характарам... Ён маляваў партрэты дзеля радасці... Светлы талент.

**Востры малюнак**

Вострае і экспрэсіўнае маляванне запачаткаваў Ван Гог. За ім вострыя малюнкі пачалі рабіць многія, але найбольш удала яны атрымліваліся ў Пікаса і Гутуза. Услед за вялікімі майстрамі вострае маляванне пачала шырока выкарыстоўваць і школа беларускай станковай і кніжнай графікі. Самымі выбітнымі вострымі

малявальшчыкамі ў гэтай школе варта лічыць Арлена Кашкурэвіча і Віктара Александровіча. Калі пра Кашкурэвіча шмат сказана і напісана, дык пра Віктара Александровіча – зусім мала. Няшмат сказана і пра вострыя малюнкі Кастуся Шаранговіча.

Кастусь акрамя вастрыні надаваў малюнкам лірычны настрой. Асобныя малюнкі Шаранговіча працягваюць эратызм яшчэ аднаго знакамітага майстра вострага малявання – Эгана Шыле. Я перакананы, што рана ці позна ў Мінску з'явіцца прывабны музей густоўнай эротыкі – і вострыя сексуальныя малюнкі Кастуся Шаранговіча зоймуць у ім пачэснае месца.



*«Заяц». 1983 год. Папера, акварэль. Малюнак на вокладку кнігі «Казкі беларускіх пісьменнікаў».*

## Казкі

Што-што, а казкі мы, беларусы, вельмі любім. Расказваем, пішам, збіраем у акадэмічныя серыі, выдаём для дзяцей з вясёлкавымі і запамінальнымі малюнкамі найлепшых майстроў кніжнай ілюстрацыі, на казачныя сюжэты мы здымаем кіно і мультфільмы. Адпаведна, вакол гэтай знітаванай з казкамі справы фарміруецца досыць вялікае кола з навукоўцаў, пісьменнікаў, выдаўцоў, мультыплікатараў і графікаў. У гэтым коле акрамя звычайных сумленных працаўнікоў ёсць і зоркі. У мультыплікацыі – Тумеля, у кніжнай ілюстрацыі – Славук і Татарнікаў, у навуцы – Васілевіч, Кабашнікаў і Барташэвіч...

Адной з такіх зорак быў і мастак Кастусь Шаранговіч. Яго казачныя сланы і буслы, лісічкі і анёлы, дзяўчаты і мальцы заўсёды радавалі дзяцей і дарослых. Дзяцей, што выпісвалі часопіс «Бярозка», і дарослых, якія чыталі «Казкі ў сучасных запісах» з акадэмічнай серыі «Беларуская народная творчасць».

Кастусь Шаранговіч выдатна адчуваў прыроду ўласных мастакоўскіх здольнасцей, а таму большасць яго твораў знітавана з прозай для падлеткаў і з казкамі.

## Свабода

Некалі скульптар Вова Жбанаў патрапіў у кампанію бандытаў. Галоўны спытаў у яго, хто ён і што можа. Жбанаў адказаў, што ўмее добра ляпіць з пластыліну і можа намаляваць любую рэч. Галоўны даў скульптару шарыкавую ручку і папрасіў намаляваць голую бабу на яго руцэ. Вова выканаў пажаданне галоўнага і атрымаў узнагароду – поўную шклянку моцнага віна...

Гэтая гісторыя са Жбанавым успомнілася мне, калі я разглядаў малюнкі Кастуся Шаранговіча. Я глядзеў на зубатага зайца, якога намаляваў Кастусь, і думаў. Ён мог намаляваць усё, што толькі заманецца. Мог казачнага зайца, хітрахвостую лісу, вастрарогую карову, мышанятка, коціка-абармоціка, вожыка, кепку, хлопчыка з вудай, рыбіну ў слоіку, партызана ў кажуху, каток з хакеістамі, начны горад, лес над возерам, райскія яблыкі... Кастусь Шаранговіч маляваў самыя неверагодныя

рэчы... Былі ў яго малюнкі інтымныя, якія ён паказваў толькі самым блізкім. Менавіта гэтыя малюнкі ды накіды падаюцца мне самымі каштоўнымі, бо ў іх ёсць свабода і яны даводзяць свету, што мастак – самая свабодная прафесія ў свеце.



*Аўтапартрэт. 2006 год.*

**Зіма**

Дастаткова адным вокам зірнуць на акварэлі Кастуся, каб зрабіць выснову: зіму ён любіў больш, чым лета. Нават яго малюнкі алоўкам і літаграфіі з афортамі нечым падобныя на ўзоры марозу на шыбе. Нават у яго летніх краявідах на рэчках і азёрах можна пабачыць лёд. Гэта ўсё натуральна, бо чалавек шануе тую пару года, калі з'явіўся ў наш няспынна зменлівы свет.

Кастусь Шаранговіч нарадзіўся 4 студзеня 1956 года. Кастусь – дзіця зімы, і свае дні народзінаў ён святкаваў у заснежанай, светлай і марознай Беларусі. Менавіта пра такіх, як Кастусь, спяваецца ў песні «Хлопчык-зіма». У казцы пра Снежную каралеву ёсць падобны да Кастуся хлопчык-герой Кай, які з ільдзінак складаў і нарэшце склаў слова «вечнасць». Калі ўсіх беларускіх мастакоў падзяліць на мастакоў зімовых і летніх, дык Кастусь Шаранговіч апынецца ў цудоўнай камандзе мастакоў зімовых, дзе побач з ім стануць Мікалай Рыжы і Уладзімір Пашчасцеў, Леанід Шчамялёў і Міхаіл Савіцкі, Георгій Паплаўскі і Юрый Макараў, Анатоль Александровіч і Уладзімір Жбанаў.

**Валейбол**

Звышпатрабавальны выкладчык жывапісу і кампазіцыі Альгерд Малішэўскі кепска ставіўся да тых навучэнцаў мастацкага вучылішча, што займаліся спортам. Чамусьці больш за астатніх Малішэўскага раздражнялі футбалісты.

«Ведаеш Арлова і Дзядзюлю, тых, што на стадыёне мячык ганяюць? З іх мастакоў не атрымаецца. І футбалістаў з іх таксама не выйдзе. Мастак мусіць займацца толькі мастацтвам!» – так думаў і казаў Альгерд Адамавіч Малішэўскі. У мяне на гэты конт мелася супрацьлеглае меркаванне. Мне падабаліся Машкоў і Канчалоўскі, якія бралі ў вучні адно дужых людзей. Можаш узняць пудовую гіру? Тады і на жывапіс з малюнкам у цябе знойдуцца сілы. Так казалі і думалі Канчалоўскі і Машкоў, карціны якіх страшэнна любіў і Малішэўскі.

Цяпер можна сказаць, што Альгерд Адамавіч памыляўся. З Дзядзюлі і Арлова атрымаліся прыстойныя мастакі і выдатныя выкладчыкі кампазіцыі і жывапісу. Што да спартыўных заняткаў, дык шмат хто з маіх знаёмых мастакоў любіў спорт і займаўся ім. Скульптары Сарока і Палякоў трапна стралялі з лука. Луцэвіч і Хацкевіч старанна займаліся каратэ. Кастусь Шаранговіч, дзеля якога і пішацца гэты тэкст, любіў валейбол. У валейбол Кастусь гуляў разам з Сяргеем Грыневічам і Віктарам Ярэськам. Мне на валейбол не хапала росту, і скакаў я не дастаткова высока, каб паставіць блок. Таму я выбраў ранішні бег. Бегаў я з Ракіцкім і Залатухам. Апошнім часам я бегаю адзін і захоўваю павагу да ўсіх мастакоў, якія знаходзяць сілы займацца фізкультурай.

**Васіль**



*«Вершнікі». 1992 год. Малюнак да кнігі «Азербайджанскія народныя казкі».*

Так атрымалася, што Кастусь усё жыццё ішоў за сваім старэйшым братам Васілём. Праўда, Васіль у грамадскім жыцці значна больш актыўны за Кастуся. Васіль мае пасады, ён і загадчык кафедры, і рэктар акадэміі. Ён мае прэміі, званні і ўзнагароды. Ён працуе над знакавымі для дзяржавы тэмамі: Кастрычніцкая рэвалюцыя, Ленін, Айчынная вайна. Ён аздабляе сваімі ілюстрацыямі кнігі класікаў: Купалы, Маякоўскага, Міцкевіча.

У Кастуся ўсё значна больш сціплае, чым у яго брата. Ён афармляе звычайныя кнігі і часопісныя публікацыі. Працуе выкладчыкам малюнка. У яго творчасці няма знакавых для дзяржавы тэм. Таму Кастусь змог сабе дазволіць тое, што ніколі не дазваляў сабе Васіль. Кастусь Шаранговіч свабодна маляваў эротыку з голай дупай, з анусам і похвай. Маляваў жанчыну ў позе, пра якую беларусы кажуць: «Пацалуй ты мяне ў самую салодкую дзюрачку!» Кастусь – свабодны мастак; прынамсі, ён быў больш свабодным за свайго паспяховага брата Васіля. Як для мяне, дык свабода значна больш каштоўная ў мастацтве і ў жыцці за ўсе званні, пасады і ўзнагароды.

**Штурм**

На пляцы перад Домам ураду было мора народу. Зазвычай там праходзілі святочныя шэсці, а гэтым разам сабраліся абураныя людзі. Яны не жадалі жыць у гнілой імперыі з назвай СССР. Па натоўпе пайшла пагалоска, што трэба ісці на штурм. Людзі не верылі ў перамовы. Прынамсі, шмат хто не верыў у гаварыльню і меў рашучы намер выкінуць на вуліцу бяздарны ўрад разам з бяздарнымі дэпутатамі.

Калі людзі пабеглі на штурм, ім напярэймы кінулася дружына БНФ. Дружыннікі атрымалі загад ад Пазняка і ягоных памагатых: «Спыніць штурм!» Пазняк верыў, што ўлада ўжо належала яму, што ён мірным шляхам атрымае крэсла кіраўніка дзяржавы, што змены адбудуцца без крыві. Таму хлопцы з БНФ і паляцелі спыняць штурм. Асабіста мне загарадзіў дарогу Кастусь Шаранговіч. З Кастусём я разам вучыўся. Добра яго ведаў. Добра да яго ставіўся. Таму я не кінуўся біцца з ім. Так шмат хто спыніўся. Штурм захлынуўся. Свае не сталі біцца са сваімі. Гнілы парламент і гнілы ўрад засталіся сядзець у Доме ўраду і праз нейкі час выкінулі адтуль Пазняка разам з яго недальнабачнымі памагатымі.

Гэты штурм я згадаў на пахаванні Кастуся, які ўсё сваё жыццё прысвяціў беларушчыне, выкладчыцкай дзейнасці і выхаванню наступнікаў. Ён пражыў змястоўнае жыццё. Крыху дзіўна выглядала тое, што бэнээфаўцы не выказалі падзякі свайму члену, які ў цяжкі для партыі момант, нягледзячы ні на што, выканаў памылковы загад.

## Аўкцыёны



*«Партрэт маці». Малюнак да рамана Івана Мележа «Подых навальніцы».*

Кастусь Шаранговіч зарабляў добрыя грошы разам з Васілём Ясюком. Яны адкрылі мастацкую галерэю на галоўным сталічным праспекце. Мастакі пананеслі ім розных рознасцяў. Тады Васіль і Кастусь прапанавалі мне праводзіць у іх галерэі аўкцыёны. У гэтай вясёлай і прыбытковай справе нам дапамог міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Ён сам набываў карціны, графіку, кераміку і скульптуры для беларускіх амбасад. Ён запрашаў замежных амбасадараў, каб тыя таксама набывалі скульптуры, шкло, кераміку і жывапіс для сваіх інтэр'ераў у Беларусі. Я расхвальваў беларускае мастацтва і грукаў па трыбуне драўляным малатком. Нагрукаў я добра і сабе ў кішэню, і ў кішэні Васіля ды Кастуся. Мастакі і скульптары таксама ў крыўдзе не засталіся. Выдатна прадаваўся жывапіс Валодзі Кожуха і Валодзі Тоўсціка, палотны Леаніда Шчамялёва таксама сыходзілі хутка. Пасля паспяховых аўкцыёнаў мы ішлі ў рэстаран «На ростанях», дзе балявалі і танцавалі пад спевы Анжэлікі Ялінскай. Аднаго разу я да стомы натанцаваўся з магутнай жонкай амерыканскага амбасадара. Пазней, п'ючы каву ў кавярні «Акварыум», мы з Кастусём Шаранговічам любілі згадваць феерычныя аўкцыёны з амбасадарамі ды міністрамі.

## Лодка

Перадапошні дзень лета быў цёплы, сонечны і ціхі. Мастакі развітваліся з таварышам – Кастусём Шаранговічам. Добра, калі пахаванне праходзіць у сонечны дзень і можна ў цяжкія хвіліны бачыць светласць жыцця велічнай прыроды. Кастусь быў чалавекам добрым. Яго любілі. Ён любіў мастацтва.

За паўтара года да смерці Кастусю паставілі дыягназ «рак». Ён мужна ўспрыняў прысуд анколагаў і вырашыў упарадкаваць зямныя справы. Кастусь адрамантаваў дом і зрабіў лодку. Мастакі казалі, што лодка атрымалася проста шэдэўрам, які варта было б выставіць у музеі. Ёсць людзі, якія перад сыходам сварацца са сваякамі, высякаюць сады і бураць дамы. Яны дзейнічаюць па прынцыпе «калі не мне, дык нікому». Кастусь быў цалкам іншым, ён пакінуў нашчадкам адрамантаваны дом, малюнкі і новую лодку...

Наталля Бахановіч



…глыбінны патаемны сорам за Сваё сёння
па-ранейшаму ўласцівы беларусам…

# Мастацка-вобразнае асэнсаванне немца ў беларускай літаратуры XIX ст.

У XIX ст. нашыя продкі пачынаюць уступаць у больш шчыльныя кантакты з прадстаўнікамі заходнееўрапейскіх краін, чаму садзейнічаюць у тым ліку вынаходніцтвы – распаўсюджанне новых сродкаў перамяшчэння на адлегласці. Вышэйшае саслоўе часцей камунікуе з еўрапейцамі, таму што мае магчымасць ездзіць за мяжу з мэтай навучання, лячэння ці адпачынку, дзе і назапашвае ўражанні. Але замежнікі пражываюць і на беларускай зямлі: вядуць бізнес, працуюць гувернёрамі, а таксама ў сферы пабудовы і аздаблення архітэктурных аб'ектаў, фарміравання палацавых інтэр'ераў і садова-паркавых ансамбляў; па-ранейшаму запатрабаванымі застаюцца замежныя дактары, якія здаўна служаць пры двары беларускай магнатэрыі. І ўсё ж магчымасці сялян у спазнанні Іншага больш сціплыя з-за абмежаванасці перамяшчэння ў прасторы і меншага сутыкнення ў справах, таму нярэдка абмяжоўваюцца чуткамі. Але аднолькава для ўсіх прадстаўнікі другога свету – неардынарная з'ява ў беларускай рэчаіснасці: яны звяртаюць на сябе ўвагу

з-за адрознасці ў знешнасці, адзенні, мове, звычках, паводзінах, светапоглядзе. Павелічэнне цікавасці да прадстаўнікоў замежжа, што выявілася і ў мастацтве слова, – заканамернае наступства росту свядомасці і самасвядомасці беларускага народа ў кантэксце працэсаў этнанацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

У галерэі іншаземцаў, прадстаўленай у шматмоўнай літаратуры Беларусі XIX ст., адным з найбольш распаўсюджаных з'яўляецца аблічча прадстаўніка нямецкага народа, ці прусака, – такія этнонімы фігуруюць у творах. Памятаючы гістарычны вопыт узаемадзеяння, аўтары называюць насельнікаў Нямеччыны тэўтонцамі і, яшчэ радзей, крыжакамі. Параўнальна высокая частотнасць вобраза немца заканамерная: у недалёкія рэчпаспалітаўскія часы ён быў геаграфічным суседам, а затым частка тэрыторыі Кароны Польскай увогуле ўвайшла ў межы яго дзяржавы.

***

Як паказваюць мастацкія творы, для сялянства тыповае атаясамленне немца з нячыстай сілай па знешніх прыкметах. У рамане "Пан Падстоліц" Э. Масальскага Кацярына на пытанне стральца пра тое, як выглядаў д'ябал, які так напужаў Дароту падчас вяртання з паншчыны, упэўнена адказвае: "*Звычайна, як немец*" [13, с. 16.]. У паэме "Пані Твардоўская" вобраз чорта надзелены ўсімі атрыбутамі гэтага персанажа, але яго знешні выгляд усё роўна параўноўваецца з прадстаўніком нямецкага народа. Чорт з'яўляецца ў абліччы казла з рагамі, затым пераўвасабляецца ў немца, і толькі пасля гэтага чытач бачыць перад сабою непасрэдна служку Д'ябла такім, якім ён звычайна паўстае ў вуснай народнай творчасці:

*Уюн уцёк. Казёл з рагамі*
*Вынырнуў са шклянкі.*
*Бэкнуў, як чартоў радзімец,*
*Пагуляў, кудлаты,*
*Скочыў ў комін; тут зірк – немец*
*Стаіць сярод хаты!*
*Нос карчомкам, лыч свінячы,*
*Карк шарсцінню крыты,*
*Кур'і ножкі, хвост сабачы,*
*Рожкі стоцьма ўбіты.*
*Круць нагамі, верць вачамі,*
*Ў пояс пакланіўся...*

[10, с. 1053]

Проза Я. Баршчэўскага фіксуе ў знешнім выглядзе нячыстай сілы, якая можа паўставаць у якім заўгодна абліччы, уласцівыя немцам атрыбуты. У "Шляхціцы Завальні" апісваецца госць з інфернальнай прасторы, якога бачаць у карчме: "*Адзін падняўся, выйшаў на ганак і дзіўнае бачыць: велізарны певень на высокіх, як у жорава нагах, у нямецкай вопратцы і капелюшы пяе, седзячы на драбіне*" [2, с. 155]. Іншаземнае, а ў дадзеным выпадку менавіта нямецкае, убранне традыцыйна дае падставу ідэнтыфікаваць каго б там ні было як Чужога, які змушае напружыцца, таму што патэнцыяльна ўтрымлівае ў сабе пагрозу. Да аналагічных высноў прыходзіць даследчыца этнічнага самавобраза беларусаў на матэрыяле народных казак Ю. Чарняўская: "У вобразах чужынцаў магутна выяўлена нечалавечая – звярыная і замагільная сутнасць" [20, с. 99]. Згаданага жывёльнага персанажа ў рамане на фальклорнай глебе героі прымаюць за шатана, што было тыповым для тагачаснага сялянскага ўспрымання свету.

У творы "Хцівец і скарб на Святога Яна" Ф. Багушэвіча перад героем, які прагне ўзбагаціцца лёгкім шляхам, паўстае гатовы да дапамогі за плату ў выглядзе

чалавечай душы інфернальны персанаж – чорт. Паказальна, што далей, апавядаючы гісторыю набыцця і страты багацця, аўтар у вершы называе гэтую “давераную асобу” канатацыйна афарбавана – “немчыкам”. Яго вопратка нетыповая для мясцовага насельніцтва і выклікае асацыяцыі з убраннем немца ці габрэя:

*Калі раз пад вечар вылазе чорт са студні!*
*Опратка нямецка, спераду курдата,*
*Капялюх высокі, як жыд носе ў свята,*
*Портачкі як дудкі, сам якісь цыбаты,*
*І шкляныя вочы, ззаду хвост куртаты...*

[1, с. 40]

Прыведзеныя прыклады з твораў Э. Масальскага, Я. Баршчэўскага, Ф. Багушэвіча, а таксама невядомага аўтарства, сведчаць, што вопратка выступала апазнавальнай прыкметай Іншага. Пры гэтым яна не была падставай для адмаўлення, але вымушала мясцовага чалавека станавіцца ўважлівым і асцярожным. Прыведзеныя падабенствы ў апісанні знешасці іншаземца нямецкага паходжання з фігурамі інфернальнага свету дазваляюць гаварыць пра дэманізацыю гэтага этнасу ў шматмоўнай літаратуры Беларусі акрэсленага перыяду.

Наступнай адметнасцю пазіцыявання немца ў мастацкіх творах выступае тое, што яго, як і габрэя, літаратары робяць вінаватым у спойванні мясцовага насельніцтва. Слабыя алкагольныя напоі (піва, пітны мёд, віно) здаўна былі ва ўжытку беларусаў і літвінаў, але сапраўдная згуба – моцныя вадкасці – лічыліся перанятымі ад іншых народаў. В. Каратынскі ў паэме “Выпіў Куба да Якуба”, не забываючыся на даўнія ваенныя наступленні немцаў на беларускі народ, паказвае, што распаўсюджвальнікамі гарэлкі на нашых землях зноў жа становяцца менавіта яны:

*Д’ябал схлусіць, немец злепіць,*
*А за ўсё плаціць нам трэба.*
*(...)*
*А яны жывуць адно тым,*
*Як свае сябры камраты:*
*Немцам чорт даў порах, потым*
*Біць Літву вучыў з гарматы;*
*Немец жа прыняў затое*
*За камрата клопат дужы*
*І зрабіў з гарэлкі зброю,*
*Каб страляць для пекла душы.*
*Што казаць! Гарох аб сцену!*
*Нам чужое як наслана:*
*З алуса ўжо здзьмулі пену,*
*Праца пчолкі занядбана.*
*А нямецкія хітросткі,*
*Быццам чэрві рунь на полі,*
*Аб’ядаюць нас да косткі,*
*Аж глядзець не хопіць болю!*

[11, с. 381]

Хоць на самой справе сітуацыя была іншай: калі ў XVII ст. збожжа ў Еўропе патаннела, стала выгадным вырабляць гарэлку ў нас, што было вялікай крыніцай прыбытку. Ёсць звесткі, што вышэйшае саслоўе ўзбагачалася за кошт продажу моцных напояў, робячы іх набыццё абавязковым для сялян. Таму “міф пра

наўмыснае спойванне беларусаў тымі ці іншымі народамі-суседзямі мае заняць пачэснае месца менавіта сярод міфаў. Што ў Рэчы Паспалітай, што ў царскай Расіі гарэлка прадукавалася агромністымі колькасцямі не для таго, каб кагосьці «вынішчыць» ці «адурманіць», але каб зарабіць грошы, атрымаўшы фантастычную выгаду" [7], – канстатуюць гісторыкі. А тое, што сітуацыю ўмелі выкарыстаць больш спрытныя прышлыя, і рабіла іх вінаватымі, асабліва ў вачах сялян.

Шэраг згадак пра немцаў прысутнічае ў паэме "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіча, напрыклад адносна ваенных судакрананняў з гэтым этнасам у далёкім мінулым. Адпаведна агульнаму духу ўслаўлення страчанага старога шляхецкага свету, успаміны маюць іранічны характар і падкрэсліваюць выдатныя баявыя здольнасці Сваіх:

*Не так у Велькапольшчы шляхта немцаў біла:*
*Які быў дух і згода, проста ўспомніць міла!*

[14, с. 121]

Ironiяй афарбаваны вобраз нямецкага князя Дынасава (*De Nassau Siegen* – рэальная асоба, рускі адмірал, добры вайсковец і авантурыст, які засведчыў свае здольнасці ў шэрагу бітваў). Войскі прыводзіць гісторыю з побыту немца ў Польшчы, як яму давялося ісці на княскае паляванне. Рэйтан забіў вялізнага звера з вялікай небяспекай для сябе, але гэта не ўразіла самазакаханага замежнага ваеннага,

*Які нібыта ў афрыканскай пушчы дзікай*
*Старога тыгра закалоў звычайнай пікай,*
*Калі аднойчы быў між неграў пасяліўся.*
*А потым тым выпадкам вельмі ўсім хваліўся.*
*У нас хадзілі на дзікоў у тую пору,*
*Рэйтан раз забіў агромную мацёру*
*З вялікай небяспекай, падпусціўшы блізка.*
*Усе дзівіліся, хвалілі, а нямчыска,*
*Той князь Дынасаў, пахвалы зусім не слухаў,*
*Пахаджваў толькі і пад нос сабе ўсё дзьмухаў...*

[14, с. 131]

Чамусьці ў якасці нямецкай, непрызнанай нашымі продкамі забаўкі пазіцыянуе А. Міцкевіч моду на люльку ды курэнне табакі, таму што гэтая звычка нібыта робіць людзей маўклівымі і замкнёнымі – адпаведна такімі бачацца самі немцы Адмаўляючы гэты ўніверсальны сімвал прымірэння варожых бакоў, паэт, калі характарызуе аднаго з герояў, у якасці прыемнай айчыннай альтэрнатывы занятку ўжывання табакі называе звычку бавіць час за апавяданнем гавэндаў ці малітваў:

*Удзень шукаў гаворкі, ноччу быў ахвочы*
*Малітвы слухаць да пазна, старыя казкі.*
*Таму вось у яго не мела люлька ласкі,*
*Як выдумка нямецкая, што чужаземчыць*
*Народ, бо перш маўчаць навучыць, потым немчыць.*
*Ён, гаварун стары, адпачываў пры мове,*
*Будзіўся ад маўчання на апошнім слове.*

[14, с. 91]

Ж. Некрашэвіч-Кароткая адзначае, што "«беларускасць» як нацыянальна рэлевантная стратэгія ў літаратуры XIX ст. паступова фарміравалася і выспявала перадусім праз наўмысную эстэтызацыю разнастайных дыскурсіўных практык"

[15, с. 66]. Сярод іх даследчыца якраз называе "вечарніцы", спевы, сяброўскія бяседы на беларускай і польскай мовах, уласцівыя культурнаму побыту продкаў.

Ідэйны змест паэмы "Пан Тадэвуш" А. Міцкевіча арыентаваны на ўзмацненне самакаштоўнасці ўсёй прасторы спрадвечнага: "Сцвярджэнню патрыятычнай ідэі падпарадкавана і культываванне традыцый у творы, супрацьпастаўленне роднага і замежнага, свайго і чужога, што закранае розныя аспекты праблемы: прыроду, адзенне, веравызнанне, менталітэт, народнае мастацтва. Народ не памірае, калі жыве яго традыцыя і свядомасць, калі існуе памяць і прадчуванне будучыні. Знаходзячыся ў эміграцыі, А. Міцкевіч разважае аб вартасці свайго і чужога, роднага і замежнага, што сталася філасофскай асновай твора. Патрэбна быць верным запаветам продкаў, ведаць, адкуль свой род, культываваць спрадвечныя традыцыі" [21, с. 30], – падкрэсліваецца даследчыкамі.

Хоць тэма адмаўлення іншаземнага будзе актуальнай на працягу ўсяго XIX ст., у творы эпоха панавання замежнага згадваецца аўтарам як паспяхова мінулая. Першы, хто прынёс дрэнны прыклад, – сын Падчашага, які ездзіў на французскай брычцы з немцам-кучарам. Служка, як і навамодны ў часы, пра якія апавядаецца, транспартны сродак, апісваецца грэбліва, з намерам выклікаць хіба што смех:

*На козлах – немец, як драўляная пачвара:*
*Панчохі на худых нагах, як тычкі ў хмелі,*
*А клямары камашаў серабром блішчэлі.*
*Каса ад парыка ў гарбайталі з прарэхай...*
*Старыя з той павозкі пырскалі ад смеху,*
*Сяляне аж хрысціліся: маўляў, па свеце*
*Венецкі чорт у швабскай гойсае карэце.*

[14, с. 13]

Шэраг характарыстык немцаў, з якімі вялікакняскім асобам даводзілася сутыкацца ці жыць побач, можна знайсці ў мастацкай прозе Ю. Крашэўскага, прысвечанай беларускай гістарычнай тэматыцы. Аўтарства заўваг пра нашчадкаў тэўтонцаў у аповесці "Апошнія хвіліны князя ваяводы" належыць самому князю. Выказванні нясуць адбітак недаверу і нежадання мець справу з гэтымі людзьмі, на што нашыя продкі ідуць хутчэй па неабходнасці, а не па ўласным жаданні. У размове са шляхціцам Глінкам Караль Станіслаў Радзівіл заўважае:

*– Кароль, Ягамосьць пруські, стрыечнік, праўда, але я ніводнаму немцу ня веру. Вялікі палітык, на блізір удае, што няма ладу як нас любіць. Але дзе ж там можа любіць авечку той, хто ёй бакі павыгрызаў! Чалавек гладкі і ветлівы, ананасамі мяне карміць заляцаўся ва Ўроцлаве, а мне лепей дай польскіх салоных гуркоў, чым прускіх ананасаў...*" [8, с. 13–14]. Герой лічыць немцаў двудушнымі і не вартымі даверу, але адзін з іх з'яўляецца яго доктарам, што было распаўсюджанай з'явай у апісаныя часы. Свайму лекару па імені Фінке стары ваявода, праўда, таксама не давярае, адмаўляючы прапанаваны тым напой: "*Ён узяў шклянку, скаштаваў ліманады, але адразу выплюнуў. Горкая, як жоўць, дайвэльдрэку немец намяшаў, цьху*" [8, с. 18–19]. Магчыма, у гэтай напружанасці ёсць і адгалосак сярэднявечнай звычкі атручваць нязручных людзей, што здзяйснялася ў тым ліку па змове забойцы са здраднікам-лекарам. Варта заўважыць, што насцярожанае стаўленне да немцаў уласціва не толькі народам Рэчы Паспалітай, але і ўсяму славянскаму свету (шмат прыкладаў знойдзецца ў рускай літаратуры XIX ст. – мастацкіх творах І. Тургенева, А. Пушкіна і інш.).

Вобраз немца-доктара прысутнічае і ў аповесці "Апошняя са слуцкіх князёўн" Ю. Крашэўскага, дзе княгіня Соф'я адчувае да чалавека, прызначанага клапаціцца пра яе здароўе, недавер. Спачатку пісьменнік пазіцыянуе іншаземца без удаклад-

нення нацыянальнасці: “*Тут адчыніліся дзверы пакоя і ўвайшоў мужчына, ужо сівы, згорблены, з кійком у руцэ, у чорным нянаскім адзенні. Гэта быў прыдворны лекар князя. Глянуўшы на яго, можна было лёгка прачытаць па твары ягоны характар. Скрыўлены твар яго ўздоўж і ўпоперак быў скрэслены маршчынамі і пабіты чырвонымі плямамі, сінімі гузакамі, белымі шрамамі. З-пад абвіслых павек няўлоўна пазіралі светлыя, амаль белыя вочы, вусны, скрыўленыя на адзін бок, надавалі яму выгляд дзівака. Нізкі лоб амаль да броваў закрывалі сівабрудныя валасы, вышэй галава была амаль што лысай, і толькі з бакоў яе там-сям закрывалі валасы таго ж колеру. Згорблены і кульгавы на адну нагу, ён абапіраўся на кій з пазалочанай ручкай. Гэта быў чужынец, які ўжо нямала гадоў пражыў у краіне, ведаў мясцовую мову, народныя звычаі, дух народа. Паслужлівы, подлы, ён падлізваўся да кожнага, рассцілаўся перад кожным, ад каго мог мець карысць. Такі быў Фрызіюш – прыдворны лекар князя. Княгіня яго не любіла; ён лячыў яе з двухгадовага ўзросту і кожны раз абяцаў, што ёй палепшае. Цяпер жа яе здароўе ўвачавідкі пагаршалася. Вось і зараз ён прыйшоў са сваёй звыклай усмешкай, з паклонам, са звыклымі абяцаннямі*” [9, с. 311]. Аблічча Фрызіюша не выклікае прыхільнасці, але ў яго знешнасці адбіваецца і ўнутранае: гэты чалавек ненавісны гераіні за няшчырасць і нават ілжывасць (аўтар не лічыць неабходным тлумачыць гэтую якасць, напрыклад, тактоўнасцю, чуласцю доктара, які да апошняй хвіліны захоўвае ў хворай надзею).

У адрозненне ад сур'ёзнага тону Ю. Крашэўскага, В. Савіч-Заблоцкі ў аповесці “Полацкая шляхта” падыходзіць да адмаўлення “нямецкасці” з гумарам: выстаўляе яе элементы падставай для смеху – падобныя настроі дэманструе патрыятычна настроеная рэчпаспалітаўская шляхта пасля паўстання Т. Касцюшкі. М. Іаскевіч даводзіць, што такі спосаб выяўлення Іншага, як прыніжэнне і абясцэньванне, якія дасягаюцца выкарыстаннем смеху, традыцыйны. У беларускай літаратуры XIX ст. з дапамогай яго здзяйсняецца ідэалізацыя мінуўшчыны і Бацькаўшчыны, а элементы паўсядзённасці “становяцца галоўнай прыладай асмяяння «чужых», што спрыяе ацэнцы іх пункту погляду як «няправільнага», прафаннага, у супрацьлегласць «сакральнай» пазіцыі «сваіх»” [6, с. 85].

Падчас вечарыны паміж героямі ўзнікае спрэчка з нагоды таго, што пан Акушка падумаў, мяркуючы па імені ды занятку, быццам шляхціц доктар Есьман Зяновіч з'яўляецца немцам. Кпіны знаходзяць выяўленне ў форме вершаванай імправізацыі:

*Беднасць з немцам тут танцуе,*
*Немец беднасць сам мардуе...*
*Скуль ты, беднасць, што за панік?*

[16, с. 161]

Гэта правакуе канфлікт, распачаты абражаным Зяновічам, які быў літвінам і продкі якога атрымалі шляхецтва за вайсковыя заслугі яшчэ ў старажытнасці: “*Таму ён пачаў біцца з Акушкам на шаблях, бо той палічыў, што яго старажытны літоўскі род паходзіў з Германіі і з асяроддзя крыжакаў, а таксама спытаў, ці не яго продкі прускія рыцары мяча, чым быццам бы нанёс абразу ліцвіну*” [16, с. 161]. У каментарыях наратар пралівае святло на сітуацыю, якая аказваецца нібыта і створанай для таго, каб паказаць даўнюю гісторыю Рэчы Паспалітай: “*Сёння свет зусім не знаёмы яшчэ з нашай гісторыяй, а таму мае скажонае ўяўленне пра Польшчу. Нават самі палякі ўжо добра не разумеюць значнасці нашай гісторыі, велічнасці цывілізацыі (жыццёвага ладу) нашых продкаў. Мы былі грамадзянамі і народам, калі яшчэ ўвесь астатні свет быў падданым (sujet, Unterthan), і таму паляк меў права ставіць сябе вышэй за тэўтонца, няхай сабе і барона, які быў наогул слугою і варварам – нямым для слова, якое ў польскім сэрцы ператвара-*

*лася ў справу*" [16, с. 161]. Непрыязнасць, абумоўленая адсутнасцю ў немцаў патрыятызму, знаходзіць выяўленне і ў афарызме "*суцішыць Польшчу – значыць знямечыць яе*" [16, с. 153], які зноў паказвае маўклівасць этнасу. У творы ўзнікае супрацьпастаўленне палякаў як свабодных, незалежных грамадзян і немцаў, у крыві якіх падданаства і служэнне.

Характарыстыка В. Савічам-Заблоцкім прадстаўнікоў нямецкага народа фарміравалася не толькі на падставе гістарычных звестак: жывучы ў Аўстра-Венгрыі і іншых еўрапейскіх краінах, ён мог назіраць за гэтым Іншым. Не падпарадкаваныя мастацкай мэце адносіны да нашчадкаў тэўтонцаў праступаюць з ліста літаратара да М. Драгаманава, дзе пішацца, што цяперашні раздор паміж Польшчай і Масквой адбываецца "к вялікай немца радасці": "Вайна гэта і раздор гэты нас, усіх славян, разслабляе, і, сказаў бы, яна нас ужо на дзве палавіны разадрала! І разадрала нас тады, калі недруг наш адпачынны, немцы, з кожным днём у магату расце" [17, с. 545]. Гістарычна гэты народ уяўляецца аўтару непрыяцелем славяншчыны, задача якой аб'яднацца і за кошт гэтай еднасці ўзмацніцца.

Аналагічна не ўласціва патрыятычнае пачуццё немцам у рамане "Абрусіцелі" Н. Ланской, якія, як і іншыя прадстаўнікі мясцовай улады, прыехалі на беларускія землі дзеля лёгкага, бесклапотнага жыцця і ўзбагачэння. Муж і жонка Бушы – "*людзі нямецкага паходжання і старога крою. Гэта была самая бязвінная пара смяротных; яны нікому не рабілі і не жадалі злога, кахалі адно аднаго, як ім запаведваў пастар, які іх вянчаў, і былі шчаслівыя. Муж служыў, са спакойным сумленнем браў асвечаны звычаем хабар, гуляў пацыху і быў падобны да прусака; жонка лекавалася, шыла новыя сукенкі, прытрымліваючыся строгай дыеты і, акрамя ўласнага болю пад дыхавіцай, не лічыла вартымі сваёй увагі ніякія падзеі на свеце. Нягледзячы на тое, што муж і жонка Бушы даўно перажылі дэмаркацыйную лінію, што аддзяляла сталы ўзрост ад надыходу старасці, яны так добра захаваліся, што з захапленнем і абавязкова адно з адным танчылі кадрылю, польку і нават галоп. Асаблівы поспех яны мелі ў галопе. Яны танчылі і ўсміхаліся, і ў танцах захаплялі сваёй весялосцю моладзь, якая амаль страціла здольнасць шчыра весяліцца*" [12, с. 627–628]. Калі ў прозе Ю. Крашэўскага, прысвечанай адлюстраванню больш даўніх часоў, немцы захавалі нацыянальны каларыт у знешнім абліччы і характары, то Н. Ланская, апісваючы іх, расстаўляе іншыя акцэнты. Яна паказвае гэтых людзей найперш як мяшчан, таму і звяртае ўвагу на чалавечыя рысы, а не этнічную спецыфіку: жывучы сярод славян, Бушы з задавальненнем пераймалі асобныя мясцовыя звычкі і танцы.

Пра асіміляванасць з мясцовым насельніцтвам даўно аселых на беларускай зямлі прадстаўнікоў гэтага этнасу гаворыць у рабоце "Жывапісная Расія" А. Кіркор: "Немцы першапачаткова ўпісаны ў Літву вялікім князем Гедымінам у XIV стагоддзі. Яны пасяліліся тут назаўсёды і даўно ўжо патанулі ў вір карэннай народнасці. Вільня асабліва мае здольнасць паглынаць чужыя нацыянальнасці. У трэцім, у чацвёртым калене застаецца ўжо толькі прозвішча, якое нагадвае нямецкае паходжанне, але прадстаўнікі яго ўжо ні аза не ведаюць па-нямецку" [4, с. 21]. Доказам зліцця з аўтахтонным насельніцтвам выступаюць сведчанні, што некаторыя з немцаў і італьянцаў прымалі ўдзел у паўстаннях 1831 і 1863–1864 гг. і нават былі пакараныя смерцю. Даследчык падкрэслівае, што немцы асабліва любяць Ковенскую губернію як памежную і пладавітую, як і іншыя замежнікі, якія ў агульнай колькасці складаюць тут болей за пятнаццаць тысяч чалавек.

Ф. Багушэвіч у вершы "Немец" развівае тэму ўзбагачэння прышлых людзей на беларуска-літоўскіх землях. Прадстаўнік аднайменнага еўрапейскага народа спачатку, толькі з'явіўшыся, выглядае даволі пасрэдна і не прыцягвае да сябе ўвагі:

*У млыне сеў немец, – якаясць абрыда,*
*Граўшы на дарогах, прыйшоў з-за граніцы,*
*Прынёс толькі торбу і ў ёй дзве скрыпіцы.*

[1, с. 32–33]

Твор апавядае гісторыю гаспадарання прыхадняў у маёнтку пасля таго, як пайшоў з жыцця яго мясцовы ўладальнік. У сюжэце гаворка вядзецца пра прадстаўнікоў трох найбольш, паводле паэта, распаўсюджаных на нашай зямлі этнасаў: рускага, немца, габрэя. У выніку блізкага сяброўства з рускім і добрай службы яму ў габрэя неўзабаве з'яўляецца камяніца ў горадзе, а гаспадаром у маёнтку становіцца той самы немец. Нягледзячы на этнічна акцэнтаваную назву, у творы абагульняюцца ўсе прадстаўнікі іншых народаў, якія жывуць на беларускай зямлі:

*Жыд панам зрабіўся, немец яшчэ большы,*
*А мужык быў голы, цяпер яшчэ гольшы!*
*Так і на гародзе: лебяда, крапіва, –*
*Толькі вырві рэпу, – дык зарастуць жыва,*
*Так як чорт насее! ото ж так і людзе:*
*Тутэйшы загіне, дык вораг прыбудзе!*

[1, с. 33]

У параўнанні змены ўладальнікаў маёнтка з тым, як месца карысных раслін на гародзе ў імгненне вока займае зелле, няма агрэсіі, аднак і немец, і габрэй, і рускі на радзіме – адназначна Чужыя і непажаданыя, як і іх дзейнасць. Героі не размяжоўваюцца па нацыянальнай прыкмеце: іх этнічныя найменні "выступаюць як кантэкстуальныя сінонімы, якія абазначаюць людзей, у аднолькавай ступені схільных да крутацельства, падману і існавання за кошт працы іншых" [5, с. 102]. Апісаная сітуацыя ўзбагачэння чужаземцаў, якое часта адбываецца ў тым ліку і за кошт аўтахтоннага насельніцтва, з'яўляецца тыповай для тагачаснай літаратуры і паўтараецца ў ананімных гутарках і іншых празаічных і вершаваных творах. Другі ўспрымаецца як навала, аднак разумная і здольная выкарыстоўваць абставіны і мясцовага чалавека ў асабістых інтарэсах. У вершы "Немец" Ф. Багушэвіч атаясамлівае прадстаўнікоў розных этнасаў і канфесій выключна на падставе іх меркантыльных намераў – прагі нажыцца, у тым ліку і непрыстойнымі спосабамі:

*А што жыд да немец – дзеці аднэй маткі:*
*І мова падобна, і адны ухваткі.*
*А абодва ласы на чужую працу,*
*І, мусіць, абодва ядуць з крэўю мацу!*
*Абодва абдурацы, абдзяруць як ліпку,*
*Адбяруць і сошку за бітую скрыпку.*

[1, с. 32]

Схільнасць сярэднестатыстычнага чалавека да негатыўных мысленчых схемаў, няздольнасць шматбакова і аналітычна падыходзіць да ацэнкі бягучых жыццёвых з'яў (у выпадку сялянства з-за неадукаванасці і агульнай нізкай культуры, шляхты – з-за закаснеласці поглядаў) прадвызначалі аблічча прышлых капіталістаў: "...дэманізацыя іншаземцаў у тагачаснай беларускай літаратуры – заканамерная рэакцыя інтэлектуальнай эліты аграрнага соцыуму на разбурэнне яго фундаментальных устояў, якая знаходзіла сваю мастацкую маніфестацыю на грунце ўжо адпрацаваных і засвоеных шырокай народнай свядомасцю ўзораў" [3, с. 43]. У дадзеным выпадку гаворка ідзе пра паралелі не столькі з інфернальным паходжан-

нем прадстаўнікоў нямецкага народа, колькі пра іх надзвычайныя, нечалавечыя ўласцівасці ў тым, што датычыць фінансавай паспяховасці.

Тэму валадарання Іншага працягвае ананімны твор "Пра багацтва ды беднасць", у якім ажыццяўляецца выхад за межы трывіяльнай эмацыянальнасці ў выяўленні непрыязнасці да іншаземца і спроба выявіць прычыны несправядлівага грамадскага ўладкавання. У цэнтры знаходзяцца двое рабочых, кожны з якіх расказвае сваю гісторыю, як ён апынуўся на зніштажальнай працы – пабудове чыгункі. Гэтая дзейнасць за кароткі прамежак часу здольная зрабіць маладых людзей падобнымі да старых, але ён неадпаведна рызыцы аплочваецца. Костусь сюды трапіў пасля таго, як поп і ксёндз, згаварыўшыся, пазбавілі яго пасады настаўніка ў вясковай школе, таму што пазайздросцілі прыроднаму ўменню хлопца спраўляцца з работай. Дзед Карпо апынуўся на пабудове чыгункі збяднеўшы, калі яго гаспадарка не магла забяспечваць нармальныя ўмовы існавання.

Героі падрабязна раскрываюць сваё бачанне механізмаў давядзення сялянства да беднасці. Негатыўнымі персанажамі становяцца прадстаўнікі дзвюх варожых у дачыненні да нашых продкаў этнічных груп. Дзед Карпо апавядае, як габрэй Лейба апярэдзіў сялян, узяўшы ў арэнду маёнтак і землі на дванаццаць гадоў, а зараз узбагачаецца, танна аплочваючы работу. Аналагічна дзейнічае немец, які наняў сялян на чыгунку: "*Напрыклад, хоць бы на гэтай жалезніцы. Я сам чуў, што немец – падрадчык нашага ўчастка жалезніцы – нішком хваліўся якімсь-то панам, што работа ў яго так добра ідзе, што як бы ён за тую плату, каторую ён нам цяпер плаціць, да наняў у два разы болей работнікаў, на тую самую работу, каторую мы робім, то й тагды б ён не лішыўся барыша*" [12, с. 9–10]. Сяляне разумеюць, што найміту плацяць тую сціплую суму, за якую ён хіба што не памірае з голаду, не зважаючы на жорсткія ўмовы жыцця, харчавання і цяжкасць працы. Выказаныя героямі думкі з'яўляюцца адгалоскам марксісцкіх ідэй, што паступова пачынаюць прыходзіць і ў мастацтва слова. Імагалагічная праблематыка праступае ў гутарцы праз вобразы двух дзяльцоў – "жыдка" і немца, чужых і небяспечных ва ўспрыманні аўтахтоннага насельніцтва. Найміты ўпэўненыя, што капітал без іх працы не прынёс бы грошай уладальніку, таму без ахвоты слухаюць яшчэ аднаго этнічна акцэнтаванага ўдзельніка сітуацыі – наглядчыка ляха, які абараняе інтарэсы наймальнікаў.

Негатыўныя адносіны да выхадца з нямецкага народа, абумоўленыя яго агрэсіўнай у дачыненні да нас палітыкай у мінулым, заўважныя ў вершаванай аповесці "Тры дачкі літвіна" ("Trzy córki litwina")[1] У. Сыракомлі. Шчаслівы бацька марыць, што абзавядзецца высакароднымі зяцямі, якія стануць яму добрымі сынамі і будуць выконваць ваенны абавязак перад радзімай. Аднак жыццё распараджаецца іначай: усіх трох дзяўчын адну за другой забіраюць з сабой выпадковыя госці, якія трапляюць у шляхецкі маёнтак пераначаваць – немец, рускі і лях. Паказаны адносіны старога літвіна да кожнага з гасцей: рускага і ляха як геаграфічных суседзяў ён сустракае з усмешкай і нават дзіцячым даверам, у параўнанні з немцам. Тут бацька вытрымлівае ўсе нормы шляхецкай гасціннасці і этыкету, але не хавае недаверу да чужаземца, таму што адчувае ўнутраную напружанасць:

*Узброены ад ног да галавы*
*Немец, рыцар крыжацкі,*
*У лясах Літвы заблукаў увечары.*

*Сэрцы злосцю задрыжалі,*
*Калі быў убачаны плашч белы,*
*З чорным крыжам, павешаным цераз плячо;*

[1] Загаловак твора і цытаты з яго падаюцца ў падрадковым перакладзе аўтара артыкула.

*Але хатняя гасціннасць*
*Святая для сэрца Літвіна:*
*– Няхай і немец хлеб з намі падзеліць.*

*Праў гасціннасці гаспадар трымаецца,*
*Мост зняты з ланцуга,*
*Запрошаны на начлег рыцар,*
*І пры піве, пры мёдзе,*
*Пры гасціннай свабодзе*
*Складзена літоўская вячэра.*

[18, с. 59]

Не выклікае станоўчай ацэнкі бацькі-войта ў гутарцы “Жменя пшаніцы” У. Сыракомлі захопленасць аднаго з сыноў нямецкім побытам. Некалі накіраваны за мяжу для пашырэння далягляду і набыцця вопыту герой, вярнуўшыся, дэманструе грэблівасць у дачыненні да сваёй сціплай нязменнай старасвецкай вопраткі:

*Надта ж мілы ў немцаў побыт,*
*Пыхі многа нечуванай,*
*Ды найболей даспадобы*
*Капялюшык і каптаны.*
*Што казаць аб світцы нашай! –*
*Крой дзівацкі, неўжываны,*
*І відно, што гарапашны.*
*Кройма світкі на каптаны!*
*Саламяны капялюшык –*
*Ад прыгону ўбор для хлопа!*
*Вось у немцаў, кажуць, слушна,*
*Сапраўды значна Еўропа!*

[18, с. 157–158]

У прыведзенай сітуацыі прысутнічае ініцыяцыйны момант выпрабавання чалавека – у дадзеным выпадку замежным, якое толькі знешне прыгажэйшае і лепшае. Абавязковым сведчаннем паспяховасці пройдзенага пасвячэння ў гутарцы У. Сыракомлі выступае асэнсаванне неабвержнай самакаштоўнасці свайго:

*Войт гаворыць з хваляваннем:*
*– Ў дурня дрэнныя навіны!*
*Хто нямецкае убранне*
*Прапануе славяніну,*
*Той, каму чужое міла,*
*Хто аб шапцы з лямцу марыць,*
*Каму вочы засляпіла,*
*Лічыць брыль свой не да твару,*
*Хай страі чужыя носіць,*
*Хай здароў заплюшчыць вочы:*
*Летам пот яго заросіць,*
*А пад восень дождж прамочыць!*
*Тройчы дурань той зухвалец,*
*Хто хапае спеў нinfinity*
*З ніў чужых і потым хваліць*
*Дух тутэйшы ў песні збродны.*
*Хто ганьбуе грунт бацькоўскі,*
*За чужой сягае зоркай,*
*Той не дасць ані для вёскі,*
*Як Васіль і як Рыгорка.*

[18, с. 159–160]

Толькі трэці сын, знаходзячыся на чужыне, дбае пра тое, што запазычыць у Іншага, каб палепшыць Бацькаўшчыну не на ўзроўні знешняга, а сутнасна, таму і паказвае прывезеную з украінскай старонкі жменю ўрадлівай пшаніцы. Ён і атрымоўвае пасаду войта – становіцца на бацькава месца як найбольш варты сярод братоў.

Глыбінны патаемны сорам за Сваё сёння па-ранейшаму ўласцівы беларусам і праяўляецца ў ганьбаванні і нават адмаўленні айчыннага і прыхільнасці да выкарыстання атрыбутаў Чужога. Гэта знаходзіць выяўленне ва ўжыванні іншамоўных найменняў для мясцовай прадукцыі, што апраўдваецца імкненнем выйсці ў міжнародную гандлёвую прастору, але на самой справе паказвае комплекс нацыянальнай непаўнавартасці. "Жменя пшаніцы" У. Сыракомлі па-ранейшаму актуальная, таму што паказвае, як па меры росту свядомасці і самасвядомасці ўсё больш важным павінна станавіцца пытанне асэнсаванага запазычання ў розных народаў і краін, немагчымага без аб'ектыўнага стаўлення да Іншага – яго цэласнага ўспрымання з улікам як вартасцяў, так і непазбежных недахопаў.

Узорам такой сталасці ў пытаннях асэнсавання вопыту еўрапейскага народа становяцца асоба і творчасць Э. Масальскага, арыентаванага на паляпшэнне сферы эканамічнага гаспадарання на беларускіх землях. У падрабязных каментарыях да рамана "Пан Падстоліц" пісьменнік называе тое ў жыцці замежнікаў, у выкарыстанні чаго ён бачыць перспектыву для Бацькаўшчыны. На старонках твора апавядаецца пра жыццё нямецкіх мяшчанак, якія ні ў чым не хочуць адставаць ад шляхецкіх сяброўак: "*Калі я быў у Нямеччыне, дык амаль у кожнай сям'і бачыў, што дамы занятыя карыснаю працаю, адпаведнай іхняму стану. У лепшых дамах, асабліва ў Саксоніі, бачыў я цудоўныя механічныя ткацкія варштацікі, на якіх дамы без ніякага высілку выраблялі цудоўныя матэрыі – ядвабныя альбо баваўняныя – стужкі, карункі, тонкае палатно, батысты ды іншыя патрэбныя рэчы, якія заўсёды карысныя для дому, а для іх – прыемнае бавленне часу*" [13, с. 158]. Аднак рэакцыя мясцовых мяшчанак на гэта адмоўная: яны баяцца быць падобнымі да прачак ці кухарак і хіба што з жахам бачаць сябе за ткацтвам. Праца ўсё яшчэ ўяўляецца заняткам для беднаты – сялянства, а прыгожая палова грамадства лічыць мэтазгодным болей сачыць за модай, чым за гаспадаркай. У гэтым, паводле пісьменніка, заключана адна з прычын паўсюднага збяднення і шляхецкага, і сялянскага насельніцтва на радзіме. Э. Масальскі не характарызуе немцаў як этнас, але з прыведзеных прыкладаў напрошваюцца высновы, што гэты народ разумнейшы за беларускі і можа пахваліцца адметнай культурай жыцця і побыту, таму ў яго можна і варта павучыцца.

Вытокі "разумнасці" палягаюць у значна большай адукаванасці: П. Церашковіч гаворыць пра "найвышэйшы ўзровень пісьменнасці нямецкай суполкі сярод усіх этнічных груп Беларусі – 60,6 %" [19, с. 148]. Уяўленні продкаў пра гэта можна знайсці ў апавяданнях зборніка "Рассказы на белорусском наречии", хоць ён у літаратуразнаўстве і лічыцца вынікам сацыяльнай замовы. У размове старасты Янкі з братчыкам Хвядосам прыводзяцца станоўчыя прыклады з жыцця немцаў, каб стымуляваць адукацыю сялянскіх дзяцей. Герой Янка гаворыць пра ўласцівую немцам прагу асветы, пад уплывам якой яны кожную магчымасць выкарыстоўваюць для навучання: "*А, напрыклад, немцы – тыя і ў поле ходзяць з кніжкамі; хлопец валы паводзіць, бацька арэ і разам чытае, палажыўшы кніжку на плузе. От як! І знаюць яны з кніжак многа чаго добрага: як скаціну ад памору, збожжа ад кратоў ратаваці; як ніву лепш узараці, у яку пору што лепш пасеяці – гаспадары яны хоць куды!*" [11, с. 586–587]. Другі ўдзельнік дыялогу Хвядос адразу падае свой контраргумент пра кардынальную розніцу паміж народамі: "*Ну, немец! Немец шчэ з калыскі ахвотны да навукі: такі ўжо ён удаўся заморскі. А наш мужык што?*" [11, с. 586–587]. Чалавек усведамляе і гістарычную, і

эканамічную, і светапоглядную розніцу паміж Сабой і Іншым – жыхаром больш развітых краін, якая ўяўляецца яму цяжка дасягальнай для пераадолення. Гэта адрозненне і прывяло да той сітуацыі, якую на фоне ўзроўню развіцця еўрапейцаў тады справядліва можна было назваць крытычнай.

***

Часта ў мастацкіх творах, асабліва прызначаных для сялянства ці створаных у яго асяроддзі прадстаўнік нямецкага народа выступае збіральным дэманічным варожным вобразам замежніка, з дзейнасцю якога звязваецца штосьці негатыўнае – адсюль асацыяцыі з нячыстай сілай (Э. Масальскі, Я. Баршчэўскі, "Пані Твардоўская"). Прадстаўнік гэтай этнічнай групы ў адным шэрагу з габрэем папракаецца ў спойванні мясцовага насельніцтва на той падставе, што яны ўтрымліваюць корчмы ды шынкі (Ф. Багушэвіч). Немец абвінавачваецца ва ўзбагачэнні за кошт ажыццяўлення шырокай прадпрымальніцкай дзейнасці на нашай зямлі, часта за кошт прыгнёту аўтахтоннага насельніцтва (В. Каратынскі, Ф. Багушэвіч).

Немцы ўяўляюцца маўклівымі людзьмі, з чым звязваецца іх звычка паліць люльку (А. Міцкевіч), і тое, што, у параўнанні са свабодным беларускім народам, у тэўтонцах жывы дух падданства і прыстасавальніцтва (В. Савіч-Заблоцкі). Карыстаючыся паслугамі немцаў, мясцовая шляхта ўсё ж ставіцца да іх з недаверам: прычынай агульнай напружанасці ў адносінах часта з'яўляюцца зафіксаваныя ў калектыўнай памяці падзеі гісторыі – узброеныя напады крыжакоў на беларускія землі (У. Сыракомля, Ю. Крашэўскі). Не забываючыся пра непрыемнае мінулае, нашыя продкі ўсведамляюць перавагу нямецкага народа ў тым, што датычыць культуры, адукацыі і арганізацыі побыту розных сацыяльных слаёў ("Рассказы на белорусском наречии"), як і надзённую патрэбу ў гэтага этнасу павучыцца – пераняць добрае і станоўчае (Н. Ланская, Э. Масальскі). Такі падыход да Іншага сведчыць пра паступовае эвалюцыянаванне свядомасці тагачаснага чалавека: працэсы этнанацыянальнай самаідэнтыфікацыі, якія з'яўляецца неабходнай прыступкай асобаснага станаўлення і асобнага чалавека і цэлага народа, дазваляюць яму ўявіць, па-першае, сваю адрознасць, па-другое, вартасць.

Л і т а р а т у р а:

1. Багушэвіч, Ф. Творы : вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты / Ф. Багушэвіч ; уклад., прадм. Я. Янушкевіча ; камент. У. Содаля, Я. Янушкевіча. – Мінск : Маст. літ., 1991. – 309 с.

2. Баршчэўскі, Я. Выбраныя творы / Я. Баршчэўскі ; уклад., прадм., камент. М. Хаўстовіча. – Мінск : Беларус. кнігазбор, 1998. – 480 с.

3. Даніленка, С.І. Адзін з сялянскіх этнічных стэрэатыпаў беларускай літаратуры XIX – пачатку XX ст.: чужынец як чорт ці д'ябал / С.І. Даніленка. – Веснік Беларус. дзярж. ун-та. – Серыя 4. – 2005. – № 3. – С. 41–45.

4. Живописная Россия: отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении: Литовское и Белорусское Полесье. – Минск, 1994. – 550 с. (Репринт. воспроизведение изд. 1882 г.)

5. Запрудскі, І.М. Гісторыя беларускай літаратуры другой паловы XIX стагоддзя: асобы і творчыя лёсы : вучэб.-метад. дапам. / І.М. Запрудскі. – Мінск : Беларус. дзярж. ун-т, 2018. – 167 с.

6. Иоскевич, М.М. Социальный миф и повседневность в белорусской прозе советского периода / М.М. Иоскевич. – Минск : Беларус. навука, 2021. – 301 с.

7. Кіркевіч, А. Гарэлка як фактар падзення Рэчы Паспалітай [Электронны рэсурс] / А. Кіркевіч, А. Вашкевіч // Новы час онлайн. – Рэжым доступу : https://novychas.by/poviaz/harelka-jak-faktar. – Дата доступу : 22.12.21.

8. Крашэўскі, Ю. Апошнія хвіліны князя ваяводы (Пане Каханку) / Ю. Крашэўскі ; пер. з польск. мовы В. Сёмухі [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : https://szlachta.io.ua/s287957/yuzaf_krasheski_-_aposhniya_hviliny_knyazya_vayavody_pane_kahanku. – Дата доступу : 14.12.2021.

9. Крашэўскі, Ю. Кароль у Нясвіжы. 1784 ; Апошняя са слуцкіх князёўн : гістарычныя аповесці / Ю.І. Крашэўскі ; пер. з пол. мовы, прадм. і камент. М. Кенькі. – Мінск : Маст. літ., 2009. – 335 с.

10. Літаратура першай паловы XIX стагоддзя ; уклад. і камен. М.В. Хаўстовіча ; навук. рэд. С.Л. Гаранін. – Мінск : Маст. літ., 2012. – 1086 с. (Залатая калекцыя беларус. літ. ; т. 3)

11. Літаратура другой паловы XIX стагоддзя : у 2-х ч. – Ч. 1 ; уклад. Л.Г. Кісялёвай, Н.М. Сенкевіч ; каментары Л.Г. Кісялёвай ; навук. рэд. С.Л. Гаранін. – Мінск : Маст. літ., 2013. – 847 с. (Залатая калекцыя беларус. літ. ; т. 4)

12. Літаратура другой паловы XIX стагоддзя : у 2-х ч. – Ч. 2 ; уклад. Л.Г. Кісялёвай, Н.М. Сенкевіч ; навук. рэд. С.Л. Гаранін. – Мінск : Маст. літ., 2013. – 807 с. (Залатая калекцыя беларус. літ. ; т. 5)

13. Масальскі, Э.Т. Пан Падстоліц, альбо Чым мы ёсць і чым быць можам : раман / Э.Т. Масальскі ; Kat. Białoruth. Uniw. Warsz. – Warszawa : SOWA Sp. z o.o., 2015. – 384 с.

14. Міцкевіч, А. Пан Тадэвуш ; пер. П. Бітэля / А. Міцкевіч // Беларуская палічка. Беларуская электронная бібліятэка [Электронны рэсурс]. – Рэжым доступу : https://knihi.com/Adam_Mickievic/Pan_Tadevus_Bitel.html. – Дата доступу : 16.05.2020.

15. Некрашэвіч-Кароткая, Ж.В. Беларусь як культурная прастора і еўрапейскі літаратурны працэс XVI–XIX стст. : дапаможнік / Ж.В. Некрашэвіч-Кароткая ; Беларус. дзяр. ун-т. – Мінск : БДУ, 2020. – 211 с.

16. Савіч-Заблоцкі, В. Арлалёты і Падканвойны, або Полацкая шляхта / В. Савіч-Заблоцкі // Полымя. – 2004. – № 1. – С. 124–164 ; № 3. – С. 68–111 ; № 4. – С. 134–159 ; №6. – С. 155–180.

17. Савіч-Заблоцкі, В. Пісьмы да Міхайлы Драгаманава // Заняпад і адраджэнне. Беларуская літаратура XIX ст. – Мінск : Маст. літ., 2001. – С. 542–556.

18. Сыракомля, У. Выбраныя творы / У. Сыракомля ; уклад., прадм., камент. К. Цвіркі. – Мінск : Беларус. навука, 2010. – 584 с. (Беларус. кнігазбор : Серыя 1. Маст. літ.).

19. Терешкович, П.В. Этническая история Беларуси XIX – начала XX в.: в контексте Центрально-Восточной Европы / П.В. Терешкович. – Минск : БГУ, 2004. – 223 с.

20. Чернявская, Ю.В. Белорус: штрихи к автопортрету. Этнический самообраз белоруса в сказках / Ю.В. Чернявская. – Минск : Четыре четверти, 2006. – 244 с.

21. Штэйнер, І.Ф. Гісторыя беларускай літаратуры XIX стагоддзя: вучэбны дапаможнік / І.Ф. Штэйнер, А.В. Брадзіхіна ; Мін-ва адукацыі Рэсп. Беларусь, Гомел. дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны. – Гомель : ГДУ, 2021. – 220 с.

Юрый Паталкоў



...паэзія Лявона Валасюка – шляхетная "выплата па крэдытах" сардэчнасці чалавечай...

# Талент сардэчнай удзячнасці

## *Нататкі пра кнігі Лявона Валасюка "Непрыдуманыя партрэты" і "Далёкая сядзіба"*

### Дзве палавінкі шчасця

Чалавечае шчасце складаецца з дзвюх палавінак. Першая называецца *"ты дзеля людзей"*, другая – *"людзі дзеля цябе"*. Берасцейскага мастака і літаратара Лявона Валасюка лёс багата ўзнагародзіў кожнай са згаданых палавінак. Аб гэтым сведчаць вынікі яго творчай дзейнасці. Майстар жывапісу, паэт, празаік. Як ацаніць усё зробленае ім у мастацтве? Паспрабуем... Вандроўнік у свет прыгожага мае мажлівасць у "кропельцы" створанага мастаком убачыць усё "возера" ягонага паэтычнага даробку. А ўбачыўшы – прамовіць вобразатворцы ўсхваляванае "дзякую!" Лявон Валасюк на такое "дзякую!" мае ўсе правы...

### Сыноўскае служэнне

Перш чым распавесці пра абраныя намі для размовы кнігі "Непрыдуманыя партрэты" і "Далёкая сядзіба", нагадаем па-




пярэднія працы майстра. Зборнікі вершаў “Леаніды” (2003), “Чырвоная вежа” (2002), “Познія сны” (2006), “Знакі на валуне” (2010), “Вечаровы настрой” (2016); кніжкі прозы “Сцежкі да сядзібы (абразкі маленства)” (2008), “Вяртанне Берайсцейскай Стралы”(2012); шматлікія публікацыі ў газетах ды часопісах... Дададзім яшчэ і плённыя пошукі Л. Валасюка ў выяўленчым мастацтве. Ва ўсе яго жывапісныя працы трэба ўчытвацца, ва ўсе яго слоўныя творы – углядацца.

Ці магчыма пра ўсе названыя тут кнігі абагулена выказацца ў адным слове? На нашу думку – магчыма. Вось “ключавое” слова: *сын*. Лірычны герой Валасюка адораны *талентам сына* – у самым шляхетным і выратавальным сэнсе гэтага слова. Сын сям'і, роднага краю, адвечнасці, Божай праўды. Гэтыя асобы духу прыходзяць да паэта персаніфікавана, у абліччы асобных людзей. Кожная сустрэча – непаўторная, адказная: запытальная і адказваючая адначасова... Прачытаем верш Л. Валасюка:

Дзве сініцы ля акна
Прылятаюць
Пакляваць з рукі
Дзіцяці.
*(“Леаніды”, с. 32)*

Каму і чаму лірычны герой павінен тут быць бескарысліва ўдзячным? Даверу птушынаму? Клапатлівасці дзіцяці? Дарасламу сэрцу, якое ў стане прыкмеціць адвечную велічнасць знешне будзённага імгнення? Роднай мове, якая можа выказваць найтанчэйшыя мілагучныя пералівы паэтычнага пачуцця? А мо ў гэтых радках акумулявана духоўная праграма працы мастака? Ці выказваецца тут удзячнасць Усявышняму, які з матэрыі дабрыні сваёй нястомна творыць усё новае і новае Быццё? Паэт здае экзамен на сыноўскую ўдзячнасць...

## “Мастакі Бога”

Паэзія Лявона Валасюка – шляхетная “выплата па крэдытах” сардэчнасці чалавечай. Учытаемся, угледзімся ў кнігу эсэ “Непрыдуманыя партрэты” (2014). Шаноўнаму майстру пашчасціла пабачыцца з многімі падданымі прыгажосці – мастакамі, літаратарамі, навукоўцамі, журналістамі... І гэтыя спатканні марна не прайшлі: творца шляхетна аддзячыў настаўнікам і калегам сваім: выкаваў у кузні талента свайго цудоўныя эсэ пра іх. У жыцці яны былі і ёсць рэальныя, складаныя асобы. Але ўсе персанажы ў яго кнізе – святыя, святыя таму, што робяць святую справу для людзей. У гэтай святасці – ніякіх “падмалёвак” рэчаіснасці. Папросту мудры чалавек Лявон Валасюк здолеў убачыць у кожным з прадстаўленых ім людзей сутнаснае. Нездарма кніга названая “Непрыдуманыя партрэты”. Непрыдуманыя! Тут патрэбна цытата. Георг Гегель: *“Адкрыццё ёсць змест мастацтва. І чалавек, які эстэтычна творыць, ёсць “мастак Бога”. Такая двайная пабудова “вобразаў мастацтва”.*

Дык вось, менавіта “мастакоў Бога” ўславіў у сваёй кнізе Лявон Валасюк. Не ён, а адвечны “Першааўтар” прыдумаў! Л. Валасюк жа толькі ўслед за Божай праўдаю запісаў...

Чытач безумоўна затрымае позірк на эпіграфе да кнігі партрэтаў: “...*У кожнага мастака, паэта павінна быць граніца яго незалежнасці, за якую ён не павінен нікога пускаць. Хоць для самога яго ніякіх абмежаванняў быць не павінна” (Максім Танк)*.

Эпіграф гэты – як клятва Гіпакрата: “Не нашкодзь!” Як лёгка размінуцца з

блізкім сваім (перайсці граніцу чыёйсьці незалежнасці), ды як цяжка зноўку з ім душою сустрэцца! Леанід Хведаравіч, Вашыя "Непрыдуманыя партрэты" з'явіліся ў дапамогу кожнаму з нас і – надоўга.

Пад якім знакам стваралася кніга эсэ? Нават не толькі яна, але і ўсе астатнія працы? Нарыс на старонцы 78 "Партрэтаў" названы так: *"Пад знакам прыгажосці і любові"*. Вось – галоўнае адкрыццё! Вось – бясспрэчная ацэнка! У гэтых словах – не спагадлівая метафара красамоўства, а непахісны сімвал веры, узгаданая ўжо клятва Гіпакрата, выратавальная сцяжынка густу сярод дрыгвы пошласці...

## Эмпатыя

Ёсць у Л. Валасюка выраз "Сцяжынка Айца" ("Познія сны", с. 46). Можа, у імя пракладання гэтай самай сцяжынкі працуюць у мастацтве Лявон Валасюк і яго творчыя аднадумцы... У 2018 годзе майстар перавыдаў з дапаўненнямі кнігу "Далёкая сядзіба" (абразкі маленства). Сцяжынка Айца прывяла...

Назва кнігі – квінтэсэнцыя гуманістычнага заклiку, "кропелька" "жывой вады", якая ў стане распавесці нам пра ўсё "возера". "Далёкая сядзіба" – вобраз грунтоўнай справядлівасці векавечнага быцця: родны дом, сям'я, памяць, пачатак самавыказвання сярод нямоўкнучай стыхіі жыцця. Гэтая назва – пра пісьменніка, пра мяне, пра цябе. Хто з нас не хавае ў глыбіні душы сваёй абразкі маленства?

Л. Валасюк успрымае жыццё эмпатычна. А эмпатыя, як вядома, гэта свядомае суперажыванне эмацыянальнаму стану іншых людзей, здольнасць распазнаць тое, што яны адчуваюць, і выказаць спачуванне. А што адчуваю я, чытаючы назву, пра якую размова? Ці патрэбна мне ў гэты момант спачуванне? Аказваецца – так. Сядзіба ж – далёкая! Далёкая! Назаўжды ў дзяцінстве засталася! А дарослы ўсё да цяпла мінулага цягнецца. Па-іншаму быць і не можа: пісьменнік жа – сын Быцця свайго. І гэтае пачуццё прыносіць нам пісьменнік ужо ў першых радках кнігі: *"Успаміны, як і знаёмыя пахі родных палёў і лугоў, парою наплываюць нечакана-непаўторна. Памяць, як добрая маці, вяртае мяне ў дзяцінства: не заўсёды бесклапотнае, але такое мяккае і прыемнае, што адчуваеш, як без таго далёкага часу было б цяжка і сумна зараз, праз дзясяткі гадоў" (с. 5).*

Успаміны, пахі палёў і лугоў наплываюць... Людзі дзеля цябе... "Крэдыты" сардэчнай любові... Што таленту сынаваму перад гэтай Божай чысцінёй рабіць? І – рабіць кнігу: я дзеля людзей... Л. Валасюк у сваіх нарысах аб дзяцінстве не імкнецца да простага пераказу здарэнняў. Ён ратуе! Ратуе сваю і чытача душу ад усяго таго, ад чаго бывае "цяжка і сумна". Вобраз маленства ў кнізе "Далёкая сядзіба" да святасці чысты – як і постаці творцаў у "Непрыдуманых партрэтах". І таксама няма тут прыхарошвання. Ёсць сутнасная праўда быцця. А што ж? Пад знакам прыгажосці і любові па-іншаму нельга!

Удыхнем чароўнае святло хаця б аднаго з апавяданняў. "Драўляныя канькі". Фабула тут кароткая: вясковы хлопчык з дапамогаю дзеда і бабулі зрабіў драўляныя канькі, і разам з сябрамі гойсае па лёдзе. Так, фабула кароткая, але вось сюжэт глыбокі і бязмежны... Выраб канькоў прадстаўлены падрабязна і ўрачыста. Герой апавядання сталее падчас працы. Стварэнне канькоў як стварэнне свету... Шчасце: я для людзей – і людзі да мяне... Пры апавяданні – малюнак: драўляныя канькі. Вядома: гэта ж кніга Лявона Валасюка: у яго ўсе выданні адначасова літаратурныя і жывапісныя...

## "Дзякуем!" ад рэцыпіентаў

Мы ўсе – рэцыпіенты: гледачы, чытачы... Аўтар прадстаўленых тут нататак пра творчасць Лявона Валасюка – таксама. Дык вось, ён выказвае майстру ўдзячнасць за ім зробленае і жадае творцы новых шляхетных здзяйсненняў. І не толькі ён, а і ўсе іншыя рэцыпіенты.

Ганна Крофта



...кожны знойдзе тут нешта для сябе: гумар і іронію, філасофскі падтэкст, асабістую споведзь...

# Пад крыламі паэзіі і веры

## *Рэцэнзія на кнігу Анатоля Брусевіча*

***Анатоль Брусевіч. Крылы. Вершы, паэма. Гродна: ТАА “ЮрСаПрынт”, 2021. – 208 с.***

Першыя публікацыі паэзіі Анатоля Брусевіча з’явіліся на пачатку 90-х гадоў, калі беларуская літаратура станавілася ўсё больш наватарскай, эксперыментальнай і калі вярталася спадчына дасавецкага перыяду разам з адпаведнымі паняццямі: «мадэрнізм», «неарамантызм», «дэкаданс». Малады паэт усвядоміў блізкасць сваёй творчай манеры да настрояў і эстэтыкі апошняга з названых напрамкаў. Заява аб сабе як дэкадэнце была даволі эпатажнай для беларускага літаратурнага працэсу і магла быць успрынятай некаторымі як поза, як гульня, але паступова стала зразумелым, што плынь дэкадансу закранула творчыя лёсы не толькі Анатоля Брусевіча, але і Юры Гуменюка, Эдзіка Мазько, а таксама некаторых іншых паэтаў, а гульня, якая не мае пад сабою сур’ёзнай асновы, не дала б выніку – паэзіі высокага ўзроўню.Так ці інакш, слова было прамоўлена, і яно змяніла паняццевую прастору сучаснай беларускай літаратуры.




У 2021 годзе пабачыла свет новая кніга Анатоля Брусевіча – «Крылы». У ёй злучаны тэмы і матывы, якімі поўняцца папярэднія зборнікі паэта – «Дуэль», «Падаю ў неба», «Апошні дзень». Працягваецца змаганне паміж жыццём і самагубствам, дуэль дзвюх эстэтык (пра гэта пісала Ала Петрушкевіч), барацьба скрайнасцяў унутры парадоксаў. Але кніга новая, а значыць – іншая.

Пад хораша аформленай вокладкай з выявай анёла аўтарства мастака Аляксандра Сільвановіча сабраныя творы розных гадоў. Гэта першая кніга Анатоля Брусевіча, дзе вершы размеркаваны па раздзелах: «Верныя вершы», «Пад сцягам Мадагаскара», «Сумная вакханалія», «Ты – як зямля»; у змест таксама ўваходзіць паэма «Крылы». Структура абумоўлена логікай творчага і жыццёвага шляху – зборнік падводзіць іх вынікі на пэўным этапе. Умоўна раздзелы можна суаднесці з паняццямі: «Вера», «Радзіма», «Дэкаданс», «Каханне» – усё пералічанае дорыць радасць палёту і боль падзення, і над усім разгортвае свае крылы Паэзія. Пры гэтым часткі не герметычныя: нібы воды адзінай ракі, вершы аб'ядноўваюцца вобразамі і тэматыкай, то тут, то там разрываючы абазначаныя межы. У цэлым кніга атрымалася гарманічнай і збалансаванай, і разам з тым яна супярэчлівая настолькі, наколькі супярэчанні ўласцівы асобе і свету ў іх дачыненнях.

Вершы, што ўвайшлі ў зборнік, розныя па сваім кшталце: некаторыя ўскладненыя фармальна і сэнсава, інтэлектуальна нагружаныя і заглыбленыя ў кантэкст здабыткаў сусветнага мастацтва і філасофіі, некаторыя – узнёслыя і інтымна-спавядальныя, напісаныя нібыта на адным дыханні.

Раздзел «Верныя вершы» прысвечаны адносінам паміж мастаком і мастацтвам. Пачынаецца ўсё з цішыні, і адпаведны матыў – адзін са скразных у кнізе. Цішыня ёсць пачаткам і завяршэннем, сапраўднай Айчынай і чыстым люстэркам, якое хавае адбіткі памяці і надзённасці. Гэта стан, калі чалавек набліжаны да першага дня стварэння, прастора, дзе нараджаюцца першыя словы вершаў і малітваў. Паэзія вядзе ад цішыні і да яе. Яна не скіроўвае наўпрост да канчатковай мэты, ды і сама гэтая мэта не можа быць адразу акрэсленай. Дарога блукае між жахлівых шкляных лабірынтаў жыцця, дзе даводзіцца змагацца з ворагамі знешнімі і ўнутранымі, з пошласцю і бяспамяцтвам, злосцю і бяссіллем. Яна прыводзіць адначасова ўніз, да пакаяння, і ўвышыню, да катарсісу:

Я думаў: скончацца слёзы,
І лёс саскочыць з ляза
Ілжывых, подлых даносаў.
Ды не. Іскрыцца сляза
Як сімвал страчанай меры,
Як першы, нясмелы крок...
Мяне ўратавала вера.
І я не пайшоў у змрок.

У вершах гучыць творчае крэда паэта: вера ў Бога і ў тое, што шлях да паэзіі ёсць шляхам да Яго. Крызіс мастацтва і духоўнасці прымушае адкінуць наіўную надзею на лепшае і ўсвядоміць каштоўнасць творчасці і значнасць місіі паэта – прадаўжальніка традыцый, абаронцы духоўнай спадчыны Айчыны:

Я не бачу слядоў, але чую іх пульс пад нагамі.
Я іду ў цішыню, дзе Радзіма пакуль што жыве,
Я адзін, бо астатнім хацелася стацца багамі,
І будуюць бажніцы яны ў пустазвоннай траве.

Хай будуюць, блішчаць і крычаць пра надзею і веру,
Пра каханне, свабоду, самоту, аблом і надлом.
Я адзін адыходжу – за мной зачыняюцца дзверы.
Больш паэтаў не будзе, і я выключаю святло.

У канву першага раздзела ўплятаецца тэматыка наступнага – «Пад сцягам Мадагаскара», дзе змешчаны вершы патрыятычнага характару. Перад чытачом паўстае вобраз Радзімы, укрыжаванай між Усходам і Захадам праз чалавечыя глупства і сквапнасць. Калі злу немагчыма супрацьстаяць фізічна, то важна рабіць тое, што можаш: адбудаваць вобраз краю ў сваім сэрцы, умацаваць яго малітвай – а словы прыйдуць у свет:

Страшны свет. Зачынюся ў Гародні
На замкі ўсіх касцёлаў і замкаў,
А на вокны павешу фіранкі,
Вышываныя позіркам поўні.
І не буду глядзець ні на захад,
Ні на ўсход, толькі ў неба начное,
Дзе душы маёй стомлены човен
Праплывае над плахамі дахаў...

Праўда, і словы, і дзеянні могуць нічым не адгукнуцца, а ўпадуць пад ногі натоўпу, знявечаныя хлуснёй і абыякавасцю. Аднак прыходзіцца прыняць рэалізм і песімізм сітуацыі з адкрытымі вачыма, не знаходзячы спакою ні ў якіх ілюзіях свабоды.

На фоне агульнай роспачнай танальнасці вылучаюцца некалькі светлых і празрыстых вершаў, якія дачакаліся свайго часу, каб заняць месца сярод іншымі, стварыўшы неабходныя акцэнты і кантрасты. Прывядзём радкі аднаго з іх – «Мова мая»:

Мова мая светлая,
Нібы вясновы дзень.
Мова мая летняя –
Ззянне сонца ў вадзе...

Верш вяртае да першаасноваў, да чыстых думак і яснага позірку дзіцяці, якое адкрывае ў свеце рэчы і з'явы, вартыя любові, і не баіцца прамовіць усім пра гэта.

Раздзел завяршаецца сцверджаннем моцы народнага духу, якой прытрымліваліся першыя рамантыкі і прадаўжальнікі іх традыцый і якая жыла і жыве ў творах Максіма Багдановіча, Цёткі, Янкі Купалы і ўсіх паэтаў-патрыётаў:

На шэрых шыферных плахах
Спачнём, каб пачаць з нуля,
Каб дух акрыяў і дахам
Стаў тым, што прыйдуць пасля...

Самота правіць баль у раздзеле «Сумная вакханалія», у якім сабраныя вершы «выразна дыянісійскага характару». Файна разбурыць межы, што аддзяляюць чалавека ад чалавека, выпіць віна, напоўніць халодны і рацыянальны свет болем і весялосцю вечнага экстазу:

Абрынецца ўсё і без нас.
У тартары знікнуць сусветы.
А покуль траянскі Пегас,
Няхай нас імчыць з парапету
Уніз – дзе чакае экстаз
І зайздрасць цнатлівых паэтаў,

Сумлення іржавы каркас
І сіні дымок цыгарэты...

Але чым шырэй усміхаецца трагедыя, тым больш разрастаецца пустэча. Попел былога развейваецца, і становіцца ясным, што ніколі не вернецца час, калі паэзія жыла сярод людзей і было яшчэ недалёка ад райскай брамы. Але верш «Спадкаемцу» ўсё ж скіроўваецца да часоў наступных, а рэха роспачы ў вершы «Палёт херувімаў» адгукаецца прыхаванай надзеяй, якой не можа не быць у звароце да сына, ці, больш верагодна, да будучага паэта:

Не чытай гэты верш, мой таемны, няспраўджаны сыне.
А калі прачытаеш, не смейся над бацькам сваім,
Што сатканы радкі мае з думак пустых і наіўных,
Што не пішуць так вершаў... Іх, сыне, не пішуць зусім...

У чацвёртым раздзеле, які мае назву «Ты – як зямля», змешчана інтымная лірыка. Назва ўяўляе сабой перакуленую метафару: традыцыйна зямлю параўноваюць з жанчынай. Жанчына блізкая да цыклаў прыроды, яна заўсёды розная і пастаянная ў сваёй прыцягальнасці і ўнутранай моцы. Каханне ж – фарватар паміж жыццём і смерцю, шлях духоўнага і творчага пошуку. Новай, прынамсі, не акрэсленай дагэтуль выразна ў айчыннай літаратуры, падаецца тэма кахання на мяжы рэальнасці і паэзіі. Перад чытачом адбываецца гісторыя, падзеі якой разгортваюцца сярод лабірынтаў гарадзенскіх замкаў, на прывідных лесвіцах і бліскучым бруку Гародні, а таксама ў свядомасці герояў. Свет рэальны і паэтычны пачынаюць мяняцца месцамі, што прыводзіць да іх дэтанацыі і да нараджэння прыгожых вершаў, а каханкі апынаюцца на шляху праклятых паэтаў:

Ты напоўніла мой неспакой
Непагаснай мелодыяй флейты,
І, сляпы, я пайшоў за табой
У краіну праклятых паэтаў.
І каханне, і роспач, і злосць,
І надзею, і розум, і сорам
Мы ўзялі і прабілі наскрозь
Металёвымі стрыжнямі зораў...

Як і іншыя дэкадэнты, яны праходзяць праз пякельную пустэльню ўласных душаў, дзе спапяляецца нават слова і не абыходзіцца без ахвяраў. Усведамляючы, што віно кахання – таксама і віно смерці, героі прымаюць гэтае прычасце і спрабуюць падвесці ўсе рахункі. Апошняя іх сустрэча адбываецца там, дзе цішыня зноў уступае ў сваё валадарства, а нажы адвечных пытанняў робяцца пылам і мяшаюцца з пяском і вадою ракі, якая нясе свае хвалі паміж гэтым светам і іншым:

Тонкія німбы бакалаў
Поўняцца белым віном.
Гэтага нібы і мала –
Проста сядзець за сталом,
Проста глядзець у бяздонне
Вінных нявінных вачэй,
Дзе, перапоўнены стомай,
Тоне спакою каўчэг...

Вобраз жанчыны паўстае як адзінае цэлае ў сваёй зменлівасці.

Фарбы святлеюць, і ў гэты момант можна асэнсаваць, што скрыжалі адвечных

каштоўнасцяў не зрынутыя, а ўзведзеныя, нібыта калоны будучага дома, а можа, як абарончыя муры вакол душы ці вакол метафарычнай Гародні – інтэрпрэтацыі адна другой не супярэчаць.

Паэма «Крылы», з якой чытач знаёміцца далей, прываблівае сваім надзвычай небанальным, у нечым сюррэалістычным, дынамічным і сучасным сюжэтам. Асноўныя перыпетыі адбываюцца вакол наступнага: шалі сусвету, ашалеўшы, разгушкаліся і прабілі ў нябёсах дзірку, адкуль на зямлю абрынулася цэлая плойма анёлаў. Уцекачы, праўда, былі вернутыя назад, а адзін застаўся... і зрабіўся дырэктарам свету. У паэме ўздымаюцца пытанні экзістэнцыйнага характару: магчымасці і немагчымасці свабоды, бунту і ягоных вынікаў. Кожны знойдзе тут нешта для сябе: гумар і іронію, філасофскі падтэкст, асабістую споведзь, алюзіі на сацыяльныя і літаратурныя з'явы.

Ад душы раім кнігу ўсім, хто любіць Паэзію і шукае ў моры сучаснай літаратуры творы, напісаныя не з мэтаю пацешыць аўтара і чытача пустой гульнёй з формай і зместам, але дзеля таго, каб прамовіць шчырае, прыгожае, напоўненае высокім сэнсам Слова.

сумоўе

# Анкета «Дзеяслова». Новы сезон

*Шаноўныя аўтары і чытачы! Мы вырашылі аднавіць-рэанімаваць нашую даўнюю апытанку для літаратараў – анкету «Дзеяслова» – якая цягам 2005-га года друкавалася на нашых старонках. За гэты час багата чаго змянілася. Нямала цудоўных аўтараў, якія тады бралі ўдзел у анкеце, адышло ў Вечнасць. Змяніўся, разам з часам, і часопіс. Але галоўныя пытанні Літаратуры засталіся ранейшымі, і адно з цэнтральных сярод іх – чым ёсць з'ява творчасці, у чым яе феномен. Іншымі словамі, з чаго «вырастаюць» вершы, паэмы, аповесці, драмы, раманы... Вось жа, да вашай увагі – развагі актуальных беларускіх літаратараў на гэты конт. І не толькі.*

**Вашыя «дзеяслоўцы»**

***1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?***

***2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?***

***3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?***

***4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?***

***5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?***

***6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?***

***7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?***

***8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?***

## Валянціна Аксак



***1.*** Словазлучэнне «літаратурная творчасць» да мяне аніякім чынам не прыналежыць. Гэтаксама не стасуюцца са мною дэфініцыі «прызванне», «грамадзянскі абавязак», «прафесія», «хобі», «звычка». «Пісьменніцкай дзейнасцю» таксама не займаюся. Усё, што звязанае з маёй гульнёю з гукасловамі, узнікае як прыродная стыхія і ніякай унармаванасці не паддаецца. Я не ведаю, што, калі і дзе абрынецца на мяне, як нечаканая залева ў чыстым полі, і колькі часу я прабуду ў гэтай «непагодзе». Бывае, што дзень, а бывае, што й месяц. Але здараюцца і перыяды «сухменю». Працяглыя і пакутныя.

Што тычыцца дэбюту, то калі пад гэтым тэрмінам маецца на ўвазе першая публікацыя, то яна была ў 1987-м у наваполацкай гарадской газеце «Хімік». Раз на месяц яна друкавала старонку літаратурнага аб'яднання «Крыніцы», на пасяджэнні якога я зрэдчас хадзіла.

Літаратурнага «хроснага бацькі» не маю. У гэтым сэнсе я – нехрысць, якая з'явілася з ніадкуль. Ніхто не вёў мяне за руку па гладкай дарозе. Прарастала ў каляінах разбітых гасцінцаў, рызыкуючы патрапіць пад хуткія колы. І не раз траплялa. Што, як цяпер разумею, было шанцункам, бо правярала на вытрываласць у жыццёвым сцэнары, які мне быў напісаны.

***2.*** Прызнаюся вам, што ніколі ніякай працы, так бы мовіць, над словам ці са словам у мяне не было і няма. Больш за тое, калі ў дачыненні да вершаскладання я чую з вуснаў аўтара слова «праца», то мне адразу робіцца нецікавым вынік гэтай, даруйце, працы. Паўтаруся, для мяне ўсё, што звязана са словам, гэта – здарэнне, якое можа засцігнуць як гром з яснага неба. Вось нешта такое раптам пачынае ціхенька трымцець асобнымі гукамі, а далей аднекуль выплываюць словы, прысуседжваюцца ў фразы, і мне застаецца толькі запісаць іх. Калі, вядома, у той момант ёсць чым і на чым гэта зрабіць. А як няма, то й няма. Як нахлынула, так і сплывае.

Стан раптоўнага выпадання з рэальнага жыцця падобны да ачмурэння. Яго насланнё не залежыць ні ад часу сутак, ні ад тэхнічных прыладаў, ні ад творчых стымулятараў. Яно не чакае натхнення і ўвогуле не ведае, што гэта такое.

***3.*** Бадай што я ўжо адказала на пытанне пра цяжкасці. Хіба дадам, што калі на мяне абрынаецца заслона ад будзённасці, то тады цяжка не мне, а са мною блізкім людзям.

А словы і фразы пішуцца, як чуюцца аднекуль. Рытміку дыктуе гукапіс, зноў жа мне непадуладны. Фаліянты, складзеныя разумнымі людзьмі, гартаю ў часе моцных сумневаў пра слушнасць «пачутага». Тое бывае, калі ўжо ў цалкам прытомным стане спрабую зляпіць

з асобных хаатычных радкоў нешта больш-менш гарманічнае, якое паступова набывае вобраз новае кнігі.

***4.*** Калі ўжо так здараецца, што мне патрэбна зашыцца ў самотную норку, то шанцункам здаецца, калі ніхто і нішто не змушае мяне вылезці адтуль. І ўжо невымоўнае шчасце адчуваю тады, калі інтымнай самоты хапіла аж да сустрэчы з водарам друкарскае фарбы, якім струменіць былы рукапіс. І вось тут, калі наталіўшыся першым момантам радасці, раптам бачыш усе хібы і нават недарэчнасці таго, што з тваіх рук пайшло ў свет, і ты ўжо не ўладны над надрукаваным, накрывае расчараванне. Яно гусцее, калі праходзіць месяц, другі, год, а чытачы і крытыкі маўчаць і тым самым пацвярджаюць марнасць тваёй самотнай аскезы. Пачуванне такое, як калі адзін стаіш у лесе і гукаеш, а рэха няма. Цяпер магу з удзячнасцю ўзгадаць вельмі цёплы чытацкі прыём маёй першай кнігі «Цвінтар», што дало неверагодную ўнутраную веру ў сябе і нарадзіла праз два гады «Капліцу». Крытыкі ў рэцэнзіях асцярожна намякнулі, што другая кніга ў нечым паўтарае першую. Гэта было балюча, але карысна. Праз пяць гадоў выйшаў «Антычны дождж», які меў вельмі шырокі ўхвальны рэзананс. Чаго не магу сказаць пра «Віно з Каліфорніі» і «Ружоўніцу». Нейкія водгукі былі, але я адчувала, што ўва мне перастала гучаць новая музыка словаў. Дзевяць гадоў было так, як быццам мову заняло. А потым неяк нешта зноў паціху пачало трымцець, і адзін за адным нарадзіліся гэтыя познія дзеці – «Дзікая сліва», «Завінены рай», «Кава ў арліным гняздзе» і цяпер вось «Трэці Эдэм».

Што ж да вяртання і спробаў перапісаць ранейшае, то ніколі не рабіла гэтага. Мяркую, што выдадзенае ў кнігах – кропка пасля пэўнага адцінка жыцця. Яго не перапішаш. Быць разумнаю заднім чыслом – мала таго, што гуляць у хітрыкі з часам, але яшчэ і фальшаваць уласны жыццяпіс. З-за гэтай перакананасці ніколі не ўключаю ў новыя кнігі нешта з папярэдніх.

***5.*** У мінулым, паўтаруся, нічога не зменіш. У жыцці гэта проста немагчыма, а ў напісаным не хачу нічога змяняць, хоць і магу, але не буду, бо яно – таксама жыццё. І ўвогуле не хачу азірацца, каб не стаць слупам саляным. Ведаеце ж, пэўна, гэты біблейскі сюжэт.

А наконт уплыву біяграфіі на творчасць, то коратка згадаю тут пра два амаль анекдатычныя эпізоды, а вы мяркуйце самі. Цудоўная мастачка Нінэль Шчасная, якая, на жаль, ужо пакінула гэты свет, спыталася пры сустрэчы, з кім я цяпер жыву. Спачатку я не зразумела пытання. Але потым да мяне дайшло, у чым справа, і я гэтак са смехам ёй адказала, што жыву ўсё з тым жа. «Як? – усклікнула яна. – Я ж прачытала ў тваёй “Ружоўніцы”, што...» А нядаўна адзін, як ні дзіва, літаратар, сустрэўшыся, гэтак доўга маўкліва ўзіраўся ў мяне, а потым спачувальна прамовіў: «Дык вы развяліся... Шкада, а “Дзікая сліва” мне спадабалася».

***6.*** Дзённікі вяла са школьных гадоў. Было больш за трыццаць тоўстых агульных сшыткаў. Але гадоў дзесяць таму спаліла іх, прачытаўшы ў Дануты Бічэль мудрыя словы: «Маё хай сыдзе са мной». Вельмі добра, што я гэта тады зрабіла і больш нічога такога не пішу. Бо ўявіўшы, як чужыя брудныя рукі маглі б цяпер гэта гартаць і чытаць без майго на тое ведама, адразу робіцца так вусцішна, быццам у маёй душы корпаюцца на манер вядомага біблейскага персанажа ў ране Хрыстовай.

«Ні дня без радка!» – не пра мяне. Маё правіла: «Ні дня без усмешкі!» А лянотнай мяне называць бадай што беспадстаўна. Калі вольная галава, то занятыя рукі. Як і яны просяцца адпачыць, тады ногі радуюцца фланёрскаму блуканню. А душа – то як сэрца. Перастане тахкаць – то й надыдзе пара для ляноты. Спадзяюся, у роднай зямлі.

***7.*** Чытаць і адкрываць новыя імёны ў нашай літаратуры – адзін з улюбёных заняткаў. І вельмі ўсцешна ведаць, што колькі б жорсткія касцы не сціна-

лі галовы нашым творцам, шчодрая наша зямля ўзгадоўвае новыя таленты. І лёгка робіцца ад ўсведамлення, што прыўкраснае пісьменства нашае – жыве!

Імёны дазвольце не пералічваць, каб каго незнарок не абмінуць. Скажу толькі шчыры дзякуй «Дзеяслову», які з нумара ў нумар дорыць нам радасныя хвіліны такіх адкрыццяў. Кожнага разу, лежачы на канапе ў абдымку з новым «Дзеясловам», я малю Бога, каб асалода чытацкіх сустрэчаў з маладымі талентамі доўжылася вечна.

Класіка ж – гэта як ласунак. Не перастаю смакаваць старонкі Элізы Ажэшкі, Янкі Юхнаўца, Наталлі Арсенневай, Уладзімера Жылкі, Алеся Разанава, многіх тых, хто, дзякуй Богу, яшчэ не перакрочыў той парог, за якім прымаюць у класікі.

***8.*** Найперш жадаю веры аўтарам у свае таленты. Яе амаль кожнаму дэбютанту часцяком не стае. Сціплыя мы – і маладыя, і сталыя – аж занадта. Зычу падтрымкі крытыкаў, бо яе нават не тое што малавата, але почасту і зусім няма. Дый не імкнуцца яны чытаць і аналізаваць творы ні маладых, ні сталейшых. Чытачы ж увогуле, за рэдкім выключэннем, не цікавяцца айчыннай літаратурай. Пару імёнаў са школьнай праграмы яшчэ ўзгадаюць, а сучасных аўтараў могуць спляжыць, нават не даўшы сабе клопату разгарнуць тую ці іншую кнігу. Напісанае тут і цяпер для многіх – як марсіянскія хронікі. Можна бясконца разважаць пра наступствы русіфікацыі і антынацыяльную палітыку ўладаў, заклікаць любіць родную мову, але пры гэтым не купляючы і не чытаючы беларускія кнігі.

Рэцэптаў ад гэтай хваробы не маю. Ну, але слухаць і чуць гукі Неба нікому ніхто і нішто не можа забараніць. Услухоўвайцеся – і ў вашай душэўнай Цішыні зайграе музыка словаў!



# Леанід Галубовіч

***1.*** Творчасць ніяк не можа быць абавязкам. Абавязкам можа быць літаратурны занятак. Мне лацвей назваць гэта духоўным прызваннем... Высакапарна, але няхай. Гэта, безумоўна, тычыцца паэзіі, а што да маіх крытычных артыкулаў, рэцэнзій, літаратурных эсэ і зацемак, то гэта ні што іншае як рамяство, прафесійная праца (дарэчы, па першай прафесіі электрыка я без абсалютнага задавальнення прапрацаваў ні многа ні мала 15 гадоў). А што да паэзіі, то першай яе “творчай праявай” стаўся неардынарны школьны выпадак. Данос, здрада. Аднакласнік у чацвёртым класе пачатковай школы выдаў мяне настаўніку, якога я шэптам суседу па парце абазваў “кілуном” (а ў нашай вёсцы гэтае слова лічылася абразлівым). І адбылося гэта якраз перад Новым годам. Таму пакаранне сталася падвойным і балючым, як фізічна, так і маральна. Па-першае, мяне адлупцаваў бацька (таварыш і часты хаўруснік настаўніка па выпіўцы), па-другое, пазбавілі падарунка ад Дзеда Мароза. Вы можаце ўявіць, што значыла ў 1960-м годзе пазбавіць падлетка дармавых прысмакаў (цукерак, пернікаў)?! Па тым часе, калі трэба было яшчэ на досвітку займаць чаргу па буханку кукурузнага хлеба ў “хатняй” краме дзядзькі Петруся... Вось тады, замудоханаму ў хатнім астрозе, мне і стукнула ў галаву напісаць вершык пра здрайцу. І ведаеце, я нешта

такое напісаў, бо крыўдная мянушка (дражнілка) прыліпла да аднакласніка на доўгія гады. Відаць, арыентаваўся на іранічны купалаўскі ўзор:

*Праўду з няпраўдай,*
*Цноту з гарэзіяй*
*Вымяшай спрытам*
*– Будзе паэзія.*

Неверагодна, але пасля школы герой вершыка стаўся мне самым блізкім і верным сябрам (шкада, з-за алкагалізму ён сканаў на 45-м годзе жыцця). Такі вось быў пачатак "творчага" шляху. А да вершаў, сам таго не жадаючы, падштурхнуў мяне зноў жа бацька, калі аднойчы прынёс з вясковай бібліятэкі таўшчэзны том Янкі Купалы (памятаю, я яго ледзьве на печ узвалакваў, зялёны, нечым падобны да тлумачальных пяцітомнікаў беларускай мовы). Найперш праз вершы Івана Дамінікавіча я на паэзію і "падсеў"... Першая публікацыя была ў раёнцы, здаецца, у дзясятым класе, некалькі слупкоў нарыфмавалася пра Першамай, якія ў рэдакцыі сям-там выправілі на свой капыл. Хоць каля трох рублёў ганарару і пэўную долю гонару ад аднавяскоўцаў я ўсё ж атрымаў. Своеасаблівая кампенсацыя за колішнюю канфіскацыю навагодняга падарунка... Што ж, магчыма, дбанне і карпенне над словам таго каштавалі!

***2.*** Вось, бачыце, у гэтым Вашым пытанні нарэшце сышліся, можна сказаць, сінонімы: творчасць і натхненне... І пры гэтым Вы пытаеце пра адметнасці працы. Калі гаварыць менавіта пра паэзію, то працы як такой і не бывае... Выходжванне, выседжванне, вылежванне, вымройванне – вось складнікі творчага плёну. А пасля ўжо – калі дасць Бог што – занатаванне і самакрытычнае рэдагаванне...

Занатаванне часцей за ўсё адбываецца познім вечарам і ноччу, хоць успышка азарэння можа здарыцца ў любы, нават непадходны і неспрыяльны для таго час.

У XX стагоддзі я пісаў толькі шарыкавай ручкай. З 2000-га года пераважна набіраю на кампутары (адразу было мулка, але як сапраўдны беларус мала-памалу звыкся). Да жніўня 1986-га года стымулятары былі аднастайныя: віно, самагонка, піва, цыгарэты... Пасля – да 1998-га – кнігі, цыгарэты і кава. З 2012-га – кнігі і ўнутраны зрушны водгук на знешнія праявы жыцця... Я не сцвярджаў бы, што заўжды чакаю нечаканай хвіліны натхнення... Але калі такое здараецца, то несумненна – гэта творчая ўдача, свята душы, насалода слоў на гаркоту пакут. Апошнім часам гэта такая рэдкасць, якую я дадаў бы ў сваю асабістую "Чырвоную кнігу".

***3.*** Найцяжэйшая задача – гэта ўлавіць музыку, настроіцца на адпаведны і прымальны лад і рытм верша. І зачапіцца за пэўную ключавую фразу (радок, страфу), вакол якой і будзе асноўвацца мастацкая тканіна твора. Калі, груба кажучы, пачынаеш тужыццанамагацца, рамеснічаць, то справа швах... Лепш адкласці, як чарнавік, да іншага часу.

Так, я маю некалькі паліц з рознай дапаможнай літаратурай. Але найчасцей звяртаюся да даведнікаў, пішучы тэксты, звязаныя з крытыкай і эсэістыкай.

***4.*** Найперш настрой, а цяпер яшчэ і здароўе. Хоць і паскудны настрой і розныя будзённыя няўдачы адкладваюць недзе ў падсвядомасці зародкі ідэй і тэм для будучых твораў. Перачытванне любімых кніг, настальгічнае ўспамінанне і новае перажыванне пражытага таксама дадаюць адпаведнага тонусу і поцягу да творчай працы. Што да ацэнкі напісанага, то скажу так, я чалавек вельмі самакрытычны і чуйны да крытыкі збоку ад каго б то ні было. І, вядома, у маладосці я прыслухоўваўся да падказак, асабліва людзей таленавітых і вопытных. Але гэта не значыць, што я правіў напісанае бяздумна. Тым больш цяпер, калі ўжо і закідаў крытычных стала менш (усё ж ледзь не "жывы класік"), аднак ёсць два чалавекі, да

парад якіх і сёння я стаўлюся з павагай і разуменнем (абое выбітныя стылісты і маюць добры літаратурны густ і досвед). І калі перапісваць тэксты ў мяне не было і няма звычкі (за вельмі рэдкімі выпадкамі), то ўдасканальваць іх, калі ў гэтым ёсць упэўненасць, даводзіцца даволі часта.

***5.*** Абсалютнай задаволенасці напісаным, я думаю, няма ні ў аднаго здаровага духам і розумам творцы. Ты напісаў, больш за тое, выдаў у свет тое, што напісаў. Яго ўжо немагчыма паправіць і выкрасліць з чытацкай памяці і літаратурнага працэсу. Ці мог бы ты зрабіць (стварыць) лепш, чым яно ёсць насамрэч? Нелагічнае пытанне. Ды ўсё ж кожны з творцаў сам пра сябе маракуе, што мог бы нешта напісаць (або і ўвогуле не напісаць) не так, не тое, нашмат лепш і таленавіцей... Гэта такія запозненыя супакаяльна-пакаянныя душэўныя споведзі... Таму адназначна я незадаволены практычна ўсім напісаным, апроч чатырох-пяці вершаў (магчыма, што яны застануцца ў хрэстаматыйнай беларускай літаратуры). Няма ў мяне вялікага асабістага негатыву і да пераважнай большасці сваіх "зацемак з левай кішэні" (наўрад ці можна аднесці іх да мастацкай літаратуры, але спадзеў, што ў будучыні ў іх будзе чытацкая і літаратуразначая зацікаўленасць, мяне не пакідае).

Што да жыцця і ўласнай біяграфіі, калі б хто нават і даў такую магчымасць, то ці ёсць патрэба нанова перажываць табой пражытае? Хоць настальгаваць, успамінаць, смакаваць і горка ўздыхаць ёсць пра што... Скажам, у новым жыцці я мог бы не захапляцца выпіўкай так, як захапляўся ёю некалі... Але ж колькі я страціў бы пры гэтым прыгод і "творчых" узлётаў у сне і на яве! Дадам нечаканае: магчыма, і ўвогуле нявартa было "завязваць" з гэтай паскуднай звычкай і дарэшты высушваць душу... Паэзіі ад гэтага адназначна не дадалося. А вось што прыбавілася?.. Хіба толькі даўжыня бесперспектыўнага жыцця. Не трэба ўцякаць ад уласнай планіды (і ці магчыма гэта?). Што мая біяграфія адлюстравалася ў маіх кнігах, пэўна сказаць нельга. Хутчэй можна сказаць, што на іх старонках мільгаюць яе знікаючыя адценні... Творца – шчаслівы, ён жыве падвойным жыццём – дадзеным Богам і ўласна створаным...

***6.*** Не, дзённікаў я не вёў і не вяду, але, як шмат каму вядома, пішу "зацемкі", штосьці блізкае па змесце, але далёка не адно і тое ж. У гэтых маіх спарадычных занатоўках усё-ткі больш развагаў пра жыццё і літаратуру, чым пэўных дзённікавых фіксацый. А вершы я пішу, калі для гэтага з'яўляецца нейкая канкрэтная прычына альбо надараецца натхненне. Што да ляноты, то яна мяне пераследуе ўсё жыццё. І карані яе ў маіх неадступных сумненнях: а ці варта, а навошта, а каму гэта трэба, а ці змагу?.. Таму пішу, калі выпадаюць прасветы ўпэўненасці ў сабе і з'яўляецца творчы сверб. Увесь астатні час я думаю, мрою, чытаю, гляджу спартыўныя перадачы (я валідольны фанат: футбол, тэніс, біятлон)... І яшчэ, мяне часта *накрывае* экзістэнцыйная меланхолія і дэпрэсія. І гэта пры тым, што адразу пасля сну я раблю 15-хвілінныя фізічныя практыкаванні і чатырохкіламетровыя ранішнія і вечаровыя праходкі... Да таго ж трэба ўлічваць, што я выключны дамасед, апошні дзясятак гадоў увогуле рэдка куды выходжу. Карацей, за нязначным выключэннем уяўляю сабой абломаўскі вобраз.

***7.*** Безумоўна, пакуль што яшчэ стараюся чытаць, хоць зрок ужо слабне. Апошняе, што ўдалося – гэта "Вясна. Вуснам цесна" Насты Кудасавай, "Па што ідзеш, воўча?" Евы Вежнавец, "Райцэнтр" Тані Скарынкінай, "Локісаў" Артура Клінава, "Такая і гэтакі: Талакуе з маланкай дождж" Алеся Разанава і чарговы 9-ы том "дзённікаў і запісаў" Рыгора Барадуліна... З перыёдыкі не абмінаю сваёй увагай часопіс "Дзеяслоў". Па прапанове дачкі сёлета прачытаў кніж-

кі Луі Альтусера «Об искусстве» і Гастона Башляра «Поэтика пространства» (пераклад з французскай, вельмі мудронае чытанне, але прыцягальнае новым для мяне досведам), а таксама двухтомнік своеасаблівай анталогіі сучаснай рускай паэзіі «Живые поэты» (больш за 300 вядомых, малавядомых і невядомых аўтараў). У мяне даволі прыстойны кніжны збор, які я пастаянна прарэджваю, аддаючы кнігі ў жэсаўскую бібліятэку і добрым людзям. Бо самому, шчыра кажучы, ужо хапае двух дзясяткаў кніг, блізкіх майму мастацкаму густу, тых аўтараў, асобныя творы якіх я перыядычна перачытваю: М. Багдановіча, Ф. Цютчава, Я. Брыля, М. Стральцова, Дз. Ліхачова (нататкі пра культуру і літаратуру), В. Розанава, Р. Фроста, М. Рыльке, А. Разанава, Л. Кастэнкі, Х.Л. Борхеса, У. Сакалова, М. Басё, А. Пісьмянкова, І. Пташнікава, Ю. Алешы, В. Адамчыка, У. Жылкі, І. Буніна, Акутагавы, Э. Дыкінсан, Ў.Б. Ейтса, Г. Містраль, В. Шымборскай... і, шмат хто, відаць, будзе здзіўлены, Ч. Букоўскага...

Найбольш блізкія мне творцы ў мастацкім плане – гэта Цютчаў, Брыль, Фрост і Стральцоў.

З сучасных пісьменнікаў пакуль нікога не перачытваю.

***8.*** Найперш нашай сённяшняй літаратуры не хапае вольнамоўнай нацыянальнай напоўненасці (адчування творчай бяспечнасці і айчыннай духоўнай аўры). Літаратура і сам літаратар задыхаюцца не толькі ад разрэджанай атмасферы бязмоўя, але і ад адчування пэўнай адчужанасці ў сваёй Айчыне, пакінутасці і сіратлівасці, з зайдроснай аглядкай на суседзяў і на вялікія літаратуры свету. З іншага боку беларускія творцы загартоўваюцца ў змаганні (найперш унутраным) за спраўджванне свайго наканавання і таленту, што надае ім сілы, магчымасці і шанцы для прамаўлення *свайго* новага слова...

Бо як сведчыць гістарычны і літаратурны вопыт прамінулага, менавіта ў такой непрымальнай, задушнай таталітарнай атмасферы час ад часу і выпакутваюцца выбітныя і знакавыя мастацкія творы.

Калі заглядваеш у электронныя сеткі (Фэйсбук, скажам), ствараецца падманнае ўражанне буяння нацыянальнага літаратурнага жыцця. Аднак усё гэта віртуальныя відзежы (кукушка хвалит петуха за то, что хвалит он кукушку). Яшчэ трыццаць гадоў таму смяяліся і ганьбілі савецкі літаратурны працэс, а што ж маем сёння – збольшага абноўленыя яго знешнія формы, бо ўнутраны маральны змест (чалавека і творцы ў тым ліку) амаль не змяніўся (дабро і зло працягваюць сваю спрадвечную барацьбу). Кніжкі выдаюцца, праводзяцца вечарыны, раздаюцца прэміі ў вузкім коле, а – выбітнога, важкага мастацка-літаратурнага плёну не надта заўважна. Няма сур'ёзнай незалежнай крытыкі, а галоўнае, бракуе самакрытычнасці самім літаратарам. Пры маім жыцці, дзякаваць Богу, былі створаны знакавыя і вызначальныя на мастацкую перспектыву творы нашай літаратуры – гэта і мініяцюрная "Жменя сонечных промняў" Я. Брыля, і "Чужая бацькаўшчына" В. Адамчыка, і "Смаленне вепрука" М. Стральцова, і "Шлях-360" А. Разанава, і "Любіць ноч – права пацукоў" Ю. Станкевіча, і "Пан лес" А. Сыса...

Што ёсць сёння? Прываблівае нязмушанай, духоўна выпакутаванай метафорыкай паэзія Н. Кудасавай, звяртаюць на сябе ўвагу стылёвыя і ідэйна-псіхалагічныя пошукі А. Бахарэвіча, інтрыгуюць сваёй паэтычнай арыгінальнасцю Дз. Строцаў і С. Брыло... З шэрагу маладзейшых, але заўважна даравітых, вылучыў бы паэта В. Кораня.

Што пажадаць пачаткоўцам? Любіць Беларусь і намагацца быць яе творцамі.

# Адвечным шляхам

## *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Валянціна Аксак. Трэці Эдэм : вершы. – Мінск : Кнігазбор, 2021. 100 с. – (Бібліятэка часопіса “Дзеяслоў” ; вып. 30).**

Аўтарка прапануе чытачам самім вырашыць, якая гэтая яе новая кніга: самая распусная альбо самая цнатлівая? Бо, на яе меркаванне, менавіта праз дзевяноста вершаў кнігі пралягаюць межы раю і пекла. І яны – рухомыя... Задача не з простых. Але тым цікавей чытачам будзе апынуцца сярод знаёмых па публікацыях і незнаёмых – новых – вершаў Валянціны Аксак. І заблукаць у іх дзіўным садзе сярод кветак і дрэваў, якія так любіць паэтка і якія, безумоўна, – райскія...




**Галіна Багданава. Паляванне на Любаву : інтымная хроніка часоў міжвер’я. – Мінск : Кнігазбор, 2021. 172 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка” ; вып. 126).**

Гэтая кніга стала апошняй прыжыццёвай таленавітай пісьменніцы, дачкі вядомага празаіка Барыса Сачанкі. Эпіграф да аповесці: “Хто не любіць, той не спазнаў Бога, бо Бог ёсць любоў”, – гучыць сёння як запавет нам. Дзеянне “хронікі часоў міжвер’я” адбываецца ў розныя перыяды беларускай гісторыі, у часы, калі кожны вымушаны быў вызначаць для сябе і веру, і свае паводзіны, але галоўным заставаўся Божы дар – Любоў і Каханне. Фантасмагорыя, лірыка і сатыра цесна пераплецены ў гэтым творы і не пакінуць абыякавым ніводнага чытача.




**Валеры Гапееў. Жэнька – каралева мышак : гісторыі з жыцця адной беларускай дзяўчынкі; мастачка Элеанора Ляхновіч. – Мінск : Кнігазбор. 2021. – 112 с.**

Валеры Гапееў – адзін з тых нешматлікіх нашых аўтараў, які аднолькава цікава піша і для дарослых, і для дзяцей. Гэтая кніга – пра звычайную дзяўчынку Жэньку, што жыве і вучыцца ў невялікім беларускім гарадку, і гісторыі з ёю здараюцца таксама самыя звычайныя. Але... Жэнька сучасная дзяўчынка, і клопаты яе самыя

сучасныя, якія хвалююць усіх яе аднагодкаў і... іхніх бацькоў: як бараніць сваіх сяброў? як прызнаваць свае памылкі і ці трэба іх прызнаваць? як і за што любіць сваю Радзіму і ганарыцца ёю?..




**Олэксій Дыковыцькый. Оньдэ. Моўная рэдакцыя Валярыны Куставай. – Варшава, 2021. – 416 с.**

Дэбютная кніга журналіста Аляксея Дзікавіцкага – гэта зборнік аповедаў і вершаў на палескай гаворцы, дакладней, на той яе версіі, на якой размаўляюць жыхары ваколіцаў Пінска. Чытаючы замалёўкі з жыцця палешукоў, міжволі згадваеш і нядаўнюю кнігу іншага палешука Андруся Горвата “Радзіва Прудок”... Што да мовы кнігі, дык аўтар сам кажа, што ён зусім не прэтэндуе на філалагічную дакладнасць і выказвае спадзяванне, што з часам паўстане “грунтоўны найноўшы слоўнік палескіх гаворак”, каб усе пабачылі, што і на ёй “можна не толькі выказваць усе магчымыя думкі і пачуцці... але і пісаць кнігі”. Ці не таму большую частку кнігі складаюць паэма і вершы на, ужо зразумела... палескай гаворцы беларускай мовы.




**Сяргей Законнікаў. Вечны пароль : кніга пяці паэм. – Мінск : Кнігазбор, 2021. 100 с. – (Бібліятэка часопіса “Дзеяслоў” ; вып. 29).**

Пяць паэм Сяргея Іванавіча Законнікава, які сёлета адзначыў 75-годдзе – гэта роздум пра нашае жыццё, нашае мінулае і сучаснасць, у аснове якога жыццё самога аўтара, ягоныя ўспаміны і думкі пра тое, што адбывалася і адбываецца на нашай зямлі, з нашай зямлёй і з намі самімі. Вострая публіцыстычнасць перамяжаецца са шчырым лірызмам, боль за родную зямлю – з гонарам за яе нязломны народ. Паэмы напісаныя са студзеня па чэрвень 2020 года, калі яшчэ нішто не прадвяшчала тых падзеяў, што адбыліся неўзабаве.




**Ніна Занковіч. Талстой і фіялетавае крэсла : мой год чароўнага чытаньня. Пер. з англ. А. Дубкоўскага ; прадм. Н. Гардзіенкі. – Мінск : Кнігазбор, 2021. – 256 с.**

Вельмі нечаканая кніга: аўтарка яе Ніна Занковіч – дачка беларуса, які вымушаны быў з’ехаць адсюль напрыканцы Другой сусветнай вайны. Яна даволі паспяховая амерыканская пісьменніца, усе яе кнігі займелі папулярнасць у чытачоў. Чым адметная гэтая? Каб пераадолець псіхалагічныя наступствы пасля смерці сястры, спадарыня Ніна штодзень чытала па кнізе. Свае ўражанні ад чытання яна перамяжае з уласным жыццём і ўспамінамі. Нам, вядома, цікава, што ж чытаюць амерыканцы? Напрыканцы кнігі ёсць спіс прачытанага за год – з 28 кастрычніка 2008 года па 28 кастрычніка 2009-га. Ні адзін аўтар не паўтараецца. Ёсць знаёмыя нам прозвішчы сусветна вядомых класікаў: Бальзак, Кіплінг, Лагерлёф, Сарамага, Фіцджэральд, Хэмінгуэй... з расейцаў – толькі Талстой, які і трапіў у назву кнігі. Але больш за 90 адсоткаў – абсалютна невядомыя нам імёны. І, аказваецца, усё гэта чытаецца...




**Ігнат Канчэўскі. Адвечным шляхам : эсэ, вершы. Уклад. Ціхан Чарнякевіч. – Мінск : Выдавец Зміцер Колас, 2021. – 88 с. – (Серыя “Gradus”).**

Першая кніга новай серыі, заснаванай у 2020 годзе групай пісьменнікаў. Акрамя знакамітага эсэ “Адвечным шляхам”, у кнігу ўвайшлі адзінаццаць вершаў Ігната Канчэўскага – легендарнай асобы беларускага Адраджэння пачатку мінулага стагоддзя. Тэксты друкуюцца паводле першых выданняў і рукапісаў з захаваннем аўтарскага правапісу. Выданне прымеркавана да стагоддзя першай публікацыі эсэ. Можна толькі пашкадаваць, што наклад кнігі ўсяго 500 асобнікаў, бо гэтая кніга павінна быць у кожнай беларускай сям’і нароўні з букваром.




**Павел Каспяровіч. Чорная рэчка : апавяданні. – Мінск : Кнігазбор, 2021. – 96 с. (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка” ; вып. 130).**

Чытачы “Літаратурнай Беларусі” і “Дзеяслова”, вядома ж, заўважылі асобныя публікацыі апавяданняў гэтага вельмі цікавага аўтара. Знаёмячыся з ягонай біяграфіяй, яны не маглі не адзначыць для сябе, што Павел Каспяровіч з’яўляецца праваслаўным святаром, клірыкам Свята-Пакроўскага сабора г. Гродна. Безумоўна, гэта не магло не накласці адбітак на творы аўтара, якім уласціва тонкая лірычнасць і філасафічнасць, вера ў тое лепшае, што ёсць у чалавеку, і шчымлівая беларускасць.




**Міхась Стральцоў. Адзін лапаць, адзін чунь. Загадка Багдановіча : аповесці, апавяданні. Уклад. Віктар Шніп. – Мінск : Мастацкая літаратура, 2021. – 303 с. – (Серыя “Напісанае застаецца”).**

Лепшая проза і эсэістыка класіка нашай Літаратуры Міхася Стральцова. Больш няма чаго дадаць... Чытайце і захапляйцеся. Тут ёсць і “Смаленне вепрука”, і “Свет Іванавіч, былы донжуан”, а таксама вынесеныя ў назву “Загадка Багдановіча” і “Адзін лапаць, адзін чунь”. Кніга дапоўнена выказваннямі сяброў, калегаў і жонкі Міхася Лявонавіча Алены Дзмітрыеўны пра тое, як пісаліся гэтыя творы.

# ЗМЕСТ часопіса “Дзеяслоў” №1-6 (110-115) за 2021 год

***Паэзія***



***Проза***



***Дэбют***



***Тэатр***

# Нашыя аўтары

**Аксак Валянціна** — паэтка, журналістка. Аўтарка кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва», «Кава ў арліным гнязьдзе» ды інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Арлоў Уладзімер** – празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала», «Танцы над горадам», «Паручнік Пятровіч і прапаршчык Здань» ды інш. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010), «Залаты Апостраф» (2015), прэмія імя Ежы Гедройца (2018). Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Багдановіч Марта** – паэтка. Аўтарка зборніка вершаў «21 грам». Творы друкаваліся ў «Маладосці», «ЛіМе», раённых і рэгіянальных выданнях. Пераможца рэгіянальных літаратурных конкурсаў. Нарадзілася ў 1992 годзе ў Гальшанах на Гарадзеншчыне. Жыве ў Ашмянах.

**Барадулін Рыгор** — народны паэт Беларусі (1992). Паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1976). Аўтар кніг паэзіі «Маладзік над стэпам», «Рунець, красавhouseholds, налівацца!», «Нагбом», «Адам і Ева», «Рум», «Вечалле», «Евангелле ад мамы», «Здубавецце», «Руны Перуновы», «Ксты», «Anima» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе на хутары Верасоўка на Ушаччыне. Памёр у 2014 годзе.

**Бахановіч Наталля** – літаратуразнаўца. Навуковыя інтарэсы ляжаць у сферы кампаратыўных даследаванняў беларускай і польскай літаратур, шматмоўнай літаратуры Беларусі XIX ст. Аўтарка болей за 75 навуковых работ, у тым ліку калектыўных манаграфій «Літаратурная карта Еўропы: кантакты, тыпалогія, інтэртэкстуальнасць», «Паэтыка літаратурных сувязей». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Старых Дарогах на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

**Бурына Галіна** – бібліятэкар. Скончыла Мінскі інстытут культуры па спецыяльнасці «Бібліятэказнаўства і бібліяграфія». Пасля заканчэння з 1980 па 1997 гг. працавала ў Брэсцкай цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя А.С. Пушкіна на розных пасадах. З 1997 па 2017 гг. – намеснік дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага. Нарадзілася ў 1957 годзе ў Івацэвічах на Берасцейшчыне. Жыве ў Брэсце.

**Варанец Віктар** – празаік, лексікограф. Аўтар 14 вучэбных і вучэбна-метадычных дапаможнікаў, артыкулаў па пытаннях беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Выдаў «Руска-беларускі тлумачальны слоўнік медыцынскіх тэрмінаў». Аўтар кнігі «Рамізнік». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2013). Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Дуброўскі-Сарочанкаў Алесь** – паэт, філолаг, тэолаг. Аўтар кніг вершаў «Паміж небам і багнаю», «Религия, преодолевающая себя», «Эстэтыка маўчання», «На тонкай нітачцы», манаграфіі «Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша» ды інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Навагрудку. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Галіна** —паэтка, перакладчыца. Аўтарка кнігі вершаў «Анадыямэна». Творы і артыкулы публікаваліся ў замежным і беларускім друку. Нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Ірванец Аляксандр** – украінскі паэт, празаік, драматург. Адзін з заснавальнікаў літаратурнай суполкі «Бу-Ба-Бу». Аўтар кніг «Вогнище на доці», «Тінь великого класика», «Рівне/Ровно» «П'ять п'єс», «Хвороба Лібенкрафта», «Мій хрест» «Сатирикон — XXI», «П'яте перо», «Пісні війни» ды інш. Лаўрэат шэрагу нацыянальных і замежных прэмій. Нарадзіўся ў 1961 годзе ў Львове. Жыве ў Ірпені на Кіеўшчыне.

**Календа Сяргей** – празаік, паэт. Аўтар кніг «Помнік атручаным людзям», «Казкі: гісторыі (не) пра нас», «Іржавы пакой з белымі шпалерамі», «Трохлітровая проза», «Кантынентальны сняданак». Лаўрэат конкурсу імя Ларысы Геніюш (2010). Фіналіст літаратурнай прэміі «Экслібрыс» (2012, 2013). Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Капылі. Жыве ў Мінску.

**Караткевіч Уладзімір** — празаік, паэт, драматург, публіцыст, перакладчык. Аўтар кніг «Матчына душа», «Блакіт і золата дня», «Мая Іліяда», «Каласы пад сярпом тваім»,

«Чазенія», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Зямля пад белымі крыламі», «Нельга забыць», «Чорны замак Альшанскі», «Быў. Ёсць. Буду» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1984). Нарадзіўся ў 1930 годзе ў Оршы. Памёр у 1984 годзе.

**Кароткі Уладзімір** – літаратуразнаўца-медыявіст, гісторык рэлігіі і культуры, перакладчык. Дацэнт кафедры гісторыі беларускай літаратуры філалагічнага факультэта БДУ. Аўтар звыш 200 навуковых і навукова-папулярных прац па гісторыі беларускай літаратуры. З'яўляецца ўкладальнікам навуковага выдання «Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны». Суаўтар вучэбных дапаможнікаў, падручнікаў па гісторыі беларускай літаратуры, у тым ліку акадэмічнай «Гісторыі беларускай літаратуры XI – XIX стст.». Нарадзіўся ў 1955 годзе ў г.п. Мір на Карэліччыне. Жыве ў Мінску.

**Кіркевіч Алесь** – публіцыст, празаік, у мінулым журналіст. Спецыялізацыя – навукова-папулярныя гістарычныя тэксты. Аўтар зборніка апавяданняў і вершаў «Самурай», кнігі «Сем месяцаў у беларускай турме». Нарадзіўся ў 1989 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Клачок Злата** – паэтка. Студэнтка 2 курса лячэбнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Нарадзілася ва Ушачах у 2002 годзе. Жыве ў Віцебску.

**Крофта Ганна** – паэтка, даследчыца беларускай мовы і літаратуры. Аўтарка кнігі вершаў «Ад зачыненай брамы». Кандыдатка філалагічных навук. Нарадзілася ў 1986 годзе ў Гародні, дзе і жыве.

**Машанскі Сяргей** – празаік, паэт. Скончыў Дзяржаўны інстытут кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ. Працуе ў прыватнай фірме маркетолагам. Друкаваўся ў часопісе «Маладосць». Нарадзіўся ў пасёлку Гатава Мінскага раёна.

**Паталкоў Юрый** – літаратуразнаўца.Кандыдат філалагічных навук, дацэнт. Працаваў у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А.С. Пушкіна, у Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце. Аўтар манаграфій, вучэбных дапаможнікаў. Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Маскве. Жыве ў Брэсце.

**Пятровіч Аляксандра** – перакладчыца. Скончыла Ліцэй БДУ, філфак БДУ, аспірантуру кафедры замежнай літаратуры БДУ. Пераклады друкавалія ў часопісе «Маладосць». Нарадзілася ў 1993 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Разанаў Алесь** — паэт, перакладчык, эсэіст. Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «З апокрыфа ў канон», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990), прэміі імя Ё.Г. Гердэра (2003), прэміі «Залаты Апостраф» (2012). Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Памёр у 2021 годзе.

**Рунoскэ Акутагава** – японскі літаратар, класік новай японскай літаратуры. Вядомы сваімі апавяданнямі ды навэламі. Нарадзіўся ў 1892 годзе ў Токіа. Памёр у 1927 годзе.

**Сазонаў Віктар** – публіцыст, журналіст, празаік. Аўтар кніг «Занатоўкі кантрабандыста», «Сандалі мітрапалітыка», «Паэзія прозы», «Суседскія былі», «Генетычны алфавіт» ды інш. Нарадзіўся ў 1963 годзе ў Гальшанах на Ашмяншчыне. Жыве ў Гародні.

**Стус Васіль** – украінскі паэт, перакладчык, празаік, літаратуразнаўца, праваабаронца. Адзін з самых актыўных прадстаўнікоў украінскага культурнага руху шасцідзясятнікаў. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Тараса Шаўчэнкі (1990), Герой Украіны (2005, пасмяротна). Нарадзіўся ў 1938 годзе ў Рахніўцы на Вініччыне (Украіна). Загінуў у 1985 годзе ў выпраўленчай калоніі каля сяла Кучына, Пермская вобласць, РСФСР.

**Сцебурака Усевалад** — празаік, паэт. Аўтар кніг вершаў «Крушня», «Бег па самаадчуванні», «Сны дарог». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2004). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Жлобіне. Жыве ў Мінску.

**Хадановіч Андрэй** — паэт, перакладчык. Аўтар кніг паэзіі «Лісты з-пад коўдры», «Старыя вершы», «From Belarus with love», «Сто лі100ў на tut.by», «Бэрлібры», «Несымэтрычныя сны», «Нататкі таткі», «Цягнік Чыкага-Токіё», «Школа травы» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2007), прэміі імя Карласа Шэрмана (2017), прэміі імя Наталлі Арсенневай (2020). Нарадзіўся ў 1973 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Міраслава Адамыка, Сільвіі Бернацкай, Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Дырка Скібы, Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.